# ПОЛЫМЯ

КНІГА ПЯТАЯ І ШОСТАЯ

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ
1930
ВЫДАВЕЦТВА

Прымаецца падпіска на 1930 год на штомесячную беларускую часопісь літаратуры, палітыкі, экономікі, гісторыі, крытыкі

# „ПОЛЫМЯ“

IX ГОД ВЫДАНЬНЯ

Пад рэдакцыяй: А. Менскага, Я. Купалы, А. Некрашэвіча, і М. Чарота,

## У 1930 годзе ў склад супрацоўнікаў „ПОЛЫМЯ“ ўваходзяць:

Александровіч А., Аляхновіч М., Акіта Удзяку (Японія), Бандарына З., Баранаў С., Барашка Іл., Баркоўскі С., Барысёнак С. (Кіеў), Барычэўскі Е. проф., Бонч-Асмалоўскі А. (Масква), Будзінскі С., Бузук П. проф., Быважускі Н. (Яз. Дыла), Быхоўскі Б., Бэндэ Л, Бэхэр І. (Бэрлін), Бядуля З., Вайскопф Ф. (Чэха-Славакія), Васілевіч Я., Васілеўскі Д., Віткоўскі Я., Вольны А., Вольфсон С. проф., Галавач П., Галадзед М., Гародня А., Гартны Ц. (Жылуновіч З.), Гарэцкі Г., Гарэцкі М., Герчыкаў І. (Саратаў), Гільов М. (Харкаў), Грамыка М., Грэдынгер М. проф., Гурло А., Густыр Я., Даркевіч П., Дзяржынскі Ў. (Чаржынскі), Даленга М. (Харкаў), Дружчыц В. проф., Езавітаў К. (Латвія), Замбржыцкі С., Замоцін І. проф., Звонак Ал., Зімёнка А., Івашын Я., Ігнатоўскі Ўс. проф., Кабакоў Н., Каваль В., Каган Л., Каліноўскі Ў., Канаплін М., Карклін М., Касьпяровіч М., Кіпель Я., Кірыленка І. (Харкаў), Кіш П. (Бэрлін), Кнорын В., Колас Я. (Тарас Гушча), Кулік І. (Харкаў), Купала Я., Лайцен Л. (Латвія), Ліманоўскі Я., Лужанін М., Лынкоў М., Лявонны Ю., Ляск Б. (Бэрлін), Маракоў В., Мачульскі В., Менскі А., Мікітэнка І. (Харкаў), Моркаўка Арк., Мурашка Р., Мялешка М., Некрашэвіч А., Нёманскі Я. (Пятровіч), Нікановіч М., Окіншэвіч Л. (Кіеў), Панкевіч П., Піонтэк Л. (Харкаў), Піотуховіч М. проф., Пічэта Ў. проф., Платун А., Поль Г. (Бэрлін), Пфляумбаум Е., Радзевіч Л., Расін Л., Руткоўскі Е., Салагуб Ал., Самусь М., Сталевіч А., Сташэўскі В., Сьнежка Зьм., Сянькевіч А., Таўбін Ю., Ткачук І., Ульлянаў А., Фучык Ю. (Чэха-Славакія), Хадыка Ўл., Хведаровіч М., Хлябцэвіч Е., Хурсік С., Хэрсонскі Х. (Масква), Цьвікевіч А., Цьвікевіч Ів., Чарот М., Чарвякоў А., Шатэрнік М., Шыпіла І., Шчакаціхін М. і інш.

### ДА ВЕДАМА СУПРАЦОЎНІКАЎ „ПОЛЫМЯ“

Рэдакцыя „ПОЛЫМЯ“ захоўвае за сабою права скарачаць і рабіць зьмены рэдакцыйнага характару ў матэрыяле, які падыходзіць да друку ў „ПОЛЫМЯ“.

Малазначныя рукапісы і вершы, ня прынятыя да друку, не захоўваюцца і ніякай перапіскі з аўтарамі гэтых рукапісаў рэдакцыя не вядзе. Рукапісы, прысланыя ў „ПОЛЫМЯ“, павінны быць акуратна надрукованы на машынцы і на адным старонцы ліста.

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕВЯТЫ



## МАЙ — ЧЭРВЕНЬ
## 1930

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

## *НАРОДНАМУ ПОЭТУ БССР ЯНКУ КУПАЛУ*

*Горача вітаем свайго старэйшага супрацоўніка і сябра нашае рэдакцыі з дваццацігодзьдзем літаратурна-мастацкай дзейнасьці.*

*Мы ўпэўнены ў тым, што Ты ў далейшым з яшчэ большай сілай будзеш дапамагаць сваімі творамі справе соцыялістычнага будаўніцтва, справе будаўніцтва беларускае пролетарскае культуры.*

*Рэдакцыя часопісі „ПОЛЫМЯ"*
г. Менск, 28 мая 1930 г.



Беларускі Народны поэт
**ЯНКА КУПАЛА**

## ЯНКУ КУПАЛУ

*(Да 25 г. літаратурнай дзейнасьці)*

**Якуб Колас**

Была пара. Марнелі нашы гоні
У холадзе жыцьцёвых непагод.
Ішоў за годам год,
Маўчаў, цярпеў народ,
Заціснуты, задушаны прыгонам.
Была пара. Зьнямела слова ў краі
Пад уціскам жандарскае нагі
У полагу смугі
Разьлівамі тугі
Зьвінеў наш сум на гусьлях-самаграях.
Журыліся і плакалі іх струны,
Ды слухалі іх толькі дзірваны,
Балоты, курганы
Ды ў межах палыны,
Карчма-ж была і школа і трыбуна.
Ды час прабіў, і волі промень глянуў,
Вясёлкаю прарваўшыся з-за хмар.
Знайшоў ты шлях, пясьняр.
Пакрыўджаным свой дар
Панёс ты голасам трыбуна і баяна.
Грымеў твой кліч, іскрылася крыніца
Адточаных, як меч, і выкаваных слоў.
У словах тых была—
Нядоля наша,—зло
І заклікі да яснай зараніцы.
Прайшлі гады. Магутны віхар дунуў
У цемру-ноч адвечнае жуды
Самкнуліся рады
Працоўнай грамады

Пад лёзунгам сусьветнае комуны.
Упаў тыран. Адчынены дарогі:
Мільёны мас—дзяржава і ўладар...
Грымі-ж яшчэ, пясьняр.
Нясі працоўным жар —
Грамчэй заві да новай перамогі.

24-V—1930 г.

# ДРАПЕЖНІКІ*)

## Я. Нёманскі

*(Роман у трох частках)*

### Частка трэцяя

### V

Палкія вочы Сёмы Каца раз-по-разу кідалі снапы праменьняў на Зыкава. Сёма не адчуваў ног пад сабой. Ён ня быў здольны разабрацца ў павуціне вуліц, да якіх прывык з дзяцінства. Зыкаву даводзілася папіхаць яго ў бок, каб накіраваць за рог другое вуліцы. Сёма страціў усякае ўяўленьне тае пагрозы, якая ішла па пятах, магла насьцігнуць іх кожную хвіліну.

— Вось і пачалося, таварыш Зыкаў: натхненна шаптаў ён, дрыжачаю рукою шукаючы руку Зыкава. Зварухнуліся, як зварухнуліся! Няхай жыве...

Ён крыкнуў-бы ад усяе сілы прывітаньне наступаючай пролетарскай рэволюцыі, чырвоныя сьцягі якое віліся высока ў паветры перад яго вачыма. Але ўпарта-жорсткая рука Зыкава раптоўна павярнула яго ў вузкі завулак.

Зыкаў імкнуўся як мага хутчэй аддаліцца ад месца, дзе разышлася дэмонстрацыя. Быццам бяз жаднае мэты ён круціўся з Сёмаю сярод натоўпу вузкімі шчылінамі вуліц старога гораду, трапляючы з вуліц у завулкі прахаднымі дварамі, праз крамы.

— Ты стаў няпрытомны ад радасьці, Сёма, папікнуў Зыкаў таварыша, як толькі яны выцерабіліся на менш людное месца. Памятай, што рэволюцыянэр не павінен ніколі траціць розум.

Сёма адразу асунуўся, быццам з яго нейкаю помпаю выцягнулі сілу. Апаўшым сіплым голасам ён прамовіў:

— Можа ты і праўду кажаш... нават напэўна праўду. Але толькі „неразумны“ ўздым робіць такое цуда, якое адбылося сёньня.

— Няхай сабе так, але трэба глядзець уперад і ведаць, што рабіць заўтра... Куды-ж мы зараз пойдзем?

---

*) Гл. „Полымя“ № 11—12 за 1929 г.

Гэтае запытаньне вярнула Сёму да рэчаіснасьці, штурханула яго на шлях вырашэньня конкрэтнага пытаньня. Замест узвышанага энтузіязму, а потым упадку, цяпер вярнулася да яго звычайная жыцьцерадасьць, адчыненасьць.

— Куды?—скалячы зубы, запытаўся ён,—вядома, да мяне!

Яны хутка прайшлі адзін-другі завулкі. Ніхто з стрэчных не зьвяртаў на іх увагі—забруджаныя рабочыя на абочыне гораду былі звычайнымі. Без асаблівых клапот яны дайшлі-б да халупы Сёмы. Але на рагу аднае з папярэдніх вуліц ім спаткаўся выпэцканы скуранік з хвартухом, з закасанымі рукавамі бруднае сарочкі: быццам ён вось зараз толькі вышаў з заводу, на хвіліну нейкую кінуўшы працу. Ён боязна азіраўся па баках, назад, ішоў то павольна, то трухой. Непамерна даўгія рукі яго цяляпаліся цапамі і здавалася, што яны прычэплены толькі дзеля таго, каб трымаць пудовыя кулакі з камлатымі пальцамі. Перапуд скрывіў яго твар, запаўшыя вочы былі схаваны пад навісшым шарсьцініньнем густых броваў. Ён не адразу пазнаў Сёму ці не хацеў пазнаць. Толькі на некаторым аддаленьні ад рогу вуліцы ён падышоў блізка.

— Сёма, уцякай барджэй!—ляскаючы ад сполаху зубамі, хрыпануў ён.

— Чаго-ж ты перапалохаўся?—мяняючыся ў твары, запытаўся Сёма.

— Там... там ужо... злавілі... нашых гарбароў, перацінаючымся голасам адказаў ён матануўшы некуды назад рукою.

Перапуд гарбара наддаў нэрвовасьці і Сёме і Зыкаву. Мімаволі яны прыбавілі ходу. Гарбар нешта мармытаў сабе пад нос. Раптам ён запыніўся і турзануў за пінжак Сёму.

— А што-ж гэта мы нарабілі? Што будзе з намі, з дзецьмі нашымі заўтра? Га? Ты разумееш гэта, блазан?

Выцьвіўшыя вочы старога гарбара ўпарта зачапіліся за Сёму, на момант толькі перакідаючыся на незнаёмую постаць Зыкава.

— Гэта-ж быў бунт!—выдушыў гарбар прызнаньне і вабраў галаў у плечы, быццам хацеў схаваць шыю ад жорсткае вяроўкі.

Сёма спрабаваў супакоіць свайго таварыша, але гэта яму не ўдалося. Той тросься ад страху.

— Паслухалі нейкага там паніча, а цяпер—прападаць! І куды цяпер пойдзеш? Там дома, мо‘ чакаюць ужо архангелы... Ну, што-ж рабіць?

Пудовыя куваллы-кулакі цягнуліся да Сёмы, ім трэба было зачапіцца за каго, абаперціся на чыюсь моцную руку.

— Хадзем з намі! крануўшыся ўперад, прапанаваў Зыкаў. Гарбар недаверліва азірнуў яго, але ўсё-ж пайшоў. Аднак ён целяпаўся ззаду за Сёмаю нядоўга. Праз некалькі хвілін ён раптам павярнуўся назад.

— Карыцца, карыцца трэба ісьці, сам з сабою, але досыць чутна мармытаў ён. Сёма пусьціўся быў здаганяць таварыша, але той ужо трухом нёсься назад, туды, адкуль ён так сьпяшаўся ўцячы. Гэтае здарэньне зьбянтэжыла ня толькі Сёму, але і Зыкава. Перш за ўсё

станавілася відавочным, што прэз кароткі час жандарам стане вядомым хто зьяўляўся падбухторшчыкам, хто нёс сьцяг і ўсё іншае, зьвязанае з гэтаю раптоўнаю дэмонстрацыяю.

Азіраючыся боязна, як той стары гарбар, сьпяшаліся хутчэй прайсьці вуліцы Зыкаў з Сёмаю. Абодвым здавалася, што кожны стрэчны дапытліва разглядаў іх. Маленькія дрыўляныя дамы пазяхалі расчыненымі дзьвярыма і вокнамі, каля ганкаў соўгаліся носам старыя яўрэйскія кабеты, седзячы побач з столікамі, на якіх блішчэла дзьве-тры шклянкі ды бутэлькі з каламутным квасам, альбо сідрам. Вуліцы гарадзкое абочыны мелі самы звычайны выгляд. Але ў іх маўклівасьці, соннасьці адчувалася варожасьць, пагроза.

Зыкаў і Сёма маўчалі. Трывога, якую закінуў у іх сваім перапудам стары гарбар, не пакідала іх, сьцінала ім губы. Кожны з іх разумеў, што заставацца дома зусім небясьпечна, а як схавацца—яснага адказу яшчэ ня было. Але ўсё-ж яны парашылі наведацца на кватэру Сёмы.

Старая Сара была зьдзіўлена такім раньнім прыходам Сёмы з работы. Яшчэ больш усхвалявалася яна, калі, прыгледзіўшыся, прыкмеціла трывогу на тварах сына і Зыкава.

— Бяда якая-небудзь?—запыталася яна, уваходзячы ў хату сьледам за мужчынамі. Лія нейдзе гіне цэлы дзень—я ўжо ня ведаю, што думаць... І ў вас, відаць, нешта дрэннае.

— Нічога, цётка Сара, нацягнута-супакойным голасам адказаў Зыкаў, здымаючы чужое гарбарскае адзеньне. Трэба вось хутчэй мяняць свой выгляд—ды драла!

— Як? Куды, сынок?—са сполахам устрапянулася старая.

— Уцякаць трэба, а не, дык пападзеш у моцныя кіпцюры... Ну, Сёма, табе таксама трэба сьпяшацца.

Старая кінулася да сына, абхапіла яго за шыю.

— І з табою здарылася? Мой родны! яе сьлёзы закапалі на плячо Сёмы. Нам цяжка будзе без цябе... Але ідзі, ідзі, сынок, ідзі, няхай мяне забяруць лепш... Ідзі!

Яна расчапіла рукі, выцерла шурпатаю далоньню высушаныя шчокі, вочы і засьпяшалася ў сенцы даставаць нейкую там рэч для Сёмы.

— Сёньня-ж нам трэба выехаць у Бабруйск, там знойдзецца прытулак на нейкі час,—ціха прагаварыў Сёма, як толькі маці вышла з хаты. А калі там стане нябесьпечна, дык накіруемся ў Гомель—там больш моцная організацыя.

— Добра, толькі нам трэба зьмяніць вопратку ды паведаміць таварышоў, супакойна, быццам справа ішла аб самых звычайных рэчах, адказаў Зыкаў і пачаў здымаць з сябе выпадковую гарбарскую адзежу, якая так трапна дапамагла яму няпрыкметным для паліцыі выйсьці назад з гарбарні Гімрота.

Сёма выйшаў з хаты. Можа яму трэба было што-кольвечы сабраць на дарогу, можа ён проста імкнуўся пабыць некалькі хвілін адным

з мацераю. Зыкаў больш тлумачыў гэта другою прычынаю. Схільнасьць яго да гэтага тлумачэньня залежала ад яго ўласных пачуцьцяў. Часта наглядаючы сям'ю Кацаў, шчырасьць і цеплату адносін паміж старою Сараю і дзяцьмі, а таксама і Сёмы да сястры, Зыкаў часта завідаваў гэтай простай сямейнай спаянасьці. У яго жыцьці, як толькі ён стаў на ўласныя ногі, яму ніколі не даводзілася адчуваць сямейнае блізкасьці, і дзеля гэтага бывалі часіны, калі ён востра адчуваў патрэбу ласкі, завідаваў другім, хто меў гэтыя магчымасьці. Вось і цяпер, калі праз некалькі хвілін яму давядзецца зрабіць новы крок у невядомую будучыню, можа было-б лягчэй, каб можна было разьвітацца з мацераю, як Сёма. Думкі гэтыя прамільгнулі, згладзіўшы на момант тую суровасьць, якая характэрна была для твару Зыкава ў апошнія часы. Але так было толькі на момант. Ад Сёмы думкі Зыкава перанесьліся на старога гарбара, які зьбянтэжыў іх на вуліцы сваім перапудам, на гарбарню, на здарэньні гэтага дню, на дзейнасьць улады, якая, мусіць, цяпер кідаецца на вобыскі і арышты, на Сымона Кавальчыка, якога засудзілі дарэмна—праз яго, Зыкава. Суровасьць, жорсткасьць ізноў закавала твар Зыкава. Ён упарта, з каменным тварам, глядзеў у вакно.

Раптам шоргат абудзіў яго ад задумённасьці. Ад неспадзеўку Зыкаў уздрыгануў і азірнуўся: у цёмным кутку каля печы сядзела на куфры Гануля. Яна ва ўсе вочы разглядала Зыкава, некалі чырвоны твар яе, быў белы, як палатно. Зыкаў адразу супакоіўся, успамянуўшы, як ён даручыў Ганулю каля будынку суду клапотам Ліі; праз гэта яго ня дзівіла яе прысутнасьць тут. Гануля-ж была напэўна ўсхвалявана гэтым спатканьнем, бо там на вуліцы яна не пазнала ў панічы з капялюшыкам Зыкава.

— Здрастуй, Гануля! Як ты апынулася тут?—быццам нічога ня ведаючы аб Кавальчыках, запытаўся Зыкаў.

Сударга сьцягнула круглы твар Ганулі, і яна затрэслася ў прыдушаным плачы. З хвіліну яна не аднімала ад вачэй падол тоўстага андарака. Гразкія босыя ногі яе дробна калаціліся, глуха грукаючы аб бок высокага куфра, на якім яна сядзела.

— Бацьку засудзілі на катаргу, ледзь выгаварыла яна, вызваляючы твар з-пад андарака. Што-ж гэта цяпер будзе?—накшталт звычайнага вясковага прычытаньня працягнула яна.

— За што-ж гэта яго?—запытаўся Зыкаў і прыцяў сабе губу зубамі. Яму стала брыдка за нахабнасьць гэтага запытаньня.

— За цябе засудзілі майго бацьку і брата!—са злосьцю, ужо бяз жаднае нуды ў голасе адказала яна.

Зыкаву стала душна. Ён прайшоўся разы два па хаце, шукаючы слоў. Уцешыць дзяўчыну, апраўдвацца перад ёю, сказаць, што ён пойдзе сазнацца перад прокурорам і гэтым вызваліць яе родных—усё гэта круцілася ў яго галаве. Уцяшаць, апраўдвацца—мана, фальш, якое ён

ня мог дапусьціць да сябе, ня здольны быў выказаць. Застаецца толькі адно, каб зьменшыць гараваньне Ганулі і яе мацеры—гэта зьявіцца да жандараў самому. Першы раз паўстала перад Зыкавым у яго жыцьці такая задача. Цяжка было губіць справу, якой аддаваў ён сваё жыцьцё, цяжка было і тое, што праз яго ўчынкі ідзе на катаргу Кавальчык з сынам. А тут яшчэ гэтыя прагныя вочы дзяўчыны неадчэпна сочаць за кожным яго рухам. Зыкаў гатоў быў сказаць, што ён пойдзе даказваць невінаватасьць Ганулінага бацькі, але замест гэтага ён запытаўся:

— Ты, Гануля, надта ненавідзіш мяне за свайго бацьку і брата?

Гануля доўга нічога не адказвала. Ружовыя плямкі аздобілі яе крэйдавы твар, у вачох заігралі цёплыя іскаркі.

— Мы з маткаю вельмі праклівалі цябе, як праз гадзіну пасьля... пасьля забойства прышлі з маёнтку і забралі татку з братам. Але... але ўвесь час я праз сябе гаварыла пацеры і прасіла Мікалая-цудатворца, каб ён выратаваў цябе... ад напасьці.

Сказаўшы гэта, Гануля сарамяжа затулілася рогам хусткі. Зыкаў як укопаны, запыніўся сярод хаты, бяз жаднае патрэбы выцягнуў з кішэні акуляры, асядлаў імі нос, потым зьняў іх, ізноў начапіў. Словы Ганулі так ускаламуцілі яго істоту, што ён страціў на нейкую хвіліну яснасьць уяўленьня акаляючага. Каб з ім змагаліся, патрабавалі ад яго чагось, тады ён гатоў-бы дзейнічаць. А цяпер як быць? Нязграбна падышоў ён да куфра і моцна сьціснуў сухую і цьвёрдую, як дубовы корч, руку дзяўчыны. Нязвычайная да такога гэсту, яна груба турзанула працягнутую ёй руку Зыкава.

Ён адчуў нешта цёплае на сэрцы. Ён нават мог лічыць, што яму ёсьць з кім разьвітацца перад адбыцьцём у іншыя мясцовасьці на нямаведама які час. Можа, ён і загаварыў-бы аб гэтым, але Гануля дала іншы напрамак думкам.

— Ты мусіш ізноў уцякаць, я чула. Дык чаго-ж вы мешкаеце, крый божа вас тут зловяць?

— А і ўсапраўды!.. Куды-ж ты пойдзеш, Гануля?—напасьледак прагаварыў Зыкаў. Добра было-б, каб і ты пакінула гэтую хату, пакуль прыдзе сюды паліцыя.

— Добра, я зараз!—і Гануля шпарка саскочыла з куфра; яна схапіла свой клумачак, завязала яго і пачала апранаць рыжую цёртую сярмяжку.

— Не! ты крыху пачакай, уперад мы выйдзем... Дык як ты думаеш, мне трэба ісьці вініцца за ураднікa ці не?—з вялікаю напружанасьцю запытаўся Зыкаў, стоячы ўжо каля дзьвярэй.

— Не!—зусім ціха, але выразна адказала дзяўчына.

Гэтая самаахвярнасьць дзяўчыны, якая па-дзіцячаму проста аздабляла сваю прыгожасьць фарбаю ад каляровае паперы, была зусім незразумелаю. Яна не патрабавала, каб Зыкаў сваім прызнаньнем вызваліў яе

родных ад катаргі. Ці гэта была ўсьвядомленасьць ёю грамадзкага значэньня працы яго, Зыкава, ці яна проста ня верыла ў магчымасьць вызваленьня бацькі, ня гледзячы ні на якія ахвяры і лічачы прысуд, як кару нябеснае сілы, ці тут было што яшчэ іншае. Перад Зыкавым прамільгнулі ўсе гэтыя запытаньні ў той кароткі час, як ён апранаў прынесеную Сёмаю сялянскую сярмяжку, якая павінна была пасобіць яму ўцячы з гораду.

У хату ўвайшла і старая Сара. Яна дасьціпна, як выправаджваючы сына на работу, пасабляла мужчынам прыняць іншы, не рабочы выгляд.

— Ну вось, задаволена гаварыла яна, цяпер вы як раз вясковыя дзяцюкі. Яшчэ толькі набярэце сабе на рынку абаранкаў, пасьвісьцёлаў, бутэльку дзёгцю—і тады да вас прычэпкі ня будзе.

— А як-жа вы, цётка, бяз Сёмы жыць будзеце? Трэба, каб вам тут нашы дапамаглі хто кольвечы,—прагаварыў Зыкаў.

— І-і, сынок! Вашым усем туга будзе, а мы з Ліяю як-небудзь пераб'ёмся: рублі са тры ў мяне ёсьць—на месяц хопіць, а там... можа Ліечка работу дастане.

— Ну, дык будзь здарова, мама! Не бядуй па мне,—сказаў Сёма і бокам, не паглядзеўшы нават на маці, сунуўся паперадзе ў сені.

Але Зыкаў і Ганулля нават і ня вышлі з хаты: Сёма загарадзіў ім дарогу. Праз момант ён уціснуўся ізноў у хату, за ім ускочыла ледзьве пераводзіўшая дух Лія. Вагромністыя, прамяністыя вочы яе расьвяцілі як ліхтары, губы былі сьцяты, адчынены лоб блішчэў расінкамі поту.

— Хутчэй! Па вуліцы ідзе паліцыя!

Яна гаварыла прыдушана ціха, з перацінкамі ад змораньня хуткаю хадою і ад усхваляваньня перад пагрозаю. Але голас яе сярод сьмяротнае цішыні, якая напоўніла хату, здавалася, гучэў як набатны звон.

— Ня крычы так! Далёка яны?—як чужым голасам, запытаўся Зыкаў.

— Бачыла я, як яны з-завулка вышлі на нашу вуліцу.

— Зашчапі дзьверы на крук!

— Адсоўвай камод, залазь у каморку!

— Пісталет каб быў у кішэні.

— А там з каморкі—на дах і ў сад!

Праз момант дзірка ў каморку, дзе так часта начаваў Зыкаў, была вольнаю. Першаю сунулі туды Ганулю—пакідаць яе была нельга, бо можна было навесьці паліцыю на сьлед уцякаўшых. Яшчэ момант—і ў бакоўцы апынуўся Зыкаў, які зараз-жа застукаў дзьверкаю ў столі.

— Ня пушчайце іх, пакуль не заложыце дзіркі і не заставіце камодам!—апошнім высоўваючы галаву ў хату з каморкі, параіў Сёма.

— Вось ужо мільгаюць за плотам... вось пярэдні адчыняе брамку! Хутчэй, Сёма!—хрыпела Лія, з жудасьцю ў вачох пазіраючы ў вакно.

Кабеты кінуліся закладваць калодкамі дзірку ў каморку. Яшчэ не залажылі яны апошняга бруса, як тупат адчуўся каля самое хаты.

— Хутчэй... камод!

— Не чапляйся за завесу, каб ня ўбачылі праз вакно!

У дзьверы груканулі ўладна і настойліва.

— Хутчэй камод!

Але камод рухаўся павольна. Рукі трэсьліся, у нагах млявасьць. На ліха камод яшчэ зачапіўся недзе рогам за вытыркшую з падлогі дошку, і ніяк ня слухаўся, ківаючыся на месцы пад нямоцнымі рукамі перахваляваных кабет.

У дзьверы загрукаталі так, што дрыжэлі хліпкія сьцены хаты; жаласна зьвінелі шыбкі ў вокнах.

— Ну, мама, што-ж гэта будзе!—шаптанула Лія. Давай схопім яшчэ! Жудаснасьць моманту надала сілы кабетам, і непаслухмяны камод напасьледак трапіў на сваё звычайнае месца. Шчыльна да яго, паўз сьцяны прыставілі яшчэ тапчан з раскіданым па ім ашамецьцем.

Грукат у дзьверы аднавіўся з новаю сілаю. Сара, ледзь цягаючы ногі, пашла ў сенцы. Крук бразнуў, скінуты з прабою.

— Тут жыве Сімон Кац?—агаласіў хату густы басісты голас. Увайшоў тоўсты прыстаў у шэрым ахвіцэрскім шынялю, а за ім два чорных паліцыянты. Лія акінула іх вокам і зірнула за вакно: там таксама тырчэлі чорныя слупы. Няпрыкметна прыцінаючы губы, Лія праглася стрымаць нутраную дрыготку. Перад яе вачыма стаяў малюнак як выцярэбліваюцца з чужога саду брат з Зыкавым.

— Што-ж ты, ягадка, не адказваеш?—раздаўся ізноў нахабны голас.

— Сімон Кац жыве тут!—чуць дрыжэўшым голасам адказала Лія.

Старая Сара, хістаючыся ўвайшла ў хату і прыпынілася каля парогу, абапёршыся аб вушак.

— Ты што-ж, чортава ведзьма, так доўга не адчыняла,—зароў на яе прыстаў. Чаго ты хаваешся сярод божага дню, як зладзейка?

— Завошта пан-прыстаў так лаецца?—нэрвова запыталася Лія, крануўшыся да мацеры, каб падтрымаць яе.

— Ня ўвязвайся, хлюндра, ня ў сваю справу, асек яе прыстаў, Скажы, качарга, Сімон твой сын?

— Так!—супакойна адказала старая.

— А дзе ён зараз?

— На рабоце, ён кожны дзень працуе ў гарбарні Гімрота. Яшчэ рана быць яму дома... А ў пана-прыстава справа якая-небудзь да майго Сёмы?

— Не табе аб справах ведаць. Дык ён ня прыходзіў з работы, кажаш?

— Далібог, не!

— Брэшаш, сука! А ну,. Бандарчук, страсяні там барахло!

Праз некалькі хвілін убогі скарб Кацаў быў перагрэсены да самае малое злыбеды. Сёму шукалі ў сенцах, на печы, пад печчу, у куфры;

распаролі падушкі, сяньнікі з трухляваю саломаю, шукаючы кніжак, папер. У Ліі калацілася, замірала сэрца кожны раз, як краталі ахоўны камод; ён лёгка пасоўваўся пад рукамі дзябёлых з рыжымі вусамі гарадавых. Вось адставяць яго ад сьцяны і адразу знойдуць заложаны калодкамі ход у каморку, а там, напэўна, ёсьць нелегальшчына. Але верны камод ня сыходзіў далёка ад свайго месца.

Перагрэсьлі, пераварнулі ўсё, напусьцілі поўную хату пылу, пуху. Прыстаў раз-по-разу чхаў, пэцкаючы бялюсенькую хустачку. Ён хваляваўся, што прыходзіцца пакінуць хату з пустымі рукамі. Выходзячы, ён нешта зашаптаў двум паліцыянтам. Праз хвіліну ўвесь кардон знадворку таксама быў зьняты і чорныя сілуэты хістануліся за плотам на вуліцы.

Дзень пачаў згасаць, пачаўся змрок, прышла ноч, а два паліцыянты сядзелі ў хаце Кацаў. Яны ня выпускалі на двор ні Ліі ні мацеры. Уначы яны драмалі па чарзе, нясучы варту з нарыхтаванымі пісталетамі.

Кабеты не лажыліся. Старая Сара сноўдалася па хаце, сенцах, нібы не знаходзіла сабе месца, дзе супачыць. Лія трывожна думала аб лёсе Сёмы і Зыкава.

— Дзе яны зараз, ці ўцяклі яны?—шаптала яна мацеры, датыркаючыся яе вуха сваімі гарачымі губамі. Усю ноч, усю вясновую раніцу трапяталі дзьве кабеты. У змроку пяшчотнае вясновае начы маячылі ў маленькай хатцы два чорныя сілуэты, трымаўшыя ў руках цьмяна блішчэўшыя браўнінгі.

Каля восьмае гадзіны, калі раняшняе сонца ружовымі праменьнямі прасякала абсыпаны белаю цьвіценьню суседні сад, Лія ішла паміж двух чорных шынялёў. На плячох іх іскрыліся шаблі, кабуры на бакох былі расшпілены.

## VI

Абапал шляху раскінуліся неасяжаныя прасторы палёў. З аднаго боку ішлі шырачэзныя роўныя палеткі, якія належалі пану Ляскоўскаму. Яны рунелі буйна росшым жытам, сівелі маладымі парасткамі аўсу. Па другі бок беглі ў далячыню вузкія шнурочкі сялянскіх надзелаў, сярод якіх траплялiся выразкі ў адным больш буйным кавалку, адкуль блішчэлі сваею навізною хаты і іншыя будынкі. Гэта—нядаўна ўтвораныя хутары. Паміж надзельных істужак чарнеліся загоны, да якіх яшчэ на датыкаўся плуг ці саха. Пад ясным сонцам, сярод сьвежае руні гэтыя загоны выглядалі нудна, як кінутыя шкілеты. Пачарнелае жніў'е мінулага лета ашчэрвалася, як дзёсны з віхляючымі зубамі. Лебяда, аўсюг, валошка прабіваліся асобнымі кустамі, пышна разрастаючыся на прасторы. Такою была істужка, каля якое запынілася Ануля. Яе ведала яна з дзяцінства; ад яе часта яна адчувала ламоты ў сьпіне пасьля палоньня. Але ніколі раней аб гэтай пары загон не выглядаў такім недагледжаным. Толькі цяпер ён стаў такім. Гаспадары, у якіх няма коняй, апошнімі ўзаруць

і засеюць свае загончыкі. Той, хто мае каня і плуг, перш скончыць свае работы, а потым ужо, калі зжаліцца, дасьць каня бедаку. Вось і ляжаць няўзоранымі, незасеянымі гэтыя загончыкі аж да канца маю. Варона ўжо хаваецца ў жыце (значыць, можна пачынаць купацца ў рэчцы), авёс пашоў у стрэлку на загонах багатыра, а бясконны бядак толькі пачынае корпаць задзерманелы локаць зямлі.

Гануля зьняла торбачку з плячэй, палажыла яе разам з кійком на зямлю, а потым і сама села. Да хаты заставалася прайсьці яшчэ ня больш як вярсту, але босыя ногі яе падбіліся ад доўгае хадзьбы. Ад самага Менску яна ішла, заначаваўшы толькі адзін раз у нейкай вёсцы, якая трапілася на гасьцінцы. Змораная падзеямі і дарогаю, яна бясьцікаўна глядзела на запушчаную дзікую палоску поля. Ні прыгожасьць шырокага краявіду з блiскучаю рэчкаю ў далячыні, ні яснае сонца, ні песьні жаўранкаў у вышыні блакітнага неба ня прыцягвалі яе ўвагі. Яна толькі ўспомніла як бывала, вольна і весёла пяяла, ходзячы за бараною па гэтым загончыку. Ён цяпер маўклівы і насуплены, нудны як дажджлівы дзень у восень.

Стукат калёсаў абудзіў дзяўчыну. Яна ўстала, закінула на сьпіну торбачку і пашла абочынаю дарогі. Але жаданьне папасьці дадому, якое надавала ёй сілы хутчэй ісьці, цяпер згінула, і ногі яе ледзь валачыліся па зямлі.

— А, Гануля, ты, мусіць, пёхам з гораду? Ну, ідзі, падвязу!

На возе, побач з блішчастым плугам сядзеў суседні дзяцюк. Сыты конь лёгка ступаў, уздымаючы белаваты пыл. Увесь панарад быў моцны і ладны. Гануля кінула вокам на воз і адмоўна заківала галавою.

— Зухаўства, бадай, набралася ад катаржнікаў! Ха-ха-ха! Бывай здарова.

Дзяцюк турзануў лейцамі, і конь шпарка памчаўся да вёскі. Гануля праглынула салоныя сьлёзы і сышла ад гасьцінца ў поле, каб далей ісьці не вялікаю дарогаю, а глухою сьцежкаю.

Яшчэ здалёк хата Кавальчыкаў прыцягвала да сябе ўвагу чорным трохкутнікам пустаты ад адарванае палавіны страхі, якая некалі была над новаю прыбудоваю. Новая хата, прыбудованая да старых сенцаў з другога канца, была прададзена. Канцы лат старое страхі, рознае даўжыні, як скрыўленыя пальцы, тырчэлі ў паветры і больш падкрэсьлівалі выгляд разбуранасьці. Старая хата быццам яшчэ больш асунулася ў зямлю, маленькія ваконцы яе, з рэдкімі цэлымі шыбамі, падсьлепавата жмурыліся на сонца. Гэтая падкрэсьленасьць убогасьці і разбуранасьці яшчэ больш прыгняла Ганулю, і яна, як была з торбачкаю і кіёчкам, так і села на прызьбе, быццам прышоўшы ня ў свой дом. Тут і знайшла яе маці, старая Сымоніха.

Старая, даведаўшыся аб прысудзе, заенчыла, застагнала, загаласіла, як галосяць па мёртвых. Яе прычытаньні разносіліся далёка па вёсцы. Зараз-жа на двор Кавальчыкаў сабраўся натоўп народу, спачатку дзяцей

і кабет, а потым пачалі падыходзіць і мужчыны. Дзеці з разьзяўленымі іртамі моўчкі разглядалі Ганулю, якая была так далёка ў горадзе; кабеты ківалі галавою пад прычытаньні Сымоніхі, а некаторыя, больш жаласьлівыя, самі пранялiся плакаць. Мужчыны падыходзілі, кідалі вокам на Ганулю з мацерaю і адыходзілі ў бок. Прыходзіўшыя пазьней віталіся з раней прышоўшымі мужчынамі і пачыналі закурваць, пытаючыся як скончана сяўба, як расьце бугай, ці хутка будзе пераяжджаць хто на хутар. Быццам спэцыяльна на гэтым месцы трэба было ім працягваць гутарку аб тым, аб чым як раз учора гаварылі на прызьбе якога-небудзь Халімона ці Мікіты. Толькі мімаходам, як драбніцу паміж пытаньнямі аб бугаі альбо ацёле, хто-небудзь кідаў.

— А прыпяклі Сымона, га?

— А то не! Як-жа!—адказаў другі і працягваў гамонку аб тым, як ён ехаў ды на дарозе супоня разьвязалася, ды як ён чуць хамута не сапсаваў, ня хутка прыкмеціўшы здарэньне з супоняю.

— За нівошта гіне чалавек, падаваў хто рэпліку, разглядаючы ўважліва шпакоў, якія клапаціліся на ліпе за хлявом.

— Ці хто ведае, як гэта было? Начальству там лепш відаць... Ого, брат, начальства, яно... таго... ўсё ведае.

Адказ такі—супакойваючы, думаць над ім—залішне. І гутарка ідзе сваім парадкам: аб лагу, аб пярэстай карове Якуба, якая прывяла блізьнюкоў, і аб шмат іншых ня менш важных пытаньнях.

Натоўп па-крысе пачаў разыходзіцца.

— Дзякуй людцом добрым, што прышлі спачуваць у бядзе,—зьвярнулася Сымоніха да мужчын, хоць спачуваньня ад іх яна і ня чула. Кабеты, што плакалі, уцерліся і загаманілі, праганяючы дамоў дзяцей. Ганулля з мацерaю, прыгнуўшыся, хіснуліся ў чорную шчыліну дзьвярэй.

На другі дзень маці, уздыхаючы, паведаміла, што ў іх, апроч некалькіх кошыкаў бульбы, больш нічога няма. За ўвесь час, як Ганулля была ў горадзе, старая ні разу не паспрабавала хлеба.

— Што-ж будзе далей?—быццам у самое сябе пыталася Сымоніха Старэйшы сынок мой угару пашоў, цяпер мяне і на парог да сябе ня пускае... Арыштантка, кажа... Ох, божачка-ж ты мой!

Ганулля маўчала. Раньняя суровасьць закавала яе малады, ня так даўно бесклапотны твар, які песьняю сустракаў галодны дзень. Цяпер сьпевы вылецелі з галавы. Трэба было змагацца за жыцьцё, а як змагацца, куды пайсьці, з чаго пачаць, яна ня ведала. Напасьледак яна прыдумала.

— Ведаеш, матка, я ў наймічкі пайду,—сказала яна рашуча.

— Да каго-ж гэта?

— Яшчэ ня ведаю. Можа, да Шкілёнка: кожны год ён наймае на лета і восень. Зямлі ў яго хоць задавіся.

— Ну, што-ж, спрабуй, хоць мне і цяжка пускаць цябе да гэтага жылы.

Зборы былі нядоўгімі. Накінуўшы дзіравую хустку, дзяўчына, як была ў кашулі і андараку, так і пашла. За агародамі і першым вясковым полем у шнурочках пачаліся больш буйныя кавалкі, на якіх разьмясьціліся паасобныя гаспадаркі.

Шмат якія з іх мелі новыя будынкі, вясёла блішчэўшыя на вясновым сонцы. Пан Ляскоўскі, які на Дваранскім Сабраньні так горача вітаў зямельную і сялянскую політыку Сталыпіна, упарта праводзіў вылучэньне з вёскі заможных гаспадарак і расьсяленьне іх на хутары. Пад іх вылучаліся лепшыя кавалкі сялянскае зямлі, хоць на сходах большасьць сялян супярэчыла гэтаму. Але пастановы сходаў выходзілі нейкімі якраз адваротнымі і выдзелы зямлі хутаранам рабіліся быццам на падставе пастаноў самых сялянскіх сходаў. Прымалася адна пастанова, а запісвалася зусім другая. Дзеля гэтага ўсялякія абскарджаньні ў суд нічым не канчаліся, апрача таго, што беднякі, жыўшыя на вёсцы, трацілі апошнюю маёмасьць на хадакоў і адвакатаў. Верхавіна заможнікаў і хутаран лёгка даставала крэдыт і скупляла кавалкі панскіх пусташаў, што ў першую чаргу было лагодна самым паном. Ляскоўскі, меўшы шмат такіх бескарысных зямель, зарабіў на гэтым вялікія грошы, распаўсюджваючы чуткі, што ён прадасьць вольныя землі наеждым з другіх бакоў сялянам. Ляскоўскія заможнікі-сяляне наперабой хваталі пусташы, падвышаючы адзін супроць другога цэны, якія былі недасяжны ня толькі для беднякоў, але і масы серадняцтва.

Шкілёнак, да якога ішла цяпер наймацца Ганулля, быў даўнейшым хутаранінам. Ён ужо далічаў сябе да шляхты і з вясковымі сялянамі трымаўся, як „высоканародны". Ён езьдзіў і да яго езьдзілі шляхцічы такога-ж гатунку, ксяндзы, папы, пісар з валасьці, два-тры настаўнікі з мястэчка. Чацьверты раз падрад ён выбіраўся валасным старшынёю. Хоць іншы раз ён і загаварваўся аб загане для „шляхціча" быць сялянскім старшынёю, але нейкія патаемныя спрунжыны прымушалі яго кожны раз з новаю сілаю дамагацца старшынёўства. Кожныя тры гады ўсе дзесяцідворныя на працягу тыдню хадзілі звар'яцелымі ад гарэлкі. На валасным сходзе пры выбарах старшыні аднадушна галасавалі за Шкілёнка. Земскі віншаваў яго і на шэрай шкілёнкавай пары ехаў у дом свайго падручнага сьвяткаваць яго перамогу.

Шкілёнак выносіў і ўсе пастановы аб хутарскіх выдзелах. Ён-жа з ласкавым удзелам пана Ляскоўскага даставаў крэдыты ў „Крестьянском Поземельном" банку, карыстаючыся ня толькі падзякаю і пашанаю, але і часткаю здабытых для другіх грошай. Кожны год яго зямляўладаньне ўзрастала, акруглялася. Сядзіба яго была невялікім, але добра ўпарадкаваным маёнткам.

Ганулля ішла—і з кожным крокам трáціла сваю рашучасьць. Калі перад ёю ўзвысіліся размаляваныя вароты шкілёнкавае сядзібы, сэрца яе замёрла: яна спалохалася. Ногі непаслухмяна ступалі, нясучы яе да брамкі збоку ад варот. Некалькі хвілін яна пастаяла перад брамкаю

глынула паветра і абясьсіленаю рукою дакранулася да халоднае дзябёлае клямкі. Сярдзітае гурчаньне двух сабачых галасоў надало ёй новую хвалю страху. Яна стаяла нярухома. Але вось на дварэ пачуўся жаночы голас, праганяўшы сабакаў. Гануля схапілася за клямку, шыбанула са ўсяе сілы брамку і шмыганула на двор. Сабакі ашалелі ад брахні. Кабета агрызнулася на іх і зьвярнулася да Ганулі.

— Чаго табе трэба? Мы жабракоў ня пускаем на двор!

Ганулля залілася чырваньню.

— Я не жабрачка, я прышла да гаспадара.

— Табе трэба да самога пана?

— Я хачу пагаварыць з самым Шкілёнкам.

Кабета пакруціла носам і павярнулася да ганку.

— Пачакай тут на ганку, а то цябе сабакі абязьвечаць на дварэ.

Ганулля ўзышла на крыты ганак, які на локаць ад падлогі быў зашклёны рознакаляровымі шыбамі. Сінія, ружовыя плямкі лажыліся на падлогу там, куды падалі праменьні сонца. Гэтыя плямкі гойдаліся ад слабога хістаньня ліпы, гальля, якое кідала крыху цені на ганак. Ганулля доўга чакала, пакуль выйшлі да яе. Яна па-дзіцячы цікаўна разглядала шыбкі, цудоўныя плямкі на падлозе, дамагалася, каб як-небудзь ня ступіць гразкаю нагою на сьвежа выфарбаваныя дошкі яе. Нярухома стаяла яна на вузкай посьцілцы, дарожкаю лёгшай да дзьвярэй у пакоі. Яна чула, як тупалі цяжкія боты ў пакоі, як босыя ногі пасьпешна грукалі ўзад і ўперад; потым зазьвякалі шклянкі, талеркі. Мусіць, сьнедалі. Ганулля глытнула сьліну, у жываце яе заныла. Думка аб тым, што ёй хочацца есьці, так прыстала да Ганулі, што яна не магла ніяк адкарахкацца ад яе. Рознакаляровыя шыбкі страцілі ўсякую прывабнасьць. Каб сьцішыць пачуцьцё голаду, Ганулля хацела крыху пахадзіць, але сабакі ізноў паднялі досыць злоснае гурчэньне. Можа і сабакі былі таму прычынаю, што ўспомнілі ў пакоях аб наведвальніцы. Боты цяжка застукалі, і праз хвіліну на ганак вышаў сам Шкілёнак.

— Шкілёнда,—успомніла Ганулля адразу мянюшку старшыні. Ад гэтае „шкілёнды“ ёй стала так сьмешна, што яна чуць стрымлівалася ад рогату, забыўшыся і аб голадзе і аб тым, дзеля чаго яна прышла сюды. І сапраўды, Шкілёнак так падобны быў да тоўстае каўбасы, якую завуць шкілёндаю, што гэтая мянюшка падыходзіла якраз пад сутнасьць уяўленьня яго асобы. Роўна наліты ад галавы з тоўстаю шыяю да мяккіх сьцёгнаў, на якіх вось-вось маглі трэснуць грэнадэрскага сукна нагавіцы, ён рабіў уражаньне добра напханае шкілёнды. Раздвоеная крыху барада пад Александра III, нізкі навіслы над вачыма лоб, поўныя ружовыя шчокі, маленькія захаваныя, але гострыя вочы надавалі яму і просты і ў той самы час жорстка-хітры выгляд.

Шкілёнак абвёў сваімі крацінымі вачыма Ганулю, крыху зморшчыўся, заўважыўшы адбітак яе ступака на тлуста пафарбаванай падлозе, бліснуўшай сваёю навізнаю.

— Магла і на дварэ пачакаць, а то напляміла тут, як...—былі першыя словы Шкілёнка. Ганулоя сполахна зірнула на сьлед, які яна пакінула на зьзяўшай падлозе; нават і сьмех, які трапятаў у ёй ад мянюшкі Шкілёнка, раптам пакінуў яе. Яна вінавата пераводзіла вочы з Шкілёнка на падлогу—і назад.

— Ну, чаго-ж табе трэба ад мяне? — разгладжваючы рукамі сваю двайную бараду, запытаўся старшыня.

— Я... я прышла прасіцца ў наймічкі да вас,—ціха і нясьмела адказала Ганулоя, чырванеючы ад сораму. Ёй здавалася, што яна просіць міласьціны.

— Мы наймаем толькі да Пакроў.

— Мне хоць-бы і на гэты час.

Шкілёнак уважліва аглядзеў Ганулю, як гандляр каня, якога ён купляе.

— Ты, можа, і нішто... здаровая. А адзежа ў цябе ёсьць? — запытаўся гаспадар, разглядаючы лапінку голага пляча, выглядаўшага праз дзіравую сарочку дзяўчыны. Ганулоя ўсхвалявалася. Ёй цяжка было прызнаць сваю сярмяжку за адзежу; адзіны-ж свой машастовы каптан на кудзелі яна берагла, як ахвярную каштоўнасьць.

— Я адзежы не даю, прымаю толькі тых наймічаў, якія прыходзяць у сваіх уборах.

Ганулоя вырашала найцяжэйшую задачу, можа больш цяжкую, як пабудову Суэцкага каналу. У яе адзежы няма, але прызнацца ў гэтым нельга, бо можна адразу страціць надзею на атрыманьне работы.

— У мяне ёсьць адзежа для работы,—з натугаю выгаварыла яна.

— Ну, тады добра! — недаверліва працягнуў Шкілёнак.—Прыходзь з заўтрашняга дню... Я кармлю і плачу два рублі ў месяц.

— Дзякую вам, пане-старшыня! —узрадаваная тым, што скончылася цяжкая размова і што яна будзе мець заработак. Ганулоя ведала, што наймічкі ўсюды, асабліва-ж у Шкілёнка, працавалі столькі, колькі гэтага хацеў гаспадар, а пры работах у полі — дык ад чацьвертае гадзіны раніцы да дзесятае гадзіны ўвечары. Але цяжкасьць працы не палохала яе. Яна рада была, што будзе мець больш сталы, хоць на паўгода, заработак.

Ганулоя ўжо вышла з ганку, на яе загурчэлі сабакі. Гаспадар, які таксама выйшаў на двор, улюкаў сабакам, сьцішаючы іх. Калі Ганулоя была ўжо каля брамкі, гаспадар запытаўся ёй усьлед:

— А чыя ты будзеш?

— Я дачка Сымона Кавальчыка з вёскі.

— Ах, дык ты Кавальчыкава адродзьдзе? Мне такія наймічкі непатрэбны! Арыштанская дачка ідзе да мяне ў наймічкі—ха!.. Вон з двара хутчэй! Ідзі: вось, бярвеньне цягай у вадзе разам з іншаю галайстраю, а ня ў наймічкі да мяне.

Сабакі абазьляліся таксама, як і гаспадар. Яны гурчэлі ўсё мацней і, калі гаспадар крыкнуў „вон“, яны, распаленыя дзікаю злосьцю, кіну-

лісся на Ганулю. Дзяўчына выскачыла з двара і зашчапіла брамку перад самымі іхнымі пыскамі. Ашалелыя сабакі кідаліся на вароты, брамку, скрабучы кіпцюрамі аб дошкі і равучы ад няпрытомнасьці.

Сабачае гурчэньне, брэх чуцён быў доўга яшчэ Ганулі. Яна азірнулася ў полі на зялёны жалезны дах шкілёнкаўскага дому, на вокны, якія скалілі на яе зубы, сьмяючыся на сонцы. Яна ўцерла падалом сьлязіну і, сагнуўшыся, як старая кабета, зморaным крокам накіравалася ў вёску.

— Ну, як, Ганулька? — трывожна, з надзеяю запыталася маці, калі яна ўвайшла ў хату, дзе тхнуць нельга было ад дыму і чаду.

— А ніяк... Сабака!—злосна вылаялася дзяўчына.

— Зьдзекуецца, трэба іх агнём паліць,—дадала яна, садзючыся за стол, на якім стаяла гліняная міска нішчымнае бульбы.

## VII

Жорсткая парада, якую падаў Ганулі Шкілёнак, ажыцьцявілася. Цераз дзень яна вымушана была пайсьці ў невялічкі, зьбіты з аполкаў, домік, які стаяў на высокім беразе рэчкі, якраз супроць канавы, што роўнаю істужкаю ўлівалася ў рэчку з неабсяжных лясоў. Адтуль паслалі яе разам з іншымі аднавяскоўцамі, а таксама наежджымі незнаёмымі людзьмі зьвязваць бярвеньні ў плыты. Рэчка і канава на вялікай даўжыні былі завалены дрэвам—ад тонкіх стройных жардзін да страшэнных каравых калод, якія чорнымі чудзішчамі гультаявата калыхаліся на жаўтаватай вадзе. Каб перацягнуць іх у іншае месца, выраўнаваць адно к аднаму, патрэбна было сілы дзесятку людзей. З бусакамі ў руках, мокрыя па шыю лазілі людзі ў несагрэтай яшчэ раньнім вясновым сонцам вадзе і хаотычна наплаўленыя бярвеньні выкладвалі ў роўныя чатырохкутнікі, зьвязваючы іх скручанымі з лазы канатамі. Сабраныя шпалы блішчэлі бялізною і зухавалі сваімі строгімі простамежнымі фігурамі; іх ня зьвязвалі і зьбівалі цьвікамі да аднае латы.

Ганулю сустрэлі на рэчцы сьмехам і кпінкамі. Кабет на такой рабоце звычайна ня было. Куды-б яна ні павярнулася, за ёю наглядалі дзесяткі вачэй, падміргвалі адзін другому, весела рагаталі, хоць холад зводзіў сударгаю сківіцы.

— Лезь у ваду, ня бойся!—крычаў адзін.

— А як-жа будзе са спадніцаю?—рагаталі з другога боку.

— З спадніцы выйдзе парасон.

— Спадніца будзе на вадзе яе трымаць... Можна і ў вір ісьці, спадніца вытрымае—ня ўтопіцца дзяўчына.

Ганyля маўчала доўга, сьцяўшы зубы. Яна дамагалася паказаць сілу, якая была і ў мужчын.

Бусак паслухмяна хадзіў у яе руках, таўсьцеразныя кражы ішлі туды, куды накіроўвала іх яе сіла. Але брыдкія кпінкі хвалявалі дзяўчыну, злосьць ускіпала, рукі дрыжэлі.

— Ой, ой, замокнеш, вышэй... крыкнуў рыжы лахматы мужчына скалячы зубы і бессаромна разглядаючы яе голыя ногі.

— Гады вы, паршывыя!—звонка сарвалася Гануля. Чаго прычапіліся? Рогат дваццаці горлаў быў у адказ на гэта.

— Ну, над чым ржаце, як жарабун? Нябось, аўсом вас не карміліl Хмурны з сіняватым тварам, на якім рэзка выступалі жалвакі на сківіцах, чалавек сурова аглядаў без парадку раскіданых па вадзе людзей. Гэтая суровасьць выгляду адразу прыпыніла сьмех: нельга было рагатаць, убачыўшы гэты твар. Людзі вінавата, як нашкодзіўшыя дзеці, апускалі вочы і больш старанна прымаліся за працу.

— Ад голаду гібеем, хварэем, мром ад гэтага лазаньня ў вадзе— а тут яшчэ кпінкі над дзяўчынаю! Вы, можа, чулі дзе яе бацька?— роўным адзяравянеўшым голасам кідаў словы хмурны чалавек. Ніхто яму не адказваў.

— Ведаеце, значыць? Ну, дык і прычынеце свае лязгаўкі.

Больш ужо ніхто і ніколі не зачапляў Ганулю насьмешкамі. Яна прыглядалася да хмурнага чалавека і не магла ніяк здагадацца, хто ён. Гэта не вясковы, напэўна: у Ляскаўцах яна ведала, бадай, усіх. Толькі на другі дзень яна даведалася, што гэта быў рабочы з папяровай фабрыкі пана Ляскоўскага. Стала ёй вядома, што не адзін гэты хмурны наладжвае плыты: яшчэ шмат папернікаў працуе на выплаўцы. Гануля пачала больш цікавіцца рабочымі. Яна прышла да перакананьня, што рабочыя больш па-таварыску адносяцца адзін да другога, да сялян, якія працавалі на плытох. Рабочыя супольна нараджваліся аб заробку, аб часе працы тады, як многія з сялян заскоквалі паасобку да канторшчыка, зьбівалі цэны, каб толькі забясьпечыць уласны, асабісты заробак. Праз гэта з кожным днём расцэнкі за працу зьніжаліся. Рабочыя ўжо не здаваліся Ганулі адасабовымі людзьмі, якіх трэба цурацца, як „гарадзкіх жулікаў“ (так звала некалі маці Ганулі рабочых з гуты).

Праз кароткі час Ганулі стала вядома, што там, на пескавой гары, у дашчатых халупах, людзі знаходзяцца ў вялікай бядзе. Шмат каму з рабочых і іх сем‘яў няма чаго есьці, няма заработку; людзі хварэюць, дзеці мруць, ледзьператрываўшы сьцюдзёную зіму. Беспрацоў‘е зьявілася больш страшным пакараньнем, як дваццацёхградусавы мароз на адчыненым для ўсіх ветраў месцы жыльля гутнікаў і папернікаў.

З самае раньняе вясны, калі папяровая фабрыка прапрацавала толькі нейкі кароткі час, пачаліся перherрымкі ў вытворчасьці. Рабочыя былі надта занепакоены тым, што аднойчы, як толькі крануўся лёд на рацэ, значная частка запасаў папіргольцу для фабрыкі была сапхнута на ваду. Трывожнае запытаньне лятала па халупах рабочых, насілася над дахамі папяровае фабрыкі і гуты: дзеля чаго гэта робіцца? Праз тыдзень рудыя чатырохкутнікі заслалі рэчку і крануліся ўніз за вадою. На беразе засталіся нязначныя плямкі нарыхтаванае для паперні яліны. Работа пачала скарочвацца, а разам з гэтым—і заработак рабочых. Яшчэ праз нейкі

кароткі час шмат каму з рабочых, асабліва тым, хто здаваўся спачуваўшым Зыкаву, абвясьцілі, што яны трацяць працу на фабрыцы і што заработак ім зусім ня будзе выплачвацца. Усхваляваным рабочым, якія ня так даўно былі заклікаиы сюды на работу і якія ўжо страцілі яе, пан Ляскоўскі адказаў, што паперня скарочвае вытворчасьць з-за недахопу драўніны. Нуда, ахапіўшая ўсіх рабочых, нават і тых, што засталіся на фабрыцы, зьмянілася вялікім абурэньнем, якое было выклікана хлусьнёю валадара фабрыкі: сьледам за дрэвам, узятым з фабрыкі, на рэчку пушчаны былі новыя вялізарныя масы ельніку. Ня гледзячы на вясну, пан Ляскоўскі і Ліўшыц секлі, крышылі дальны лес і аграмадамі кідалі яго на ваду. Ні паленца не давалася з гэтых новых высечак для паперні.

Са страхам, абурэньнем, неразуменьнем глядзелі рабочыя, як міма паперні цягнуліся па рэчцы бесканечныя істужкі яловага лесу. Фабрыка-ж ледзь варушылася. На пескавой гары трывога ўзрастала. Некалькі чалавек рабочых, з ліку нежанатых, кінулі ўжо Ляскаўцы і падаліся шукаць заработку ў іншых мясцох. Сямейныя не маглі крануцца: яны былі бяз працы, галадалі і вымушаны былі сядзець на месцы. Напасьледак яны ня вытрывалі і ўсхваляваным натаўпам рынуліся ў маёнат; з рабочымі ішлі кабеты, дзеці.

— Працы! Працы! — застагнаў натаўп на розныя галасы, як толькі крыху зьбянтэжаны паказаўся на бальконе палацу пан Ляскоўскі.

— Якую-ж працу я дам вам? Паперня скарочана ў рабоце і ня буду-ж я плаціць вам грошы за нішто. Зразумелі? — Пан Ляскоўскі пачаў досыць мяккім голасам, але з кожным словам ён рабіўся ўсё больш жорсткім. Апошняе слова „зразумелі“ ён выкрыкнуў так, як крычыць прыганяты: з поўным уяўленьнем свае сілы і выразнаю варожасьцю да паднявольнага.

— А чаму-ж фабрыка не працуе? Навошта нас здрадзілі? — крычалі рабочыя.

— Я гаспадар фабрыкі, а ня вы! Мая справа, што хачу, тое і раблю з фабрыкаю! Каму кепска жывецца тут — дарога вольна, — смакуючы словы і прымаючы найбольш выдатныя, як яму здавалася, позы, адказваў Ляскоўскі.

Худыя твары з азлобленымі вачыма, гразкія застарэлыя вопраткі, мізэрныя апоркі на нагах выклікалі ў Ляскоўскім пачуцьцё агіднасьці. Ды яшчэ гэтыя мізэрныя замурзаныя людзі прыходзяць да яго з сваімі запатрабаваньнямі, дазваляюць сабе падымаць голас. Распуста! Ён, гаспадар, пан Ляскоўскі, адказвае за цішыню і супакой на сваіх прадпрыемствах; досыць ужо таго, што былі раней гэтыя соцыялістыя на чале з Зыкавым. А цяпер — павінна быць ціха: пан Ляскоўскі даў абяцанку ня толькі губарнатару, але самому міністру ўнутраных спраў. А міністр унутраных спраў — ого! больш значыць, як сам цар. Веліч даверлівасьці, якую выказваюць яму ў Менску і Пецярбургу, падвышае яго; балькон,

на якім ён стаяў, здавалася падымаўся ўсё вышэй ды вышэй, а натоўп сотні рабочых разрастаўся ў цэлае людзкое мора.

— Сярод вас, можа, ёсьць бунтаўнікі, анархістыя ці соцыялістыя? Калі так, дык я жыва спраўлюся: знойдзецца казённае месца, знойдзецца дармовы хлеб. Вось ты, напрыклад, не соцыялісты часам? — упёршыся поглядам у аднаго з пярэдніх рабочых, рубам паставіў запытаньне пан Ляскоўскі.

Натоўп прыціх, насьцеражыўся.

— Ды што... што вы, паночку? Хіба-ж я... — мармытаў зусім зьбіты з панталыку пажылы рабочы, запытаньне якому паставіў пан.

Рабочыя добра памяталі, якую траўлю разьвёў Ляскоўскі пасьля забойства Зыкавым ураднікa. Па даносах бухгальтара Пісарэўскага наехаўшыя жандары забіралі кожнага, каму прышпільвалася назва соцыялістага. Забралі і пагналі ў вастрогі такіх, хто, можа, і цьмяна не ўяўляў сабе соцыялізму альбо соцыялістаў. Былі здарэньні, што гэткім парадкам людзі зганялі адзін на другім сваю ўласную помсту. Усе памяталі гэтыя часы, усім было брыдка за іх, усе баяліся паўтарэньня тых зьдзекаў і таго развалу, які ахапіў тагды рабочых.

— Дык сярод вас няма соцыялістаў? — ня сьцішаўся любавацца сваёю ўладаю пан Ляскоўскі. — Добра, тагды ідзеце сабе дамоў з богам.

— Мы-ж бяз хлеба, дзеці хварэюць, мруць! — спрабавала давесьці нейкая тонкая, як галіна, кабета.

— Кожны сам павінен ведаць, як жыць! Я не падраджаўся дарэмна карміць вас... Ну, мне няма часу размаўляць з вамі.

Рабочыя, кабеты, дзеці шэраю грудаю калыхнуліся і выцягнуліся ў істужку па вузкай алеі сада. Панура, ня гледзячы адзін на другога, закалыхаліся яны між кустоў. Нешта жудкае было ў маўклівасьці гэтага шэрага натоўпу.

— Разагнаць-бы... каб вачэй не мазолілі, — самому сабе, але голасна прагаварыў пан Ляскоўскі.

Ён павярнуўся да дзьвярэй. Там стаяў Ліўшыц. Ляскоўскі зьдзіўлена аглядзеў яго.

— Мне вельмі падабаюцца ўсялякія выступленьні, — распускаючы свае тоўстыя шырокія губы ва ўсьмешку, сказаў Ліўшыц. — Даруйце, я ўвесь час слухаў вашы перамовы з імі: вы трымаліся так, як уладарны князь, альбо як прамоўца дзе-небудзь у думе. Грандыёзна! Колёсальна! Дайце вашу руку.

— У вас сапраўды язык без касьцей, — неахвотна падаючы руку, адказаў пан Ляскоўскі.

Прыяцелі пакінулі балькон і накіраваліся ў габінэт, дзе вырашаліся ўсякія шахэры-махэры паміж іх. Ліўшыц яшчэ больш растаўсьцеў за зіму, другая залатая цэпка цяжка павісла на яго круглым, як паса, жываце. Вочы крыху страцілі свой былы бляск, затое ў паводзінах і

гутарцы ён стаў больш вялікасным. Здавалася, што кожнае яго слова падвысілася ў цане, як падвышаецца біржавая каштоўнасьць.

— Як-жа вы мяркуеце ліквідаваць гэтую штуку? — павольна апускаючыся ў шырокае мяккае крэсла, запытаўся Ліўшыц. Мне пачулася, што вы схіляецеся да думкі проста разагнаць лішніх рабочых.

— На жаль, вы шмат чаго чуеце, — мала шануючы ганаровы выгляд свайго кампанейца, адказаў Ляскоўскі.

Гэтая заўвага, здаецца, не зрабіла ніякага ўражаньня на Ліўшыца. Ён яшчэ глыбей сеў у крэсла, ганарлівасьць яшчэ выразьней адбілася на яго твары, губы яго былі адтапыраны, гарбаты нос сьмела быў падняты.

— Я лічу неразумным разганяць рабочых, ім трэба кінуць нейкую косьць, за якую яны перагрызуцца, — з вагою ў тоне параіў ён.

— Што-ж, павашаму, трэба ізноў пусьціць фабрыку поўным ходам? — насьмешліва запытаўся Ляскоўскі, прыпыняючыся насьвістваць нейкі опэрэтачны мотыў, які ён толькі пачаў. — Вы-ж самі прыдумалі гэтую штуку з фабрыкаю.

— Так, я прыдумаў... Я і ня раю вам пусьціць фабрыку, гэта было-б глупствам пры такіх цэнах на круглы лес. Фабрыка — нішто перад тымі барышамі, якія мы будзем мець ад продажу ўсяе яліны. Я — нэгоцыянт і ведаю, што раблю. Лес плыве па рэчцы, а грошы плывуць да нас у кішэню праз банкаўскія канавы.

— Ня надта плывуць!

Вам усё мала? — шчыра, здаецца, зьдзівіўся Ліўшыц. Ну, дык вось вам яшчэ — атрымаў ад канторы Дворжаца.

Ляскоўскі прыняў пук каляровых паперак і, ня лічучы, кінуў яго на стол, нібы гэтая гара грошай яго зусім ня цікавіць. Аднак, насьмешная рыса згладзілася на яго твары.

— Дык вы бачыце, якія бліскучыя вынікі? — самазадаволена запытаўся Ліўшыц. — Ну, паслухайце-ж мяне: кіньце складаць усякія там проекты разгону, расправы з лішнімі рабочымі; яны можа будуць патрэбны. Калі папера так ускочыць на біржы, як ускочыў лес, давядзецца пусьціць фабрыку на поўны ход. А пакуль... пакуль скарыстайце рабочых на выплаўку лесу!

— Вы гаворыце са мною ў такім тоне, як быццам я прыказчык з канторы Шабе і Ліўшыца... Прашу не зазнавацца з-за вашых спэкуляцый. Што-ж тычыцца да вашых разважаньняў аб скарыстаньні рабочых, то я згадзіцца з імі не магу: з рабочых будуць дрэнныя выплаўшчыкі, папершае, а па-другое, шкодна пускаць рабочых у сялянскую гушчу — ускаламуцяць.

Ліўшыц з павагаю паглядзеў на пана Ляскоўскага. Ён раней ня лічыў яго здольным так проста разьбірацца ў політыцы.

— Так, ваша праўда, лепш не сказаў-бы і сам губарнатар... Але-ж я прапаную вам зусім правільны выхад. Нам трэба хутчэй выплавіць лес,

хто ведае, што будзе на біржы далей. Пакуль заграбаеш грошы — грабі. Дзеля гэтага ня варта адпускаць рабочых, а трэба скарыстаць іх у новай патрэбнай нам працы.

Ліўшыц зірнуў на пук соценных асыгнацыяў, які ляжаў на стале. Вочы Ляскоўскага пацягнуліся туды сьледам. Ён успомніў аб сваіх дачыненьнях да князя Друцкага, да князёўны. Мусіць гэтыя ўспаміны паставілі перад ім вымагаючыя запатрабаваньні, бо ён, падумаўшы нейкі час, адказаў на разьвітаньне:

— Ну, добра, я згодзен выканаць вашы парады.

Пасьля гэтага, дні праз два, сярод сялян, якія наладжвалі плыты, пачалі паказвацца рабочыя з паперні. Спачатку былі адзінкі, але з кожным днём лік іх усё павялічваўся. Некаторыя ўстрымліваліся пачынаць гэтую працу з протэсту супроць прымуснае перамены працы, другія — па непрыстасаванасьці да выплаўкі, іншыя — па сваёй хваравітасьці. Але голад прымусіў палезьці ў ваду. Хварэлі, мучыліся, але ішлі працаваць, ішлі праклінаючы. Так Гануля сышлася бліжэй з рабочымі і ў супольнай працы страціла свае адмежаваньне. Цяпер Зыкаў, як рабочы, набыў у яе вачох яшчэ новае значэньне.

## VIII

У сярэдзіне маю ў лясны маёнтак Россаш прыехаў стары князь Друцкі. За ім сьледам на працягу двох дзён наяжджалі дэкоратары стальмахі, муляры, шпалернікі. Ціхі закінуты маёнтак напоўніўся гоманам, стукатам. Ад старых сьцен палацу курэў пыл, у іх праробленыя былі новыя праломы для больш шырокіх і высокіх вокнаў, новых дзьвярэй. Дробныя будынкі для слугаў і невялікія стайні былі раскіданы нашчэнт, на іх месцы пачалі хутка ўзрастаць новыя шырокія будынкі. Стары князь, які раней ніколі ня зводзіў сябе на ролю ўніклівага гаспадара, цяпер цэлымі днямі матляўся ў сваім малінавым каптане і ў бярэце з пяром па росшанскай сядзібе. Ён падганяў рабочых, тэхнікаў, патрабуючы найхутчэйшага сканчэньня работы.

— Вы павінны найбарджэй перарабіць мне гэты цьмяны дом у жыцьцёрады, сонечны палац, дзе кожнаму было-б лагодна і вольна правесьці некалькі летніх месяцаў. Усё павінна тут выклікаць замілаваньне і рабіць чалавека бесклапотным.

І мастакі, дэкоратары, тэхнікі стараліся. Стары дом стаў сьветлым; пакоі ў ім набылі выгляд паасобных чароўных куточкаў аздобленых статуэткамі, малюнкамі, рэдкімі дыванамі. Цяплічныя расьліны з цудоўнымі кветкамі рабілі дзьве вялізарныя залі падобнымі да экзотычнага саду. Сям-там былі зложаны быццам натуральныя гроты, павітыя дзікім вінаградам, раскіданы акварыумы з нянаскімі рыбамі. На пяшчаным пляцы, дзе разьмешчана была сядзіба, узьніклі тлустыя чорныя клумбы, цэлыя пляцоўкі з далікатнымі расьлінамі і кветкамі. Увесь двор, выраўнены, як

дошка, апрануўся смарагдавым ангельскім мурогам. Праз тры тыдні, як з зямлі, вырас зусім другі палац. Пяшчотны пах далікатных расьлін і кветак перабіваў першабытны дух хваёвых лясоў, цёмнаю сьцяною абымаўшых гэты кавалачак экзотычнага сьвету.

Пан Ляскоўскі наведаўся да князя, калі работы па перабудове россашанскага замку падыходзілі да канца. Ён праціраў вочы ад зьдзіўленьня, праяжджаючы цераз зялёны двор па роўнай, як стол, дарожцы, высыпанай жарствою і галушачнікам. Замест суровага, недаступнага палацу перад ім стаяў вялізарны палац-казіно, блішчэўшы на сонцы масамі шкла і ярка-белымі сьценамі і колёнамі.

— Гэта-ж кавалачак раю сярод зямное юдолі! — усхвалявана гаварыў ён князю, як толькі яны павіталіся. Тэрраса гэтая зусім ня горшая ад тэррас знатнейшых італьянскіх віллаў. Цудоўна! І як вы пасьпелі ўсё гэта зрабіць у такі час?

— Выпісаў мастакоў і лепшых майстроў з Вены, яны па-майму загаду закупілі розныя мастацкія рэчы і матэрыялы. Нават зямлю на двор давялося везьці ад садоўніка з Менску і з іншых оранжэрэяў. Але, добра кажаце?

— Цудоўна! — шчыра сазнаўся Ляскоўскі і завідным вокам акінуў усю сядзібу, якая, быццам далікатнейшае пахучае зярнё, была агорнута цёмна-зялёнаю тканінаю магутных лясоў.

Князь гасьцінна і далікатна, чаго Ляскоўскі раней ніколі ня бачыў, вадзіў яго па абноўленых пакоях, паказваў рэдкасьці, знаёміў з асаблівасьцямі ўбранства таго ці іншага кутку. Ляскоўскі дзівіўся таму густу, з якім усё было зроблена. Але разам з гэтым яго цікавіла і думка аб каштоўнасьці гэтае перабудовы.

— Я і слоў ня маю, ваша сьветласьць, каб выказаць сваё зьдзіўленьне, — гаварыў ён. — Гэта ўсё так прывабна, так высока мастацка, што ваша сьветласьць, мусіць, зусім не шкадуе тых затрат, якія давялося зрабіць.

Князь крыху нахмурыўся, быццам яму няпрыемна было гаварыць аб простых рэчах, як грошы, у гэтым панстве эстэтыкі і вышэйшага густу.

— Страты невялікія, тысячаў са сто... Да рэчы, вы не маглі-б пане Ляскоўскі, параіць мне, у каго дастаць на нейкі час тысяч трыццаць-сорак? Толькі папярэджваю, што я зварочваюся за такімі рэчамі толькі да людзей свайго кругу.

Ляскоўскі на момант задумаўся, зірнуўшы гостра на князя, які, пасьля свае просьбы, уважліва разглядаў нейкую францускую мініятуру на эмалі.

— Тое, што вы зьвярнуліся да мяне за парадаю ў такой справе, мусіць сьведчыць аб тым, што ваша сьветласьць далучае мяне да „свайго кругу"? Можна так разумець?

— Я думаю, што аб гэтым залішне гаварыць.

— Калі так, то я маю гонар прасіць вас прыняць ад мяне самога патрэбныя вам грошы. Яны сёньня-ж будуць вам дастаўлены.

— Дзякую, вы—чалавек дастойны і высока шляхетны. Ваша мосьць вызваляе мяне ад лішніх турботаў.

Князь цэрамонна працягнуў руку. Ляскоўскі прыняў яе, але тонкі твар яго быў далёкі ад урачыстасьці. Чуць прыкметная ўсьмешка трапятала ў кутках яго п'ўчатых губ.

— Ваша сьветласьць, вам зусім няма патрэбы пазычаць грошы. Я буду мець гонар прыслаць вам грошы за вашу ўласнасьць.

— Я не разумею пана.

— Вашай сьветласьці давядзецца толькі лічыць забаронны лес прададзеным мне; вам няма рацыі турбавацца са зваротам пазычкі.

Князь усхвалявана-гнеўна азірнуў пана Ляскоўскага і павярнуўся ў бок ад яго. Нэрвова прайшоўся ён па салі, застаўленай дубовымі кадушкамі, з якіх уздымаліся ўверх пышныя кароны нізкарослых пальмаў, выпіраліся зялёныя калючыя таўкачы мэксыканскіх кактусаў, выглядалі махравыя згусткі кветак хрызантэм. Прыгожасьць гэтых выпешчаных расьлін ня здольная была ўцішыць буру, якая паднялася ў князі праз думку аб магчымасьці растацца з суровым хвойнікам ды ельнікам.

— Я вымушаны скараціць ваш візыт да мяне, пане Ляскоўскі,—суха прагаварыў князь, запыніўшыся амаль у самым канцы салі, далёка ад таго месца, дзе быў Ляскоўскі.

— Выбачайце, ваша сьветласьць! Але знаёмства са мною было, мне здаецца, небескарысна для вас? Маю гонар разьвітацца.

Ляскоўскі зрабіў лёгкі ўклон і гнуткім крокам накіраваўся з салі. Князь азірнуў нудна сваіх зялёных раскошных прыжывальцаў, скрыўлена ўсьміхнуўся. Ялінкі ды хваінкі, растучыя на голодным пяску, павінны разьлічыцца за сытае сталаваньне гэтых паразытаў з тоўстымі мясістымі лістамі, з бессаромна-пышнымі кветкамі.

— Куды-ж вы ўцякаеце, пане Ляскоўскі?—крыкнуў князь, пачуўшы, як грукнулі дзьверы ў сумежным з саляю пакоі.

— Ваша сьветласьць хоча яшчэ што-колечы сказаць—вярнуўся праз хвіліну Ляскоўскі.

— Мы-ж ня ўмовіліся з вамі аб продажы лесу, пане Ляскоўскі?

— Ці-ж варта турбавацца вашай сьветласьці? Я ўсю справу зраблю з вашым намесьнікам, а пасланец мой з грашыма будзе ў вас сёньня-ж.

Праз тыдзень канава, якая выходзіла ў рэчку з далёкіх князёўскіх лясоў, была шчыльна завалена сьвежымі бярвеньнямі. Вады бадай і ня відаць было: можна было ісьці па канаве без перапынку—дрэвы ляжалі суцэльным мостам. Грамады людзей, коняй цягалі да вады паваленых стогодніх веліканаў, звон разносіўся ў парадзелым лесе. А папяровая фабрыка Ляскоўскага моўчкі пазіралася ў люстэрка супакойнае затокі: туды не забрыдала ніводнага нават паленца... Тонканогія, калматыя дзеці не забаўляліся на пясчанай гары, а турзалі без перапынку за падол мацярок, патрабуючы хлеба, альбо хоць варанае лебяды...

Залатавалосы чэрвень раскідаў усюды свае кудры. Там пад лістком сарамяжа зачырвянелася суніца; наверсе, у прагале паміж парасончыкамі хваін, калышыцца, як найтанчэйшая тканіна, лёгкая залацістая хваля хваёвага цьвіценьня. Сенажаць, як рознакаляровы дыван на мошасьце: чырвонае, сіняе, ружовае, белае, жоўтае перамешалася ў суцэльную сымфонію ўсіх фарбаў на агульным зялёным фоне. А ў полі адкрасаваўшы житні колас пачынае жаўцець, паўнець; ён ўжо важна гойдаецца з боку ў бок, лёгкім шолахам прывітаючы сонца і вецер.

З гораду ў маёнткі пацягнуліся фаэтоны, брычкі, фурманкі. Каму няма чаго рабіць летам, як і ўзімку, альбо хто не паехаў у Карлсбад, Вішы, Остэндэ, той ехаў у свой маёнтак „сапачываць". Трэба сапачыць ад тэатру, дваранскага сабраньня альбо ад „состояния" пры губарнатаршы. Гэта-ж работа арыстократычнае грамады! Там у маёнтках чакаюць палацы, паркі, лясы, рэчка, забавы!

Князёўна Ваця з мацерою выехалі з гораду пазьней ад усіх. Князёўна добра памятала, якую нуду нагнаў на яе Россаш з яго манастырска-вастрожным палацам і надакучным адзіноцтвам. Дзеля гэтага яна доўга не згаджалася ізноў ехаць туды, хваляваласся, напаміналаа бацьком, што яна выгадавана не для такіх палацаў і не для такіх гарадоў, як Менск. Гэта пад яе ўплывам князь кінуўся перабудоўваць Россаш. Трэба было для задавальненьня князёўны на два месяцы жыцьця выклікаць замежных майстроў і мастакоў, зьбіраць колькі рабочага народу, турбавацца, даставаць на ўсё гэта грошы. „Высокародныя" кабеты крануліся з гораду толькі тады, як было атрымана паведамленьне ад князя, што перабудова скончана.

За князеўскім паяздам цягнуліся яшчэ каламажкі і фурманкі з дабром розных прыяцеляў, якія былі запрошаны ў госьці ў Россаш на ўсё лета. Сярод іх быў чыноўнік асобых даручэньняў, беспрацоўны барон, некалькі іменітых, але небагатых, паняй з дочкамі і шмат каго яшчэ. Даўгі шнур брычак і фурманак на дарозе можна было прызнаць за перасяленскі абоз—так многа маёмасьці перавозілася панствам пры гэтых пераездах на кароткі час.

Закінуты ў вялізарных лясох Россаш, раней амаль нікому не вядомы, зрабіўся цяпер цэнтрам увагі ўсяе шляхты. Як-жа! Там жыў знатны князь, губэрскі маршалак! Россаш цягнуў да сябе ўжо гэтым. Калі-ж хто наведваўся спачатку толькі з прычыны далучыцца да вялікасьці, то другі раз яго цягнула ў Россаш шляхэтная грамада, якая там заўсёды таўклася, а таксама надзвычайная прыгожасьць убранства і тыя забавы, якія чакалі там. Князь лічыў сваім абавязкам быць у якасьці маршалка, хлебасольным гаспадаром. І тыя нізкапробныя мясцовыя шляхцічы, якія раней сьцерагліся, цяпер бяз сораму карысталіся князёўскаю гасьцінасьцю. Словам, усё лета ператварылася ў Россашы ў адзін бесьперапынны баль. Пасьля палудня, як усе паўстаюць, пачыналіся пікнікі, гонка на конях, катаньне на чайках па рэчцы; увечары—музыка, скокі, сьпевы, любошчы. І так—без канца і меры.

Ляскоўскі спачатку трымаўся чакаючы. Ён добра ведаў, што князёўна з мацераю прыехала ў Россаш, ён нават ведаў, дзе знаходзяцца яе пакоі. Але, ня гледзячы на тое фізычнае непакойства, якое выклікалі ў ім частыя ўспаміны аб князёўне, ён цьвёрда рашыў чакаць. Разьлік не ашукаў яго. Хутка пачалі амаль кожны дзень наведвацца ў Ляскаўцы пасланцы то ад князёўны, то ад старое княгіні з запросінамі прыяжджаць у Россаш. Па ломанаму почарку апошняе запіскі князёўны Ляскоўскі зразумеў, што тая была надзвычайна ўсхвалявана, як пісала яму. Тагды ён парашыў, што пара ехаць. З гэтага часу наведваньні яго сталі частымі, іншы раз ён праводзіў па некалькі дзён запар у „райскім кутку“, як ён называў Россаш.

Адзін раз, у часе яго больш доўгага гасьцёўства ў Россашы, была наладжана паездка на возера, якое знаходзілася вёрст за дзесяць ад маентку. Закінутае ў глухіх лясох, глыбокае з лясістымі выспамі, яно вабіла да сябе сваёю патаемнасьцю і надзвычайнаю прыгожасьцю. Туды загадзя былі адвезены чайкі, знарок быў пабудаваны домік на аднэй з выспаў.

Ляскоўскі сеў у каламажку з князёўнаю. Фурмана ён вызваліў, як толькі крыху ад'ехалі ад дому, узяўшыся сам кіраваць жарабцом.

— Чаму вы ня хочаце ехаць з фурманам?—запыталася яна.

— Я люблю ехаць па-свойму!—адказаў ён, моцна турзануўшы за лейцы. Конь рвануўся так, што траха ня выкінуў з каламажкі сваіх пасажыраў. Князёўна, ратуючыся, ухапілася за руку Ляскоўскага; яе валасы казлытнулі яго шчаку. Ляскоўскі ахапіў яе стан і блізка прыцягнуў да сябе. Ён адчуваў, як трапяталі яе ногі, рукі, калацілася сэрца.

— Вы што дазваляеце сабе?—нібы гнеўна запыталася яна, адштурхнула яго руку і адсунулася.

— Я баюся, каб вы ня выскачылі з каламажкі,—наіўна сьмяючыся, адказаў ён.

Чым далей у лес, тым больш дарога была завалена суччам, перарэзана карэньнямі. Каламажка скакала па іх, як у трасцы. Князёўна ўсё часьцей хаплялася за руку свайго спадарожніка. Калена яго раз-по-разу сустракала яе мяккую гарачую нагу. Хвалі агню ахапілі Ляскоўскага. Ён затуманенымі вачмі паглядаў на князёўну. Яе твар быў закрыты сінім вуалем, але скрозь яго відаць былі бліскучыя зьмяіныя вочы, ружовыя, як вішні, губы, губы перасохшыя. Ён працягнуў дрыжачую руку на яе стан, трапятлівымі пальцамі датыркаючыся да тонкага адзеньня, пад якім так ясна прамацвалася гарачае цела... Раптам іх каламажка на завіліне дарогі траха не наскочыла на ехаўшых уперадзе. Ляскоўскі, кусаючы губы, нехаця зьняў сваю руку са сьпіны князёўны.

— Абганяйце іх!—надатрэснутым голасам крыкнула яна. Праз момант каламажка выперадзіла фаэтон з букетам паненак і рагатаўшым ва ўсё горла прагарэўшым барончыкам. Яшчэ чвэрць гадзіны, і ў паветры пацягнула халадком. Скрозь дрэвы замільгала бліскучая сталь возера, якое шырока разыходзілася ў абодвы бакі.

Пакрыты белаю пенаю запараны жарабец паслухмяна запыніўся на беразе пад разлапістаю ялінаю. Высачэзным стогам уздымалася яна ўверх і ніводзін прамень сонца не прасякаў цераз яе вагромністую зялёную шапку.

— Ну, хутчэй на возера, на выспу!—завіхалася князёўна, скінуўшы вуаль і дарожныя палічаткі.

Праз хвіліну белая чайка лёгка склізгала па гладкай срэбнай паверхні возера, накіроўваючыся ў пратоку між двума выспамі. Высокія купы дрэў, аплеценыя ўдоле густым маладняком і кустамі, зялёнымі ківерамі стаялі на выспах. Здавалася, што таўсьцеразныя зялёныя калёны ўздымаліся проста з вады і падпіралі неба.

— Ах, хто там ёсьць?—пыталася князёўна, сваімі зялёнымі вачыма ўглядаючыся ў непрасяжную гушчыню гэтых колён.

Два-тры ўзмахі вёслаў, і чайка мякка ўрэзваецца носам у берагавую зелень. Ляскоўскі выскачыў на бераг і падаў руку князёўне, якая хісталася, стоячы на месцы ў вагаўшайся чайцы. Яны прайшлі ўжо некалькі крокаў, як Ляскоўскі вярнуўся назад і выцягнуў чайку на бераг.

— Каб не адплыла,—вытлумачыў ён.

Гушчарнік скаваў іх так, што нават і возера ня было відаць. Далёка нешта трахкала, можа экіпажы іншых удзельнікаў гэтага пікніка. Але ня хутка будзе ім знайсьці Ляскоўскага і князёўну.

Яны прадзіскаліся ўперад, чапляючыся за кусты, за ломанае сучча пад нагамі. У пальцах Ляскоўскага яшчэ захавалася адчуваньне цела князёўны. Яму трэба ізноў дакрануцца, ізноў адчуць бязьмерна салодкую казлытку ў сэрцы. Ён стаў цяжка дыхаць, пальцы яго скручваліся ад жаданьня асалоды. Хістаючаяся сьпіна, закруглыя бёдры, уздрыгваўшыя пры кожным яе кроку, прычапілі яго да сябе, і ніякая сіла, здавалася, ня прымусіла-б яго глядзець у другі бок. Яна раптам прыпынулася, зачапіўшыся за корч. Ляскоўскі надышоў зусім блізка, рука яго адчула вагністае датырканьне. Ён больш ня стрымліваўся і ашчарэпіў гнуткае гарачае цела.

— Я... я... кахаю вас, князёўна!—задыхаючыся, мармытаў ён.

Рукі яго сьціскалі цела, як абцугамі. Князёўна нічога не адказвала. Стогн жаданьня толькі выходзіў з яе грудзей. Сухія гарачыя губы яе, жудасна чырвоныя, сыходзіліся ў сударгах, кожнаю часьцінаю свайго цела яна прыліпала да Ляскоўскага. Самлеўшая, апусьцілася яна на траву... Усё закруцілася ў агні, у забыцьці...

На возеры пляскала вада, чутны былі галасы. Дзявочы голас клікаў князёўну. Яны сядзелі ў кустох і не адклікаліся.

— Вы... ты павінна быць маёю жонкаю!—супакойна курачы, гаварыў Ляскоўскі. Твар яго быў задаволены, ях-бы пакрыты лёгка лякам. Толькі пахатлівыя губы яшчэ дробна дрыжэлі.

— Я шукала ў вас ня мужа, а мужчыну. Мужчына мне патрэбны, а муж... ня ведаю.

— А мне вы патрэбны, як жонка і... як кабета.

— Кабета для вас у другую чаргу? Ха-ха-ха! Вядома, іх у вас было напэўна, ня мала.

— Ня ў гэтым справа. Ня кожную кабету я хацеў-бы мець жонкаю, а толькі вас.

— У чым-жа прычына?

— Я кахаю толькі вас.

— Кіньце гаварыць глупства. Скажэце што-кольвечы больш разумнае.

— Ну, дык мне патрэбны князёўскі лес, патрэбен Россаш з усімі яго цацкамі.

— Вось гэта зразумела. А колькі ў вас тысячаў знойдзецца?—вясёла рагочучы і пырскаючы зеленьню вачэй запыталася яна.

— Хопіць; больш, як у вашага бацькі!—задаволена адказаў ён, апускаючы, аднак, вочы.

— Дык вы хочаце, каб я была вашаю жонкаю? Ну, што-ж—добра! Толькі ведайце, што ніякага каханьня ў мяне няма да вас... Таксама, можа, вам цікава ведаць, што ў мяне ёсьць сын, яму ўжо каля году. Аб ім ведаюць тут толькі мае бацькі, для ўсіх астатніх я—бездакорная дзяўчына. Дык згодны цяпер жаніцца?

— Я гэта раней ведаў, ня толькі вашы бацькі ведалі. Ідсё-ж я прашу вас даць згоду.

— А са згодаю і яшчэ што-кольвечы?

— Гэта ўжо справа ня ваша. Прыданае, напэўна, будзе князёўскім.

— Я згодна. За такім мужам і жонцы будзе ня дрэнна.

Вясёла рагочучы, быццам яны, як нявінныя дзеці, толькі-толькі пагойсалі за ваверкаю ці за птушкаю, Ляскоўскі і князёўна вышлі на бераг, сапхнулі чайку на ваду і пачалі клікаць астатніх. Тыя гаманілі і сьмяяліся, захаваныя купамі на другіх выспах. Да позьняе начы коўзаліся чайкі па гладзі возера: запальвалі ракеты, якія адлюстроўваліся ў вадзе, пялі, цалаваліся, і зноў разбрыдаліся парамі па кустох.

Жаніцьба Ляскоўскага на князёўне была вырашана надзвычайна проста.

*(Канец будзе).*

# ВЕРШЫ*)

**Янка Купала**

## МАЯ ДОЛЯ

Мая доля, дык вот доля,
Каб ты лопнула была!
Каб у чыстае дзе поле
Ад мяне ты уцякла!

Чаму-ж, доля ты цяжкая,
Тут мне шчасьця не даеш?
Чаму-ж, горкая такая,
Сьмерць мне лепей не сашлеш?

Гэтак цягам мяне мучыш
Як душу у пекле чорт;
Гэтак сэрца маё сушыш,
Што аж сам я ссох, як хорт!

Не даеш ты мне спакою,
Ані ўночы, ані ўдзень,—
Усё ходзіш ты за мною,
Як нябожчыка той цень.

Куды толькі ні парвуся,
Каб хоць троха лепей жыць,
Дык, калі не аглянуся,
Мая доля тут бяжыць!

І усё мне скруціць, смуціць,
Як хто дзе калом ваду,
І душу маю засмуціць,
І нашле злую бяду.

---

*) Прыводзячы ў парадак свае старыя архівы, я знайшоў сярод рукапісаў друкуемыя тут вершы, якія раней па цэлым шэрагу прычын, у тым ліку і цэнзурным, нідзе не друкаваліся.

...ы,

*Янка Куп...*

І жыцьцё няміла стане,
Згінуць хочацца зусім,
І як-бы хто сэрца зране,
Нейкі боль чуваць у ім.

І так хочацца зваліцца
У глыбокі дзе ручэй,
Каб ня відзець—утапіцца—
Ані сонца, ні людзей.

Дык вот доля, мая доля,
Каб ты лопнула была!
Каб у чыстае дзе поле
Ад мяне ты уцякла!

1904 г., 15 ліпеня.

* * *

Цяжка мне, цяжка слузе бяспрытоннаму,
Жыцьця свайго смутнага дні каратаць;
Сэрцу ад жалю і сьлёз неўгамоннаму,
Ой, цяжанька верыць і шчасьця чакаць!

Цяжка мне, цяжка за сошкай-крывуляю
Загон выйці ў поле араці чужы,
Пот абціраці парванай кашуляю
Ды плакаць, прыпаўшы грудзьмі да мяжы!

Цяжка мне, цяжка маркотнымі думамі
Бязьмернае гора адчуці сваё,
Слухаць бяды песьню з віхраў пашумамі,
Што ніва, што сошка, што ўсё не маё!

Цяжка мне, цяжка гумно, пуню панскія
Дабром, зьлітым потам маім, напаўняць,
Знаць, што ўсіх кормяць труды мае хамскія,
А сам мушу з голаду век прыміраць!

29-I—1907 г.

## З НАДЗЕЯЙ ГАРОТНАЙ

З надзеяй гаротнай,
З сьлязою чырвонай
Блуджу я, маркотны,
Па родных загонах,

Блуджу і ня знаю,
Дзе праўда, дзе сіла,
І ціха пытаю
У думкі нямілай:

Няхай мне гавора,
Няхай апявае
Аб сонцы, аб зорах,
Аб радасным краі.

Дзе неба—як неба,
Дзе доля—як доля,
Дзе хлеба—шмат хлеба,
Дзе воля—раздольле!..

Дзе людзі—як людзі:
Ня чахнуць у плесьні,
Дзе з сэрцамі грудзі,
Дзе песьні—як песьні!

Дзе сьпекі, марозы
У знакі не даюцца,
Дзе ўздохі, дзе сьлёзы
Ня чутны, ня льлюцца.

Як самае сонца,
Дзе ясна—так ясна,
Як самае сонца,
Дзе шчасна—так шчасна!

Зазнаць хоць мінутку
Пацех гэткіх мілых!..
Бо ў вечным жыць смутку
Я, людзі, ня ў сілах!..

1908 г.

## СПРОБА ОКТАВЫ

Удар, душа, удар ты, сэрца,
Па струнах думак-весялух!
Збудзецца ўспаны ў паняверцы
Жыцьця зьмянлівага мой дух.
Хай думкі лягуць на паперцы
І цешаць братні погляд, слух,
Народу прыдзе хай пара
Успомніць часам песьняра!

Да шчасьця нам так мала трэба—
Прывецік добры з стараны,
І ўжо мы чуць аж не пад небам—
Ужо сьмяёмся, роім сны!
І вы барцы за кусок хлеба,
Што ўцех ня знаеце вясны,
Прыкмецьце, што душы за йгра,
Прыкмецьце словы песьняра!

Мы плачам, змучаныя доляй,
Над хмарай толькі сваіх бед,
Пясьняр-жа зрэнкаю саколяй
Увесь аблятае белы сьвет,
І за ўсіх выцярпіць найболей
І зьвяне, як той ў восень цьвет.
А мелі-ж ласку брат, сястра,
Над гэтай мукай песьняра?

Мяшку, набітаму рублямі,
Б'е кожны нізенькі паклон,
Хоць-бы зладзейскімі рукамі
Быў напаўняны з крыўдаў ён...
Хто-ж бедных бача паміж намі,
Хто чуў няшчасьця плач і стогн?
Хто, хоць пачуці ўжо пара,
Паслухаў песьню песьняра?!.

Стаіць палац высокі, белы,
Збудован роўна, ўсё пад шнур,—
Жывуць-жа тыя ў ім, што ўмелай
Рукою ўзьнесьлі гэты мур?
О, не, іх доля акалела,
Ад жыцьця зьменных гінуць бур.
Як слуг, праводная зара
Вядзе таксама песьняра.

Ўсё сходзіць з сьвету доўга-скора,
Нішто ня вечна на зямлі,
Хоць чалавечы сьлёзы, гора
Заўсёды вечнымі былі.
Памрэ пясьняр,—хоць так пеў ўчора,—
Дружкі паплакаць, бач, прышлі...
Людцы, сьмяяцца не пара
Хоць над магілай песьняра!

1906 г.

## НЯ ДАЙЦЕ ЗГІНУЦЬ...

Ня дайце згінуць песьняру
Ў нязнаньні, ў беднасьці, ў глушы,
Стварыце радасьці зару,
Зганеце сум з яго душы,—
Ня дайце згінуць песьняру!
Ён так цярпіць за крыўды ўсе,
Ён пеці вышаў у пару,
Вам толькі слухаць, што пяе,
Ня даці згінуць песьняру!
Аб вашай долі ў сьвету даль
Скіруе струн сваіх ігру,
Вы-ж толькі за ўсе песьні, жаль,
Ня дайце згінуць песьняру!

1907 г.

* * *

Грымну я, грымну па струнах бунтарных
Рукою потам абмытай,—
Ліся, каціся па гонях папарных
Розгалас песьні забытай.

Доўга блудзіў я, блудзіў дзірванамі,
Крыж спатыкаў, дзе праходзіў;
Сьмехі, насьмешкі нясьліся з вятрамі,
Шла непагода ў народзе.

Жаль далятаў з недалёку, далёку,
Чулі жаль гэты каменьні,
Чэз так прыгонна, самотна, нялёгка...
Церні, за цернямі церні...

Стрэну калі часам дзе прасьвятленьне,—
Злыбедай сонца зардзіцца;
Сьледам сыходзяць, ідуць пакаленьні—
Ўсе ад цямніц да цямніцаў.

1908 г.

* * *

Я ня плачу над братняй магілай,—
Ён там сьпіць, не цярпіць ужо болей;
Я ня плачу над хатай пахілай,—
Я ўжо ажыўся з сваею нядоляй.

Я ня плачу, што ніва ня родзе,—
Пот і кроў я прывык ліць напрасна;
Я ня плачу па родным народзе,—
Сяк ці так дажыве долі яснай.

А мне толькі сьціскаюцца грудзі
І ў вачох сьлёзы цьмяцца няміла,
Калі ўздумаю, што са мной будзе,
Як пець песьні ня стане ўжо сілы?!.

1909 г.

* * *

Я меў ад кагосьці
І штосьці прывык:
Ад рускага чына—
Нагайку і штык.
Ад польскага пана—
Прыгон і бізун,
Ад роднай зямелькі—
Няўрод і каўтун...

1914 г.

* * *

Цемната і слата,
Вецер б'ецца ў вакно,
Як-бы нанач у хату
Ён просіцца,
Як-бы стужай яму
Надаела даўно
У чыстым полі бязвольна
Разносіцца!

Я у хаце адзін
І мінуты лічу,
Ці ўжо скора ноч гэтая
Скончыцца?
Адзіноцтва-ж, як здань,
Мігаціць у ваччу,
Ля пасьцелі вужакаю
Корчыцца!

1913 г.

## УРЫВАК

. . . . . . . . . . . . . .

Зашумеў лес разгуканы,
Нівы задрыжалі,
Задрыжалі і тыраны,
Што бяду стваралі.

Зашумелі, загрымелі
Магутныя песьні:
„Доўга, доўга мы цярпелі,—
Доля, воля, ўскрэсьні!“

І глялзеце, што за дзіва!
Наракаць ня трэба—
Буйна ўзыйдзе наша ніва,
Будзе волі, хлеба.

Дзе ляжалі дзірванамі
Панскія абшары,
Дзе казённыя вякамі
Пусьцелі гушчары,

Дзе была адна пустыня—
Елкі ды бярозкі,—
Поле будзе, пушча згіне,
Стануць хаты, вёскі.

Загарыцца сонца смагай
Дух люду і сіла,
Доля, воля ясным сьцягам,
Зоркай блысьне мілай.

Верце песьні—скора, скора
Гэты дзень настане,—
Ўжо ўздымае людаў мора
Праўды панаваньне.

Паўставаць будуць тыраны,
Але мы ня зьляжам,
Крывёй абрызгаем паляны,
А свайго дакажам!

Наша гора, нашы сьлёзы,
Кроў і пот крывавы
Стане ў сьпекі і марозы
За нашыя правы.

З грудзей нашых панясецца
Вір песень грымучых
І ў адзін голас зьліецца,
У адзін магучы.

„Сьмерць таму, хто хлеб астатні
Бедным выдзірае!
Сьмерць таму, хто на люд братні
Кайданы ўзьдзявае!“

2-VI—1906 г.

## ПРАЗ ВАЙНУ

Зіма. На дварэ мяцеліца вее,
Халодныя песьні заводзіць віхор,
Зоркі ня сьвецяць і сонца ня грэе,
Аж вылезьці страшна і глянуць на двор!

А сьнег усё сыпе болей і болей,
Страляе у сьцены сьцюдзёны мароз,
І вецер шалёны вые у полі,
Ўсе гурбамі сьнегу ён хаткі занёс.

Пад борам зялёным вёска стаяла,
А бедная надта, ах, надта была,
Мяцеліца стрэхі яе пазрывала
І дзіка па сьценах дзюравых гула.

У хатцы старой у гэту завею
Лучыначка сьвеціць сьвятлей, то цямней,
Там дзеткі малыя з маткай сваею
Льюць горкія сьлёзы з бядачых вачэй.

Памёрзьлі з марозу дзеткі у хатцы,
А шэсьцера бедных там іх было,
Трасуцца і лезуць на грудзі к матцы,
Як птушкі да маткі сваей пад крыло.

Ой, гэтых сіротак цяжкая доля,
Хоць маці і ёсьць, але бацькі няма,
А тут яшчэ гэты холад-няволя,
Праклятая сьцюжа, мароз і зіма.

Іх бацьку з японцам біцца забралі,
Бо ён запасны быў у цара салдат,
Вінтоўку і шаблю там яму далі
І стары салдацкі падзёрты халат.

Пакінуў ён дзетак бедных бяз хлеба
Ї хворую жонку бяз хлеба сваю,
А тут і падаткі яшчэ аддаць трэба,
Падаткі і чынш у казну за зямлю.

Кароўка раве ня еўшы у сенцах,
Авечка у хаце з ягняткам бляе,
Ня топлена печка, дроў ні паленца,
А ў коміне жудасна вецер пяе.

Ой, бедныя дзеткі, як па пажары,
Хто-ж вас тут накорміць, дроў насячэ?
Хто печку падтопе, хто есьці навара?
Хто хлеба вам булку, праснак хто сьпячэ?

Нямашака бацькі, хворая матка,
Няма каму бедным тут вам памагаць,
Ад ветру трасецца старая хатка,
Ратунку для вас аднікуль ня відаць.

А там на дварэ мяцеліца вее,
Халодныя песьні заводзіць віхор,
Зоркі ня сьвецяць і сонца ня грэе,
Аж вылезьці страшна і глянуць на двор.

1906 г.

## ДОЛЯ ЎДАВЫ

Як гляну я, гляну ў сьвет зрэнкай хмурліваю,
Ў сьвет гэты напоўнен няпраўдай благой,—
Зьлятаюцца думы ў душу нешчасьлівую,
Ї вырвецца песьня, абліта сьлязой.

Напрасна на долю гляджу чалавечую,
Ня бачу шчасьлівых ў жыцьцёвым кругу,
А долю ўдавы ды і кожну кабечую
Найгоршай з найгоршых назваць я магу.

Ніхто за сіротку ўдаву не заступіцца,
Ад злосьці і крыўд не бароніць ніхто,
А крыўдзіць-жа сільныя слабых ня скупяцца,
Людзкому сумленьню і праўдзе на зло.

Расьце сярод поля сасонка высокая,
Ї віхры і хмары шалеюць над ей;
Жыве без апекі ўдава адзінокая,—
Як хвойка ад бураў, цярпіць ад людзей.

Ня знала яна з мужам шчасьця вялікага,
Ня раз аблівалася сэрца крывёй,
Цяпер-жа ад ворагаў пошасьці дзікае
Ня знае спакойнай часінкі адной.

Падобная ў полі нязжатаму коласу,
Змагацца прымушана з зьменным жыцьцём,
І скаргаў яе справядліваму голасу
Няма рэха чуткага ў сэрцы людзком.

Сваймі мазалямі—адвечна крывавымі—
Павінна на хлеба кусок зарабляць
І з крыўдамі, з зьдзекамі біцца няправымі,
Аб прышлых днях думаць, дзяцей гадаваць.

1906 г.

## ВАЯКІ

Зышліся два сьветы на сьцежцы адной
І аўдарылі ў спрэчку яны між сабой:

— Маё ўжо тут права!—сказаў малады.
Стары: не тваё, а маё—заўсяды!

Дагледзела трэцяе тут іх жыцьцё
І кажа:—Ня ваша, а ўсё тут маё!

Чацьверты ўсім вецер кіўнуў галавой...
Зышліся ваякі на сьцежцы адной.

22-IX—1911 г.

## ТКАНЬНЕ НАМЕТКІ

Угнявілі, знаці,
Бога грэшны людзі:
Засухай караці.
Як відаць, іх будзе.

Чатыры нядзелі,
Як дажджу ні капкі,—
Ўсходы пажаўцелі,
Вянуць кветкі, траўкі.

Зямелька сухая—
Нарога ня ўбіці,
Сонца ня кідае,
Як агнём, смаліці.

З чалавечых твараў
Пот цурком ліецца,
Здаецца—ўсё з жару,
Сьвет гарыць—здаецца.

Быці неўраджаю,
Быці галадусе,
Для цэлага краю
Цяжка быці мусіць.

Чым нібудзь, а трэба
Ублагаці бога,
Каб дожджыку з неба
Ён паслаў хоць троха:

Бярымось намётку
Ткаці гурмай, жыва,
Спагонім ахвотку
Над службай для ніваў!

Кабеты, дзяўчаты,
Борзьдзенька зьбірацца
Да аднае хаты,
Да супольнай працы!

Ты бяры, Маланка,
Мяліцу лён цёрці,
Трапло бяры, Ганка,
Кастрыцу абдзёрці!

Данілісе шчоткі
Лён часаць прынесьці,
Дзьвух дачок Дароткі
Мусяць прасьці сесьці.

Ды хай кожна зносіць
Што небудзь—сказаці!
Кросны мае Зося—
Там і будзем ткаці.

І вот усёй вёскай
Сабраліся ўрэшце.
Нуце, ласкай боскай
Сьвет, бабы, пацешце!

Дружна і ахвотна
Бяруцца за дзела:

Трэба, каб намётка
К вечару пасьпела.

Адна ломіць жмені,
Чысьціць іх другая,
Трэцьця трэпле ў сенях,
Кастру выбівае.

Увязваюць тыя
Да прасьніц кудзелі,
К гатовым другія
Прасьці жыва селі.

Вось трохі напралі, —
На маткі зьвіваюць,
Калкі паўбівалі,
Снаваць пачынаюць.

Спралі ўсё, што спрасьці
У дзянёк мелі гэты,
Сталі ў берда класьці
Аснову кабеты.

На навой праз берда
Аснову ўскруцілі,
А роўна і цьвёрда
У чыны зарадзілі.

Да нітоў прыгналі
Панажы два ў доле,
Цэвак насукалі
І ткаць сталі зволі.

Паволі — спачатку,
Хутчэй — што раз далей.
Вот і ўсё! У канчатку
Губку адаткалі.

Губку не малую:
Локці два бяз мала! —
Колькі на такую
Сьцяну пражы стала.

Памыць крыху ўрэшце —
Хай бялейшай стане,
Ды ў царкву занесьці
І ждаць зьмілаваньня.

1907 г.

## ЛЯСНАЯ ЦАРЭЎНА

Далёка — міль многа ад вёскі-сяла —
У лесе зялёным царэўна жыла, —
Царэўнай зялёнага лесу была, —
Жыла вечна ў ім, панавала над ім;
Твар мела сьвятлісты, як неба узор,
Карону насіла сатканую з зор,
З лісточкаў зялёных яе быў убор,
Павеўнай была, як імгла, як той дым.

Сама, як нягаданых казак напеў,
Век слухала лесу, што гімны ёй пеў,
З ёй цешыўся разам, з ёй разам цярпеў,
І вечар і раніцу з ёй спатыкаў.
Яна — як багіня (а лес той — як цар),
Купалася ў росах і ў каплінах хмар,
Праменьнямі сонца ўцірала свой твар,
А вецер ёй косы часаў, заплятаў.

За хмараю хмара, бег летаў і зім,
Агністыя зоры на небе нямым —
Яе цалавалі паглёдам сваім,
Яе, ненаглядную думку маю!
За песьняю песьня лунала над ёй
І казкі лунали таёмнай сям'ёй.
Царэўна мая ты, зялёны лес мой,
Я вашы і песьні і казкі пяю!

І ночкай і днём, перад сном, пасьля сна
Я тут каралеўна, — так пела яна, —
Я тут, як сіротка, паную адна,
Ня маю з кім баіць у гэтай глушы!
Галінкі лясныя, паслушныя мне,
То клоняцца ў дол, то шумяць ў вышыне,
Адно гаманяць аб зіме і вясьне,
А сэрца няма ў іх, няма ў іх душы.

Кароне маей ўсё чагось не стае...
Што значуць мне белыя грудзі мае,
Мой голас, што досьвітнай птушкай пяе,
Агністыя вочы і рукі, як хмель?
Грудзьмі прытуліцца ня маю к каму;
Хто чуе, як голасам долю кляну?
Хто бача, як відню вачамі я цьму?
З кім лягу, рукамі абняўшы, ў пасьцель?

А лес ёй шапоча лісткамі штодзень:
Царэўна мая ты, мой высьнены цень,
К каленям тваім, згнуты сам да калень,
Люблю і малюся, як бачу, табе!
Ці-ж мала адданы табе я ўвесь час? —
Сваіх не шкадую расквечаных крас,
Лісткамі ўбіраю ў квяцісты абраз,
Цалую, мілую ў пакорнай мальбе!

Ад вока благога цябе бараню,
Гадую сьпявачую птушак радню,
Шумлю аб табе на сьвет цэлы і сьню
Аб сонейку роўным тваім харастве;
Улетку ўбіраю ў расьцьветы галін,
Зімою — ў брылянты пушаных сьняжын,
Зімою і ўлетку я — верны твой сын, —
З табою, табою, царэўна, жыву!

Чаго-ж не стае табе ў гэтай глушы?
Ты жджэш чалавечага сэрца й душы.
Падумай, царэўна, і дум ня сушы,
Ты згінеш, як знойдзе цябе чалавек!
Я чую — ўжо гоман плыве з-за гары,
Ўжо точуць там людзі свае тапары;
Хто ведае, можа апошняй пары
З табой дажылі і загубім свой век?

Так пела царэўна, так лес адпяваў,
Ёй людзкіх хацелася ўцехаў, забаў,
Ён толькі яе знаў, яе мілаваў
І сеяў няверу ў яе да людзей.
О, лес мой зялёны, о, родны ты мой!
Лясную царэўну сваю супакой, —
Ўжо ёй ня мінуці дарожкі людзкой,
Ўжо прыдзецца збыцца кароны свае!
. . . . . . . . . . . . . .

1910 г.

## КНЯЗЬ

З-за далёкай стараны
Едзе, едзе князь, князь;
Конь пад князем буланы,
Капытамі бразь, бразь!

Зброя золатам гарыць,
Толькі ў сонцы зях, зях!
У руцэ меч князь дзяржыць,
Так і гэтак мах, мах!

Скача конь на паваду...
Ціха, косю, стой, стой!
Чэрпе дзеўчына ваду,—
Як зірнула: ой, ой!

— Пачакай, бо даганю,
Дзяўчынанька, гэй, гэй!
Дай вады майму каню,
А мне песьню сьпей, сьпей!

Князь і молад і прыгож,
Як у садзе мак, мак,
І дзяўчына—як цьвет рож,
Як лілея, так, так!

Піць дала каню з вядра,
Сьпела песьню там, там,
Князь горсьць кінуў серабра
паехаў сам, сам.

Узяўшы ведзеркі свае,
Дому дзеўка йдзе, йдзе,
І так жаласна пяе:
Доля, доля, дзе, дзе?!

1915 г.

## УРЫВАК З ПОЭМЫ

Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі,
З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў
Ні вокам людзкім ані мысьляй
Нязгадны цень ка мне зышоў.

І за руку маю узяўшы,
На высь узьвёўшы хат вышэй,
Сказаў: — глядзі — во ўсё тут наша, —
Глядзі, цярпі і разумей!

Ляглі нязгледжаныя далі
(Як сокал бачыць мог я ўсё),
Пустыні вецьвем замахалі,
Паляны множылі жыцьцё.

Між гор шапталіся крыніцы,
Ляпіўся мох да стрэх з драніц,
Тарчэлі хвойныя капліцы,
Цьвілі магілкі ля капліц.

Было знаць неякае сьвята
Няшлюбных з новізнай людзей, —
Шарсьцелі сьвітачныя шаты,
Лаза ўхмылялася з лапцей.

Гудзеў, каціўся звон вячовы,
Пужліва бор-лес падцінаў,
Ля цёмнай вецьвістай дубровы
Народ зьбіраўся і чакаў.

Адны ў руках трымалі дары
Сваім прыбліжаным багам,
Другія ўспаміналі чары,
Шоў гоман сьцішны сям і там.

Жалейкі, дуды красавалі—
Прылады свойскія музык,
Цапы і вілы ў высь сягалі,
Як быў абшар далёк, вялік.

Народ чагосьці зьнябываўся,
Гул недавольства плыў і плыў, —
Прызваньне чулася ня ў часе,
Нясьпелы колас рваўся з ніў.

Так хваляваўся гмін народны,
Пад высяй тэй, дзе я стаяў,
Дзень варажыўся быць лагодным,
Вей-вецер воблакі зганяў.

Чагось чакалі грамадзяне,
Ў вачох палаў надзеі жар,—
Пад сьмерць, здаецца, кожны стане,
Адвагай мятусіўся твар.

І вот у гэтую часіну
Да іх там дыбаў цудадзей,
Слуга пратайнасьці прадзіўнай,
Надчалавек, хоць і з людзей.

Яму слухмяны былі хмары,
Народу сказ даваў свайму:
Якія мільшыя ахвяры
Багам, панятлівым яму.

Зрабіць, раскідаць мог ён дзівы,
Накінуць чары сяк і так;
Быў гэта верны і праўдзівы
Паганскіх мольбішак стражак.

Як толькі стаў паміж народам,
Заціх вячовы пераклік,
І ўзьбегла песьня карагодам,
Ёй пакарыўся мал, вялік.

Здаецца, сонца яе чула
І просты зьвер, і ваўкалак,
Усіх, здаецца, ускалыхнула...
А песьня пела, пела так:



ПЕСЬНЯ-МАЛІТВА

О, богі рэк, лясоў і ніваў!
Дажбог, багамі сьвету дан,
Пярун блыскотны і грымлівы,
І ты, Купала, сьветыч тайн.

Зірнеце міласьцяй сваею,
Ўсе моцы вышлеце на бой,
Хай распапеляць зла навею
Над упадаўшай стараной.

Цярэбіць стальнаю сякерай
Прыблуднік нашыя лясы,
Ў свае цянёты вабіць зьвера,
Сьвятыя топча верасы.

Князі, накліканыя намі,
Разьлікі між сабой вядуць,
Лукі з атрутнымі страламі
Проць нас сьпяшацца нацягнуць.

Адлогам лягуць скора нівы,
Узьняты нашаю рукой,
Крыніц жывыя пералівы
Закалатушацца крывёй.

Адна на вас надзея, богі,
Нясём належную вам дань,
Зірнеце ў нашыя парогі,
Паўстанем — клікнеце: паўстань

——

Натхненна гэтак пеў, заводзіў
Рой чалавечы на свой лад, —
Рака шуміць так у разводзьдзе,
Так стогне ў буру сосен рад.

Замерла песьня. Грозна рэхі,
Пашлі па пушчах, па лясох,
Аж сьціхлі птушчыныя сьмехі,
Аж вецер сьцішыцца ня мог.

З пакорай зьвесіўшы галовы,
Стаіць народ, маўчыць народ:
Сказаць аўтарнік мусіць слова,
Ня дарма з неба вядзе род.

Тады ізноў пачуўся голас
Дажбога вернага слугі,—
Шуміць насьпелы гэтак колас,
Па ніве коцяцца кругі:

— Нам трэба к бою рыхтавацца,—
Ня сьпіць над намі вораг наш, —
Нам трэба сілаю трымацца
Сваіх сьвятынь, духоўных паш!

Вось я пастаўлены над вамі
Вышэйшай моцай небных сіл,
Старэйшы думкай і гадамі,
Зьмятаю ашуканства пыл.

Пара, пара ўжо агарнуцца
І гартам высталіць свой дух,
Пакуль здрадліва пранясуцца
Званы заломных злыбядух!

Сваей рукой я прызначаю
Дванаццаць выбраных між вас, —
Жалейку кожны атрымае
І перайме такі наказ:

З жалейкай кожны хай сваею
Не расстаецца на ўвесь век,
Заве і верай і надзеяй
Сьлязу і ўцеху з-пад павек.

Радзімым словам у цярпеньні
Зьвініць пагудкаю братом,

І з пакаленьня ў пакаленьне
Перадавае сваяком.

Дакуль свайго ня здрадзіць слова
Свая народная рука,
Датуль з галін сьвятой дубровы
Чужняк ня сьцягне і лістка.

Дык вось жалейкі вы бярэце,
У дванаццаць мейсц кладзеце сьлед;
Дванаццаць ветраў сустракнеце,
Дванаццаць выправіце ў сьвет!

Дзе толькі ступіце, зьнямее
Нямая чорная напасьць,
Ніхто чапіць вас не пасьмее,
Усякі вам дарогу дасьць.

Трутнёў ня будзеце забавай,
Краіны вольнае сыны,
Прамчыцца бурна ваша слава
На ўсе чатыры стараны.

А нашы хаты, нашы сёлы
Хай з думкай носяцца аднэй:
Як гэты вобшар невясёлы
Абхарашыці багацей.

Хай ставяць цьвёрдыя запоры
Перад навалаю чужой,
Глядзяць і моляцца на зоры
Усей раднёй, усей сям'ёй.

Цяпер прашу вас адабрацца
У вянок адборных галасоў:
Дзяўчат дванаццаць па дванаццаць
І столькі сама дзяцюкоў.

Агонь аўтарны разлажыце,
Ахвяру небу аддадзім,
Няпраўды толькі ня будзіце,—
Хай сьпіць пад полагам сваім.

І песьню сьпейце на прашчаньне,—
Мы, старцы, будзем слухаць вас,—
Дзядом хай нашым лёгка стане,
Што вера, песьня, госьце ў нас!

І стала так, як старац гэты
Сказаў пакорнай грамадзе,—
Аўтар заняўся перасьветам,
Ад песьні розгалас ідзе.

Але вось з захаду, з-за бору,
На від ня мал і не вялік,
У чужаземецкім уборы
Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.

З-пад сьвіткі чорнай даўгаполай
Бліщчэла бляха накасяк,
Пры боку меч матаўся голы,
На сьвітцы—нейкі страшны знак.

Народ зьдзівіўся, як загледзеў,
Заварушыўся, зашумеў:
Вы так ня рушыцесь, мядзьведзі,
Ты так ня страшны, сільны леў!

Аўтарнік тайную малітву
Паціху над людзьмі тварыў,—
Ён бачыў будучыя бітвы,
Ен новых ворагаў адкрыў.

— Скажы: скуль ты? якому сонцу
Твая паклон б‘е старана?—
Зьвярнуўся так да незнаёмца
Прыбочнік верны Пяруна.

Чаго прышоў, чаго ты хочаш,
Ад гэтых жыхароў пустынь?
Чым нашы душы замарочыш?
Пакінь ты лепей нас, пакінь!

З цябе нядобры вецер вее,
Па трупах ты, відаць, ішоў,
Скажы нам, хто цябе асьмеліў
Да нашых зблізыцца каўшоў?

— Чакай, чакай, так не разходзься!
Ня трэба слова мне твайго:
Я з далі дальняй к вам прыплеўся,—
Пасланец бога я свайго.

Я вам нясу другую веру,
Я вам нясу багоў другіх,—

Вам толькі адчыняці дзьверы
Ї гнаць багоў старых сваіх.

Хлеб свой ад'елі богі вашы,
Мой бог—зямлі ўсёй чыста бог!
Багоў я вашых ім адстрашу
Ї кіну вас да яго ног.

Так гаварыў прыблуднік ночы,
Народ і слухаў і маўчаў,
Але як скончыў, люд ня змоўчыў:
Разгаманіўся, закрычаў:

— Як сьмееш зьдзекавацца гэтак
Ад свайго бога-павука!
Цямрук ілжывы, прайдзісьвета,
Пасол ты ліса ці ваўка!

Прэч, прэч! З сваей сьвятой павагай
Прышоў нас толькі зьневажаць!
Заплаціш сьмерцю за зьнявагу,—
Багоў ня нашых табе гнаць!

Як шум асеньняга вятрыска,
Лунаўся розгалас сьляпы...
Тапор завостраны заблыскаў,
Грымнулі вілы і цапы.

Людзкое помсты дух узьняўся,
Ста віхраў сьвісты ніпачым,
Суд і расправа пачалася
Над тым прарокам прыблудным.

Крыві расіны заблішчэлі
На чорнай стоптанай зямлі;
Лёг незнаёмы на пасьцелі,
На тэй, дзе ўсе на той сьвет шлі.

Дубовай кованай лапатай
Глыбокі выкапалі дол,
Злажылі брата ці ня брата
Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.

Уняўся гоман надхаўтурны,
Запанавала цішына;
Паглёд паважны і нахмурны
На час адзела старана.
. . . . . . . . . . . . . . .

1910 г.

# УРЫВАК З ДРАМАТЫЧНАЙ ПОЭМЫ

*Дзея 1-я.*

Зьлева ўправа к ахвярнаму месцу ідуць варажбіты-вядуны і дзяўчаты, пасьвечаныя Пяруну. Затрымліваюцца пад сьвятым дубам.

ЗЬЯВА 1-я

Баймір (варажбіт)

Небу і грому,
Сонцу жывому,
Месяцу, зорам
Песьню мы творым,
Хай чуе нас мал і вялік!
Хай чуе Пярун-Грамавік!
Веру старую
Хай зачаруе
Наша закляцьце
Ў полі і ў хаце,
Каб зьменьнікаў цемрай зьмяло,
Каб ссохла няверы зяло!

Хор

Пярун, Пярун, тачы, вайстры
Ты войстра бліскі, стрэлы,
І здраду звуглі на кастры
На попел амярцьвелы!
Пярун, Пярун, Пярун!

Няўзіра (варажбітка)

Ясным дзяньніцам,
Цёмным начніцам,
Кветкам і смоўжам
Песьню мы зложым
Так зьмірна, так вабна, як сон
Мінуўшых і будучых дзён!
Скрэсім сьвятло мы,
Згонім заломы,
Кінем праявы
Шчасьця і славы,
Каб доля жыла з веку ў век,
Дзе ступе наш брат чалавек!

Хор

О, сонца, сонца! глянь з высот,—
Твае к табе йдуць людзі,—
Крый веру іх ад злосных псот,
Пасей ім жар у грудзі!
Пярун і сонца, мейце нас
У вечнай вашай ласцы,
Пакуль на сьвеце наш папас
І верым песьні, казцы!

Баймір

Хто мае слух, хай чуе той,
Хто мае вочы, хай глядзіць,
Хто веры ня згубіў сьвятой,
Няхай ня важыцца згубіць!

Ад колькі пор я маю весьць,
Благую весьць—пасьведчу вам—
Бог нейкі новы хоча ўзьлезьць
Да нас на зьдзек старым багам.

З поўдня і з захаду, як збой,
Брыдзе і сьлед крывёй сьлядзіць...

Хор

Хто мае слух, хай чуе той,
Хто мае вочы, хай глядзіць!

Баймір

Ва ўсе бакі сваіх шле слуг,
А тыя скрозь нясуць пажар,
Багоў старых мятуць, як мух,
І ўзносяць новаму аўтар.

Ужо адзін такі пасол
Забрыў і ў нашу сьцішну глуш,—
Блукае між сяліб і сёл
І зводзе слабых, кволых душ,

Ужо ў адзін род гэты вой
Патрапіў здраду засадзіць...

Хор

Хто мае слух, хай чуе той,
Хто мае вочы, хай глядзіць!

Баймір

Штось хоча нам сказаць Няўзіра...
Кажы, пакуль пачнём мальбу!

Хор

Кажы, кажы! мы просім шчыра!
Суседзкай просьбай не ганьбуй.

Няўзіра

Ёсьць сьвітаньне, ёсьць зьмярканьне,
Па зьмярканьні—зноў сьвітаньне.
Зорка згасьне—дзьве ускрэсьне,
Згубіш песьню—знойдзеш песьню.
Крэпкі стрэлы пяруновы,
Каб скрышыў іх бог той новы.
А хоць прыдзе, хоць засядзе,—
Наш Пярун з ім на пасадзе
Красаваца векі будзе,
Векі будуць верыць людзі.
Толькі ты, вядун прарочы,
Штось ад нашых крыеш вочаў,
Праўдзе ў вочы глянуць трусіш,
Хоць сказаць павінен, мусіш!
Дык кажы нам, чараўладзе,
Што хаваеш у паглядзе?

Хор

Дык кажы нам, чараўладзе,
Што хаваеш у паглядзе?

Баймір

На небе зоры—многа зор,
На землях горы—многа гор,
На сэрцы раны—многа ран...
Каму закон лічыць іх дан?!

Няўзіра хоча аж да дна
Ў жыцьця заглянуці дзярно...
Няхай-жа кажа ўсё спрытна,
Яна ўсё ведае даўно!

Ня крыю праўды я сьвятой,
Крывой пуцёй ня ўмеў хадзіць...

Хор

Хто мае слух—хай чуе той,
Хто мае вочы—хай глядзіць!

Няўзіра

Мы йшлі, ідзем з табой, Баймір,
На службу сонцу й Пяруну;
Ці то на месяц, ці на вір—
Малітву творым мы адну.

Мы чулі, чуем твой наказ,
Ты павадыр наш і прарок!
Паслухай-жа цяпер і нас,—
Няўзіра кажа не ў нарок.

Я знаю,—знаюць гэта ўсе,—
Ў цябе ёсьць гожая дачка,
Яна як мак цьвіце ў красе,
Сваты плывуць к ёй, як рака.

Яна ўсім дзякуе за чэсьць
І адпускае ўсіх з нічым,
А ходзяць чуткі, ходзіць весьць
Аб ёй і родзічу адным.

Дзяцюк завецца Зямігуд—
Лагойдаў роду і плямя,
А як ідзе слух там і тут—
Лагойдаў здрадная сям'я.

Вястун, што нашых хат, палёў
Дасьціг і павуцьцё пусьціў,—
Ён Зямігуда з поля зьвёў
І новым богам аплуціў.

Буслай—так клічуць збоя ўсюдых,
Твой род, Баймір, ён хітра губіць...
Лунянка любіць Зямігуда,
А Зямігуд Лунянку любіць!

Хор

Лунянка любіць Зямігуда,
А Зямігуд Лунянку любіць.

Няўзіра

Сягоньня будзе ён з сватамі,—
Багатых дараў прынясе,—

За ім другі з сваймі сябрамі
Прыбудзе дань аддаць красе.

Ты выбар будзеш мець тугі
Між двух мужоў Лунянкі мілай...
Вайдан завецца той другі,
А род вядзе свой ад Гасьцілаў.

Ён служыць Пяруну душой,
Ён продкаў веры не зганьбіць.

Хор

Хто мае слух, хай чуе той,
Хто мае вочы, хай глядзіць.

Баймір

Браты і сёстры, клічу вас
На сьведкі сьведчыць гэты раз;
Няўзіра праўду кажа тут.
Двух іх—Вайдан і Зямігуд
Маей Лунянцы зложаць дар
Багатых скрынь і сэрцаў жар.
Чый будзе верх, хто будзе зяць—
Яшчэ ня час гадаць, казаць!
Магутна сіла Пярунова,
Яна тут скажа сваё слова.
Яшчэ да вечара далёка,
Яшчэ ня дрэме сонца вока.
Разьвесім думак чорных хмару,
Пайдзем чыніць багам ахвяру.
За мной кажэце загавор—
Заклён, праклён на чорны бор,
На блудны яр, на скрутны вір,
Увысь і ўнізь, удоўж і ўшыр!

Хор

З палёў, з лясоў, з далін і гор,
У косах сонц, у кветках зор,
У горкі сум, у шчыры сьмех
Ідзем, брыдзем шукаць пацех.
Ад нашых хат, ад нашых гумн,
Ідзем, брыдзем к табе, Пярун,
Пастыр адвечны грозных хмар,
Маланак, грому уладар!
Ідзем, брыдзем к табе, Пярун!

ЗЬЯВА 2-я

Лунянка—дружынкі.

Лунянка

Кветкі нясу я.
Кветкі багам,
Хай-жа красуе
Гэта ахвяра!

Сэрцу—каханьне,
Сьлёзы—вачам,
Аж да скананьня
Ходзяць у пары.

Там на магіле,
Там на кургане
Кветкі расьцілі
Сьмерць і каханьне.

Лепшага дару
Ў сьвеце ня будзе
Богу ў ахвяру,
Што носяць людзі.

Хор

Белая ў возеры лебядзь,
Белая ў рэчцы лілея,—
Наша Лунянка бялейша,
Сьнежнаю беляй бялее.

Ясныя зоркі на небе,
Ясна ў крыніцы вадзіца,—
Вочы ў Лунянкі ясьнейшы,
Сонца ў вачох ёй глядзіцца.

Звонка кукуе зязюля,
Звонка зьвініць салавейка,—
Голас Лунянкі званчэйшы,
Голас Лунянкі—жалейка.

Многа цьвяточкаў у цьвецень,
Многа цьвяткоў ў сенажаці,—
Гэтакі цьвет, як Лунянка,
Толькі на небе шукаці!

Месяц да любай заранкі
Ходзіць ноч кожну у сваты;

Едуць у сваты к Лунянцы
Два дзяцюкі-арляняты.

Кожны багатыя скарбы—
Сэрца і золата груду —
Зложыць Лунянцы пад ножкі
Ды будзе ждаці прысуду.

Ой, ды хто будзе шчасьлівы,
Каму Лунянка захоча
Сонечны косы расплесьці,
Даці вяночак ахвоча?!

Лунянка

Дзевачкі, сястрыцы,
Кветачкі, зязюлі,
Што вы, красавіцы,
Гэтак наманулі?

Чым ваша Лунянка
Заслужыла гэта?
Кожна з вас — заранка,
Кожна — кветка ў лета.

Не кажыце болей
Мне такіх пахвалаў,
А то ўцяку ў поле,
Васількі дзе рвала.

Хор

Ня будзеш уцякаці,
Лунячачка, ад нас!
Мы ў полі, мы і ў хаце
Знайдзем у кожны час.

Чакай, глядзі: з-пад дуба...
Каб ня было бяды!
Паходкаю нялюбай
Няўзіра йдзе сюды.

Ідзе сюды Няўзіра,
Ня любім мы яе,
Глядзіць яна няшчыра,
Няшчыра і пяе.

Нядобрае штось носіць
У думках, у душы,

Бог сэрца ёй за штосьці
На камень засушыў.

Ня вер ты ёй, Лунянка,
Здалёк яе абходзь!
Благі йдзе чар з паганкай
Нясе благую зводзь.

Лунянка

Лісьць шырокі на каліне,
А шырэйшы — на дубочку;
Адзінокі на галіне
Кліча голуб галубочку.

А над імі паверх поля
Ястраб лётае ў загоне;
Галубкоў пільнуе доля
І ад крыўды убароне.

Ідзіце, сястрыцы,
Ідзіце, ня жджыце,
Багам памаліцца,
Ахвяры злажыці.

Ня бойцесь, нічога
Благога ня будзе!
Ня скрыўджусь ад бога,
Ня скрыўдзяць і людзі.

Хор

Сьцеражыся, Лунянка,
Сьцеражыся Няўзіры!
Дружба з ёй ня гулянка,
Чорны бяг яе вырыў.

Сьцеражыся, Лунянка!
Ждуць цябе шуры-буры.
Будзе ведзьмам гулянка,
Будуць гулі, віхуры!

Сьцеражыся, Лунянка!
Дзіў па полі хіхоча,
Патароча-звадзянка
Зазірае ў вочы!

Лунянка (адна)

Ці то ява, ці мо‘ сон
Апялі з усіх старон?
Дзе ні стану, дзе ні гляну,—
Поўны думкі дурнап‘яну.
Сэрца б‘ецца ад трывогі,
І няма ніякай змогі
Ўзаяваць сама з сабой,
Са сваёй нудой, жальбой!
Скуль такія зморы, чары
Абступілі хмарнай хмарай?
Муцяць, мучаць бяз упыну,
Хоць валіся ў дамавіну!
Гэта, кажуць, любата
Мучыць сэрца ня спуста.
Ой, чарнявы Зямігудзе,
Што-та будзе, што-та будзе?
Не на шчасьце ўсё варожа,
Хіба ты паможаш, божа!..
. . . . . . . .

1910 г.

## ДАПЕВАК*)

Скажаш напэўна, добры чытальніку:
Смутная песьня твая, брат пясьняр!
Ці ты ня мог-бы, рыфмаў складальніку,
З дум сваіх лепшы зрабіць для нас дар?

Каб замест сьнегаў над нашай нівою
Бачылі мы ўсе прыгожасьць вясны,
Ганну — ня ў гурбах, Ганну — шчасьлівую.
Каб замест сьлёзаў — вясёлыя сны.

Так скажаш, дружа, праўду во гэткую
На гора поўную песьню маю,
Я-ж, тваю долю бяручы сьведкаю,
Смутную думку пацьверджу сваю.

Дайце мне лета, каб зямлёй роднаю
Бура ня трэсла, ня біла людзей,
Дайце мне хатку, хатку прыгодную,
Вечная радасьць жыла каб у ей!

*) Да поэмы „Зімою“, надрукаванай у V-ым томе „Збор твораў“. *Я. К.*

Сьцеліцца ноч тут ценьмі магільнымі,
Гіне з няшчасьця малы і стары,
Слабыя гінуць, крыўджаны сільнымі,
Стогнуць, гарують з зары да зары.

Путы няволі, кары зьвярыныя
Хто ня жыў толькі — іх не цярпеў,
Над чалавекам, як над скацінаю,
Ніхто спагадкі ня мае й ня меў.

Ніхто ня бача, з горам век злучаны,
Свайго цярпеньня, бяды, цемнаты,
А калі плача надта ўжо змучаны,
Меў-жа, чытач мой, жаласьць над тым?!.

1906 г.

* * *

*(З расійскага — Някрасава)*

Што ні год, памяншаюцца сілы,
Стыне кроў, сьняцца думы чарней.
Зямля-маці! няўжо-ж да магілы
Я ня ўбачу свабоды тваей?

А хацеў-бы, ўміраючы, ведаць,
Што ня згінеш у бітвах зусім,
Што араты твой, сеўшы абедаць,
Не застогне над горам сваім.

Каб мне вецер ад вёскі убогай
Адно рэха да слуху данёс,
У якім ня гудзела-б трывога,
Не дачуў крыві людзкай і сьлёз!

18-IV—1906 г.

## ГАЛАДОЎЛІЦА

*(З расійскага—Някрасава)*

Стаіць мужык—
Ківаецца,
Ідзе мужык—
Хістаецца.

Жыцьцё яму
Дакучыла,
Бяда яго
Замучыла.

Глядзіць вачмі
Сьлязьлівымі,
Сапе грудзьмі
Ўдушлівымі.

Ідзе, як цень,
Ідзе і сьпіць,
Прышоў, дзе шнур
З жытцом стаіць.

І скалай стаў,
Дзе шнур чарнеў,
І хрыпла так
Завыў, запеў:

Пасьпей бардзей,
Жытца зярно,
Я жду цябе
Даўно, даўно!

Хоць-бы з гару
Акраец зьем
Дый праснакоў
Адразу з сем.

Усё адзін,
Усё зьем сам,—
Прасі хоць сын,
Хоць хто—ня дам!

22-VII—1905 г.

## СОЛЕНАЯ

*(З расійскага—Някрасава)*

Малы сынок
Ня ёсьць, ня п'е;
О, божа мой,
Глядзі, памрэ!

Дала яму
Кусочкаў з пяць,—

Ня есьць, крычыць,
Каб солі даць.

А солі тэй
Няма ані,
Пасып мукой,—
Так бог шапні.

Раз-два куснуў,
Скрывіў раток;
Яшчэ салі!—
Крычыць сынок.

Я зноў мукой,
А на кусок
Сьляза ракой...
Паеў сынок.

Так часта лгаць
Сынку магла:
Салонай, знаць,
Сьляза была.

1905 г.

* * *

*(З украінскага—Т. Шаўчэнкі)*

Пажоўкнуў ліст... Прыгасьлі вочы,
Заснулі думы, сэрца сьпіць,
І ўсё заснула, і ня знаю
Ці я жыву, ці дажываю,
Ці так па сьвеце валачуся,
Бо ўжо ня плачу, не сьмяюся...

Дзе ты, доля? дзе ты, доля?
Няма ніякой!
Калі добрай шкода, божа,
То дай хоць благой!

Ня дай спаць ты хадзячаму,
Сэрцам абміраццa,
І гнілою калодаю
Па сьвеце валяцца.

А дай жыць душою, сэрцам,
І цябе хваліць,
І твой сьвет нярукатворны
І людзей любіць...

Страх упасьці ў кайданы,
Мерці ў няволі,
А яшчэ горш спаць бяздушна,
Ой, спаці на волі!

Каб заснуўшы на век векаў,
І сьледу ня кінуў
Ніякага і такога:
Ці жыў, ці загінуў.

Дзе ты, доля? дзе ты, доля?
Няма ніякой!
Калі добрай шкода, божа,
То дай хоць благой!

1906 г.

## ПЕСЬНЯРУ

*(З украінскага—Грыцько Чупрынка)*

Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр!
Дай волю парывам гарачым,
Вясёлым, прывабным, як сонейка жар,
Каб бліснула яснасьць і сьпячым!

Каб бліснулі іскры ў прытухшых вачох
І вечнай свабоды раздольле,
Каб кожны пачуў сваю сілу ў плячох,
Каб кожны забыў аб нядолі!

Каб хлынула полымя праўды з грудзей,
Што ў думках здаўна мы гадуем:
Старым і малым такой песьняй запей, —
Хоць раз хай аб шчасьці пачуем!

1908 г.

* * *

*(З украінскага—Грыцько Чупрынка)*

Не каханак чорнавокіх,
Што скрозь сеюць дзіўны чар,—
Я—пясьняр стапоў шырокіх
Краю вольнага пясьняр!

Той, хто волю занядбае,
Хоць у золаце хай сьпіць,
Хоць царэўну хай кахае,—
А ня будзе ў шчасьці жыць.
Хто забудзе край свой родны,
Аб такім так і пішы:
Ён, як дрэва, корч нягодны—
Ні ў ім сэрца, ні душы.
Чым краем не шамоча
Ні няволя, ні бяда,
Хай жыве, як сабе хоча,—
Хоць як труцень, як нуда.
Хто-ж маўчыць, чый край бяз волі
Стогне ў горы сіратой,—
Той благое зельле ў полі,
Між людзьмі скаціна той!

1908 г.



## ВЫБАР

(Урывак)

*(З „Конрада Валенрода“ А. Міцкевіча)*

З Мальборскай вежы званы загудзелі,
Бубны, гарматы ў тахт загрымелі:
Ў Крыжацкім брацтве дзень важны сягоньня;
Зусюль камтуры ў сталіцу сьпяшацца,
Дзе, ў капітульным засеўшы законе
І ўзваўшы духа сьвятога навукі,
Ўраюць, каму крыж вялікі аддасца,
І меч вялікі ў чые зложуць рукі.
Дзень і другі дзень нарада сплывае—
Шмат мужоў першым быць робіць заходу:
А кожны з іх роўна высокага роду,
Кожны заслугі высокія мае;
Толькі адна ўсё-ж між брацьцяю ўгода:
За ўсіх стаўляе вышэй Вальленрода.

Хоць сам ня з прусаў, хоць ён чужаніца,—
Славай напоўніў сваей заграніцу:
Ці вёў па горах за маўрам ганітву,
Ці біўся з туркам на водным прасторы,—
Першы на сушы і моры у бітвах.
Першы у крэпасьці ломіць запоры.
Дзе-ж сілай можна ў гульні паказацца,

Няхай ён толькі надлобнік падыме,—
Ніхто ня важыцца з ім мацавацца,
Яму пяршынства даецца ўсімі.

Ня толькі ў бітвах крыжацкія роты
Праславіў лет маладых сваіх славай:
Красюць яго хрысьціянскія цноты—
Ціхасьць, пакора, ўніканьне забаваў.

Конрад ня слынуў у хорамным блыску
З гутаркі гладкай, лісьлівых паклонаў,
А так-жа меча для подлага зыску
Не запрадаў ён за ласкі баронаў;
Век малады пасьвяціў манастыру,
За німашто меў чыны і пачоты.
Ня гнаўся нават за ўцехаю шчырай:
Мінстрэляў гымны, дзявочы залёты
Не весялілі сьцюдзёнага духу,—
Ён мімаходам пахвал усіх слухаў,
Здаля ад пекных паненак трымаўся
І з імі гутаркі як-бы стыдаўся.

Ці ён нячулым такім урадзіўся,
Ці век зьмяніў так—бо хоць яшчэ молад,
А ўжо сівы быў, з вачэй веяў холад,
І цень цярпеньня па твары ўсім віўся—
Трудна згадаці? Ну, часам бывала,
І ён дзяліў з маладзежай бяседу,
Нават дзяўчат ня чураўся німала,
Спрыт меў за кпінкі адцяцца суседу,
І складна, з важнасьцяй сыпаў няўзнакі
Пахлебствы паням, як дзецям забаўкі.
Але хвіль гэткіх бывала ня многа,
І чуць хай толькі слаўцо не такое—
Хоць для другіх і ня значна нічога—
Яму знаць многа хадзіла аб тое:
Памяць к айчызьне... кахана дзяўчынка...
Путы, вайна, аб Літве ўспамінка,
А ўжо Конрад паглядае іначай:
Перастае быць вясёлым, забаўным,
Зноў, як нічога ня чуе, ня бача,
І аддаецца сваім думам тайным...
Мусіць як стан свой законны успомніць,
Сам сабе ўцехі земскай бароніць.

1908 г.

## МУЖЫК І ВУЖАКА

*(З польскага—А. Міцкевіча)*

Раз неяк зімовай парой
Мужык сеч бярвеньне пашоў,
І ў лесе пад елкай гнілой
Вужаку чуць з духам знашоў.

Ён з добрага сэрца ў мароз,
Як толькі вужаку наўрэў,
Узяў і да хаты прынёс,
На печы ў цяпле адагрэў.

Адхухала гадзіну печ,
Кусацца паўзе к мужыку,
Але той давай яе сеч,
Ўзяўшы тапор у руку.

На сьмерць ён гадзюку засек,
Шпурнуў, дзе больш сьнегу мяло,
І згінула ў сьнегу навек,
Навек за няўдзячнасьць і зло.

---

Навуку тут маем у том,
Ёсьць прыклад такі для людзей:
Што хто за дабро плаціць злом,—
Як гадзіна, сам прападзе.

23-VII—1905 г.

## НЯДЗЕЛЯ

*(З польскага—Л. Кандратовіча)*

Маеце з нядзелі
Песьні тут чатыры
Часам сьніць ня сьмеліў,—
Што ліецца з ліры.

Як грымне нудою,
Уцякаў-бы недзе!—
Пісьне, як пілою,
Сэрца пераедзе.

Ліра адпявае:
Дзе-ж душу схаваці?
Аб чым доля грае,—
Мушу падцінаці.

## I. РАНІЦА

На поўнае гора
Людзкое прысельле
Спусьцілася з гораў
Сьвятая нядзеля:

З-за хмар плыве сонца,
Шуміць ніваў колас—
Па ціхай старонцы
Разносіцца голас.

Далінам, дзе кветкі,
Іграе, вяселіць...
Гэй, цешцеся, дзеткі:
Сягоньня нядзеля!

*

Расіста травінка
Чакае на стада,
Рыкае скацінка,
Насыціцца рада.

Вялік луг—ні слова!—
Траву з мохам родзіць;
Труба пастырова
На чым сьвет заводзіць.

За вёскай пад грушкай
Відаць крыж між зельля,
На ім пяе птушка:
Сягоньня нядзеля!

*

Пры Янкавай хаце
Скрыпнулі калёсы,
Дзяцей крык чуваці,
Ён сам снуе босы.

Адпёр свой сьвіронак,
І на торг з усімі,
Што меў застаронак,
У мех усё вымеў.

Час блізкіх дажынак
Яго так асьмеліў
Сабрацца на рынак
Вось гэтай нядзеляй.

*

Жыцьцё ў гаспадарцы,—
Гняце во патрэба—
Ня кінуў і гарца
На лусьціну хлеба.

Няма ў жонкі солі,
Чытаць хочуць дзеці,
Яму-ж трэба болей—
На ўсё трэба меці.

Гасьцінцамі з крамы
Усіх ён надзеліць...
Эх, дзеці, бог з вамі!—
Сягоньня нядзеля!

*

Сеў, выехаў Янка,
Махаючы пугай,
Ад самага ганку
Бяжыць дзятва кругам.

Вот зьехаў між гоняў
Абсеяных ніваў,
Дзятва ўсьлед гамоніць:
Едзь, бацька, шчасьліва!—

Трушком чапурыцца
Кабылка да цэлі,
Ёй таксама сьніцца
Сягоньня нядзеля.

*

Як скінуці вокам,
Знаць сьвята ў сьвятліцах,—
Звон гулам далёкім
Нясецца з бажніцаў.

Як звон грыміць сьвету
Нудлівым выразам,—
Сава ў хвілю гэту
Заводзіць з ім разам.

Хто ёй пазваляе
Так выць над прысельлем?
Вясёлка гуляе.
Сягоньня нядзеля.

## II. ЗВАРОТ ЯНКІ З КІРМАШУ

Я сягоньня падпілы:
Адна чарка для сілы,
З рукі свата другая—
Ці-ж ня ўзяць выпадае?
Пашло далей ня жартам:
Ня было ліку квартам,—
Аж сьвет замарачыла!
Гэй, імчыся, кабыла!

На бок, пан, бо я п'яны!
Табе стыд даматканай
Сьвіткі беднага хама...
Эй, няма на ёй плямаў!
Во, ў сваёй ты саеце,
Глядзі, каб на тым сьвеце
Пекла брам не адкрыла.
Гэй, імчыся, кабыла!

Тыц, карчма пры дарозе,—
Ці-ж уседзіш на возе?
Пыкнуць люльку ўбягаю,
Жару ў копцы шукаю.
А чорт вабіць з-за печы:
Запі жаль, чалавеча!
Зьвяла чортава сіла...
Гэй, імчыся, кабыла!

Крычы, лайся, Марыся,
Есьць бяз солі бярыся,
Ўтаргаваў небагата
А соль дарага надта.
Выяжджаў, думаў гэтак
Купіць кніжку для дзетак...
Бяды кніжка ня змыла.
Гэй, імчыся, кабыла!

Грыміць. Блыснула ў далі,—
Пярун хвойку, знаць, паліць;
Чаму-ж карчмаў ня ўмора.
З якіх грэх наш і гора?
Эх, бо іх напладзілі
Чуць не дзесяць на мілі!
Кроў іх наша ўзрасьціла.
Гэй, імчыся, кабыла!

Вот і вёска, знаць—наша,—
Рве кабыла за пашай,
Падцяла мне снасьціну,
Глядзь, і ў роў нейкі рынуў,—
Ня ўстаць за цемнатою,
А чорт стаў нада мною,
Зубы шчэрыць няміла,
Адна ймчыцца кабыла.

III. НАРАКАНЬНЕ ШЫНКАРА

Янка сьпіўся, як Бэля,
Сьпіць, як мёртвы, і годзе!
Праўда, часам нядзеляй
Чарку выпіць ня шкодзіць.
Ты будзь весел часінку,
Грош прыбудзе мне ў хаце...
А ты-ж сьпіўся на рынку,
Мне не даў таргаваці,—

Ты мне ўкраў, як з кішэні.
Гвалт, ратуйце, згубленьне!

Ці-ж ня злодзей—скажэце?
Як, з чаго пражыву я?
За шынк трэба-ж, вашэці,
Плату выбраць такую:
Рублёў дзьвесьце гатоўкі,
На якіх пяць „прыпеўкаў“,
Расход хатні—кароўкі,
Жонка, дзеці і дзеўка...

Ці-ж прадам я сумленьне?
Гвалт, ратуйце, згубленьне!

Чым і як прахаваю
Коні, козы, авечкі?—
Кантракт сьпісаны-ж маю
Ясьней полымя сьвечкі,
І ён піша бяз зносак,
Вузлавата, каротка:
„Мужыкі з маіх вёсак
Усе ўп‘юцца тут водкай“.

Янка-ж п‘ян, вып‘е меней.
Гвалт, ратуйце, згубленьне!

Піша далей так строга:
„Хай усе знаюць хаты,
Ня мінуўшы нікога—
Бабы, хлопцы, дзяўчаты—
Піць гарэлку крый, божа,
У чужой дзе карчомцы,—
Хай п'е кожны, хто можа,
У сваёй толькі вёсцы,

Бо плаціць будзе пені...
Гвалт, ратуйце, згубленьне!

Чытай, што піша гэта!
Ці-ж мужык прачытае?
Хоць далёка йшчэ лета,
На торг рэшткі зьбірае;
Аўса, жыта па чвэрці—
Злотык з дваццa мо' варта...
Мог ты піць да паўсьмерці,—
Што-ж якая там кварта!

Шынкар торб не надзене,
Хоць тут гвалты, згубленьне.

Ну, вось рэшты, мой браце,
Я табе не дарую,—
Памагу з рову ўстаці
І ў карчомку скірую.
Гэй, устань! да кішэнькі
Глянуць дай, мой харошы!
Што, лайдак? ні капейкі?
Нехта выцягнуў грошы!

Я-ж к ім меў так хаценьне.
Гвалт, ратуйце, згубленьне!

Што-ж рабіць? ну, прыгода!
От, зьмірым гэту справу;
Мне цябе ўжо і шкода,—
Хадзі, дам на заставу.
Янка, Янка, ты слабы!
Выпі з кварту і квіта;
Не сьпяшыся да бабы—
Яна дужа сярдзіта.

А ты выйдзеш з цярпеньня—
Будуць гвалты, згубленьне.

## IV. ВЕЧАР

Папіўшы расінкі,
Кветкі прыснулі,—
Вясёлай дзянінкі
Кончацца гулі.

Пакуль апыніцца
За лесам сонца,
Як золатам льсьніцца
Дзіўна ў ваконцах.

Агонь блыснуў з хатак,
Ўсплыў дым кудзеляй...
Такі во канчатак
Нашай нядзелі.

*

Жывёла пужліва
З поля пляцецца,
Пастыр жаласьліва
Дзьме на жалейцы.

Канькоў у пракосе
Чутна пагудка,
Кабета галосе
Пад крыжам жудка.

На жаль не папрасны
Людзі глядзелі;
Балесны няшчаснай
Вечар нядзелі.

*

А ўцеха ня сходзіць,
Граюць на скрыпцы;
Па некім заводзяць
Звон у капліцы.

Сягоньня—мне можа,
Заўтра—табе мо'...
Гуляў ты, нябожа,
З раньня з усема,—

Пад вечар-жа людзі
„Вечны“ запелі.
Згадай, хто жыць будзе
Ў тую нядзелю?..

1906 г.

## ЖАЛЬБА ДЗЯЎЧЫНЫ

*(З польскага—Яскулкі)*

Эй, ты, доля залатая,
Дзе ты запрапала?
Без цябе-ж во сірата я
На век векаў стала.

Над маёю ты калыскай
Зорачкай ясьнела,—
Як-бы раю была блізкай—
Шчасьце я так мела.

Запаліла ты мне сонца
Над маей галоўкай
Як пачула я бясконца
Мілоснае слоўка.

Ўсё тады а навакола
Мне здалося граньнем,
Бо было мне так вясёла
З тым маім каханьнем!

Мела шытую з аблочкаў
Сукню і хвальбону
І зьвітую з васілёчкаў
Княжнаву карону.

Свае слала нада мною
Вясёлка дарогі,
Зямля кветкамі, расою
Клалася пад ногі.

Ой, ты, доля мая міла,
Твая тут прычына,
Што мне шчасьцем уквяціла
Сьцежачкі пуціны!

Бо аб гэткім шчасьці самі
Ня сьнілі народы
І ня выкажаш славамі,
Хіба песьняй, одай...

. . . . . . . . . . .

Ой ты, доля залатая,
Дзе ты запрапала?
Без цябе-ж во сірата я
Па век векаў стала.

1905 г.

## ПРОЛЕТАРСКАЯ КАЛЫХАНКА

*(З расійскага)*

Сьпі, дзіцё! У змроку ночы
Дай і мне паспаці.
Бацька твой чарнарабочы,
Парабчанка маці.

Шмат цярпелі гора, бедаў
Мы ў сваім жыцьці.
Сьпі, дзіцё, бяды ня ведай!
Люлі, люлі, сьпі!

*

Цяжка жыць было народу,
Путы, зьдзек вакол,
І змагацца за свабоду
Бацька твой пашоў,

Каб у бойцы няспынянай
Ўладу здабылі
І рабочы і сялянін.
Люлі, люлі, сьпі!

*

Бітвы будуць мо йсьці годы,
Каб пазбыцца пут,
Але будзе мець свабоду
Ўвесь працоўны люд.

Прамінуцца ўсе нягоды
У людзкім жыцьці,
Будзе воля ўсім народам.
Люлі, люлі, сьпі.

1929 г.

# ВЯСНА 1930 ГОДУ

*(Фрагмэнты)*

**Міхась Зарэцкі**

I

## У нашым жыце залом

Гэта было даўно-даўно, як у казцы. Маладая дзяўчынка, дзяўчынка Алеся прыбегла з поля—яна хвалявалася, і сінія вочкі яе пырхалі трапятлівымі васількамі на зьбялелым твары.

— Татачка! У нашым жыце залом...

На самотнай палосцы, панікшы, як сьцятая каласіна, плакала маці.

— А каму-ж мы ліха зрабілі? А хто-ж на нас сэрца замеў, на няшчасных...

Жыта было чэзлае, хударлявае, як той паганы сівец. Сухавейны вецер бязуважна церабіў яго, і яно нястройна гойдалася—млявае, недалужнае. Над жытам застыла бяздонным рыданьнем цягучая песьня жніва.

Пахла далёкай тленьню і блізкай сьмерцю.

Над заломам плакала маці і плакала маладая дзяўчынка, дзяўчынка Алеся.

— Усё загінула... Усё...

„Ўсё“ для яе: ружовая хустачка, ружовы грабенчык, ружовае сонца на позным захадзе, ружовыя песьні.

А яшчэ: ружовы няясны смутак—трывожнае прадчуваньне дзявочага сэрца.

— Усё загінула... Усё...

Над заломам хадзіў карабаты страшны чараўнік. Дзяўчынка глядзела на яго, як на бога, з надзеяй і страхам. Чараўнік сумніўна ківаў галавой і дзяўчынка памыкалась да яго, гатовая кінуцца ў ногі яму, цалаваць яго брыдкія валасатыя рукі і прасіць, і маліць:

— Ратуй нас, дзядзечка! Ратуй маю ружовую хустачку і ружовы грабенчык!

Чараўнік сумніўна ківаў галавой.

Плакала маці, плакала маладая дзяўчынка, дзяўчынка Алеся.

Над жытам застыла бяздонным рыданьнем цягучая песьня жніва.

А жыта было чэзлае, хударлявае, як той паганы сівец...

2

## Зямля гарыць родавым палам

Вясна ў 1930 годзе занялася рана і дружна. У сярэдзіне красавіка рабілі свой першы аблёт працавітыя пчолы—абсыпаныя жоўтым пухам вербы зьвінелі напружаным звонам і стаялі ў пышнай нярухомасьці, прасякнутыя радасьцю красаваньня.

У калгасным хляве роўна роў завадзкі бугай, заклікаючы да сябе сваю невядомую дружыну.

На балоце захлыналіся юрлівым клёкатам жабы, а казалі нават быццам у суседнім бары ўжо кукавала зязюля.

Угрэтая шчырай ласкай вясновага сонца ляжала ў магутнай млосьці зямля, пыхала глыбокім жарам свайго многаплоднага ўлоньня. У далях курылася сінявая смага—сонная павалока на вачох разамлелай зямлі.

Сонца горача песьціла пышнае цела зямлі, ласкатала яго тонкімі цурочкамі жаўранкавых сьпеваў.

Зямля гарэла родавым палам, зямля ў магутнай млосьці чакала свайго запладненьня.

3

## Справа атрыманых папер

Вось ляжыць перада мной у пакомчанай шэрай вокладцы жывая гісторыя некалькіх соцень людзей—частка бурнай гісторыі цэлага краю, частка сусьветнай гісторыі.

Я ўзяў у рукі яе без асаблівай ахвоты (канцыляршчына, бюракратызм), бязуважна перагарнуў колькі шэрых няпісьменных старонак, адылі ўчытаўся, зацікавіўся, захапіўся і ня мог адарвацца аж да апошняга аркушу.

Я даў веры, што і праца падшывальшчыка атрыманых папер часам можа мець гістарычную значнасьць.

Гэта—гісторыя аднаго калгасу, кароткая, але поўная руху і барацьбы, поўная трывог, сумненьняў, надзей.

Адна за аднэй бясконцай чарадой ідуць заявы аб уваходзе у калгас. Бадай, што кожны тлумачыць чаму ён не запісаўся дагэтуль—і ў тых тлумачэньнях раскрываюцца ўсе думкі, усе меркаваньні, уся псыхолёгія селяніна.

...Не разумеў значэньня калгасу, а мяне змушчалі тыя, хто не ў калгасе...

...Ня меў згоды з сям‘ёй...

...Не згаджалася жонка—несьвядомая, цёмная...

...Угаварваў брата-гаспадара...

...Слухаў хлусьню, што кепска жыць у калгасе...

...Глядзеў на суседа, ці запішацца ён...

...Куды людзі, туды й я...

...Думаў ехаць у іншае месца...

...Меў доўг, думаў, што давядзецца самому плаціць. Ня ведаў, што калгас прымае на сябе...

...Быў у калгасе, а жонка падала на выхад, дык чамусьці, выпісалі і мяне...

...Бацька ня хоча, прашу прыняць мяне аднаго...

...Узнаў, што калектыў—спасеньне для беднага чалавека...

Так сьведчаць дакумэнты першай пары жыцьця калектыву. Яны сьведчаць пра шырокі масавы рух, пра веру ў пэўнасьць новага шляху жыцьця, пра надзею на „спасеньне для беднага чалавека“.

Далей—пераплёт дробных надзенных клопатаў:

...Прашу дазволіць прадаць карову...

...Прашу адпусьціць жыта на хлеб...

...Прашу адпусьціць ячменю на крупы...

Або гэткае:

У Савет калгасу

*ЗАЯВА*

*Ад Бортніка Барыса*

Прашу праўленьне каб адпусьцілі для меня рублей сем грошай на шапку і на штаны.

Прасіцель *Бортнік.*

Рэзалюцыя на заяве: выдаць 5 рублёў.

А паміж усяго гэтага сям-там пракідаюцца сьляды тых скрыўленьняў і перагінаў, праз якія загінулі шмат якія калгасы. Вось вырваны з вучнёўскага сшытку аркуш лінаванай паперы—на ім старанна і крыва рукой першагодніка вучня накрэмзана:

*ЗАЯВА*

Прозьба гражданін Васіля Бортніка Аляксеявіча аслабаніць 1 парасё. Прозьба ўсіх граждан будзьця дабры абраціця вніманія.

На сім рэзалюцыя: *адказаць.*

Заявы аб „аслабаненьні“ парасят ці кабанчыкаў ідуць адна за аднэй з разнастайнай матывацыяй. То дзецям есьці няма чаго, то „матка хворая, ня можа быць бяз сала“, то сыну ў горад трэба пасляць—вучыцца там, то яшчэ што-якое.

У савеце калгасу мне растлумачылі, што сьвіней не зганялі (ня ўправіліся), а толькі перапісалі і забаранілі гаспадаром да іх дакранацца.

Гартаю далей старонкі гісторыі.

Цэлай патокай паліліся заявы аб выхадзе. Заявы ляконічныя, прасякнутыя ніто едкім раздражненьнем, ніто крыўдай. Большасьць пішуць проста: не хачу быць у калгасе. Іншыя-ж тлумачаць прыкладам так:

...Прычыны вам зьвесныя...

...Я думаў, што абавязкова трэба, а цяпер растлумачылі: хочаш—ідзі, а хочаш—ня йдзі...

...Калі папрасіў каня паехаць к дохтару, дык ня далі...

...Няма працаздольных у сям'і...

...Мяне прымусілі пад пагрозай...

...Лепш пайду ў другі калгас, толькі ня ў гэты...

...Быў „калярыйскі“ (кавалярыйскі) наскок... і г. д.

Канец заяў аб выхадзе пераблытаўся з пачаткам заяў аб уваходзе нанова. Некаторыя з гэтых заяў—цэлыя дэкларацыі з прызнаньнем памылак, з дыфірамбамі калгаснаму будаўніцтву. А большасьць проста: згодзен з новым статутам, і затым ўваходжу.

Ёсьць і гэткія:

> Так как я неграмотная и старая женщина, смотря на других, выписывающих гр-н решила и я выписаться из колгаса. А теперь вижу все опять вступают, то и я хочу чтобы и меня приняли.
>
> Просительница +

У лічбах гэнэзыс калгасу такі: з першай пары было гаспадарак 120, пасьля адліло, асталося 41, і зноў прыліло—апошняя сталая лічба—72.

Калгас астаўся жывы.

Вось—„справа атрыманых папер“, гісторыя соцень людзей, частка бурнай гісторыі цэлага краю, частка сусьветнай гісторыі.

4

## Міжслоўе

У калгасным хляве роўма раве завадзкі бугай, заклікаючы да сябе сваю невядомую дружыну. Магутны рэў яго зрываецца на прышчэмлены скогат—ён захлынаецца сваёй нязбыўнай смагай каханьня.

Жоўтыя вербы застылі ў пышным напружаным звоне.

Казалі—у бары кукавала зязюля.

Сонца ласкала зямлю гарачымі цурочкамі жаўранкавых сьпеваў, і зямля гарыць родавым палам...

5

## Нехацімцы ды выхадзімцы

Трэба сеяць: зямля чакае свайго запладненьня.

Калгасьнікі рабілі пробны выезд у поле. Было многа мітусьні і бязладзьдзя. І прыгожа было, як потым выехала парак з дваццаць ці болей—адна за аднэй, роўнай стройнай чарадою,—як ажылося поле, агаласілася бадзёрымі воклікамі, вясёлым сьмехам.

Вышлі ўсё маладыя дужыя хлопцы—ішлі яны, як войска на парадзе і адчувалі сябе гэроямі, бо былі першыя ў першым паходзе за новае жыцьцё...

Але—пра нехацімцаў...

Я выехаў з мястэчка з маладым хлопцам-калгасьнікам. Адразу-ж, як выехалі, хлопец паказаў пугаўём на гурток людзей, што мерылі поле.

— Нехацімцы...

Праз гоняй з двое сустрэлі па дарозе другі гурток.

— Зноў нехацімцы...

Я дзелавіта запытаў:

— Што, Нехацімка—гэта вялікая вёска?

Хлопец спагадна зірнуў на мяне і засьмяяўся.

— Якая вёска? Гэта—нехацімцы, што ня хочуць у колгас ісьці.

Тады я ўразумеў нарэшце гэта новае, троху сьмешнае слова.

Зусім проста: „не хацім"—нехацімцы. Ці [яшчэ] так: „выходзім"—выхадзімцы. Выхадзімцамі яшчэ завуць тых, хто выходзіць з сям'і, бярэ частку свае гаспадаркі і падаецца ў калгас.

У некаторых калгасах загадчыкаў экономій завуць „экономістымі".

Нехацімцы... Выхадзімцы... Экономістыя...

. . . . . . . . . . . .

— Нехацімцы зьбіраюцца... Бачыце?

Я зірнуў у вакно. На вуліцы мятушылася купка сялян—меркавалі, спрачаліся, даводзілі нешта адзін аднаму. З бязладных блытаных рухаў у іх выбівалася то злоснае абурэньне, то змоўная сьцеражлівасьць.

— Чым яны нездаволены?

— Ня там, бачыце, зямлю адбілі ім, дзе яны самі хацелі.

Неўзабаве ад нехацімцаў адлучыліся тры мужчыны і падаліся пад кантору калгасу.

— Сюды ідуць... Дэпутацыя...

Мы нарыхтаваліся сустрэць дэпутацыю.

Увайшло трое. Першы—ужо паджылы чалавек—у падзьдзёўцы, у ботах, у кароткай расьліннасьці на зморшчаным твары—рафінаваны тып вясковага шляхцюка. Другі—гадоў 40, з голым, скапецкім тварам, з пустымі пяньковага колеру вачмі. Ён апрануты быў у падраную скураную тужурку—прымету калішняе пышнасьці. Нарэшце, адзаду—не ўвайшоў, а ўцёрся бокам у хату абшарпаны дзядок—несамавіты, убогі, хоць і вялікай фігуры. Праз увесь час ён трымаўся ў баку і толькі тады, як асабліва заўзята браліся ў спрэчку яго таварышы, ён патыкаўся з нечакана-гарачымі і малапраканалымі заўвагамі:

— Ага... Во-во... Я-ж кажу... Дзе вы бачылі...

Гаварыў больш шляхцюк у падзьдзёўцы. Ён трымаўся надзвычай паважна: хмурыўся, крывіў рот і словы пускаў у бок, праз шчаку—словы выходзілі прыхлюпаватыя, сьлізкія, як жабы.

— Як сабе хочаце, а нам гэтае месца непадходнае... Тут—калгас, там—саўгас... Гэта-ж скрозь будуць спрэчкі, зьвягі. Што мы судзіцца будзем з вамі, ці што?

— А вы хочаце, каб вам самую лепшую зямлю вылучылі?

— Навошта лепшую? Зямля й там не благая... Зямля ўсюды роўная.

— На гародах хочаце?

— Дайце нам з краю, мы не аб тым... Мы хочам, каб было ўжо к пэўнаму месцу, а ня то што—з усіх бакоў: тут калгас, тут саўгас...

Скапец з пяньковымі вачмі зрабіў патугу быць хітрым:

— А, як вам зьвесна, закон ёсьць такі: дзевідуальным гаспадаркам даць зямлю па ўдобсьцьвію, там, дзе й раней была...

І дзядок падсунуўся:

— Ага, ага... Я-ж кажу...

Шляхцюк узяў тон ультыматуму:

— Мы хочам, каб нам адбілі ў той бок, пад балота, да вялікай канавы. А йначай мы ня згодны.

І ён энэргічна сашчаміў свае крывыя вусны.

Нехта пажартаваў:

— Там-жа горай. Яшчэ, чаго добрага, у канаву паўкідаецеся, уцякаючы ад калгасу.

А другі дадаў:

— Ня дзе дзеніцеся! Калгас і з балота падступіцца...

Нехацімгы не адказвалі на жарты—стаялі моўчкі, панура ўтупіўшыся. Ім пачалі тлумачыць, чаму каморнік адзначыў ім зямлю ў тым, а ня ў іншым месцы, чаму цяпер ня можа быць перамеру, калі ў калгасе пачаліся ўжо палявыя работы, чаму трудна ім будзе наогул уцячы ад калгаснага поля і г. д. Яны стаялі—ніто сярдзітыя, ніто замяшаныя—слухалі, а пасьля, як наяўна адкрылася нягрунтоўнасьць іхных прэтэнзый, шляхцюк з тупой катэгарычнасьцю заявіў:

— Не, мы сеяць ня будзем. Сейце сабе, калі хочаце, самі. Хадзем!

І яны адзін за адным пашлі з канторы. Дзядок у парозе на момант суняўся, паглядзеў назад, усьміхнуўся вінавата і беспарадна, адылі махнуў рукой і пашоў за таварышамі. Усьлед яму нехта крыкнуў:

— Піліп! Ты-б хаця не цягаўся за імі... Што табе трэба?..

Я зацікавіўся, што за людзі гэтыя „дэпутаты“.

— Во гэты, што ўсё гаварыў, дык самы баламут. Круціць-верціць... Даўней быў першы багатыр на вёсцы—тысячы ў банку ляжалі. Усю вёску трымаў у руках. Бывала, простага селяніна дык і за чалавека ня лічыў... А пасьля зьехаў... Ну, цяпер па зямлі, па маемасьці нібы серадняк, але дух у яго—ого-го!.. Маладзейшы той—таксама хлюст. За царом у нейкай высачайшай камісіі служыў... кур'ерам нейкім, ці што... Прыедзе, бывала, улетку, навесіць гамак ды й гоўтаецца... А цяпер ня тое... Неяк на сходзе ня ўрымсьціў быў: расьпяклі яго кечым, дык ён і ляпнуў:— А ўсё-ткі за царом лепей жылося... Ха!.. Дзіва, што яму лепей...

— А дзед?

— Гэта—брат таго „высачайшага“. Ат, цягаецца з імі—сам бядота, галота. Як быў сход, падышоў быў запісвацца ў калгас, ужо пяро ў рукі ўзяў... Дык шмарганулі ззаду, ён і спалохаўся.—Не, кажа, хай яно згарыць... ня буду... Сабралі вось такіх ды й вілаводзяць... Яшчэ й нам дэзорганізацыю ўносяць... Вунь-вунь, зірніце...

Мне зноў паказалі ў вакно—я ўбачыў, як па гародах ад рэчкі пасуваліся хісткай хадою тры чалавекі.

— Во гэты сярэдні—наш калгасьнік, бядняк. Яны пояць яго і на свой лад набіваюць. Надовечы напіўся, прышоў на сход ды такую прамову загнуў... Самі баяцца, дык яго навучаюць... Пасьля заяву падаў быў, што памыліўся... Каяўся... А цяпер, бач, ізноў...

„Хісткая“ тройца зьнікла за нейкай будынінай. А на вуліцы яшчэ мятушылася бяздонная купка нехацімцаў.

6

## А няхай-бы яны захацелі!

У кантору калгасу ўвайшла маладая жанчына з вясёлым тварам і павольнымі рухамі.

— Ну, чаго мяне клікалі?

Ей адказаў каморнік:

— Во што, цётачка, мне няма часу—я выяжджаю зараз—трэба табе схадзіць на поле адбіць зямлю гэтым нехацімцам.

— Чаму гэта канечна мне?

— Як сябру сельсавета.

Жанчына суняла свой погляд на каморніку, падабрала ў горкую міну вусны, пасьля бокам—з пагардай і жалем—зірнула на нехацімцаў і заківала галавой:

— Авой нахаба на маю галаву. А няхай-бы яны захацелі, гэтыя нехацімцы...

Малады хлопец падамкнуўся да цёткі і многазначна штурхнуў яе ў бок.

— Старыя, цётачка. Дзеж ім захацець... Вось мы, маладыя...

І зухавата падміргнуў. Цётка не зьвярнула на яго жаднае ўвагі (пры выкананьні службовых абавязкаў!) і, не абарачаючы галавы, праказала да нехацімцаў:

— Хадзем!

Потым тонам загаду яшчэ паўтарыла:

— Ну, хадзем!

Перад тым я памыкаўся быў завесьці гутарку з гэтымі нехацімцамі. Вёска, дзе гэта было,—двароў у шэсьцьдзесят ці болей—цалком была паступіўшы ў калгас, і калгас быў дружны, спраўны. З усяе вёскі знай-

шліся два гаспадары, якія пайшлі супроць усяе грамады—асталіся ў старых сваіх гнёздах. Што спрычынілася гэтаму? Якая сіла надала ім гэткай упартасьці?

На ўсе мае запытаньні, на ўсе мае захады, яны адказвалі адно:

— Кожны сам сваё жыцьцё кіруе... Таму—так лепей, таму—гэтак...

І яшчэ:

— Мы ня супроць калгасу. Можа й будзе там лепей, можа знойдуць там мужыкі сабе шчасьце... Але мы так уважаем, па-свойму...

Яны затуляліся ў шкарлупу сьцеражлівай адчужанасьці і ўнікалі ад далейшае гутаркі. Адно ў вачох у іхных (тож хавалі, адводзілі ў бок) удалося мне ўсё-ткі прымеціць шызы цень старога-старога смутку...

7

## Міжслоўе

— Татачка! Птушка! Птушачка вунь! Татачка, пачакай—я ўлаўлю!..

Бацька з спакойнай усьмешкай суняў сярод пыльнае местачковае вуліцы сваю шаўлюжку і пасобіў сыну зьлезьці з воза. Хлопчык з хвіліну стаяў нярухома, закамянеўшы ў вялікай радасьці, пасьля крануўся і зрабіў два маленкія сьмешныя крокі.

Голуб пырхнуў і паляцеў проста на хлопчыка, пралапатаў крыльлямі над самай яго галавой.

Хлопчык адхіснуўся назад, вочы ў яго сталі шырокія-шырокія. Ён сударгава замахаў ручкамі і затрапятаў увесь ад раптоўнага спалоху.

Бацька спакойна ўсьміхаўся...

8

## Як зазвоняць у звон

Зямля чакае свайго запладненьня.

Над зямлёй шпаркай хадою, пераскокваючы цераз кароткія цёмныя ночы, ідзе маладое вясновае сонца.

Раніцай у калгасе звоняць у звон, склікаючы на работу.

Раніца цяпер скрозь—румяная, сакавітая, прасычаная густой мядовай слодыччу. Ад гэтае слодычы, як ад каханьня, хмельна круціцца ў галаве і па целу ґонкімі хвалямі пераліваецца кроў.

Каля стайні зьбіраюцца хлопцы. Тузанінай, борканьнем разганяюць апошнія сьляды аспаласьці. Мітусяцца канюхі, зважна сігае „конскі“ брыгадзір—загадвае, паказвае, падганяе.

Усё гатова. Хлопцы навыперадкі запрагаюць коняй, становяць на палазы зубастыя бароны і—гайда!

Поле расхіне перад імі свой разгонны прасьцяг. Ляжыць поле—гарачае, парнае—млее ў магутных абнімках сонца. Па полю ходзіць—ступае мяккімі лапкамі па ральлі аксамітны ветрык. Падскочыць, гарэза, скаў-

занецца па твары (ласкотна-ласкотна!), пацярэбіць сарочку, за каўнер зашыецца, а тады раптам узьляціць высока-высока, у самае неба, і бразьне срэбнымі званочкамі—жаўранкавай песьняй.

Поле—у глыбокіх зморшчках леташняга ворыва. Трэба разгладзіць гэтыя зморшчкі, расчасаць іх спрытнымі грабянцамі-баронамі, прыладзіць мяккія пасьцелькі для залатых зярнятак.

І вось... Стройнай чарадой пайшлі па полю—па шырокаму, роўнаму бяз меж, без граніц—бадзёрыя паркі, дружна ўеліся ў зямлю сталёвыя зубы і пакінулі сьлед за сабой—пакінулі сьлед у дваццаць барон-паўгоняй ушыркі, ня менш!

Весела порскаюць коні, весела гукаюць, пераклікаюцца людзі, весела скача навокал гарэза-ветрык—то пацалуе ў твар, то схопіць за грыву каня, то нахабна выверне хвост чорнаму падсуседу аратых—граку. І не забудзецца ані на момант бразгаць у небе срэбнымі званочкамі-песьняй.

Воля, прастор, шырыня бяскрайная!

І бяз краю шырыцца сьвежая моц у грудзёх і злучае ўсе гэтыя дужыя грудзі ў адны, і рукі—у адны, і ў адно злучае волю, жаданьні, імкненьні.

Ня скрышыць гэтую моц ніякая змора, ніякая немач!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За гоняй двое па сьцежцы ішла кампанія нехацімцаў. Яны ішлі дзяліць між сабой адбітую ім зямлю. Калгасьнікі ўбачылі іх і працяліся гульлівым задорам.

— Засьпявайма, хлопцы! Пабачыце, як гэта будзе ня ў смак ім.

І засьпявалі. І сапраўды было ня ў смак. Нехацімцы спыніліся, быццам заўважылі нешта нечаканае, дзіўнае, з момант стаялі, аслупянеўшы глядзелі на хлопцаў, а тады ўраз заварушыліся, жвава аб нечым загаманілі, і пачалі паказваць фігі.

Хлопцы ня вытрымалі—пакаціліся со-сьмеху. Адзін прыстоіў, склаў у рупар далоні—пусьціў голас на ўсё поле:

— Ад баб навучыліся! Гультаі-і-і...

З боку нехацімцаў пачулася нявыразная лаянка. Яны зьбіліся ў шчытны камок і пасунуліся сваёй дарогай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А ў гэты час зусім далёка—мо' з паўвярсты—па шырокім роўным шляху ішлі дзьве жанчыны: старая і маладая. Яны ўбачылі на кругавідзе сілуэты баранавалокаў і спыніліся. Маладая лічыла.

— Раз... два... тры... чатыры... А божа мілы... У дваццаць парак.. Як хораша!..

Яны доўга стаялі, не адводзячы вачэй ад калгасьнікаў. І ня прымецілі, як надыйшоў ззаду незнаёмы падарожнік.

— Што, прыгожа?

Маладая жвава страпянулася.

— У дваццаць парак... адразу... Гэта-ж трэба...

— А вы самі ці калгасьніцы?

Тады абярнулася старая і нездаволена прабурчэла:

— Не, не калгасьніцы... Хадзем, Марына!

Хто яе ведае, што схавала яна за сваім сярдзітым тонам: абурэньне, зайздрасьць, ці мо' страх перад гэтым новым, неадступным, што мімаволі захапляе і цягне да сябе з непераможнаю сілай...

І паклыпалі сваей дарогай: старая і маладая...

9

## Мы скарынак ня зьбіралі!

Наш калгас невялічкі. Утварыўся ён галоўным чынам на кулацкіх землях, на кулацкім інвэнтары і на кулацкай жывёле. Гаспадароў мала ўвайшло ў калгас, больш выхадзімцы—маладыя мужчыны й жанчыны.

У нас мала коняй і мала рабочай сілы. Але многа ў нас энэргіі і ахвоты—мы засеем ня толькі сваё калгаснае поле, а не пакінем і таго, што застанецца незасеянае ў нехацімцаў. Мы абсолютна ўпэўнены ў гэтым.

У нас яшчэ не хапае некаторага насеньня: вікі, канюшыны, гароху. Гэта мы здабудзем—гэта дасьць нам дзяржава. За гэтым трэба ехаць у раён, у райпаляводсаюз. У раёне ў нас яшчэ цэлы груд спраў: крэдыты, кантрактацыя і інш. Таму мы едзем удвух з старшынёй калгасу—з невялічкім, хударлявым, зусім хворым, але бадзёрым і вясёлым бедняком-селянінам. Сёньня ён зьдзеў нарэшце свой старэнькі дзіравы кажушок (іншае вопраткі ня мае), але ўзяў яго з сабой і старанна хавае пад сена, калі адыходзіцца ад возу. Пасьля сам сьмяецца:

— Яшчэ часам сьцягне хто гэткае золата...

Слаўны, мілы дзядзька Антон!

У раёне—сумятня, як у штабе ў часе самага гарачага бою. Мы ўмыкаемся ў гэтую сумятню, пачынаем бегаць, спрачацца, лаяцца. Сустракаем знаёмых з суседніх калгасаў і займаемся з імі ў жартлівую сварку.

— Гэй, вы, багатыры! Чаго вам тут трэба? У вас свайго няма куды дзець! Ненажэрныя!

— А вы ўжо зьнебарачыліся... Бач ты, усё ім давай... Паелі сваё, дык пяском паспрабуйце засеяць...

Мы з дзядзькам Антонам мужна вытрымліваем бой і з фронту і з флянгаў—дастаём усё, што нам патрэбна, і ў добрым гумары варочаемся з мястэчка.

Па дарозе нам яшчэ адна вялікая справа. У суседнім калгасе аднаго з намі кусту мы маем атрымаць некалькі кулацкіх коняй—іх часова паставілі былі тут, а цяпер разьмеркавалі па ўсім кусьце.

Колькі дзён назад я быў у гэтым калгасе і аглядаў іхную гаспадарку. Яны багата жывуць. У іх увайшла ў калгас уся вёска—у іх многа рабочае сілы, многа рознае маемасьці. Коні іхныя слынуць на ўсю акругу, а зямля родзіць, як чорназём.

Мяне вадзіў тады па стайнях старэйшы брыгадзір—рухавы гаваркі дзядзька, пасьпешны і клапатлівы. Ён адчыняў кожную стайню шырокім урачыстым жэстам і ў захапленьні паведамляў набожна стрыманым шопатам:

— Жарэбныя кабылы... Э-эх, кабыліцы, першы сорт... У работу не бяром, ані-ні... Стаяць сабе, як пані...

Ён даваў мне хвіліну любавацца пышнымі, гладкімі клубамі кабыл, потым пачынаў выказваць сваё захапленьне, і зачыняў вароты з цяжкой марудлівасьцю, быццам ня меў сілы адарваць вачэй ад сваіх гадунцоў.

— А вось тут яшчэ...

І цягнуў мяне ў наступную стайню.

Ён жыў адно гэтымі коньмі, аддаваў ім увесь свой час, клапаціўся аб іх, як аб сваіх блізкіх, ведаў усе іхныя звычкі, усе асаблівасьці і дружыў з імі, як з лепшымі сябрукамі.

А было так, што затрымаўся ён ля аднае красуні-кабылы больш, чымся ля іншых, і не хваліў, не захапляўся, а стаяу мочкі. І ўжо падаўся быў у вароты, адылі суняўся, яшчэ раз азірнуўся і сказаў—здалося мне, што сказаў ня толькі з захапленьнем, а й з жалем:

— Гэта—мая... Сам выгадаваў... Тры гадкі... Завадзкая...

І дадаў, нібы выпраўдваючыся:

— Дзьве дзесяціны зямлі меў... Але ўзяўся, каб зрасьціць жывёліну... Вунь якая яна... Нішто?..

... Сёньня мы з ім пасварыліся. Сёньня разыгралася сцэна, над якой мне давялося глыбока задумацца...

Мы прышлі забіраць належных нам коняй. Старэйшы брыгадзір сустрэў нас нездаволеным поглядам, старанна хаваючы ў вачох хвосьцік тонкай хітрынкі.

На двары ля стайняў стаяла з восьмера жарэбных кабыл.

— А дзе рэшта?

— Якая рэшта? Вось выбірайце. Колькі вам трэба. Чатыры? На любкі бярэце...

— І ўсё кабылы?

— Кабылы.

— І ўсё жарэбныя?

— Жарэбныя.

Мы ведалі, што кулацкіх коняй павінна быць болей, што не канечна яны ўсе павінны быць кабыламі і не канечна жарэбнымі.

Завязалася спрэчка. Нас абкружылі гурмай калгасьнікі—узьняўся гоман, сьмех, жарты, і распачаўся гандаль. Старэйшы брыгадзір (хітрынка з вачэй пайшла ўжо недзе ў сярэдзіну) зрываўся ўвесь час на звычайную вясковую сварку.

— Іш, панаехалі... на гатовенькае... а што мы кармілі дасюль, даглядалі, дык гэта так сабе? Ого! На чужое кожны паквапіцца... Пазайздросьцілі, што ў нас коні добрыя? Прыдбайце самі гэткіх, калі маеце спрыт...

І, ушчэнт разьюшыўшыся, крыкнуў з едкім дакорам:

— Мы скарынак яшчэ ня зьбіралі і ня будзем зьбіраць. Гэта вы, як тыя старцы, па чужых калгасах жабруеце...

Ён яшчэ ці мала адчытваў нас на ўсе спосабы, адылі пад сьмех і жарты калгасьнікаў супакоіўся, усьміхнуўся і адвёў у бок вочы, бо ў іх зноў мітусілася тая тоненькая хітрынка. Зусім інакшым—уціхаміраным, лагодным тонам пачаў нас загаварваць.

— Ці-ж вы думаеце—нам шкада... Ці-ж мы згалеем ад гэтага. Бярыце сабе хоць усіх... Я й яшчэ столькі вывяду калі хочаце... у мяне гэткага дабра яшчэ знойдзецца.

Мы шчыра падзяквалі і, сьцяўшы зубы, выбралі сабе чацьвёрку жарэбных кабыл. Тут-жа стаяла чарада кулацкіх калёс. Мы нагледзелі добрыя моцныя драбіны і дружна ўшчарэпіліся за аглоблі. Брыгадзір падышоў і з ласкавым спачуваньнем запытаўся:

— Нашто вы дарма высіляецеся?

— Як нашто?

— Гэта-ж драбіны нашага калгасу.

— А дзе-ж кулацкія?

Ён з алімпійскай спакойнасьцю паказваў на груду ламачча, у якім з вялікай патугай можна было адрозьніць элементы калёс.

— Вось, калі ласка... Мне чужога ня шкода.

Мы падзяквалі за прыязнасьці і пачалі канструяваць з ламачча сякое-такое падабенства яздовай прылады.

— А дзе-ж збруя?

— Зараз, зараз... Што атрымаў, тое і аддам. Мне чужога ня трэба... Я не жабрак які-небудзь...

Мы ўжо ані-ні ня зьдзівіліся, калі ён вынес і высыпаў на зямлю бярэмя нясусьветнага шкумацьця. Высыпаў і запытаў тонам глыбока закранутага гонару:

— Што, можа скажаце, я й гэта падмяніў, га?

Мы катэгарычна запротэставалі:

— Што ты, што ты... Мы й не падумалі нават...

Калі мы сяк-так зачапілі за воз адну кабылу, да яе падышоў хлопец-калгасьнік, доўга стаяў, прыглядаўся і нарэшце закрычаў:

— Браточкі! Гэта-ж наш стары хамут, далі-бог-жа...

Мы зарагаталі, зарагаталі і самі калгасьнікі, адылі тукнулі на хлапца, і ён, сьцяміўшы, у чым справа, зараз-жа прызнаў сваю памылку.

Выехалі мы пад дружныя пажаданьні і самы адкрыты бесцарамонны сьмех. Мы й самі сьмяяліся і бясконца дзякавалі гаспадаром за іхнюю нязвычайную ветлівасьць.

Як ад'ехалі ад сяла, я сказаў свайму спадарожніку:

— Ёсьць людзі, якія пераносяць у колектыў дробнаўласьніцкія тэндэнцыі, што ўзгадавала ў іх індывідуальная гаспадарка. У іх зноў—сваё, чужое, свой калгас, чужы калгас... Каб прыдбаць у „свой“ калгас, яны ашукваюць „чужы“... Яны-ж відочна нас ашукалі...

Мой спадарожнік доўга маўчаў, а пасьля ціха, нібы сарамліва ўсьміхнуўся і адказаў:

— Чорт-жа яго ведае... Каб гэтыя коні стаялі ў нашым калгасе, дык можа-б і мы зрабілі тое самае...

— Але-ж ці добра гэта? Ці трэба гэта для справы?..

І ўсю астатнюю дарогу мы думалі над гэтым пытаньнем...

10

## Міжслоўе

Крэпкую, як крамень, глыбокую, як зямля, і непасрэдную, як само жыцьцё, гаспадарлівасьць мужыка-земляроба трэба пераключыць у рэчышча дружнага колектыўнага клопату і стараньня.

11

## Пра дзядзьку Макара

Дзядзька Макар высокі, кульгавы і надзвычай сумленны мужчына. Першы раз я ўбачыў яго ў канторы калгасу, калі ён з напружанай, блізкай да роспачы патугай мусоліў аловак, стараючыся падвесьці свой дзённы рахунак. Зьнясілены нязвыклай працай ён беспарадна азіраўся навокал і жаліўся:

— Усё выходзіць, як сьлед: што надаілі, што завезьлі ў арцель, што выдалі калгасьнікам, што парасятам скармілі... Як да астачы дайду— блытаніна... Скажам, укісла... Ну, як яго тут паказаць, у якую грахву?..

Мы супольнымі сіламі разьвязалі яго неўразуменьне.

Дзядзька Макар даглядае кароў. Іншае работы ён ня можа рабіць— у яго хворая нага, ён зусім кульгавы. Але-ж гэты свой абавязак ён спраўляе з назвычайнай стараннасьцю. Ён заўсёды непакоіцца, што мала робіць, што мала дае карысьці калгасу, і праз гэта страшэнна пакутуе. Часам глядзіць з трывогай на калгасьнікаў і чакае, што нехта яго ўпікне за гультайства.

Дзядзька Макар троху дзіўны—ён залішне глыбока задумляецца. Бывае так, што возьме ён рэзьвіны—прынесьці сена каровам—і пойдзе, і пойдзе... І пройдзе так мо' з поўвярсты, калі хто не абудзіць яго якім воклікам ці запытаньнем. А то дык стане дзе на гародзе ды й стаіць, закамянеўшы, углядаецца некуды нявідушчым зіркам.

Дзіўны дзядзька Макар.

А пачалося гэта ў яго з прычыны.

У дзядзькі Макара бацька—таксама калека. З нейкай хваробы, ці што—сагбала яго ў сярэдзіне—ён ходзіць, нізка нахіліўшыся долу, быццам шукае нечага па зямлі. А рупны дзед, працавіты! З калецтвам сваім робіць (пакутуе, а ня робіць) усякую работу і трымае ніштаватую гаспадарку.

У самы прыпар наймалі—ня змога была двум калекам з усім управіцца. За гэта наклалі былі мясцовыя мудрагелі індывідуальны падатак і залічылі ў кулакі.

Праз усю зіму чакаў дзядзька Макар высяленьня. Нейкую хваравітую ўпэўненасьць меў, што канечна вышлюць яго, і дрыжэў у нязводнай трывозе, у страху. Праз усю зіму безадхлынна мучыўся, і навучыўся думаць больш, чым гэта робяць звычайныя людзі...

Дзіўны стаў дзядзька Макар!

Індывідуальны падатак, вядома, зьнялі, вярнулі ўсе правы (быў тут перагін, скрыўленьне лініі), і дзядзька Макар з ахвотай ды радасьцю паступіў у калгас. Але ў калгасе адчуваў сябе вінаватым (бацька—не працаўнік, сам—не працаўнік, жонка—пры малых дзецях) і непакоіўся, што мала робіць, мала дае карысьці калгасу.

І глыбока, дзіўна так задумаўся...

Гэтымі днямі дзядзька Макар захварэў. Праз усю ноч кідаўся ў гарачцы і трызьніў. Кажуць—запаленьне лёгкіх.

Дзядзьку Макара павезьлі ў больніцу. Замест яго даглядаць кароў і падлічваць малако паставілі другога калгасьніка.

12

## Міжслоўе

За гарой у сьвежай чырвані купаецца перад сном вясновае сонца.

З усходу падцікаецца ўжо лёгкакрылы і лёгкадумны вечар.

Шумна, уздымаючы пыл і сумятню праехалі з поля аратыя.

У канторы калгасу сіпата зайграў грамафон, а недзе на вёсцы (быццам далёка-далёка) засьпявалі дзяўчаты.

У калгасным хляве роўма раве завадзкі бугай, заклікаючы да сябе сваю невядомую дружыну.

13

## Дзе энтузыязм?

У вясну 1930 году гаварылі многа пра энтузыязм. Калі прыяжджаў хто з вёскі, з калгасаў, абыватаць зазіраў яму з падступнай ліслівасьцю ў вочы, падміргваў і пытаўся:

— Ну, як там, га? Энтузыязму многа?

Абывателі шукалі энтузыязму ў гучных словах, у бурным гомане сходаў, у бліскучых вачох і нават у чырвоных сьцягах.

А энтузыязм у вясну 1930 году быў зусім не такі: ён быў бяз гучных слоў і бяз чырвоных сьцягаў.

Я ўбачыў—ня ўбачыў, а пачуў быў сапраўдны глыбокі энтузыязм будаўніцтва ў першы-ж дзень, як прыехаў на вёску, як трапіў ў кантору паршага на маёй дарозе калгасу.

У канторы складалі рабочы плян вясновай пасеўнай кампаніі. Сядзелі: звычайныя вясковыя дзядзькі з сур'ёзнымі станавітымі тварамі, маладыя хлопцы—жвавыя, жартаўлівыя і аграном—тоўсты, але надзіва лёгкі ды энэргійны (круглы гарбузападобны твар, целяпаваты нос, маленькія—вясёлыя і разумныя вочы і дабрадушная лысіна на галаве, сьціпла зачосаная астатнім дзесяткам валасоў).

Рабочы плян—аснова жыцьця гаспадаркі. Тут разумелі гэта, і працавалі над ім з адменнай шчырасьцю ды заўзятасьцю. Паўставала безьліч пытаньняў—новых, неабыклых для цяжкаватага мужычага розуму; вырашэньне аднаго нараджала дзесяткі новых, яшчэ больш складаных і трудных—разгортваліся шырокія, неабдымныя і страшныя ў гэтай сваёй неабдымнасьці пэрспэктывы.

Людзі пэрспэктыў не баяліся—туманную далеч іх азаралі агнём свае ўпартае волі ды розуму і далёкае рабілі блізкім, складанае простым, цёмнае ясным, як вясновы сонечны дзень.

А пытаньні былі ўсе чорныя, земляныя:

Як разьбіць поле па асобных культурах...

Дзе што сеяць: дзе авёс, дзе ячмень, дзе віку, дзе канюшыну...

Дзе пакласьці гной, дзе пасеяць штучныя ўгнаеньні...

Як павялічыць плошчу засеву...

Як скарыстаць папарнае поле...

Трапляліся перашкоды—многа было перашкод, бо вісела над калгасам цяжкім насядзістым гнётам агульная нястача: людзі зьнесьлі былі ў колектыў ня толькі здабыткі сваіх гаспадарак, а таксама й горкую сваю векавую бядноту.

Не хапае насеньня...

Не хапае гною...

Не хапае коняй...

Не хапае людзей...

Перад перашкодамі ня спыніліся, над імі ня енчылі, не жалкавалі. Кожны намагаўся раней за ўсіх адшукаць спосаб да іх адхіленьня і рад быў, калі гэта яму ўдавалася, і ўсе былі рады: тут стыхійна і несьвядома вырастала тая магутна-дзейная сіла, якую завём мы соцыялістычным спаборніцтвам.

Я з глыбокай увагай узіраўся ў твары гэтых няўмелых пакуль што, неспрактыкаваных будаўнікоў людзкога жыцьця. На іх ня было ні бліскучых вачэй, ні пышных праменьняў радаснага захапленьня: яны былі працятыя цьвёрдай сур'ёзнасьцю, энэргіяй і турботай.

І тады я зразумеў, што энтузыязм бывае ня толькі там, дзе гучныя словы і чырвоныя сьцягі.

Ён бывае і там, дзе працоўныя людзі, сьцяўшы зубы ад патугі і ўпартасьці, бяруцца за марудную цяглую работу, за мураваньне вялізнага будынку агульнага шчасьця.

Ён бывае там, дзе перашкоды, нястачы не палохаюць, ня спыняюць працоўных людзей, а загартоўваюць іхную волю й рашучасьць.

Ён бывае там, дзе працоўныя людзі зацікаўлены ў агульным так, як зацікаўлены ў сваім уласным.

Ён бывае там, дзе працоўныя людзі вераць—не, ня вераць, а ўпэўнены ў тым, што шлях, на які пашлі яны, на які пявяла іх магутная партыя пралетарыяту—адзіна правільны і няўхільны...

З тэй пары я прызвычаіўся бачыць праменьні вялікага энтузыязму ў маленькіх, зусім нязначных праявах жыцьцёвае дзейнасьці і я бачыў яго на кожным кроку.

Ён сьвіціўся на твары белабрысай маленечкай цёткі, што прыбягала ў кантору калгасу (на руцэ—малое дзія, другое—чапляецца за спадніцу) і сакатала растрывожанай куркай, і напорыста вымагала нейкае дробязі для „сваіх“ парасят (гэта значыць—калгасных).

Ён ляжаў сьветлай роўнай пячаткай на сівым твары старога дзеда—калгасьніка, які сабраў быў гурток маладых сваіх таварышоў і дзяліўся з імі сваёй за дзесяткі год нажытай земляробчай практыкай, і па-бацькаўску навучаў іх, як трэба хадзіць каля маткі-зямлі.

Ён хваравітай ліхаманкавай плямай адзначыў хударлявы твар старшыні калгасу, які даўно ўжо забыўся, што значыць—у пару есьці і спаць на прытульнай хатняй пасьцелі.

Ён, бязумоўна ён, прымушаў калгасьніка лезьці на гару і даставаць апошнія два пуды вікі (ніхто гэтага ад яго не вымагаў), каб дасеяць кавалак калектыўнага поля...

... Такі быў энтузыязм ў вясну 1930 году...

14

## Міжслоўе

Ня ў шумных узьлётах, ня ў бліскучым гарэньні—у непарушнай волі ды каменнай упартасьці творчая веліч будаўніка.

15

## Новая з жахамі ды крыміналам

I

Маркел Хадун цішком папляваў сабе на далоні і моцна сьціснуў у руцэ рыдлёўку. Перш, чымся пачаць сваю таемную працу, ён пільна прыслухаўся да ночнай цішы. На суседнім двары засьпяваў певень, а недзе далёка, край вёскі забрахалі сабакі. Гэтыя гукі чамусьці заспакоілі Маркела, і ён сьмела выверануў першую камлыгу зямлі.

Праз якую гадзіну ці меней яма была гатова, і Маркел асьцярожна наспусьціў у яе труп. Цяпер ён зноў, як і ў пачатку работы, вострa напружыў свой слых, стараючыся ахапіць ім усю глыбіню чорнай начы.

Было ціха навокал, як у магіле. Маркел страпянуўся, схапіў рыдлёўку і пачаў пасьпешна, хапаючыся, закопваць яму. А як скончыў, выпрастаўся на ўвесь рост, вольна ўздыхнуў, і ўсьміхнуўся сам сабе хітрай самадавольнай усьмешкай.

II

Праз тыдзень Маркел Хадун з хмурым дзелавітым выразам на твары і затоеным трапятаньнем у сэрцы ўваходзіў у страхавую кантору. Усё было ў парадку, як мае быць. Неабходная бюракратычная цаганіна заняла ня больш, як гадзіну, і Маркел, сударгава заціснуўшы ў руцэ атрыманыя грошы, борзьдзенька, нібы баючыся, каб не адабралі назад ягонага здабытку, пашыбаваў у дзьверы.

На вуліцы ён прыстоіў, з хвіліну аб нечым сам з сабой памеркаваў і рашуча пасігаў у той бок, дзе стаяла піўніца.

III

Так Маркел Хадун не памыліўся... Натоўп людзей, які ён заўважыў яшчэ здалёк, стаяў акурат каля таго няшчаснага месца. У затуманеную хмелем Маркелаву сьвядомасьць страх увайшоў прытуплены і зьмякчоны — ён яшчэ набраўся рызыкі, каб зрабіць на твары бязуважную ўсьмешку і падыйсьці да натоўпу зусім спакойнай, нават зухаватай хадою.

Яма была раскопана, і на краю ямы ляжаў страшны, ужо добра загнілы труп.

Маркела абкружылі ўсе з крыкамі абурэньня. Ён азіраўся навокал і бязглузда ўсьміхаўся. Калі-ж запыталі яго:

— Дзе яшчэ двое?

Ён слаба махнуў некуды рукой і, зьнясілены, сеў на зямлю...

IV

Пры допыце сьведак выявілася адна цікавая акалічнасьць. У той дзень, да якога прыблізна адносілі злачынства (меркавалі па трупу) бачылі Маркела Хадуна на трох розных дарогах і ўсюды ў адным стане: ён ехаў на кані і вёз на возе нешта закрытае посьцілкай. А ўвечары ўсе на вёсцы бачылі, як прыехаў ён зьнедкуль на змораным да шчэнту кані...

Справа пачынала высьвятляцца.

V

На судзе ўсё выявілася канчаткова, і ў прыгаворы, паміж іншага, было зафіксавана наступнае:

... падсудны Маркел Хадун закантрактаваў у Калгассаюзе трох падсьвінкаў, атрымаўшы на іх адпаведны корм і авансы. Усіх трох падсьвін-

каў падсудны застрахаваў у аддзяленьні Дзяржстраху. Скарыстаўшы выпадак, што ў суседа такога-та здохла парасё, ён пазычыў данае парасё і завёз на такі-та вэтэрынарны пункт, дзе атрымаў адпаведную даведку. Пасьля гэтага ён павёз данае парасё на такі-та вэтэрынарны пункт і атрымаў другую даведку. Пасьля гэтага ён павёз парасё на такі-та пункт і атрымаў трэцюю даведку. Згодна гэтых даведак падсудны Маркел Хадун атрымаў страхавую прэмію за трох закантрактаваных падсьвінкаў, у той час, як даныя падсьвінкі былі жывыя. Паказаныя дзеяньні Суд кваліфікуе, як ашуканства, а таму пастанаўляе...

Маркела Хадуна да нечага прысудзілі...

16

## Рунь

Мой новы прыяцель, калгасьнік Зьмітра, зрабіў мне прапанову:

— Калі маеш час ды ахвоту пойдзем паглядзім на маю практыку з мінэральнымі ўгнаеньнямі.

Я, бязумоўна, згадзіўся.

Гэта было ціхім ласкавым надвячоркам, калі сонца сьвяціла асабліва чыста і мякка, калі зьляталіся ў свае прытульныя дамкі змардаваныя пчолы, а жаўранкі на полі здаваліся далёкімі-далёкімі, мінулымі.

Перад намі ляжала—ласкавалася чыстым смарагдавым бляскам сьвежая рунь. Ад яе ўзьнімаўся лёгкі салодкі пах--дзіўна знаёмы і сьветлы, як успаміны з дзяцінства. У самае сэрца ішоў гэты пах, пеніў яго хмельным уздымам—і жыцьцё, як гэтае поле, як гэтая рунь,—здавалася шырокім, вольным, дарагім.

Мой прыяцель павёў мяне на сваю паласу. Там старанна адмежаваны былі і адзначаны калкамі роўныя простакутнікі, якія ішлі адзін за адным усьцяж па палосцы і відочна адрозьніваліся сілай і багацьцем руні.

Зьмітра, як гаспадар гасьця, вадзіў мяне па паласе, паказваў свае дасягненьні і тлумачыў спакойным паквольным голасам:

— На гэтай дзялянцы пасеяны супэрфасфат. Як бачыш, эфэкту амаль што ніякага. Тут—азоцістыя ўгнаеньні. Значна лепей. А найбольшы сьлед пакідае ўсё-ткі калійная соль. Бачыш, як вылучаецца тая дзялянка?

Сапраўды, было чаму дзівіцца. Быццам адлінаваныя алоўкам адлучаліся адзін ад аднаго простакутнікі. На адным рунь буяла густой, сакавітай, да сіні зялёнай масай, на другой была жаўтлявая, чэзлая.

— А вось, бачыш? Тут пасеяна ўгнаеньне ўсіх трох гатункаў. Ці можа быць што-небудзь больш прыгожае, га? Падзівуйся...

І ён сам спыняўся, застываў на месцы і не адводзіў вачэй ад пышнага зялёнага дывана. Мне здавалася, што ён зусім забыўся на мяне, усёй істотай сваёй углыбіўшыся ў нейкае глыбока-радаснае і ўрачыстае, блізкае да малельнага экстазу, адчуваньне.

Потым ішлі далей, і ён зноў браўся апавядаць:

— Гэта—першая такая практыка ў нашым раёне. Але гэта — глупства. У мяне ёсьць плян куды больш шырокага досьледу, ды яго нельга было зьдзейсьніць вось на гэткіх палосках. Цяпер, у калгасе, мабыць удасца... Буду ўзьнімаць пытаньне, каб адбілі патрэбны кавалак зямлі. Мы дайшлі да канца практыкавальнага поля і спыніліся. Сонца стаяла ўжо на самым крайку небасхілу, быццам затрымалася толькі, каб яшчэ раз агледзець сваё дзеннае царства, яшчэ раз палашчыць зямлю млявым прыткненьнем сваіх зьнясіленых кос, і зараз-жа—зморанае і давольнае—сьлізганецца за кругавід, у свой начны прытулак.

Рунь ляжала роўная і спакойная, у глыбокім ружовым бляску, у глыбокай спрадвечнай ціхасьці.

Я крануў за руку свайго спадарожніка.

— Ці чуеш ты, Зьмітра, які радасны спакой улівае ў душу вячэрная рунь? Каб гэты момант цягнуўся бясконца, я-б, здаецца, бясконца стаяў так і любаваўся.

Зьмітра шчасьліва ўсьміхнуўся.

— Я дужа люблю сельскую гаспадарку. Я працую не таму, што трэба здабыць на пражытак—я люблю самую працу. Ты-ж ведаеш, я служыў доўгі час, бадзяўся па сьвеце, а такога здавальненьня нідзе не знаходзіў. Тут, разумееш, нешта такое... Вось арэш, скародзіш, сееш, і ведаеш, што з гэтага выйдзе нешта, і ўбачыш гэта, будзеш адчуваць, што тут—вынік твае працы... Вось ты глядзіш — чыста, прыгожа... А мне-ж гэта—роднае. Кожная каласінка, як дзіця, сапраўды... А пакуль расьце, красуецца, налівае, сьпее. Глядзіш, непакоішся, турбуешся... І радуешся... Радуешся...

Зьмітра змоўк і стаяў нярухома, абярнуўшыся тварам да захаду—у чырвані захаду твар яго быў каменны і мяккі.

З бакоў наплывалі сінія цені.

Рунь пачынала памалу засынаць.

17

## Міжслоўе

Крэпкую, як крамень, глыбокую, як зямля, і непасрэдную, як самажыцьцё, гаспадарлівасьць мужыка-земляроба трэба пераключыць у рэчышча дружнага колектыўнага клопату і стараньня.

18

## Сеем!

Над зямлёй з дня ў дзень праходзіць шпаркай хадою маладое вясновае сонца.

Сонца ласкоча зямлю гарачымі цурочкамі жаўранкавых сьпеваў, і зямля гарыць родавым палам.

Зямля чакае свайго запладненьня...

Учора скончылі пратручваць насеньне і ўчора-ж увечары, прыехаўшы з поля, сказалі хлопцы-калгасьнікі, што восем гектараў зямлі гатова, ўжо да засеву.

Сёньня—першы дзень сяўбы ў нашым калгасе.

Зранку мы з калгасьнікам Зьмітрам ладзілі сявалку. Выкацілі яе—даўгую, нязграбную—з пуні, узьнялі на падстаўкі, на драўляныя стаўбанкі, каб вольна хадзілі колы, круцілі колы і па зваротах іх вызначалі, колькі „прайшла“ сявалка. Зьбіралі потым у мех высеянае на падасланыя посьцілкі збожжа, важылі, рабілі адпаведныя падлічэньні і дазнаваліся, колькі расьсеецца збожжа на дзесяціну.

Паставілі рэгулятар на дванаццаць пудоў, пакруцілі, зважылі, падлічылі: сявалка расьсявае дваццаць чатыры.

— Добра, што пачалі вывяраць, а то-б заляпілі...

Мы надзвычайна здаволены сваёй абачлівасьцю. Але-ж як усё-ткі наставіць на патрэбны высеў сявалку?

Да нас сыходзяцца дзядзькі—і калгасьнікі і нехацімцы — прымаюць чынны ўдзел у нашым сьлясарстве. Мы правяраем яшчэ раз—так і выходзіць: сявалка высявае ўдвая больш супроць таго, што паказвае рэгулятар.

— Шасьцярню трэба перамяніць, я ўжо ведаю добра гэткія штукі...

Сапраўды, там, дзе кола злучаецца з мэханізмам, дзьве шасьцярні, і адна з іх гуляе. Мы бяромся за колы, здымаем іх, мажамся ў гразь, у коламазь. Круцімся каля шарсьцярні, як каты каля валер‘янкі, кратаем, мацаем, разглядаем з усіх бакоў, а рады даць ня можам. Кожны з прысутных па чарзе падыходзіць і „памагае“. Падыйдзе, паўзіраецца і раптам закрычыць:

— Эге! Во яно ў чым...

Яму саступяць дарогу, ён падыйдзе, дакранецца пальцам да шасьцярні і, сумеўшыся, паківае галавой.

— Не... Тут нешта ня тое...

І ў замяшаньні адыдзецца ў бок.

Нарэшце кінулі няшчасную шасьцярню. Нехта зусім слушна прапанаваў:

— Пастаўце на шэсьць, дык будзе высяваць дванаццаць... Двойчы два—чатыры...

Так і зрабілі. Пакруцілі, зважылі, праверылі: сявалка працуе, як лепш і ня трэба...

Запраглі ў сявалку самага лепшага з калгасу каня (дзіва! — першы раз на сяўбу выяжджаем!) і ўрачыста пасунуліся праз ўсю вёску.

На сявалцы ехаў загадчык экономіі („экономіст“). А за сявалкай ішоў цэлы гурт калгасьнікаў на чале з самым старшынёй калгасу.

Сявалка займала ўшыркі амаль усю вясковую вуліцу—усе саступалі з дарогі, і гэта чамусьці нам падабалася...

Поле блішчэла пад сонцам матавым бляскам, шырока і густа дыхала плоднаю цеплю.

Дзеля большае пэўнасьці мы адмералі ўсё-ткі кантрольную дзялянку, каб яшчэ й на самай рабоце выверыць наш нясуверны інструмант.

Засыпалі насеньне. Яшчэ раз агледзелі мэханізм.

Усё гатова.

— Андрэй, пачынай!

„Экономісты“ крануў каня, і сявалка з лёгкім шуматам пашла па полю.

Мы стаялі ў глыбокім набожным маўчаньні і глядзелі, як іскрыстым веерам разьлятаецца па зямлі залаты дождж.

Адкуль быўшы, прыляцеў палявы гарэза—аксамітны ветрык і мяккім пацалункам прывітаў нас з першай сяўбой.

## 19

## Finis coronat opus

Маладая дзяўчынка, дзяўчынка Алеся пабяжыць у поле — радасная і вясёлая. Сінія вочкі яе будуць цьвісьці яснымі васількамі на ружовым твары.

На полі шырокім бяскрайным морам будзе хвалявацца жыта.

Жыта будзе бліскучае, пышнае, як залатое руно.

Маладая дзяўчынка, дзяўчынка Алеся саўе сабе з жыта прыгожы вянок і пойдзе да хаты, сьпяваючы вясёлую песьню.

На паўдарозе спыніцца дзяўчынка Алеся, каб паглядзець, палюбавацца на свой вянок. Здыме яго з галавы, і зайскрыцца раптам агністаю радасьцю.

Яна ўбачыць, што з жытніх каласкоў пазьвісалі сьмешныя такія—цыбатыя, жоўтыя лапкі.

Пабяжыць тады дзяўчынка Алеся, паскача, як лёгкая маладая козачка, прыбяжыць у сваю вялікую дружную сям'ю і закрычыць звонкім голасам:

— Гэй, комунары, зірніце! Ужо красуецца жыта!..

Май 1930 г.
Менск

# СТРЭЛ [1])

*(Вершаваная комэдыя*)*

**А. Безыменскі.**

*ПРЫСЬВЯЧАЕЦЦА ГЭТАЯ П'ЕСА ЛЮДЗЯМ І СІЛАМ, ЯКІЯ ЗЬЯВІЛІСЯ Ў БОЛЬШАСЬЦІ ЯЕ СААЎТАРАМІ*

*Ударнай комсамольскай брыгадзе Дняпропятроўскага*

*Трамвайнага парку.*

*„Комсамольскай Праўдзе".*

*Напостаўскай групе пролетпісьменьнікаў.*

*Сафрону Селіверставічу Селіверставу.*

*Маёй дарагой Рахілі.*

---

[1]) Гэтае выданьне ёсьць літаратурны варыянт п'есы. У такім выглядзе тэкст яе не для пастаноўкі. Сцэнічны варыянт п'есы знаходзіцца ў Маскоўскім таварыстве Драматычных пісьменьнікаў і композытараў (Модпік), куды і трэба зьвяртацца з запатрабаваньнямі. Нарушыцелі будуць прасьледвацца паводле закону.

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

Прышляцоў Уладзімер Авяр'янавіч—загадчык трамвайнага парку; член партыі.
Гладкіх Вадзім Фадзеевіч—адказны сакратар ячэйкі (адсэк). Носіць акуляры—ніяк не рагавыя.
Duньдзя—тэхнічны сакратар ячэйкі (тэхсэк). Прабор, да якога прышпілены твар.
Граеўскі Пятро—памоцнік загадчыка мэханічнай; член бюро ячэйкі; у грамадзянскай вайне быў начальнікам партызанаў.
Брэст—інжынэр загадчык мэханічнай.
Зьвягінцаў—інжынэр.
Куклінскі—тэхнік.
Чакмазаў—сьлёсар; раней, пры бэльгійцах, быў першым майстрам.
Горын—сьлёсар.
Пішчалаў—вагонаважаты; выключаны з партыі, як троцкісты.
Шалкуноў—кандуктар; былы гарадавы.
Кудрын—токар.
Шапталаў—сакратар завкому (старшыня ў водпуску). Пустое месца на парожнім.
Паноў—майстар.
Созін—брыгадзір.
Сьцяпанаў—токар.
Парт-цётка Мотка.
Парт-цётка Аўдотка.
Петрык Гаўрык—спрадвечны пачэсны хуліган.

Марынка.
Коржык-Жоржык.
Грак.
Ікун.
— Хуліганы проста.

Васіль—былы сакратар комсамольскае ячэйкі.
Дзямідаў—стары партыец, стары рабочы.

Іван Сарокін—брыгадзір.
Мікола Карчагін—электрык.
Сьцяпан Астапенка—сьлёсар.
Тодзік Уласюк—контралерысты.
Лена Высагорац—сьлёсар.
Якубка Рэйдбрук—сьлёсар.
Зьміцер Зелянкоў—сьлёсар.
— Ударная комсамольская брыгада капітальнага рэмонту.

Озоль—сакратар комсамольскае ячэйкі, член партыі. Павольны латыш.

Рабочыя, вагонаважатыя, кандуктары, контролёры, комсамольцы, комсамолкі, піонэры, хуліганы, сьлесар Быбалаў, інструктар райкому, інструктар губкому.

## ПРОЛЁГ

У тэатры зусім цёмна. На сцэне чуваць шолах — перагартаюцца паперы, часам лёгкі кашаль. Нудна гудзе муха. Голас прамоўцы вялы і слабы. Апошні сказ гаворыцца адным бесьперапынным пазяханьнем.

Голас Гладкіх.

Значыцца, таварышы,
Я канчаю.
Так ці іначай, кажучы карацей,
Бралі ўдзел у дэмонстрацыі Першага Мая,
Паставілі концэрт у Кастрычнікавы дзень.
Адносіны з адміністрацыяю больш чым гладкія.
Новы завком дапамагае значна.
Справаздачнасьць ячэйкі ў поўным парадку.
Пра настроі рабочых—глядзі ў справаздачы.
Самакрытыка разгорнута з дваццатага...
нядаўна.
(Адпаведныя абежнікі позна атрыманы).
Сяброўскія ўзносы спаганяюцца спраўна.
Утвораны ячэйкі—
Мопру, Авіахэму.
Продукцыйнасьць працы, бязумоўна падвысім.
Пытаньні рацыяналізацыі вырашаюцца пасьпяхова.
Паглыбляецца праца вытворчых камісій.
Пытаньне пра вылучэнства—прапрацоўваецца адмыслова,
З правядзеньнем колдагавору ня дужа шпарка,
Дырэктывы атрыманы ня ў часе, але-ж...
У агульным...
цэлым...
у ячэйцы трампарку
Ўсё
спа...
кой...
на...
на...
ка...
нешш...

На экране зьяўляецца і ўсё больш павялічваецца „не" і праз сэкунду на сцэне ў цемры чуецца стрэл.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## МАЛЮНАК ПЕРШЫ

Трамвайная канава. Направа ад гледачоў напалову відаць трамвайны вагон. Шэраг сьлёсарных цiскоў. Карчагін на страсе. Астапенка прыбівае дошчачку: „Абноўлены комсамольскаю брыгадаю капітальнага рэмонту“ Сарокін, Лена скачуць ад радасьці. Уласюк у задуме.

Карчагін:
Брррaткі, канчаем...
Лена.
Выпускаем.
Астапенка.
Цяпер—пячатку прыкладуць.
Сарокін.
Так, гэту справу мы канчаем.
Каб справы новыя пачаць.
Карчагін.
Ну-с,
Морген ранічкаю пусьцім
І наш вагончык пабяжыць...
Уласюк.
Мы радуемся дужа гучна—
Каб ціхіх смуткаў не нажыць!
Астапенка.
Што смутак? От яшчэ нахаба!
Адкуль яго-б нам занясло?
Сарокін.
Эх, румза!
Карчагін.
Скептык!
Астапенка.
Ныцік!
Лена.
Баба!
Уласюк.
Ну, дзякуй.
Праўда, за трапло
Вас ня лічыў дасюль яшчэ я.
А зараз брыгадзір і той...
Карчагін.
Так Маркс крычаў і зваў у бой.
Уласюк.
Не,
гусь крычаў...
пакуль ня зьелі.

Было занадта многа
слоў,
І працы рупнае—
ня надта.
А нават лепшая з прамоў
Для нас здабытак небагаты!
Хто нам у працы дапамог?
І дзе карысьць з прамоў глыбокіх?
Ці раптам заняты станок
Ці сьвідры зьніклі ненарокам.
Шукаў тарцовага ключа
Ці палускаты пазьнікалі...
Загадчыкі бягуць, крычаць—
У портфэлі комунізм схавалі.

Лена.
Ты супроць нашых перамог?

Уласюк.
Я? Вельмі рады...

Лена.
У чым-жа справа?

Уласюк.
Казаць з нас жвава кожны-б мог,
Працуюць вось ня надта жвава.

Сарокін.
От што, хлапцы!
я меркаваў
Сягоньня радавацца толькі,
Але калі дайшло да спраў,
Дык нам трымацца трэба стойка.
Я чуў размовы дзе-ні-дзе,
Што вось, ударнікі нам шкодзяць...
Брыгада-ж да таго вядзе,
Каб іх, старых, са сьвету зводзіць.
Быў Прышляцоў ля гэтай зьмены...

Астапенка.
І што-ж?

Сарокін.
Маўчаў.

Уласюк.
Чакай бяды!

Карчагін.
Вось—кадка,
дзе багата пены
І ні на кропельку—вады.

Лена.

На дзіва, хлопцы, справа ў нас!
Ўсё гладка. Ў небе сінь іскрыцца.
Ды словы з фактамі ўвесь час
У хованкі гуляюць быццам.

Сарокін.

Ды ёсьць рабочыя—за нас.
У бюро—Граеўскі. Хлопец ладны.

Астапенка.

У словах сакратар завяз...
Інструктар для млыноў дакладных!

Карчагін.

Яны? Упэўнены яны,
Што прызначэньне комунара—
Пячы паперы, як бліны,
Пячы бліны, як цыркуляры.

Астапенка.

А што-ж райкомаўцы?
Яны што—без вачэй?
Яны-ж у нас усім кіруюць стала?

Сарокін.

Яны—
наведваюць нас як мага часьцей
На перавыбарах,
урачыстасьцях,
скандалах.

Лена.

Ды што вы, хлопцы? Не зважай!
Ці нам-жа нюніць? Нутка, жвава!
Урра! Няхай жыве трамвай!

Карчагін.

Урра!

Усе.

Урра!

Сарокін.

Браткі, за справу!

Сарокін адыходзіць на час направа. Астапенка спускаецца пад вагон. Лена і Уласюк ідуць да клешчаў. Карчагін аглядвае бугель.

Карчагін.

Граеўскі йдзе сюды з Озолем.
Усіх Фордаў тэмпамі паб'ём!
Прыслалі ўчора з Губкомолу
І ўчора-ж стаў сакратаром.
Калі-ж, калі мы перайначым

Наш звычай цьвёрды, як закон.
На чвэрць
абраны намі ён,—
На тры астатніх ён прызначан.
Граеўскі.
Ну што за праца, хлопцы ўночы
Даўно ўжо час вам адпачыць...
Бо можа шчырым быць рабочым
І шчыра вечары любіць.
Озоль.
Поэт сказаў-бы: вечар, лета
І сон на вейках у дзяцей.
Карчагін.
А калі нам трамвай вось гэты
За ўсякае дзіцё бліжэй.
Граеўскі (сьмяецца, сядаючы).
Ну, што-ж? Працуйце. Мы-ж вас не нявлолім
Ляночак, любенькі, пагутары з Озолем.
(На вуха ёй).
Член партыі. Комвузец. Начатраду.
Пагутарыў я з ім... Таксама хлопец ладны.
Озоль.
У партсэкратара я адчуваў міжвольна,
Што будзе на мяне тут не малы нажым.
Астапенка.
У нас, брат, часта так. Ты добры бязумоўна,
Але ня в комуністых нашага раёну—
Дык возьмуць на нажы.
Озоль.
Прашу цябе, пра парк мне раскажы.
Лена.
Ну, што-ж расказваць тут? Жыцьцё ідзе звычайна.
Каму найвесела, каму ўсе аднастайна,
Адны працуюць тут, другія размаўляюць—
Той працы рады, гэты пэнсіі чакае.
Папера правіць тут на радасьць чалавека,
Не пазабыты й чалавек:
Прышыты, як квіток, навек
Да бюрократаўскага чэку.
Яно ўспрыймаецца ня так, як мае быць,
Але загадчык ходзіць ціхай ліскай—
Яму падважылі язык бязьмеры хісткі
І ў роце ў яго, здаецца, век сьвярбіць.
Людзей ня ведае, але ім гадзіць лоўка,

Пра крытыку крычыць, а рые яму ёй.
Мы-ж захапляемся прамоўнаю красой
І думаем часамі моўчкі:
Хто ў годнасьць увайшоў лісой,
У годнасьці той будзе воўкам.

Карчагін.
А іншыя прад ім у шэрагах стаяць
І тэзісаў набраўшы ў рот маўчаць.

Лена.
Адсэкр ЭлКаЭсЭм—адзаду ходзіць пешкам,
Мы працавалі ўсе і працай шла на лад,
А ён хадзіў вакол, пасьля пісаў даклад...
Пашана ўся яму, а справу робіць—нехта.
Але ў брыгадзе мы. Тут ёсьць партыйны ствол—
Граеўскі і яшчэ з вытворчасьці партыйцы
У працы й барацьбе дадуць нам кіраўніцтва.
Мы дапаможам ім, як верны Комсамол.
Яны далі старно! А нас вятры насілі!
Загадчык-гаварок—той нёс сваю лухту,
Нас прывіталі ўсе, пасьля сыгралі туш,
Пасьля сакратары някепска гаварылі,
Вось так стварылі нас...
І тут-жа пазабылі.

Озоль.
А Гладкіх? Сакратар? Ён як?

Карчагін.
Ён, проста, люба серадняк.
Ён не гарачы... не лядзяны...
Ня многа бачыць... не сьляпы...
Зірнеш—ня з дурных нібы...
Але адно...
У мазгох загана.

Усе сьмяюцца.

Граеўскі.
Трушком імкнецца з нас палова,
Ён—мчыць галёпам... ды якім!
Ня хлопец бегае за словам,
А слова бегае за ім.
От што. Сядайце, хлопцы, блізка...

Усе разьмяшчаюцца вакол яго.

Наш Гладкіх сьпіць, а паміж тым
Хто-колечы рыхтуе гідкасьць
І хоча зьнішчыць вас зусім.
Мы часта вырастаем годы,

А лапухі ўзьбяруцца ўраз...
Вы гультаям не да ўспадобы!

Лена.

Што-ж гэта? Комплімэнт для нас?

Граеўскі.

Не, гэта вартавога слова.
Напружце зрок. Ня верце ім.
Калі ня быць старому новым,
Бывае новае—старым.

За сцэнаю крыкі.

Убягаюць Рэйдбрук і Зелянкоў. За імі Шалкуноў, Горын, Пішчалаў, тры кандуктары.

1-шы кандуктар

Глядзеце. Бррыгада продукцыйнасьці працы.

2-гі кандуктар.

Нікчэмныя змаганцы за індустрыйную дурасьць!

Горын.

Заўсёды, свалата, рады старацца
За рабочую клясу—за ўласную скуру!

Шалкуноў

Ну, што! Папра́вілі сваю пацканіну?

3-ці кандуктар.

Сялянскія хваробы, відаць, абрыдлі?

Сарокін.

Хадзі сюды! Так папраўлю ў хвіліну,
Што будзеш зьбіраць сябе два тыдні!

Пішчалаў

Прадалі рэволюцыю, дзелячы грошы!
Ды дзе я? Ды што я? Дзе ленінская мэта?

Карчагін.

Ну, ты! Опозыцыйная галёша!
Паглядзі на суседа—пабачыш дзе ты.

Шалкуноў.

Ну, што-ж! Вам суседзік муляе ў вачох?

Горын.

Эй, вы! Працаўнікі на нашым утрыманьні.
Прыдзе мой час—і, бачыць бог,
Зраблю з вас яешню за маё шанаваньне.

Озоль, які ўвесь час стаяў у баку, заклаўшы рукі за сьпіну, ідзе проста на Горына узіраючыся яму ў вочы.

Озоль.

Ну, што-ж ты! Бі!..

Горын (адступіўшы).

Ну, ты...

Озоль.

Ня хочаш?
Ты хто? Ды дзе ты? Чый ты друг?
Ты называешся рабочым,
А стаў падлюгаю з падлюг.
Цябе з трампарку гнаць-бы ў карак,
А нутка...
Рукі разгарні!

Горын, трохі зьбянтэжыўшыся, паказвае рукі.

На руках
мазалі пролетара,
А на вуснах—
Мазалі хлусьні.

3-ці кандуктар (крычыць).

На вёсцы што вы наўчынялі?
Савгасы—гультаі наўкол!

Озоль.

Ды мы пра іх-жа не казалі!

3-ці кандуктар.

Усё роўна мне. Я пра адно.

Граеўскі

Прэч, Пішчалаў! Ціха, шкет,—
Таварыш былы партбілет.

З таго боку, дзе трамвай, ідуць Гладкіх і Прышляцоў.

Гладкіх.

Гарачыцца вам ня раю,
Ня турбуйцеся дарма,
Афіцыйна заяўляю:
Небясьпекі правай
Па існасьці справы
Няма.

Прышляцоў.

Здаецца сход? От гэта лоўка!
Ізноў бунтуе комсамол.

Гладкіх.

Што за таемная групоўка?
Вы атрымалі мой дазвол?

Прышляцоў (Сарокіну).

А! брыгадзір! Цяпер героем!
Трамвай ты скончыў? Добра, брат...
Цяпер мы сьвята разам зробім
І я зраблю на ім даклад.
З вас кожны з радасьцю працуе—
На полі, у шахце,—гэткі лёс!

А мы... няблага ўсё-ж кіруем—
Так працу падзялілі вось.
І вы, і мы—ў пакутах цяжкіх,
Мы ўсе—ўзяліся будаваць...

Сарокін.
Часьцей
У буднях лепш заўваж ты,
А ў сьвята
нас і так відаць!
*Гонг.*

## МАЛЮНАК ДРУГІ

Габінэт сакратара ячэйкі. Два сталы. За імі Гладкіх і Дуньдзя. За Дуньдзявым сталом—шафа з палічкамі, папачкамі, наклеечкамі. Над сталом Гладкіх плякат: „Таварыш! Не забудзься выйсьці."

Гладкіх. (Сурова і чотка вымаўляючы склады),—
Цэх-сэк-трохдзёнкі?
Дуньдзя.
Поруч вось.
Гладкіх.
Аргрэз, пункт восем?
Дуньдзя.
За закладкай.
Гладкіх.
Узносы?
Дуньдзя.
Ёсьць!
Гладкіх.
Пошт-справы?
Дуньдзя.
Ёсьць.
Гладкіх.
Ну, добра.
Значыцца ў парадку.
... Дзе ўчора быў політгурток?
Дуньдзя.
Ня дужа многа... хто зьявіўся!
Унесьці пункт аб ім я мог,
Але... здаецца, не адбыўся.
Гладкіх.
Загадчык дзе?
Дуньдзя.
Заняты!.. (ціхутка)
Сьпіць

Гладкіх.
Як МОПР?
Дуньдзя.
Увязаны... патроху.
Часопісь мы маглі забыць—
„Бязбожнік"... ды чысла другога
Яе даслалі...
(няпрыкметна жагнаецца)...
дзякуй богу.
Гладкіх (піша і перадае паперу Дуньдзі)
Вось мой загад, тэхсакратар—
Каб партсаўлазьняй нас ня зганіць,
Хутчэй заводзьце каляндар,
Адзначце тэрміны кампаній
Дуньдзя.
Ёсьць!
Гладкіх (жаласьліва).
Так у працы чалавек
Жыцьцё жыве, як няпрытомны...
Яшчэ раз помніце, тэхсэк...
Усё
„Як трэба"
каб было мне.
Дуньдзя (падыходзячы на цыпках да Гладкіх)
Вадзім Фадзеіч! Я прастак.
Служу нядаўна. Усё ня ўбачыш...
Зрабіць імкнуцца буду так...
Але усё-ж...
Што гэта значыць?..
Гладкіх.
„Як трэба"?
Пэўна, што яно,
Бясспрэчна цяжка і складана,
Даецца з потам на чале,
Алле!
У ім стрыжань нашай працы,
І трэба памятаць адно.
Сумленна працаваць па пляну,
Падшыць, як трэба, справаздачы,
Дзе трэ'—пячатку прыкладаць,
У час кампанію пачаць
І... ў тэрмін скончыць, бязумоўна.
Сачыць за тым, каб пасьпяхова
Бягучы момант правялі,

Каб проценты ў нас ня былі
Нідзе ніжэй патрэбнай нормы.
Нідзе не адыйсьці ад формы.
(так можна сутнасьць захаваць)
Пра вылучэнцаў прыгадаць,
Вядома, у канцы дакладу.
Каб дэмонстрацыю наладзіць,
Хоць і малую,
а сабраць.
Дыскусій заўжды унікаць,
Запал адкінуць бяссэнсовы.
Білеты добра падлічыць.
Усіх у час паведаміць,
Што дзень жанчын—сакавіковы,
А Ленінскі—ў студнёвых днёх.
Бязбожным коляды... як даўней,—
А МОПР, у дзень Комуны слаўнай
Ўсіх спрэчак ведаць пабудову
І посьпеху дабіцца ў іх.
Каб крылі ў спрэчках ўсё і усіх,
Але... бяз клопатаў вялікіх,
Бяз выпадаў залішне дзікіх.
Актыўнасьць, любы, трэба нам,
Як шкодзіць не пачне яна.
Нам падрыхтоўваць справаздачы...
Ну, з большага,
я ўсё адзначыў.

Дуньдзя на цыпках варочаецца за свой стол. Уваходзіць Кудрын.

Ты што?

Кудрын.

Я от што... Так сказаць...
Яно, канешне... ўсё такое...
Нідзе ня маю супакою.

Гладкіх.

Сказаць ня можаш—трэ', маўчаць.

Кудрын.

Не! Мне маўчаць абрыдла нават.
Я ў партыю ўвайсьці хачу.
Ну, паслужыць для роўнай справы
І ну, канешне, Ільлічу.
Я, брат, жанаты. П'ю я ў норме...
Дванаццаць год—працоўны стаж...

Гладкіх (даючы паперку).
Пішы анкету згодна формы,
А там разгледзім...

Кудрын.
Не, брат!..
Я-ж
Тут не за гэтым! Праўда тое,
Што ёсьць мяне завошта крыць—
Дык ці ня можна нам з табою
Удвох калі пагаварыць?
Мо', гэта ад неразуменьня
Ня ўцямлю сутнасьці ніяк,
Мяне замучылі сумненьні.
Сумненьні! вось што! Што і як. .

Гладкіх (капаецца ў портфэлі)
Якія тут сумненьні ў справах?..
Прагледзь програму, статут зноў.
Як згодны
Дык пішы заяву.
Нязгодны—
Дык бывай здароў!

Кудрын.
Тава...

Гладкіх.
Гультайства вам ня ўдзіва,
А у мяне мільёны спраў!
Я ўсе чытаю дырэктывы...

Кудрын.
А чалавека...
Прамаргаў.

Паволі ідзе да дзьвярэй. У дзьвярах спатыкаецца з Граеўскім, Озолем і Шапталавым.

Граеўскі (схапіўшы Кудрына за плечы).
Ты што?

Кудрын.
Нічога.
Да спатканьня!

Граеўскі.
Быў у бюро?

Кудрын.
Не. Рыб цягаў.
І вельмі гладкіх.

Гладкіх.

Што-ж ты маніш!

Граеўскі (Кудрыну)

Стары, спакойна! Ты ўзлаваў.

Озоль.

Дарма ты круціш, братка. Ціха.

Граеўскі.

Ты заўтра да мяне прыходзь.

Кудрын.

Ну, добра. Буду можа, хоць...

Крычыць да Гладкіх.

Эй, ты! Не чалавек, а фіга!

(Выходзіць).

Дуньдзя.

Падумаеш, з якой агідай!..
Як дзеўчынка... і „ох" і „ах"

Граеўскі (узроўшы).

Замоўч!
Тэхнічная ты гніда!
Чарнільніца на двух нагах!

Дуньдзя спалохана зьбірае паперы і выходзіць. Озоль утрымоўвае Граеўскага.

Шапталаў.

Ну, Ну, Не партызань, дзівача!
Тут трэба мірны падыход.

Граеўскі.

З бандытамі змагаўся—удача
З начальствам,
Дык наадварот.
Глядзіш—спэцук зьбірае пенкі
На пролетарскім малаку.
Раней адразу—
марш да сьценкі!
А тут—
Мэрсі-с, Мусью Шпіку.

Озоль.

Які, брат, спэц!

Граеўскі

Але-ж, напэўна.

Шапталаў.

Дык што крычаць? Жыцьцё ня зьбегла...

Граеўскі (да Гладкіх, які піша).

Рыпіш у славу Комінтэрна?
(Эх, морда так і просіць цэглы)

Ну, справа ёсьць—Ты дай нам рады.
Прышлі падмогі адшукаць.
Ты чуў, што ёсьць у нас брыгада?

Гладкіх (не падымаючы галавы).

Так, нешта чуў там...

Граеўскі.

А Цэка?

Гладкіх.

Так, нешта чуў там...

(Усе сьмяюцца).

Што такое?
Што насьмяшыла там Вас?
Ат,
Нарэшце, дайце мне спакою!
Сьвет пачакае. Тут загад.

Граеўскі.

Хай пачакае.

Шапталаў.

Ну, й задзіра!

Граеўскі.

Ты ня чмуці нам галавы!..
Дык от што. Трэба брыгадзіра
На час адправіць да Масквы.
Ня словам ганарыся—справай,
Ня тым, што толькі мусіць стаць—
Ён хлопец малады і жвавы,
Ён можа шмат карысьці даць

Гладкіх.

А экономія? Наказ?
Наш каштарыс ня так багаты!

Озоль.

Ашчаднасьць ваша іншы час
Бывае горшаю растратай.

Гладкіх.

І ты туды-ж? Двух слоў ня зьвяжаш!

Шапталаў (раптоўна ўскочыўшы)

Дык што-ж! Мы толькі трапачы?

Гладкіх.

На перавыбарах
раскажаш,
Ну, а пакуль—
маўчы.

Шапталаў.

Ды я нішто...

Озоль.

Таварыш...

Граеўскі.

Так вось
Ганьбуе факты комуніст?

Гладкіх.

Тады ў нас факт бывае фактам,
Калі ў абежніку стаіць.

Граеўскі.

Ты—як калода тут капціш,
Жыцьцё жывое толькі гадзіш.
(Больш спакойна).
Не, каму-небудзь
давядзецца адыйсьці—
Або табе,
Або Савецкай уладзе

Гладкіх.

Вось дэмагог-жа! Вось характар!
Аўторытэт грызеш, як мыш!
Ды я-ж от дам такія факты,
Што ты ў хвіліну замаўчыш.
(Загінае пальцы)
Нябожчыка Іванава меліся адправіць на рабфак...
Факт?
Ухвалілі Келёгавы пакт...
Факт?
Амаль што падпісалі з заводам контракт...
Факт?
Наладзілі са спэцамі контракт...
Факт?
А ты крыкун, а ты дзівак,
Разьдзмухаўся, каб нас зьняславіць?

Озоль.

Ды ты кажы нам не пра факт,
А тое, што ў нас ёсьць на справе.

*Гонг.*

## МАЛЮНАК ТРЭЦІ

Пасьля рэплікі Бывалава ўключаецца „конструкцыя тэмпа“ для правядзеньня перабежкі сцэнічных мініятур. Яна выяўляецца ў сыстэме „сцэнічных вокнаў“, якія перакідаюць дзею з аднаго месца ў другое. У адных сцэнічных вокнах могуць зьяўляцца розныя дзейныя асобы пры адпаведнай зьмене дэталяў, паводле волі рэжысэра. У прыватнасьці можа рэкомэндавацца кіно, якое паказвае за дзейнымі асобамі які-колечы краявід. Рэкомэндуецца наступнае афармленьне для асобных сцэнічных вокнаў: кут габінэту, вуліца, сходкі, дах трамвайнага вагону; кут таварнага варштату, пляцоўка каля нараду для кандуктараў і важатых. Іншае—паводле рэжысэравых меркаваньняў. Па авансцэне, крэкчучы, праходзіць Бывалаў.

Бывалаў.
Няма змаганьня... Нудна ў нас...
Пабудавалі трохі—годзе...
А быў калісьці гэткі час
У дзевятнаццатым хоць годзе!
Няма ў жыцьці больш пекнаты.
Гадзюка час цяпер...
Ды што там!
Дзе барацьба?
І дзе франты?..
Адна нуда...
Нуда...—
Самота! (Выходзіць)

І-я мініятура.

Прышляцоў, Лена, Зелянкоў, Рэйдбрук.

Прышляцоў.
Даволі дробязнай пацехі!..
Сусьветных нам патрэбна спраў!
Плян рэволюцыі па цэхах
За два-тры тыдні я-б уклаў.
Усю вытворчасьць перайначыць
Прэч бугель! Павяліч напор!
Працуй з кардоннай перадачай!
Даеш ня-два—адзін матор!
І наш трамвай, пакуль што сумны
Абернецца ў зялёны май.

Лена.
Пра рэволюцыю на вытворчасьці
думай,
Але справы
не забывай.

Прышляцоў.
Як гэта? Як?

Лена.

Ды вельмі проста—

Зелянцоў.

Усе, як ёсьць, нарады ў нас
Густою парасьлі каростай.

Рэйдбрук.

Ня праца—
гутаркі ўвесь час.

Лена.

Сто—лучнасьць,
а ці трапіў хто-ж?

Рэйдбрук.

То сотні ўшчэнт—
або шкадуюць грош.

Зелянцоў.

Куды ня плюнь
адно здарэньне:
Камісія ці пасяджэньне.

Прышляцоў.

А плян?

Лена.

А праца?

Прышляцоў.

А даклад?

Зелянкоў.

Плян ёсьць! Работухна ў магіле.

Лена.

Два пасяджэньні прадурылі
На тое, каб купіць домкрат.

Рэйдбрук.

А дзе шчыткі? дзе полускаты?
А вадкаваты брудны ляк?
Шалёныя звароту страты?
А ізоляцыя? А брак?

Прышляцоў.

Вы што гэта на мне павісьлі?
Па-ра-ю вам суцішыць спрыт.
Я дазваляю нават мысьліць,
Але ніяк не—гаварыць!

Лена.

А самакрытыка? Маўчацьме?
Яна для вас, напэўна, нуль?

2-я мініятура.

Гладкіх.
Мы, здэцца, гэтага няшчасьця
Яшчэ—пазбаўлены пакуль.

3-я мініятура.

Прышляцоў (адзін).
Я перамог! Я перамог! Я перамог!
І вось нарэшце я—загадчык парку.
Чорт пабяры, адменна!
Я паказаць сябе цяпер здалею
І шмат каму я многа пакажу.
Трампарк ты мой! Аднэю толькі сходкай
Ты будзеш у далейшым для мяне,
Умацавацца на той сходцы моцна—
Цяпер маё галоўнае заданьне.
Вось статут мой: ўсіх ляпаць па плячы,
Але ні з кім ня быць за панібрата,
Адлегласьць вызначыць паміж сабою
І шэрагамі служачых ды іншых,
Ціхутка абыходзіць супаратаў,
Нахабна лаяць ворагаў бясспрэчных,
Паболей пра рабочых гаварыць,
Ды гаварыць, вядома, не для іх—
Для ашчадкаў і для стэнографістак.
Упасьці ў ласку моцных і вышэйшых
І кіраваць пяхотаю унізе;—
І прынцыповасьцю... хе...—хе!.. пачапурыцца,
Зусім ня грэбаючы анічым сапраўды.
Са спрытам об'ектыўнасьць паказаць,
Але выгодную, вядома, об'ектыўнасьць:
Не пагадзіцца там, дзе пяць на дваццаць сто,
І пагадзіцца там,
Дзе двойчы два—
чатыры.

4-я мініятура.

Граеўскі (сьціскаючы галаву).
Эй, сволач!

5-я мініятура.

Прышляцоў.
Хто мяне заве?

6-я мініятура.

Граеўскі.

Нам трэба кінуць заклік грозны.
Таму хто пашыраць гатоў
Конвэер задалізаў гожых
І проста шчырых брахуноў.

7-я мініятура.

Прышляцоў.

Інжынэр! У вытворчасьці я—розум, прычым
Вам я даручыў абавязкі вока,
Вагон 108, з невядомых прычын,
Учора
вярнуўся
з лініі
двойчы.

Брэст.

Але я не магу парвацца на часткі!
Пад маім загадам чалавек СТО!
За гэта адказвае які-небудзь майстар.
Але будзьце спакойны, я даведаюся хто.

8-я мініятура.

Гладкіх (рабкору. Той перад ім выгінаецца).

Хто чым выдатны,
ўсё прапішы.
Што ўсе, значыцца, будаўнікі індустрыі...

9 мініятура

Кудрын (рабкору).

Пішы,
Што выдатныя ўсе да душы,
Таму што ўсе
да душы благія.

10-я мініятура.

Брэст.

Майстар! У вытворчасьці—я розум, прычым
Вам я даручыў абавязкі вока.
Вагон 108, з невядомых прычын,
Учора вярнуўся з лініі двойчы.

Панаў.
Але я не магу затыкаць усе дзіры!
Пад маім загадам дваццаць чалавек!
За гэта адказваюць якія-небудзь брыгадзіры
Але будзьце спакойны, я зараз пабег...

11-я мініятура.

Горын.
Хто на язык з нас ня крывы?
Хто з нас ня хлусіць хоць і ценька?

Сьцяпанаў.
А з-за брыгаднае братвы
На шмат панізяць нам расцэнкі.

12-я мініятура.

Панаў.
Брыгадзір! У вытворчасьці я—розум, прычым
Табе я даручыў абавязкі вока.
Вагон 108, з невядомых прычын
Учора вярнуўся з лініі двойчы.

Созін.
Мне што—парвацца? Каб табе трэснуць!
Пад маім загадам восем чалавек.
За гэта адкажа які-небудзь сьлесар,
Але ты будзь пэўны. Я зараз пабег...

13-я мініятура.

Гладкіх (чытаючы газэту).
Таварыш сакратар!
Пытаньне
Загад адменна асьвятліў.
Даць тэрміновае заданьне
І правы адшукаць ухіл.
Напрацаваў сабе кілу я
І раптам лаюць! Што за злосьць!
Ўсіх літар водгалас я-ж чую,
На то-жа акуляры ёсьць.

14-я мініятура.

Карчагін.
У акулярах
ён, дзівак,

Забыўся на адно міжвольна,—
Пустыя вышкі аніяк
Ніхто ня будзе шкліць падвойна.

15-я мініятура.

Созін, Горын, Сарокін

Созін (Горыну).

Ты што-ж, брыдота, у бога, у кроў!
За даўнія загады ўзяйся?
Чаму вагон 108 зноў,
Зноў двойчы з лініі вяртаўся?

Горын.

Няма нідзе патрэбнай часткі!
А я-ж адзін—вагонаў сто!
Ты брыгадзір. А як-жа майстар?
А інжынэр? Загадчык што?
Наверсе—горла надрываюць,
А тут і роту не адкрыць
Калодкі тыднямі чакаюць,
Шплінта—і тое не здабыць.

Сарокін (падымаючы з падлогі гайку).

А гэта што? Мы бачым самі!
Няма чаго хлусіць дарма.
Ляжыць багацьце пад нагамі
Яму нагнуцца—сіл няма.
Ды ты-ж капейку прымеш з ганку,
Ты грош з падлогі падбярэш,
А вось карончатую гайку,
Не паглядзеўшы, прамінеш.

Созін.

Ня злуй ты. Ён не абібок.
Што праца! Ў падыходзе справа?
(Горыну) На лінію каціся жвава.
Рабі... што-небудзь там, браток.

16-я мініятура.

Карчагін.

Скажы,
скажы, як нам трымацца,
Каб не пачуць нідзе маны.

Озоль.

Ня будзеш у людзей пытацца,
Ня будуць нам хлусіць яны.

17-я мініятура.

Прышляцоў.

Ад комсамольцаў мне нязносным
Зрабіліся жыцьцё і сьвет.

Гладкіх.

О! Нам вядомы пэўны спосаб:
Я іх паклічу ў габінэт.

18-я мініятура.

Стаіць Чакмазаў і Шалкуноў. На экране тлустая рука трымае два зьвёны ланцуга. Калі Шалкуноў называе людзей, на экране дадаюцца зьвеньні.

Чакмазаў.

Дагаварыўся? Усё гатова?
Пароль умоўны наш—„харчы“.
Былы твой чын—гарадавога
Мы ў прыставы...

Шалкуноў.

Маўчы, маўчы.

Чакмазаў.

Ды хто там ёсьць?

Шалкуноў.

Хлапцы чатыры.
Адзін даўнейшы афіцэр,
Другі,—
меў краму пры цары ён,
Яшчэ эсдэк,
Яшчэ эсэр...

Чакмазаў.

Так, гэткі нам тавар згадзіцца—
Атрад адменных дзяцюкоў.
Калі-ж былыя ёсьць партыйцы,
Дык сьцеражыся ўласных слоў.

Шалкуноў.

Трацкісты,
меншавік—
а трасца
Цяпер адна.
Вось навічкі
Ня звыклі хоць да нашай працы,
Дык хутка звыкнуць.

(На экране зьвяно).

Чакмазаў.

Дзівачкі!
...А інжынэр наш злосны... цішай!..
(На экране зьвяно).
Дык ён за межы... так-с... пра нас...
(Шэпча нешта на вуха).

На экране зьяўляецца перадапошняе зьвяно. Канцы нязлучанага ланцуга выгінаюцца, імкнуцца злучыцца на месцы апошняга зьвяна, ці зьяўляецца, ці зьнікае пытальнік.

А сакратар ячэйкі піша...
Няхай-жа піша... Блізка час...

На экране апошнім зьвяном зьяўляецца портфэль. Ланцуг злучаны. Рука цягне ўвесь ланцуг да сябе.

19-я мініятура.

Група трамвайшчыкаў, пасярэдзіне Сьцяпанаў.

Бядняк, бач, ім трэба,
кулак не гадзіцца...
Усё цягнуць і цягнуць.
Куды?
Пад адхон?
Ну вось паглядзім, як яны—комсамольцы
Паправяць цяпера другі вагон.

20-я мініятура.

Група трамвайшчыкаў. Пасярэдзіне Горын.

Расцэнку панізяць!
Прагулы пазьнішчаць!
Загналі!
Прыціснулі!
Поўны прыгон!
Ну вось паглядзім, як яны, комсамольцы
Паправяць цяпера другі вагон.

21-я мініятура.

Група людзей. Пасярэдзіне Петрык Гаўрык.

Гаўрык.

Прэч з клюбу папёрлі!
Гардзяцца паршыўцы!
Навучым!
Правучым!
ў памыі!
ў агонь!
Ну, вось паглядзім, як яны, комсаплiўцы,
Паправяць цяпера другі вагон.

22-я мініятура.

Група трамвайшчыкаў.

Пакажам!

Накажам,

брыгадам

жабрачым!

Другі іх вагон

разбазарым у дым.

По чарзе загараюцца ўсе вокны. У кожным група, якая вымаўляе адно слова.

Угледзім!

Пабачым!

Угледзім!

Пабачым!

Угледзім!

Пабачым!

(Усе разам)

Паглядзім!

Канструкцыя тэмпу выключаецца. Сярод сцэны ўся брыгада, рабочыя.

Граеўскі.

Нам зразумець патрэбна, браткі,
Дзе наша моц, хто чым слабы...
Брыгада робіцца выпадкам
Апорным пунктам барацьбы.
Выпадкам! Так я паўтараю.
Усім нам разам трэба быць,
Ды нехта сыты, нехта сьпіць,
А ў некага і хата з краю.

Сарокін.

Калі мы ўсе стаім за працай
Па сто вачэй пільнуюць нас...
Я, ў вогуле, ня звык баяцца,
Ды боязна мне іншы час.

Граеўскі.

Знайшоў запіску я ў сябе—
У ёй пагроз вялікіх поўна.
Сьмялей-жа, хлопцы! Янка, помні,
Што адпаведнасьць на табе.
Нам пагражаюць. Вораг блізка.
Цяпер дарога ў нас адна!

Лена (ускокваючы на трамвайны вазок).

Вітаньне шлю табе запіска,
Табой абвешчана вайна.

*Гонг.*

(Працяг будзе)

З расійскае пераклаў **Юлі Таўбін**.

# У ПАЎСТАНЦАЎ [1])

(Жывыя кавалкі з жыцьця жывых людзей)

**М. Нікановіч**

*29 студзеня 30 году. Колгас „Селянін“.*

Досьвіткі. Я прачнуўся ад стукату дзьвярэй і чапялы аб скавародку. Жонка Новікава пякла бліны і ўжо каля ражкі цеста ўзрос цэлы стос пульхных і наздраватых, жоўтых, як месяц, бліноў.

З-пад коўдры я зірнуў на ложак, дзе спаў Андрэй. Яго ўжо ня было. Дзед тож недзе прапаў. Ледзь толькі пачало брацца на золак—Андрэй пайшоў па колгасу. У яго ніколі няма часу. І гэта ня жартачкі: трэба ўмець трымаць у руках і ўмела кіраваць колгасам, іначай—усё можа пайсьці дагары нагамі.

Неўзабаве ўваліўся дзед, абцёр з вусоў і барады мерзьлякі, абабіў ногі і з гаспадарчай руплівасьцю ўзяўся дапамагаць сваёй дачцы каля печы.

Прыходзіць Гур. З-за парогу прыемная хатняя цеплата накладае на яго малады і здаровы твар, усьмешку.

— А-а-а... і мароз ведаеце. Каб ён праваліўся!..

— Лысых трэ' было-б падлічыць...—З сур'ёзнай мінай падае дзед і бярэцца за хлебную дзяжу. Мы збольшага пасьнедалі і вышлі аглядзець багацьце колгасу.

— ... будзем аглядаць кожную рэч і не забывайце,—што мы тут толькі з дваццаць восьмага году... Гэта галоўнае...

На кустох бэзу разам з вераб'іным крыкам качаецца рэдкае, яшчэ зімовае, сонца.

Крычаць на адлігу вароны.

Перад вачыма: вялізны, увесь у кустох бэзу, дзядзінец. З правага боку—сад і гаспадарчыя будынкі колгасу, далей рака, з левага—да агульнага вялізнага дому прытулілася школа. Тое, што ўчора, прыехаўшы ў колгас, бачыў я колгасны будынак і мне здалося оранжэрэяй, была і сапраўды раней, пры пану, оранжэрэя. Колгасьнікі з дапамогай РВК зрабілі ў ёй добрую, сьветлую і прасторную школу. А школа і на сёньнешні дзёнь яшчэ на бюджэце РВК.—Будзе, зразумела, час, калі яна пяройдзе цалкам на ўтрыманьне колгасу, але цяпер, пакуль што,—яшчэ рана.

[1]) Гл. „Полымя“ № 3 за 1930 г.

З леташняга году перад колгасьнікамі паўстала ва ўсю веліч пытаньне—ліквідацыі няпісьменнасьці, як асноўнае, без чаго нельга будаваць новы быт. І летась-жа чатыры чалавекі працёрлі сабе вочы. Сёлета—няпісьменных і сярод колгасьнікаў няма.

А каб удасканаліцца (а патрэба такая—як жыць) захацелі тыя, што летась скончылі лікпункты. І сёлета яны ізноў у школе. Цягнуцца да лікпункту і з пасёлку „Новадвор'е“ (маёнтак Новадвор'е зьліквідаваны, а пасёлак—дзе жывуць на прырэзках былыя батракі—яшчэ і сёньня носіць назву маёнтку).

Летам летась у гэтай праcторнай і сьветлай (вокны ва ўсю сьцяну і на поўдзень)—будыніне дзіцячыя ясьлі. Ізноў-ткі, на сродкі РВК, працавалі тры жанчыны спэцыяльна для гэтага прысланыя, для агляду і работы ў ясьлях. Дзяцей—дваццаць шэсьць. І колгасных толькі шэсьць пузаноў—рэшта-ж вясковая і пасялковая бедната.

Узімку вучацца з колгасу пяцера дзяцей, а рэшта—дваццаць два—з агароднікаў

У той момант, як выйдзе ў сьвет гэтая кніжка (нарысы), колгас „Селянін“ ужо будзе мець у сваім складзе сто сем'яў. Гэта факт. Вось пры колгасе будуць пастаянныя дзіцячыя ясьлі і дзіцячы сад—Бо...

— да колгасу далучаецца вёска Агароднікі—

— да колгасу ідуць былыя батракі, што на пасёлку Новадвор'е...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...І вясна ўнясе ў колгасную гаспадарку вялізарныя і сьветазарныя зьмены.

Што да гэтага часу ў колгасе было толькі 60 гектараў зямлі (дзе ты тут і як ты тут разгорнешся???), дык з вясны аднэй толькі пахаці будзе звыш паўтысячы гектараў... А ўсяго і сенажаці і пахаці і выганоў—больш тысячы.

Іначай і быць ня можа. Ранейшыя прырэзкі індывідуальным гаспадаркам, вёска Агароднікі, ды купленая зямля ў былы час былога фальфарку Мікалаеўшчына—усё гэта ідзе пад колгас „Селянін“. І вось толькі з вясны ўводзіцца дзевяціпольны севазварот замест ранейшага пяціпольнага ў колгасах і на былых сялянскіх шнурох—трохполкі.

Якія-ж тут могуць быць ураджаі?.. Як першая спроба, як практыка, у мінулым годзе падсеялі на азімы і яравыя кліны, трыста пудоў супэрфосфату, ды на агарод—дваццаць чатыры пуды калійнай солі. Падклалі пад малады сад 200 кіло кісла-серкавай амоніі. І ўраджай колгас меў такі: жыта—100 пудоў з гектара, а авёс—90, бульба—тысяча.

А суседнія вясковыя нівы плакалі худымі заморкамі, пляшывасьцю на загонах, сьвістаў вецер у гумнох, нылі сьвірны галодным брухам засекаў.

З сялянскіх плеч злазіла шэрая сьвітка. Лазовыя лапці—на сьвята і на будні.

І яшчэ—

— Сьлёзы, крыўда, папрокі, лаянкі, тумакі, шырокія і далёкія як далёкае шчасьце, беларускія шляхі.

... Гэта былі свабодныя рукі, рукі, праўда, з мазалямі, але без зямлі і мо' таму ныла бедната, шукала выйсьця, сквапным вокам паглядала на шляхі, у город—там знайсьці шчасьце на заводах, фабрыках...

А шчасьце гэтае было тут-жа ж, пад носам, на колгасных абшарах, на зямлі ўзоранай другім плугам, машынай. Шчасьце стваралі, па новай зямлі новыя людзі, жывыя людзі. Стваралі яго ўпарта, настойна. Так толькі можа дажджавая капля тачыць камень людзкой скэптычнасьці, варожасьці да новага, каб гэты камень рассыпаўся і сваім прахам на зямлі быць толькі прахом.

... Высеялі колгасьнікі на трох гектарах караньплоды. Але гэтага мала. Зямля яшчэ пустуе. Трэба эканоміць. Андрэй гэта можа. Ён засяе на двух гектарах караньплодаў, паміж радамі,—гуркі. Урадзіліся і караньплоды і гуркі: гектар караньплодаў—дзьве тысячы пудоў. А гуркі...—хоць ты плач—збыту мала.

Слуцак горад невялікі, улетку на базары зяляніны хоць ты расьпеража́ся. Ідзе яна за дзешавізну. А далей, за Слуцак—куды ты вывезеш? Да гэтага трэба адмысловая і ўпакоўка і месца і час. Прападаць гуркам нельга. Не скармліваць-жа імі сьвіней!

Колгасьнікі засольваюць сямнаццаць бочак гэтых гуркоў і спушчаюць іх у раку. У рацэ ня псуюцца. Гэрмэтычна закупораныя, без паветра—яны будуць стаяць так, сьвежымі, маласольнымі, аж да новых.

Сёньня ўжо даюць колгасьнікам па 20 рублёў за бочку. І гэта тады, калі самім кожная бочка—тры рублі. Яшчэ не прадаюць. Чакаюць. Мізэрныя грошы былі і за сад—тысяча дзьвесьце рублёў. Што-ж зробіш—рынак.

---

Каля сьвірна: вазы, вазы і вазы... Бегаюць, падскокваюць людзі, лопаюць рукаўкамі аб зацмуголяныя кажухі, жартуюць і ссыпаюць збожжа.

— А мо' хочаце паглядзець, як у нас праходзіць ссыпка насеннага фонду?—усьміхаецца Гур.

— А чаму-ж не?! Хадзем!

І гэта сяляне з Цароўкі ссыпаюць насенны фонд у колгасны сьвіран. Ужо было ссыпана трыста пудоў аўса. Пятнаццаць—ячменю, два пуды грэчкі і семя ільнянага адзін пуд. А сьвіран вялізны, шчыльны—сюды можа зьмясьціцца ўсё цароўскае і агародніцкае збожжа. І плывуць, калышуцца на дзябёлых запрацаваных руках прамёрзлыя мяшкі, з пахам жытняга пылу і восяці. Тупат абледзянелых лапцёў. Бразгае на сярэдзіне сьвірна вага. Тарахціць сартоўка. Збожжа ачышчаецца на ўсе сто процантаў.

Ад вагі і да засекаў, ад засекаў да мяшкоў і сартоўкі, ад сартоўкі—на двор да сялян наруе маленькі чорненькі дзядок. Бародка ў аржаных

асьцюкох і аўчынай шапцы і ў каўняры. Сетка змаршчакоў: у гэтых змаршчакох на худым жартаватым твары—чорныя, разумныя, з сялянскай, *чыста сялянскай* руплівасьцю вочы. Гэтыя вочы нікога і нічога не прапусьцяць.

— Бацька, а як ідзе ссыпка?—пытае ў яго Гур.

— Ды нічога! Сам бачыш, не ўпраўляемся! Скора і засекаў у нас ня хопіць. Як на разіны, не мяркуючы, людзі пруць...—і з такім-жа ж сьмяшком дзядок адсунуў на патыліцу сваю кучомку.

— Шмат сёньня прыняў?

— Ды хто яго падлічыць цяпер?! З цямна як пачалі, дык і адхлыну няма!..—і забегаў, затупаў, замітусіўся дзядок, заскакаў каля вагі і драбненька пасыпаў жартамі. Мужчыны ля засекаў нечага густа і дружна зарагаталі.

— Гэта-ж...—і Гур з усьмешкаю, адныімі, укладзенымі адзін у адзін рукавамі кажуха паказаў на вёрткага і вясёлага дзядка.

— Гэта-ж, ото-ж о, о,—о!.. Заўважце. Мой бацька!

— Бацька? Той, што так упарта...—надаказаў.

— Вот-жа ж. Цяпер ён—самы той актывісты. Устае ад цямна і каля поўначы кладзецца,—падумай трохі, кавярнуў нагою трэскаю пад сьнегам і кінуў.—Мяняюцца людзі.

Мы ідзем у другі канец колгаснага двара аглядаць будынкі.

І дарогай мне думаецца:

— Так мяняюцца людзі! Мяняецца псыхолёгія, мяняюцца іхныя думкі, пачуцьці, суадносіны, мяняецца іхняе жыцьцё. На моладзі гэтую перамену заўважыць нельга. Яна заўжды новая, яна заўжды маладая, комсамольская, вясёлая і бадзёрая, з яснымі і ўпэўненымі поглядамі на будучыню. Моладзь—гэта, заўтра.

І старыя акамсамольваюцца. Інагды некаторыя старыя мне напамінаюць малых і хворых дзяцей. Такія дзеці ні завошта ня хочуць піць зельле. Тады ім яго ўліваюць лыжачкай, заціснуўшы нос. І дзіцё не папраўляецца.

Так было і з дзедам—Гурам. Цяпер дзеда—як ён сам казаў—і за вушы не адцягнеш ад колгасу.

Галоўнае: ён упэўнены ў заўтрашнім дні, ён *сёньня* з былога, пастуха, з таго чалавека, з кім саромілася раней гутарыць ваколічная шляхта,—ён сёньня—гаспадар такой гаспадаркі, якую ня сьніў ні ён сам пад хмяльком, ні ягоны дзед.

... І мне толькі вот зараз успаміналася. Гэта было калі сёньня ўранку на Андрэевай кватэры ягоная жонка саджала хлеб. Дзед доўга стаяў перад печкай, глядзеў маланхольнымі вачыма ў галешнікі і потым паскроб у патыліцы, затупаў і кінуў трохі са злосьцю:

— А даволі ўжо табе перастаўляць з месца на месца. Занясі сьвіньням!

— Што?—нездагадалася дачка.

— Ды водсеўкі. Чаго яны будуць чакаць?

Кожны раз, як даводзілася прасяваць ёй муку на хлеб, ці на бліны— няма ведама дзеля чаго,—зьбірала водсеўкі. А дзед на гэта паглядзеў іначай, бо іначай і быць ня можа!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Мне Новікаў казаў вечарам—

— раней, значыць, першы год гэта мы жылі. Чорт яго ведае прывычка. Выйдзе гэта табе на выган карова, ці конь—выйдзеш, глядзіш і любуешся: „Ах, як добра раздабрэла *мая* карова!..

Потым ажно азірнешся навакола, каб хто не пачуў нават і думкі. Куды-ж гэта варта?! Колгас, а тут: *мая* карова, *мой* конь. Эх, каб яго дохла ўзяла! Ды, паверыце,—ня толькі гэта ў мяне і жонкі—ва ўсіх колгасьнікаў так; аніяк не адвыкнуць ад *маё.* Гвалт ды і годзе! Ну, думаю, гэта часовае, пройдзе. Зробім так, што само сабою гэтае слова—„маё“— зьнікне, адапрэ. І зрабілі. А як?..—Сьмяецца Андрэй.

— ?!

— ??!— усьміхаецца белымі радкамі зубоў скрозь мяккую шэрсьць русых валасоў.

— ?!!

— !! ды проста! Яно няма чым і хваліцца. З нас, праўда, былі *„нашы“* коровы не каровы, а падлы, адны толькі рэбры! Ды малака з іх— як з казла. Ну, нам трохі далі крэдыту, рублёў так каля дзьвюх тысяч, дык мы кароў па-баку, да прыкупілі новых, пародзістых, як лялькі...

Усьміхаюся. Праўда, вырашылі проста.

— ... Ну, назаўтра гэта мы іх на выган—і я гляджу не на кароў а ў вочы колгасьнікаў... А ў вачох іхных: і сум і радасьць. Няма *маёй* каровы, а ёсьць толькі—*нашы...* Цяпер ужо і курэй няма—*маіх*—усё *нашы.*

— Паглядзеце нашых сьвіней,—перабіў мае думкі і ўспаміны Сах.

Так, Новікаў сказаў праўду: Гур не сказаў „маіх сьвіней“, а „нашых“.

На панадворку, каля сьвінарнікаў, вышлі з хляўчука прагуляцца і цяпер залеглі ў цёртай саломе куча белых матак—гіпапатамаў, а ня сьвіней. Усе адборныя, вялізарныя. Цешыцца вока. Сярод іх тры штукі матак. Каля іх дванаццацёра прыгожанькіх, ружовенькіх парасятак. З саломы відаць толькі іхныя сьпіны ды вузка прарэзаныя вочкі.

— А вось сюды гляньце!—вядзе Гур да варот сьвінарніка. Адпёр дзьверцы. Павольна, з нейкай важнасьцю, як адкормленая асоба з другога лягеру, выплыў к нам даўжэзны белы кныр. Панюхаў нас, нашы рукі—(думаў, што прынесьлі яду)—і зноў павольна пашоў на сваё месца.

— ... гэта-ж мы выпісалі яго з Палтавы яшчэ маленькім, а і то ён каштаваў нам 57 рублёў 60 капеек. Праўда, мы прыкупілі летась дванаццаць штук сьвіней. Маем дзевяцёра парасят асеньчукоў.

Сьвінарнікі прасторныя, новыя і ўцепленыя. Уражаньне самае прыемнае. Ідзем далей.

Хата. У сенцы дзьверы адчынены. Уваходзім: налева—кухня з двума вялізарнымі катламі. Там увесь час гатуюць для скаціны дзьве-тры жанчыны. Вада—за сьцяною, у рацэ, а бульба—толькі цераз сенцы, у склепе. У склепе з сянец вядзе дашчаты калідор напаўцёмны і сыры. У гэтым годзе колгас мае дванаццаць тысяч пудоў бульбы. Некалькі ў капцох, на насеньне, а некалькі—на ежу для сябе і для скаціны—у склепе.

У кухні пад катламі ўвесь час гарыць, амаль што бесьперапынку: трэба-ж наварыць для ўсяго колгасу, а гэта ня жартачкі—столькі жывёлы. Ды яшчэ бывае (і гэта даволі часта) адзін кацёл заняты пад бялізнай. Вараць бялізну колгасьнікі. Робяць чыстую сарочку сабе на плечы.

Чыстата!

Чыстая кашуля, штаны і пасьцілка—гэта перш за ўсё!

Як ненавісна мне газьнічка і верацяно—так праклянаюся я сёньня перад лазьняй, брытвай і чыстай кашуляю. Гэта мой жыцьцёвы лёзунг і, здаецца, кожнага колгасьніка.

А мароз лютуе. Шчыпле за ногі і пальцы рук. Шклянае мутнае неба, як-бы ў шэрані. Сонца прапала ў мітульзе вострых і ледзяных галачак. Без мужыкоў вырабляем мы з Гурам розныя па‘ з розных скокаў. Здаецца больш напіраем на раскамарынскага...

Гляджу на Сака, а ў яго ня сыходзіць усьмешка, хоць сам і чырвоны, як рак з печы.

— А дзе-ж Андрэй?—няцерпіцца мне.

— Пойдзем далей і напаткаем яго. Дзе-ж ён тут дзенецца!? Будзем сёньня заходзіць на кватэры, ці мо‘ заўтра?

— Лепш ад усяго каб заўтра!—мароз за мяне адказвае.

— Ну, заўтра дык заўтра. Пойдзем паглядзім нашу абору, машыну.

Унізе—сьнежнае роўнае поле. На гары—колгас. Там недзе далей, у мутным полі—як з павуціныя ветлы і далей, кучаравіцца сіні дымок.

— ... Што там у вас?—я паказаў на паўзьня.

— Там?! Там Цароўка! Калі хочаце, увечары мы пойдзем туды на комсамольскую сходку.

— А чаму-ж. Пойдзем.

— Вось тут...—Гур расчыніў дзьверы ў вялізарную абору. Адтуль панесла парай.—Вось тут стаяць адны валы... Гэта толькі за гной. А гаспадарская і салома і харчы. Суседні саўгас нам паставіў.

Валы пароды украінскай. Шэрыя, рагатыя. Іх поўная абора. І тут рупнае гаспадарскае вока. Чалавек за імі наглядае, дае харчы, падбірае з жалабоў, падчышчае.

— Нам патрэбен да зарэзу гной. Вось мы і трымаем, ведаеце, іх тут да вясны!—тлумачыць Сак.

Але самы большы, самы пільны догляд (і пастаянны) гэта ў аборы за каровамі. У дзьвярох вялізарнай аборы стаяла тры чалавекі.

Кожны з іх меў да гэтай аборы дачыненьне, кожны выконваў ускладзены на яго абавязак. Хлеў добра ўцеплены і асьветлены. Пад кожнай каро-

вінай мызай стаіць сьвежа-зроблены стол культурнай Даніі. Догляд за каровай—што за малым дзіцем. А тут яшчэ і ёсьць дзеці, за якімі патрэбен адмысловы догляд—чатырнаццацёра цялят, а старых кароў—два шэрагі цераз усю абору, як вокам скінуць.

У хлеве цёпла. Ідзе пара. Сырадоем пахне.

...—а ў нас ужо што-што, а догляд адмысловы, як самі бачыце! І днём і ўначы сядзімо...—кінуў стараваты колгасьнік і з радаснай усьмешкай павёў нас паказваць парадкі ў хляве.

... а вось тут у нас стаяць каровы... Паглядзеце ў якім яны парадку.— Я пачуў гэта ззаду прыемна густы і знаёмы голас. Зацямнела. Я абярнуўся.

Гэта Андрэй абводзіў экскурсію сялян. Іх чалавек нешта дванаццаць. Большасьць жанчыны.

— Паверыце, амаль кожны дзень экскурсія і экскурсія. Ведаеце, ажно абрыдла ўжо. Ад работы адрываюць...—скардзіцца мне Андрэй.

Жанчыны-экскурсанткі добра апранутыя і адна з іх у хромавых ботах, у галёшах. Мужчыны таксама. Заможная частка, ня іначай. На ўсё глядзяць скэптычна, з недавер'ем, мацаюць, нюхаюць, па дзесяць разоў распытваюць...

— Ну, за тры гады вы самі столькі не маглі нажыць! Гэта вам дзяржава дала!..—адвярнуліся ад кароў бабы.

— А няма чаго казаць—карова, як ласі...

— ...і догляд...

— І харчы! У нас такія ня будуць!

— А ці-ж хапае хаця для вашых дзяцей малака?—пацікавілася адна, маладзейшая.—Кажуць, што ад вас забірае ўсё горад, а ў вас астаецца адна толькі сыраватка...

Рот яе скрывіўся адначасна і злым і гіронічным сьмяшком.

Андрэй спакойны, як і ягоная гутарка:

— Мы ткі, покуль што, маем кожны дзень сто літраў малака. Шэсьдзесят літраў мы бярэм сабе, а сорак—забірае Слуцак. Сталоўка ЦРК.

— Колькі на едака ў дзень?

— Адзін літр.

— Добра!

— А колькі плаціць вам сталоўка?

— 17 капеек за літр.—І памаўчаўшы—...ну, мы гэтым летам адчыняем сыраварню. Значыць усё малако будзем перарабляць і скарыстоўваць у колгасе... Зусім тады іншая стацьця будзе!

— А ці-ж зможаце гэта зрабіць? Хаця, паложым, на крэдыт...

— Ды дзе там крэдыт?!.—махнуў рукою Андрэй.—У нас і сваіх сродкаў хопіць пабудаваць і абсталяваць сыраварню, а рабочых рук покуль што хапае. На сёньнешні дзень мы маем у колгасе 37 процантных адзінак.

— А вось цікава, якавы ў вас чысты прыбытак і валавы зварот летась і сёлета?..—падміргнуў сваёй бабе чысты, рыжавусы мужчына і скасавурыўся на мяне:—„знай нашых. І мы нешта ведаем!“

Андрэй трохі падумаў і паскроб падэшвай бота мерзьлякі гною каля варот і наморшчыў лоб:

— ...Я ткі точна вам, каб лічба ў лічбіну,—не магу сказаць, але ведаю... У нас на 28—29 гаспадарчы год чыстага прыбытку мы мелі—тысяча семсот рублёў і валавы зварот—восем тысяч рублёў, а на 29—30 г., які яшчэ ня скончаны—ужо маем чыстага прыбытку—тры тысячы рублёў з валавым зваротам—пятнаццаць тысяч семсот рублёў. Але калі-ж вас так цікавіць, вы паглядзеце па нашых кніжках вось у гэтага таварыша—і Андрэй паказаў на маладога сымпатычнага дзяцюка.—Ён рахункавод. Але, здаецца, што я не памыліўся! Лічбы верныя.

— Прыблізна! Дакладнасьць можа быць толькі ў дзесятках рублёў.

— З прыемнай усьмешкай сказаў рахункавод і перакінуў з аднэй рукі на другую рэзьгіны.

— Колькі каштуе... Ну, на якую суму ў вас увесь інвэнтар?

— Гэта сродкі вытворчасьці!!!—паправіў яго Андрэй.

— ?!..

— Ды сума малая—ня больш дваццаці тысяч рублёў.

— Пойдзем, мужчынкі, далей! Пойдзем!—падагналі іх жанчыны.

— Мароз бярэ за ногі, ды позна ўжо, а мы яшчэ хочам і пабыць і ў хатах, паглядзець як жывуць іхныя жанкі!

— А як-жа ж, паглядзеце ўсё... Каб ня было гаворак...—заспакойваў іх Андрэй і павёў паказваць далей.

Я з Гурам пашлі глядзець коні.

— Колькі-ж у вас кармоў?—пацікавіўся я.

— А покуль што дармо! Мы маем з сёлетняга ўраджаю і сена шэсьць тысяч пудоў, канюшыны—пяцьсот пудоў і выкі кармовай—дзьвесьце пяцьдзесят пудоў, ды яшчэ насеннай вікі—трыццаць пудоў.

Цераз сьцяну ад кароў—стайня. Стайня цёплая, добра пастаўленая. У стайні—адзінаццацёра штук коняй. З іх трое жарабят. Коні, праўда, трохі больш у лепшым доглядзе, як у любога нашага серадняка дзіцё.

Далей: пуня для машын. Адмысловы парадачак. Гаспадарскае вока і тут на кожнай драбніцы, на кожным вінціку. У пуні—жняярка, адна радавая сеялка, а другая агародная, конная сячкарня, малатарня, сартоўка, дзьве арфы, адна з іх падарунак ад Слуцкай профтэхшколы, тры плугі адналямешныя, сем дзераўляных барон, адна лугавая барана, адна дзіскавая, тры двухлямешныя плугі, тры комплекты трохзьвенны барон „Зігзаг“ і 2 комплекты двухзьвенных, дзевяцёра аднаконных калёс, дзесяцёра санак і збруі дзевяць комплектаў. Усё гэта багацьце стройнага колектыву мае сваё пастаянае месца, прызначэньне...

— І чамусьці заўсёды ў такія разы, ці вярней, на кожнае ўспрыйманьне знадворнага выгляду кожнае рэчы, ці концэпцыі рэчаў—у мяне

само-сабою для параўнаньня і належнай ацэнкі зьяўляецца перад вачыма другі малюнак... Малюнак данага значэньня, але другога характару.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . (Уявеце сабе толькі):

— ...Пасярод двара ляжаць пастронкі забруджаныя каровай і гэты кал цэлыя дні засыхае на іх. Дуга, цялежкі бяз шворана—пад плотам, падсядзёлка без церассядзельніка—каля чонку, а па панарадзе рассыхаецца кадушка. Крані—і рассыплецца. Конь—(адны драбы)—у сенцах настойвае гною вышэй дзьвярэй. Часамі ўначы (спанятраваў·жа, каб на яго ваўкі!) зубамі адкручвае закрутку, шукае на стале хлеба ды правярае ці дома сёньня начуе гаспадар, ці не, бо яму (каню) даводзіцца ўжо з самага паўдня чытаць толькі газэты...

А каб паехаць куды—два дні трэба шукаць збруі. Ды дзе ты-там знойдзеш—ужо дзеці парасьцягвалі палову, п'яныя хлопцы даўно вынялі шворан з цялежак на вечарынку...

Уявеце сабе толькі!..

— Гэта гаспадар—серадняк. Мае ў сваім карыстаньні найлепшай якасьці зямлю... А ў колгас?..—Ну, куды ты мяне вядзеш!

Вошы, лахманы, гной за парогам, у сенцах, галадоўля...

(Гэта недалёка, на Меншчыне, у вёсцы Кляніку. І там-жа, у той-жа вёсцы, у аднаго толькі гаспадара, у Пашкевіча Сьцяпана, у серадняка, бачыў я адмыслова пастаўлены парадак у гаспадарцы, прыкладны парадак, і яшчэ *(самае важнае)*—лазьню, якой я ня бачыў яшчэ ні ў аднэй вёсцы...

Лазьня з духавой печкай, з падлогай, з вокнамі... І гэта не ў культурнай гаспадарцы! Але гэта ў культурнага гаспадара-селяніна, які не рэгістраваў нідзе сваёй гаспадаркі.—(Пашкевіч сёньня ў колгасе).

Парадак!—першая адзнака культурнасьці той ці іншай гаспадаркі. Лазьня, брытва, сьнегавой бялізны сарочка, газэта—першая і верная адзнака культурнасьці гаспадара культурнай гаспадаркі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Пойдзем яшчэ паглядзім нашага жарабца.—Гур.

— З вялікай прыемнасьцю—згадзіўся я.

Дагналі мы экскурсантаў. З гутарак выявілася, што яны, перш, чым організаваць колгас, паехалі ў цэлы шэраг колгасаў для азнаямленьня з імі.

Паказалі нам маладых цялят, потым адчынілі другія дзьверы. Высунулася гарбаносая конская морда. Мяккія маладыя губы трывожна ўздрыгвалі. Вочы былі як-бы наліты крывёю. Заіржаў, моцна падаў свой малады голас і выляцеў на двор шэры ў яблыках здаравенны жарабец. А загнаць каб сваё месца—дзе там?! На дыбкі. Страх падыйсьці.

— Ах слаўны малойчык!—цешацца мужчыны.

— Дзяржава дала!—узноў буркнулі хромавыя боты з галёшамі і ў гэтых двух словах—„дзяржава дала"—і ў тоне голаса, як гэтыя словы былі выказаны—была нейкая агіда, няпрыязьнь да самога факту,—„дала дзяржава"! Нібы гэта было самае што ні на ёсьць ганебнае ў жыцьці колгасьнікаў.

— Пэўне, што мы век ня мелі такой гаспадаркі і мець ня будзем!..— кінуў рыжавусы.

— А што казаць!.. Мелі-б такую, а мо' трохі і лепшую, каб нас не чапалі... перабілі рыжавусага хромавыя боты.

— Бачыце, што за птушкі!..—Зарагаталі ззаду нас комсамольцы.— Кожны дзень налятае такіх сюды, што яшчэ і мадней гэтых!..

Хромавыя боты скасавурыліся.

— А вось тут ў нас ужо з восені падрыхтавана для парнікоў. Робім рамы, паклапаціліся аб шкле.—Гур ужо зусім не зварочвае на экскурсію ўвагі:—Мы ўвесну засеем паўгектара аднымі толькі трускаўкамі!

— Ці не завельмі?

— Ды не! Нават такая лічба і па пляну нам вызначана, ды ў нас ёсьць ужо мажлівасьці і месца!

Я ўспомніў аб тым, што з вясны да колгасу прыразаецца новая зямля, што вясна ліквідуе колгасны зямельны голад, што плошчу пад агарод можна павялічыць, бо ўжо прышла пара!

— А як у вас з плянам?

— Работ?

— Так!

— Выпрацоўваем адзін гадавы і чатыры сэзонных і вось па іх мы як на дарожках ідзем. Лёгка тады працаваць, калі яно ўсё плянава ідзе... Весела!

Сьмяецца Гур і я сьмяюся радасьцю новых людзей на новай зямлі. І ўзноў да абрыдласьці настойна лезе мне ў галаву гаспадарка заня-дбайнага серадняка з вёскі Клянік. Проста стаіць ягоны агарод увесь у лапушыньніку і хрэну, зарослы ле...

Ну, мы, мусіць пойдзем на кватэру, бо зьмерзьлі, ды паглядзеце хаця, як гэтыя экскурсанты будуць аглядаць наша хатняе жыцьцё—перабіў мяне Гур.

Бярэцца мароз. Падымаецца сіверны вецер. А каля сьвірна кіпіць работа. Чуваць голас старога Гура:

— ...Э, раз-два ды і гатова! Гой. Яшчэ трошкі!.. Во!..

---

Ёсьць прыказка такая—„Мужык да тых часоў не паверыць, покуль рукамі не памацае“. І ня вераць. І мацаюць. Ды ня толькі рукамі, але і вачыма і языком. Мо' гэта таму так пільна да ўсяго даглядалася, што ні сёньня—так заўтра, усё роўна, калі-б то ня было,—(што раней— то лепш!)—трэба ламаць жыцьцё, уклад жыцьця, з якім узрасьлі, узгадаваліся і думалі ўжо з ім на лаву на покуце разьвітальнай гадзінай адлежаць...

Гураган рэволюцыі адарваў іх ад курных хатак-адзіночак, ад „сваіх“ палосак.

Ї згубілі яны сваю ранейшую сілачку. Сарваў Ільля Мурамец салаўя-разбойніка з дуба-стагодніка з брынскіх лясоў... Гэта ў казцы. А рэвалюцыя сёньня—у сапраўднасьці так зрабіла...

...і чапляюцца яны цяпер рукамі, каб хоць за саломінку ўсхапіцца, ды ўпёрціся, ды не даецца, ды ўстояць, ды вярнуцца назад у гняздо сваё.

Ходзяць жанчыны з кватэры ў кватэру колгасьнікаў, глядзяць пад ложкі, у мыцельнікі, глядзяць у вочы колгасьнікаў.

— Што думае жанчына?

Ці ня выкажа яна, як жанчыне, як суседцы ўсю праўду, тую праўдачку, якую яны ведаюць ад тых людзей, што ўцяклі ад колгасу, з торбай па сьвету пайшлі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . ходзілі, мае вы родненькія, бабачкі, такія богабойныя. З торбамі. З кіямі. У растропаных худых лапцёх. Багамольцы. Яны нам пад сакрэтам вялікім, пад клятвай господняй, усё чысьценька, да дробачкі, да малюсенькай—расказалі, паведалі. Бубулькі былі. Каму-ж тады веры можна даць, як ня ім? Пад багом мы ўсе ходзім! І кажуць нам:

— Кабеткі, маладзіцы, господзь з вамі (перахрысьцілі)—надышоў час господні. Усё збываецца, як у эвангельлі прапісана. Пойдзе брат на брата—гэта ўжо ёсьць. Пойдзе сын на бацьку—гэта ўжо ёсьць. Птушкі палятуць з жалезнымі дзюбамі і будуць заклёўваць на сьмяртухну, на чорную—і гэта ўжо ёсьць! Прадзеды нашы загавораць з дамавіначак, мы-ж да іх пабягом з плачам, галасок свой падамо каб хаця нас да сябе ўзялі...

— Вот далібож, каб я з гэтага месца ня ўстала, каб сонца яснага ня ўбачыла, дзетак родненькіх, малалетачак ня сустрэла. Вот далібож, так і гавораць, так і гаво-о-о-раць...

Ї тады кажуць... Ї тады кажуць...

...кажуць тады:

— ...бабанькі, галубіцы сьветлыя, ня ідзеце ў колгасію і мужыкоў сваіх адгаварэце. Голад там. Скарынкі хлеба няма. Дзеці без малачка пухнуць.

— ...мы самі былі колгасьніцы, ды ідаць нас бог пакараў за грахі нашы. Бачыце: з торбамі пайшлі, ледзь-ня-ледзь вырваліся з рук д'ябальскіх. Ня ідзеце бабачкі! Падайце, благачасьцівыя, хрыста радзі пастрадаўшым за грахі свае, за хрыста...

— З якога-ж вы колгасу, цётачкі?—пытаем, значыцца, мы ў іх. А яны:

— ...да я кажа—з-пад Барысава, а яны з-пад Магілева...

— А-а-а-а!.. О-о-о-о!..

— ...думайце! Гэта-ж адзін чалавек хатку прадаў сваю і потым уступіў у колгас, дык, паверыце,—пакацілі яго ды чарадой усёй, як чэрці, навалілiся і адабралі ўсенькія грошы...

— ...а жонкі колгасьнікаў ходзяць па сёлах ды кускі хлеба зьбіраюць!.. Вот жыцьцё вам... Колгас... Гэта-ж ведаеце, само і слоўца паганае:—„Кол“ і „газ“!.. Ці зразумелі. . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Так. Быў час больш чым паганы, калі пераапранутыя манахіні пайшлі па глухіх кутках: на пасёлкі, на вёскі распушчаць агідныя, брудныя плёткі. Папоўска-кулацкія агенты рабілі сваю справу.

Нехта недзе злавесна і зларадасна ўсьміхаўся, хіхікаў—работа ідзе! Гэта недзе там, у змроку пад абрэзам і кулацкай сякеры бяззубыя адзіночкі ў агоніі грызьлі вялізарны гранітны падмурак.

А тысячы тысяч з мазольнымі далонямі рабілі сваю першую *Гісторыю* ў гісторыі цэлых вякоў, тысячагодзьдзяў усяго чалавецтва.

...Электрычнасьць! Індустрыя! Радыё! Асьвета!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ня выказваюць словамі ўсяго гэтага жанчыны, а гіроічна ўсьміхаюцца, падміргваюць адна аднэй: вось зараз знойдзем, выпадкова натkaем тое, чым падатруць яны нос усёй вёсцы. Усе ўведаюць праўду аб колгасе.

І з нейкай радасьцю і хваляваньнем, падыйшла адна жанчына да Андрэевай жонкі і з хітрацой на твары:

— А покаж ты мне свой куфар, родненькая!..

— Навошта вам?—задзівілася тая.

— А казалі нам, што як толькі прыдзеш у колгас, дык—усё і ў колгас. Нават сабе і на сарочку твайго-ж палатна прасіць трэба. Усё адбіраюць!

Іншыя жанчыны радасна засьмяяліся і з цікавасьцю абступілі куфар. Засьмяялася і Андрэева жонка і не сьпяшаючыся адпёрла куфар. Куфар паўнюткі ўсякае адзежы, палатна.

— Да, любачка, я пагляджу сама! Мо‘ ты пад дно напхала і чагонебудзь другога!

Жонка адступілася, а бабы пачалі рыцца. Потым вінавата ў кулак смаркануліся і адыйшліся.

— ...Галубка мая, як ты сабе хочаш—хочаш крыўдзься, хочаш—не, а я хачу паглядзець тваю страву ў печы. Якавы ў вас полудзень. Мы-ж ідзем у колгас—хочацца ведаць усё. Нам гаварылі...—і жанчына адчыніла засланку і ёмка выняла вялікі саган капусты. Узяла лыжку і памяшала. На лыжцы вялізны, на чатырох чалавек кавалак мяса. На патэльні стаіць яешня з салам.

— А-а а, любачкі мае?!? Добра-а!.. До-о-о-о-бра-а!

Усім зрабілася як-бы сорамна. Маўчаць. Рыжавусы падышоў к сталу і адкінуў абрус. На стале паўбуханкі напаўбелага хлеба і кавалкі.

— Значыць, няма чаго гаварыць!.. Хлеб добры і кавалкі. Гэта ня голад. Гэта ня го-о-о-лад!.. Жывуць, лепш ня трэба! Усё што нам казалі—мана, браткі, бачыце як жывуць людзі: хлеб маюць і не абы які і да хлеба скаромніну. А ў нас калі і гэтага ня бывае, дармо, што мы і лічымся сераднякамі...

Паехалі. Паехалі ў другія колгасы на агледзіны. Прыехалі сюды з нейкай упэўненасьцю знайсьці тут нейкі факт, каб было за што ўхапіцца і абараняцца ад стыхійнай колгаснай паводкі, а выехалі, выехалі... зусім другія, з другімі думкамі, другімі жаданьнямі!

## ЗА САСНОВАЙ АГАРОЖАЙ

**Сьцяпан Ліхадзіеўскі**

1

Кінуты гоманы
ўзьнятым настроем—
песьняй завулкаў
удалеч пашло...
Дошкі сасновыя
ў шэрагу стройным—
шчыльна,
роўна,
рукі па швох.

Па над заводзкай
густой агарожай
звоняць цясёмкі
калючых дратоў.
Крок пераставіць
асьмеліцца—зможа
з ценяў варожасьці
хто?!

Роўна а сёмай
гудкоў пераклічка—
крокі чутны
ня чужыя – свае...
Іх тут прымае
з спакойным абліччам
ветлы таварыш
міліцыянэр.

2

І сьнежныя хмары
да цэхаў прыпалі:
на працу і ім
сёньня хочацца стаць.

А там да сьцяны
з маладняцкім запалам
прыгладжвае вецер
бялявасьць ліста.

Прыгладжвае ласкава
колеры літар,
кідае ахапкамі
ўсьпененых слоў:
— Вытворчае песьні
„паводка разьліта,
краіна выходзіць
на ўдарніцкі сход!!!“

І цэхі пачулі,
і кінулі цэхі
адказам напевы
рабочых станкоў.
І скрогат жалеза
пранізвае стрэхі,
трывогаю творчай
цярусіць наўкол.

3

У цагляных мурох зазьвінелі
навальніцы працоўных шумаў.
Да ўзьбярэжжа імкненьняў з адмеляй
паплылі нясутрымныя шхуны.

У цагляных мурох узьвіліся
вокамгненныя яркія іскры.
Завіхрылі нябачныя лісьці
на заводзе знаёмым і блізкім.

У цагляных мурох сугалосьсі
паразьбегліся шумам рабіны.
Вецер марш урачысты разносіць
над парадам каменьнядрабілак.

4

Пад рытмы, гул машын
згінаецца іх стан.
Разоркамі маршчын
расьпісаны іх твар.

На ім застыў спакой,
на ім развагі знак.

Загадкавасьць станкоў
яму далі спазнаць.

Нішто, што пот цячэ
па гладзі шчок блядых
і сажай ад пячэй
праложаны сьляды.

Яны прышлі з палёў,
да сталі прырасьлі.
Ў арліны ўзьняўся ўзьлёт
Іх песенны разьліў.

Сухіх ня пара рук—
дзесяткі, сотні рук
згуртоўваюцца ў рух,
адзін магутны рух!

5

Слоў паводкі...
Гоман...
Лёгкі жарт...
Сьмех задорны...
Гэта—
перапынак...
Ў качагарцы-ж ды ня гасьне жар,
Зіхаціцца колерам маліны.
Супачылі...
Хвіля...
І гудок
Токам
Перабег
у цэхах...
Да станкоў рабочыя гурбой
рушылі з затоенай уцехай.
Гулка
загудзелі
прывады,
голасна
загойкалі
калёсы...
Рогатам
разгульна-
маладым

зашугалі
буры
сугалосьсяў.
Скрыгатала,
сеяла надрыў
сталь сваімі
вострымі зубамі...
Музыкай працоўнаю дарыў
на варштаце нізенькі рубанак...
Заміралі
лініі пасоў,
і гудок
другі матыў заводзіў...
А да сьпеву голас горды свой
далучалі новыя заводы!

1930 г.
г. Менск.

# ЧУЖЫ*)

*(Роман)*

**Дзьмітры Сьвярчкоў**

## Разьдзел трэці

### I

Уладзік прайшоў пад зацікаўленымі поглядамі гасьцей цераз залю і прывітаўся з гаспадыняй, якая зрабіла некалькі крокаў на спатканьне яму.

— Вельмі рада бачыць вас у сябе. Я ведала вашага бацьку, і мне прыемна прымаць цяпер яго сына,—гаварыла завучаным тонам, з спакойнай і ветлівай усьмешкай генэральша Ржэцкая, кінуўшы крыху зьдзіўлены погляд на шэрую студэнцкую тужурку Уладзіка, з-пад якой відаць была чорная касаваротка.—Баронэса,—зьвярнулася яна да старой, якая сядзела ў глыбокім крэсьле,—дазвольце пазнаёміць вас з Уладзімерам Мікалаевічам Сабуравым. Гэта ўнук адмірала Пятра Георгіевіча, якога вы, мабыць, памятаеце.—Баронэса Праскоўя Аляксееўна Гровэ,—растлумачыла Ржэўская, Уладзіку.

Старая паглядзела на Уладзіка і працягнула яму руку, высока падняўшы яе ў чаканьні звычайнага пацалунку. Аднак, Уладзік да нязвыклага зьдзіўленьня старой усяго паціснуў.

Падыйшоў Аляксей Ржэўскі.

— Дазвольце, мама, я пазнаёмлю Уладзімера Мікалаевіча з нашымі гасьцямі,—сказаў ён і, узяўшы Уладзіка пад руку, пачаў знаёміць яго. Некалькі мінут Уладзік змушан быў кланяцца, паціскаць рукі і мармытаць: „Вельмі рад“, чуючы вельмі вядомыя і зусім невядомыя прозьвішчы.

— Як добра, што вы прышлі без накрахмаленага каўнерыка і манжэт, проста ў тужурцы,—гаварыў Уладзіку Ржэўскі,—шмат якія, мабыць, уражаны гэтым, пачынаючы з маёй маман, але няхай прывыкаюць. Трэба зьнішчаць гэтыя сьвецкія ўмоўнасьці і звычаі, якія зьвязваюць волю чалавека.

Уладзік паглядзеў на сурдут і белую накрахмаленую сарочку Ржэўскага, і яму здалося, што ў яго пахвале чуваць захаваны дакор.

---

*) Працяг. Гл. „Полымя“ № 4 за 1930 г.

— У нас журфіксы ў чацьвяргі,—казаў далей Ржэўскі.—Я запрасіў вас, жадаючы паказаць гэты зьвярынец,—дадаў ён шэптам на вуха.—Паглядзіце і ацаніце самі, што за экзэмпляры! Як добра, што вы выбраліся з Масквы ў Пецярбургскі унівэрсытэт. Цяпер мы будзем часта бачыцца і абмяркуем разам шмат цікавых пытаньняў. Падыйдзем да Бельскага—паказаў ён на старога ў фраку, які разглядаў карціну на сьцяне.—Ён лібэрал, і з ім прыемна пагутарыць.

— Вы малады студэнт?—запытаўся Бельскі, ветліва паціскаючы руку Уладзіку.—З гарачых галоў?—дадаў ён, акідаючы поглядам чорную рубашку і тужурку.—Эх, маладосьць, маладосьць! Яна захапляецца, у вечным парываньні, ня лічыцца з умоўнасьцямі... Як я вам зайздрошчу!

Уладзік усьміхнуўся.

— Вы на якім факультэце?

— На юрыдычным. Я выбраў яго таму, што на ім чытаюць політычную эканомію,—найбольш цікавы для мяне прадмет. А што да зайздрасьці маладым—гэта дарэмна. Вы ў сваім становішчы маеце куды больш магчымасьцяй дабівацца лепшага ўкладу жыцьця, як мы, у якіх ёсьць толькі імкненьне да гэтага.

— Вядома, вядома... Але ўсё робіцца ня так лёгка, як гэта вам, моладзі, здаецца. З аднаго боку—рэакцыянэры, якія ня бачаць далей свайго носа, ставяць нам розныя перашкоды, а з другога—вельмі перашкаджаюць неразумныя часта ўчынкі рэволюцыянэраў... Напрыклад, міністра Багалепава ўжо вырашана было зьмяніць, як раптам—стрэл Карповіча, трывога і... вада на млын крайніх правых, якія дамагаюцца суровай расправы з усімі левымі, да якіх яны залічаюць і лібэралаў. Мне, як члену Дзяржаўнае рады, усё гэта так відавочна, што хочацца самому пайсьці ў падпольны камітэт рэволюцыянэраў, і давесьці, пераканаць, што адмаўленьне ад насільных мэтодаў змаганьня дасьць нам магчымасьць зрушыць ход гісторыі на шлях мірнай рэволюцыі, дазволіць падняць голас за агульнае навучаньне, за ўцягненьне ў земства сялян, а там і далей...

— Вы дазволіце мне гаварыць адкрыта?—сказаў Уладзік.

— Калі ласка, вельмі прашу вас.

— Ці бачыце, вы—куды большы ідэалісты, як моладзь, якой вы зайздросьціце. Назавеце мне хоць адну вялікую рэформу ў гісторыі чалавецтва, якая не зьявілася вынікам змаганьня? Такога прыкладу няма. Чаму-ж Расія павінна быць выключэньнем? Або хіба ў нас цяпер такі нязвыклы па прадбачнасьці і народалюбству ўрад?

— Я чакаў, што вы гэта скажаце,—адказаў Бельскі.—Ня трэба забывацца, што наша гісторыя ішла заўсёды зусім адменнымі, самабытнымі шляхамі, і параўноўваць яе з гісторыяй Заходняй Эўропы было-б вялікай памылкай. А ўсё-такі прызнайцеся, студэнцтва-ж у цэлым зусім не настроена на карысьць забастовак і непарадкаў, арэнай якіх зрабіліся вышэйшыя навучальныя ўстановы. Ёсьць у нас кучка рэволюцыянэраў,

а вы ўсе ідзіцё на павадку ў яе з-за памылковага сораму атрымаць дакор у трусасьці, або можа быць, з-за пачуцьця корпарацыйнасьці.

— Ну, не. У нас кожны вырашае сам за сябе. Тым лепш, калі, як бывае, воля вялікай большасьці злучаецца ў адно. Белпадшэвачнікаў, ворагаў забастоўкі—нікчэмная кучка.

— Дазвольце,—перабіў Бельскі.—А лісты, якія зьмяшчаюцца ў „Новом Времени", падпісаныя дзесяткамі, калі ня сотнямі прозьвішч? Вось і сёньня...

Уладзік засьмяяўся.

— А вы зьвярнулі ўвагу на дзіўныя прозьвішчы студэнтаў, якія падпісалі зьмешчаны сёньня ў „Новом Времені" ліст у рэдакцыю з протэстам супроць студэнцкіх беспарадкаў і з заклікам да студэнтаў вярнуцца да мірных заняткаў навукамі? Аляксей Міхайлавіч,—зьвярнуўся Уладзік да Ржэўскага.—Ці няма ў вас сёнешняга нумару гэтай газэты? Аднак я большасьць прозьвішч ведаю на памяць: Неіпш Теіді, Наруд і г. д.

— Я не разумею...—сказаў Бельскі.

— Гэтыя лісты сфабрыкавалі мы... Паслалі ў рэдакцыю. Стары Суворын прывык ужо, што „истинно "русские" людзі, якія выступаюць у абарону самаўладзтва і праваслаў'я, носяць заўсёды зусім не расійскія прозьвішчы. Не зьвярнуў увагі і надрукаваў... А калі гэтыя подпісы прачытаць справа налева, дык выйдзе: шпіён, ідыёт, дурань...

— Ха-ха-ха,—зарагатаў Бельскі.—Выбачайце, але я пайду расказаць іншым пра гэту выключна дасьціпную штуку. Ну і падкалупілі Суворына! Ха-ха-ха!—і Бельскі, хістаючыся ад сьмеху, накіраваўся да групы гасьцей.

— Вось пакрыўдзіцца Суворын, калі даведаецца!—сьмяяўся Аляксей Ржэўскі.—Трэба гэта шырока распаўсюдзіць...

Мы ўжо напісалі ў рэдакцыю „Биржевых Ведомостей" з патрэбнымі тлумачэньнямі. Гэта газэта вельмі рада будзе высьмяяць Суворына.

— Хадзем да мяне, запрасіў Уладзіка Ржэўскі.—Вам тут, мабыць, няцікава.

Яны ўвайшлі ў вялікі габінэт, які быў застаўлены кніжнымі шафамі з чырвонага дрэва з бронзай і ўселіся каля шырокага пісьмовага стала.

— Я вельмі рад, што вы мяне вывялі з гасьцінай,—сказаў Уладзік, закурыўшы папяросу.—Я хачу, калі дазволіце, працягваць нашу ранейшую гутарку.

— Калі ласка.

— Вы дазвольце наладзіць у вас склад рэволюцыйнай літаратуры?

— Я прасіў ужо вас распараджацца мною ў гэтым, колькі будзе патрэбна. Думаю, што падазрэньне пра надзейнасьць маёй сям'і наўдачу ці ёсьць,—адказаў Ржэўскі са сьмехам.

— Тады з заўтрашняга дня я пачну вам прыносіць часткамі „Искру".

— Добра. Але папрашу вас нікому майго адрасу не казаць. Буду я мець справу толькі з вамі.

— Вядома.

— Скажэце, калі гэта можна, якім чынам прыходзіць у Расію „Искра“?

— Спосабаў шмат. Пераносяць кантрабандыстыя, за грошы, вядома, і не падазраючы, што ў цюках знаходзіцца. Прывозяць матросы чужаземных суднаў, якія прыходзяць у Пецярбург,—з імі замежамі нашы заводзяць сувязь, і яны ахвотна бяруцца дастывіць скруткі. Крыху цяжкаватая працэдура атрымаць літаратуру ад матросаў ужо тут, але і гэта ўдаецца без асаблівых перашкод.

— Хочаце я дам вам вельмі добры адрэс? Літаратуру ў пасылках па дванаццаць фунтаў няхай пасылаюць па пошце, а я буду яе перадаваць вам тут у Пецярбурзе.

— Няўжо-ж вы думаеце, што мы ад гэтага адмовімся? Вядома давайце!

— Запамятайце: Эйдкунен, 29. Больш нічога пісаць ня трэба.

— А што гэта значыць, 29?

— Дазвольце не сказаць.

2

У пакоі загадчыцы студэнцкай сталовай было накурана. Сядзелі на крэслах, на падаконьніку, на ложку. Толькі што кончылі абгаворваць пытаньні пра адносіны да правіл, якія дазвалялі студэнтам выбіраць сваіх старастаў асобна для кожнага курсу і факультэту, і „Каса радыкалаў“,—як была названа першая студэнцкая соцыял-дэмократычная арганізацыя Пецярбургскага унівэрсытэту,—пастанавіла рэкамэндаваць студэнтам прымаць удзел у выбарах і галасаваць за сьпіс, вызначаны „Касай“. Загадчыца—дабрадушная поўная жанчына—уся захопленая клопатамі сваіх непасрэдных абавязкаў, сяды-тады таксама прымала, ўдзел у спрэчках, але засталася нездаволеная пастановай: ёй здавалася больш правільным абвясьціць выбарам бойкот. Яна ўжо даўно зьмірылася з тым, што ў яе з ранку да вечара бязупынная таўхатня,—у патайку нават ганарылася тым, што рэволюцыйная студэнцкая арганізацыя выбрала для свайго штабу яе пакой, які суседзіўся з кухняй сталовай, загадчыца здолела паставіць справу так, што ніхто з пабочных сюды папасьці ня мог, і факт заўсёдных сходаў „Касы“ ў гэтым памяшканьні заставаўся таямніцай.

— Колега, пішэце артыкул у наш бюлетэнь з прычыны надыходзячых выбараў,—зьвярнуўся студэнт юрысты чацьвёртага курсу Яршоў да другакурсьніка Грышына, які сядзеў за сталом і неадменным быў аўтарам „Касы“.—Трэба, вядома, перш за ўсё вытлумачыць поўнае нездаваленьне правіл, раскрытыкаваць іх у шчэнт, а пасьля абвясьціць, што „Каса Радыкалаў“ прымае ўдзел у выбарах дзеля таго, каб выкарыстаць інстытут старастаў у сваіх мэтах. Іваноў!—Узяў за плячо Яршоў блёндына, які сядзеў на падаконьніку.—Заўтра вы павінны даставіць ня менш тысячы экзэмпляраў бюлетэню. Артыкул зараз атрымаеце ад Грышына. І заразжа пусьціце ў ход нашы мімеографы.

Яршоў падыйшоў да Сабурава.

— З вамі, колега, мне трэба сур'ёзна пагутарыць. Да гэтага часу студэнцкія організацыі былі адарваны ад рабочых і дзейнічалі самастойна. Цяпер гэтаму пара пакласьці канец. Пытаньне сувязі „Касы" з „Саюзам змаганьня за вызваленьне рабочае клясы" ў нас, як ведаеце, яшчэ не абгаварвалася, але яго трэба перш узгодніць з „Саюзам". Я прашу зрабіць гэта вас, вы, усё-ж маеце да „Саюзу" бліжэйшае дачыненьне. Паколькі студэнцкі рух выходзіць цяпер з унівэрсытэцкіх рамак і становіцца чыста палітычным, нам трэба знаходзіцца пад кіраўніцтвам больш сур'ёзнай організацыі, чым наша ўласнае аб'яднаньне. Вы ведаеце самі, з кім і як трэба пагаварыць. Калі ў чарнавіку накідаеце форму і схэму сувязі, мы ўнясем пытаньне і вырашым ужо формальна.

Уладзік выслухаў гэта важнае даручэньне, стараючыся быць спакойным, але нутрана быў вельмі рад ад ускладзеных на яго задач. Паціснуўшы руку Яршову, Уладзік накіраваўся з пакою ў сталовую, пачуўшы, як заўсёды, ласкавае мармытаньне загадчыцы: „Выходзьце няпрыкметна, па адным, а ня гуртам. А то пруць натоўпам, як з царквы"...

Істужачкі шэрых студэнцкіх тужурак абвівалі доўгія сталы, выгіналіся ў чарзе каля кас і каля прылаўкаў і зблыталіся ў кучу каля вялікай чорнай дошкі з абвесткамі, на якую заўсёды наклейваліся лілёвыя бюлетэні рэволюцыйных організацый і напісаныя ад рукі сьвежыя паведамленьні аб вострых падзеях палітычнага жыцьця. Уладзік абмінуў касы, каля якіх чуваць было: паўпорцыі катлет за 11 капеек, грэцкай кашы на $1^1/_2$ капейкі, агурка на $1^1/_2$ капейкі, шклянка гарбаты 2 капейкі і г. д. і спыніўся каля дошкі. Зьверху яе буйнымі рукапіснымі літарамі крычала паведамленьне: „Асьцярагайцеся студэнта другога курсу Юрыдычнага Факультэту Ўладзімера Крашэньнікава, ён правокатар!" Ніжэй высеў сёнешні бюлетэнь „Касы". Каля яго шматкі паперы: „Сёньня была пераструска ў д. № 14 па Каменна-Астроўскаму проспэкту, у кватэру 36 у адваката Трапініна, які арыштаваны. У доме пакінулі „засаду". „Вялікі княз Барыс Уладзімеравіч учора наладзіў грандыёзны скандал у рэсторане Альбэрта, біў лёкаяў, паламаў стол, перабіў люстры і іншае. Запатрабаваў прынесьці ванну і купаў у шампанскім простытутак!"—і ўнізе скромны подпіс: „Знаёмы сьведка". „Прашу дапамагчы знайсьці лекцыю па грэцкай і латынскай мовах або матэматыцы. Адлеглась не перашкаджае. Студ.-Юр. 1 курсу Сьмірноў". „Шукаю ціхага колегу, каб разам наняць пакой. Студ.-прыродазнаўца Крывашэін, II курсу і іншае. Уладзік акінуў абвесткі і накіраваўся да выхаду.

Па Няве плыло сала. Наплаўны палацавы мост хістаўся пад напорам вялікага ветру.

Уладзік сеў на конку, даехаў да Ліцейнага проспэкту і пайшоў да Ржэўскаўга. Праз некалькі мінут вышаў ад яго,—пры чым уважлівы назіральнік заўважыў-бы нязвыклую паўнату ў яго стане,—накіраваўся на Выбаргскую старану, зьвярнуў на Астраханскую вуліцу, скоса азір-

нуўся і ня ўбачыўшы за сабой нічога падазронага пайшоў на двор дома № 22. Пазваніў у кватэру 8. Яму адчыніла служанка.

— Іван Сямёнавіч дома?

— Не, яшчэ не вярнуліся.

— Я пакіну яму пісульку.

— Калі ласка.

Уладзік прайшоў у знаёмы пакой, зачыніў за сабою дзьверы, хутка дастаў з-пад паліта скрутак літаратуры і палажыў яго пад сяньнік ложка, а з паліцы ўзяў першую, якая папалася кнігу і разгарнуў яе на пісьмовым стале. Прарабіўшы гэта ў поўмінуты, ён вышаў у калідор.

— Лепш я зайду праз гадзіну або дзьве,—сказаў ён служанцы.

— Добра, паніч,—адказала яна.

Шкада, што не застаў Тарасава,—думаў Уладзік. А то адразу-б абедзьве справы ўладзіў: і пра літаратуру, і пра сувязь „Касы“ з „Саюзам“.

Выходзячы з брамы на вуліцу, Уладзік зноў асьцярожна азірнуўся. Іван Сямёнавіч, якога ён не застаў, быў студэнтам Ваенна-Мэдыцынскай Акадэміі і зьяўляўся дзейным працаўніком „Саюзу Змаганьня за Вызваленьне Рабочае Клясы“. Уладзік спадзяваўся, апрача выкананьня даручаных яму абавязкаў, даведацца больш падрабязна пра Расійскую соцыялдэмократычную рабочую партыю і пра будучую зьмену назвы Пецярбургскага Саюзу ў партыйны камітэт. „Искра“ зьяўлялася органам, вакол якога адбывалася крышталізацыя партыі. Газэта гэта выдавалася ў Жэнэве і таму навіны, якія яна паведамляла, не вызначаліся асаблівай сьвежасьцю. Уладзік марыў пра выданьне будучым партыйным камітэтам сваёй газэты. Друкарня, якую меў „Саюз“ і ў якой друкаваліся лісткі і проклямацыі, была вельмі малой для гэтай мэты. Але-ж яе можна пашырыць: дабыць пры дапамозе знаёмых наборшыкаў некалькі пудоў шрыфта, падшукаць выгоднае і захаванае ад староньніх вачэй памяшканьне—калі-б у гэтым дапамог Ржэўскі! На яго Уладзік спачатку вялікія ўскладаў надзеі, але ў апошнія часы пераканаўся, што, сьмелы на словах, ён на справе баіцца, і магчыма на большае, як захоўваць літаратуру, ён ня пойдзе.

Уладзік выйшаў на Ліцейны мост і спыніўся, узлокціўшыся на парэнчы. Надыходзіў змрок. У далячыні шарэлі, нізка прытуліўшыся да самай вады, змрочныя бастыёны Петрапаўлаўскай цытадэлі, над якой высока залаціўся шпіль з анёлам наверсе.

Насупроць—высілася цынамонавая грамада Зімняга палацу. Мабыць, Мікалай падыходзіць часамі да вялізных акон, пазірае на Няву, бачыць цытадэль. І ён павінен, ён ня можа ня думаць пра тых, якіх загадаў заперці ў бастыёны, на якіх наваліў шэрую грамаду каменьня, якіх атуліў магільнай цішынёй. Але воля палонных цьвярдзей граніта цытадэлявых скляпеньняў, яна ня гнецца ад іх цяжару, а маўчаньне цытадэлі голасна крычыць усяму сьвету пра існаваньне ў Расіі—ворагаў усясільнага самаўладзтва. Камэндант даносіць яго імпэратарскай вялікасьці пра кожнага

новага вязьня, падае штомесячны рапарт з пералікам імён і прозьвішч тых, вартаўнікам якіх ён зьяўляецца. Холадам магілы павявае ад гэтага сьпісу. І халодная нянавісьць адлюстроўваецца ва ўтаропленых на яго шэрых вачох гаспадара Зімняга палацу. А які вялікі лік тых, хто знаходзіцца на волі, хто пляце ў Пецярбурзе, Маскве, Харкаве, Варшаве, Рызе і ў шмат якіх іншых прамысловых гарадох сетку партыйнай арганізацыі, ячэйкі якой растуць і пашыраюцца па ўсёй краіне, і програма якой нясе бязьлітасную сьмерць самаўладзтву, дваранству і капіталу? Цар ня любіць падыходзіць да акон на Няву і пазіраць на цытадэль. Навошта палац пабудавалі насупроць яе?

Уладзік перайшаў на другі бок мосту. Направа высіцца Смольны Інстытут, налева відаць вежы, ад якіх разыходзіцца перакрыжаваньнем чатыры пяціпавярховыя корпусы самотнай турмы. За кратамі маленькія вокны яе камэр мутна асьветлены з сярэдзіны. „Вольных нумароў няма“,— успамінае Ўладзік надпіс на дзьвярох гасьцініцы, у якой ён хацеў спыніцца, калі прыехаў у Пецярбург. Тут таксама, мяркуючы па аганькох у вокнах, усё занята. У „Крэстах“ ёсьць і палітычныя, і крымінальныя. Але крымінальныя,—гэта таксама вынік улады капіталу, пры соцыялістычным ладзе іх ня будзе.

Гарадавы, які праходзіў каля Ўладзіка, акінуў яго падазроным поглядам.

— Ці ня думае ён, што я хачу ўтапіцца? Дурань! Перада мной—усё жыцьцё!

Уладзік даехаў на концы да Неўскага і хутка пайшоў дамоў на Пушкінскую. Дзьверы адчыніла гаспадыня, якая ветліва прывіталася і паведаміла, што яе муж зноў выехаў у камандыроўку, а яна адна і вельмі сумуе...

— Ці ня хочаце гарбаты? Якраз я паставіла самаварчык. А то вы нанялі пакой з самаварам і амаль ніколі яго не патрабуеце?

Уладзік далікатна падзякаваў, але адмовіўся. Гаспадыня ўвайшла ў яго пакой і запаліла сьвятло, відавочна, жадаючы застацца з Уладзікам. Яна ласкава паглядзела на яго, а ён адчуваў крыўду і ня ведаў як ад яе адчапіцца. І трэба-ж было яму, наймаючы кватэру, паказаць сторублёўку! У выніку з першага-ж дня маладая жонка старога чыноўніка пачала рабіць яму розныя авансы, апранаць празрыстыя капоцікі, якія нечакана часамі расхіналіся, скардзіцца на нуду і самоту... Уладзік ня меў настрою адказваць на гэтыя знакі ўвагі, але разам з тым далікатнічаў і не хацеў пакрыўдзіць вельмі выразным выяўленьнем свайго холаду.

— Прашу прабачэньня, але мне трэба пераапрануцца і зноў пайсьці.

— Як шкада! А я спадзявалася, што мы пасядзімо, пагутарым... Дарэчы, можа быць вам што-небудзь з бялізны падрапараваць трэба? Вы не саромейцеся мяне, я гляджу на вас, як на роднага.

— Вельмі вам ўдзячны, але покуль нічога ня трэба.

— А куды гэта вы ідзіце? Мабыць, паненкі цікавыя знаёмыя ёсьць? На спатканьне? І навошта пераапранаецеся? Ад мяне нічога не схаваецца,—яна хітра ўсьміхнулася і пагразіла пальчыкам.

— Паненак няма, а я часамі бываю ў Альказара або на астравох з таварышамі і, разумееце, нейк нялоўка ў студэнцкай форме ў начныя рэстараны хадзіць, а ў штацкім адчуваеш сябе больш вольна.

— Хоць-бы мяне калі-небудзь запрасілі...

— Калі-б я быў адзін,—дык з вялікім задаваленьнем.

— Ну, жадаю вам павесяліцца. Вернецеся, мабыць, позна? Ня бойцеся мяне пабудзіць, я адчыню вам дзьверы.

— Вельмі ўдзячаны,—адказаў, уздыхнуўшы Уладзік і падумаў, што адчыняць яна будзе ўжо зусім амаль голая: у аднэй начной сарочцы і пантоплях на босую нагу, што зноў прыдзе ў яго пакой запаліць сьвятло і паслаць пасьцель, зноў давядзецца далікатна яе выводзіць... Можа быць ён ня быў-бы такім халодным да яе, калі-б яна была менш даступнай. А яе навязваньне адпіхала, выклікала варожасьць.

Асабліва яго разгневала яе запытаньне пра фотографічную картку Каці, якая стаяла у яго на пісьмовым стале. Картачка, гэта ўсё, што засталося ад іх знаёмства. Каця скончыла інстытут і жыла з бабкай у двары, куды Ўладзік ня меў цяпер ніякай надзеі папасьці, бо Грахольская прадала ўсю сядзібу мясцоваму вясковаму кулаку. Запытаньне гаспадыні пра картачку Каці здалося Ўладзіку такім зьняважлівым, што ён ледзь стрымаўся ад грубасьці.

Пераапрануўшыся ў штацкае, Уладзік пайшоў, з пажаданьнямі весела правесьці час...

3

Прыехаўшы ад Нікольскага вакзалу на паравічку за Неўскую заставу, Уладзік зьвярнуў у глухую, амаль зусім неасьветленую вуліцу, знайшоў закураны дом, падняўся па брудных вузкіх усходах на пяты паверх і два разы пацягнуў за ручку званка. Дзьверы адчыніў высокі рабочы.

Уладзік прывітаўся, увайшоў у вялікі слаба асьветлены газоўкай пакой і падаў руку тром рабочым, якія сядзелі каля стала.

— Добры вечар, таварыш Сьцяпан,—весела віталі яны Ўладзіка, што вы нам сёньня раскажэце?

— А вы пра што хацелі-б слухаць?—запытаўся Ўладзік.—Я прынёс сьвежанькі нумар „Іскры“, можа быць яе пачытаем разам?

— Вельмі цікава нават. Чытаем мы і без вас гэту „Іскру“. Добрая газэта, наша, можна сказаць. Толькі шмат не разумеем. Словы такія ўсё мудрыя. Вырашылі на паперку выпісваць іх, а пасьля ў вас запытацца і вывучыць, а то часта пападаюцца. Вось я запісаў,—сказаў гаспадар, надзяючы акуляры і дастаючы з портуманэту сьпісаную каракулямі паперку.—Да прыкладу, „эксплёатацыя“—што яно азначае? Здаецца, што нешта ўродзе ўціску, а ці гэтак, ці не, ня ведаю. Пасьля „сындыкаліс-

тыя францускія“—гэта зусім незразумела, хто такія. Яшчэ я запісаў тут дэзорганізацыю і эволюцыю, пасьля консэрватараў,—гэта консэрвы, ці што робяць, гэта значыць фабрыканты такія? Рэволюцыю мы вельмі добра ведаем, а вось эволюцыя што такое? Куды-ж „ры“ падзелася?

Уладзік вытлумачыў, стараючыся гаварыць самай простай і зразумелай мовай.

— Вы папрасіце там тых, што пішуць, тлумачыць, а то ні якім чынам не зразумець! Вунь яны хто консэрватары выходзіць! Ха-ха-ха! А мы ўсё пра консэрвы думалі!

Уладзік прачытаў і растлумачыў галоўныя артыкулы з „Іскры“, а самы нумар пакінуў у распараджэньне гуртка.

— Штосьці сёньня мала народу прышло? Мінулы раз дзесяць чалавек было.

— Просяць прабачэньня,—хто ў начной зьмене. У Сымона—жонка радзіла, хрэсьбіны, Рыгор таксама гаварыў ніяк нельга. Я ім вашы словы ўсе перадам і нумарок яны прачытаюць,—колькі разоў пыталіся ўжо, ці новенькага няма.

— А ваша жонка куды падзелася?—запытаўся Ўладзік.

— Да кума пайшла. Саромеецца яна нас. Ня наша, кажа, бабская справа ў такія вашы гутаркі ўмешвацца. І праўда, у бабы, ведаеце, волас доўгі, а розум кароткі.

— Вось гэта зусім няправільнае разважаньне,—горача перабіў Уладзік.—Жанчына—такая-ж працаўніца. Хіба забыліся, як вясной на Абухаўскім заводзе пры сутычцы з казакамі і ў часе ўсёй забастоўкі жанчыны сябе трымалі? Сапраўднымі рэволюцыянэркамі!

— Дык гэта-ж дзяўчаты! А выйдзе замуж, дзеці пойдуць,—куды ўжо тут такімі справамі займацца! Пялёнкі, соскі і ўсякая ўсячына такога роду.

— А як справы ў вас на заводзе?

— Памаленьку. Лісткі пашыраем. Прыдзеш гэта да гудка, асабліва ў скрынкі такароў, сьлесароў там і іншых разложыш. Палезе ён туды, пабачыць, зараз у кішэню, а пасьля пойдзе ў клёзэт чытаць. Усё больш там асьветай займаемся. Прачытае,—другому каму з сваіх перадасьць. Нічога, гэта справа ідзе. Папаўся нядаўна адзін лісток майстру, пачаў крычаць: хто? вядома, усе кажуць: ведаць ня ведаем. Аднёс ён лісток у кантору, вядома, дырэктару, а што далей было,—невядома. Нашы мужчыны і сябе і іншых абараняюць, вельмі нават акуратна.

— Вось, што таварышы,—сказаў Уладзік.—Напішэце вы пра свой завод, пра парадкі, штрафы, паводзіны майстраў і начальства, пра заработак, рабочы час і ўсё такое падрабязна, а мы ў „Іскру“ пашлем, і ўсё там надрукуюць.

— Ну ўжо, чаго там пра нас друкаваць! Больш цікавае ёсьць.

— Надрукуюць, даю вам слова. Вы пачытайце корэспондэнцыі з заводаў і фабрык, зьмяшчаюць-жа? прахапіце, як мае быць, каго варта з начальства, з поўнымі прозьвішчамі, няхай уся Расія ведае, якія ў вас парадкі.

— Пётр Аляксеевіч, а праўду таварыш Сьцяпан кажа, трэба папрабаваць. А ўжо як пасьля будзе цікава сваё, што пісалі, у газэце пабачыць! Скажы, калі ласка, што прыдумаў! Вельмі лоўка. Напішам, таварыш Сьцяпан,—сказаў ён, зьвяртаючыся да Ўладзіка.—Ня сумнявайся. У наступны раз, як прыдзеш, усё табе начыста падамо, і пасылай з богам!

— Пасьля вось яшчэ што, таварышы,—казаў далей Уладзік.—Трэба нам моцную організацыю тут аформіць. Зьбіраемся мы цяпер калі дзесяць чалавек, калі пяць, чытаем разам, абгаварваем, організацыі ў нас няма. Трэба вось з вас утварыць галоўнае ядро, выбярыце вы сэкратара, скарбніка, і будзе гэта партыйны камітэт вашага заводу. А вакол гэтага камітэту старайцеся згуртаваць спачуваючых, з іх пасьля з разборам, хто поўнага давер'я заслугоўвае і хто програму нашу разумее і з ёю згодзен, будзем прымаць у камітэт, пашыраць яго, рабіць уплывовым сярод рабочых, пасьля свайго заводу лісток пачнем выдаваць,—так справа і пойдзе.

— Трэба падумаць, што і казаць, справа вельмі нават добрая.

— Дык вось, у наступны раз я прыду ў пятніцу, зьбярэце ўсіх, хто бываў на нашых гутарках, і давайце вырашым гэтае пытаньне канчаткова.

— Вось яшчэ што мы хацелі запытацца вас,—зьвярнуўся да Ўладзіка гаспадар кватэры.—Пра студэнтаў. Дэмонстрацыі яны наладжваюць, на сходы зьбіраюцца, рэзолюцыі прымаюць, у турмы іх садзяць. Як гэта разумець? З намі яны ідуць, або самі па сабе?

— Прыгнечаньне самаўладзтва адбіваецца на ўсіх пластох насельніцтва,—адказаў Уладзік.—Нездавальненьне расьце ня толькі ў рабочым асяродку, але і ў сялянстве, і сярод буржуазіі, нават сярод буйных капіталістых, якія лічаць, што і яны павінны прымаць удзел у кіраўніцтве Расіяй. Студэнты гэта найбольш чулая моладзь. Да гэтага часу студэнцкі рух ставіў сваёй мэтай толькі зьмену унівэрсытэцкага статуту, заваёву вольных умоў выкладаньня і права мець свае організацыі ўзаемнай дапамогі. Урад пачаў арыштоўваць і за гэтыя скромныя патрабаваньні. У выніку рух пашырыўся. На студэнцтва трэба глядзець, як на саюзьнікаў у змаганьні супроць царызму, хоць, вядома, гэта часовыя саюзьнікі, якія поўнасьцю пад сьцяг нашай партыі ня стануць, за выключэньнем адзінак, а яны ня ўлік. У кожным разе магу вам сказаць, што чыста студэнцкіх дэмонстрацый больш ня будзе, а будуць разам з рабочымі.

— Так. А курсысткі?

— Курсысткі—таксама.

— Вы прабачце, а вось з курсысткамі нядобра неяк выходзіць. Усё-ж такі яны—паненкі. Куды ім з намі, мурзатымі...

— Гэта зусім няправільны погляд,—горача перабіў Уладзік.—А Пяроўская, а іншыя жанчыны? Хіба мала іх было?

— Пра Пяроўскую гутаркі няма, гэта зусім іншая.

— Вось што. У чарговы раз прынясу я вам кніжку нямецкага соцыял-дэмократа Бебеля пра жанчыну і соцыялізм. Пачытайце, тады іншае скажаце.

4

Пры ўваходзе ў Дваранскае сабраньне натоўп. Было найбольш шапак усіх вышэйшых навучальных установ Пецярбургу. Пад'яжджалі карэты, рамізьнікі. Усе сьпяшаліся працiснуцца ў дзьверы, хваляй уліваліся ў прадпакой, скідалі верхнюю вопратку і ўзьніраліся па яскрава асьветленых усходах наверх, у вялізную залю.

Студэнты унівэрсытэту адчувалі сябе гаспадарамі вечару і з дзелавым выглядам правяралі білеты, запрашалі ў фойе, далікатна адказвалі на ўсе запытаньні. Сёньня—штогодні студэнцкі баль, на які прыходзілі самыя шырокія колы Пецярбургскага грамадзтва. У програме—студэнцкі оркестр пад кіраўніцтвам Глазунова, хор, лепшыя опэрныя, драматычныя і балетныя артыстыя. Некалькі студэнтаў у сурдутах з кіраўнічымі банці на грудзёх спэцыяльна дзяжурылі ўнізе, чакаючы прыезду артыстых, праводзілі іх у спэцыяльную гасьцінную, частавалі гарбатай і фруктамі. Але прылізаныя студэнцкія сурдуты на белай шоўкавай подшыўцы губляліся сярод шэрых і чорных тужурак, якія былі неахайна апрануты на рускія рубашкі на выпуск, а лякіраваныя балёвыя чаравікі мільгалі ўсяго рэдкімі чорнымі бліскучымі плямкамі паміж рыжымі, або як-небудзь падчэрненымі больш-менш стаптанымі ботамі і чаравікамі. Адкрытыя балёвыя ўбёры дам таксама папалі ў палон да простых глухіх сукенак курсыстак. Аднак, у відоўні сурдуты, лякіраваныя чаравікі, мудрыя высокія прычоскі і голыя плечы захапілі ўсю ўладу ў свае рукі і адціснулі стрыжаныя галовы курсыстак і стаптаныя боты пролетарскага студэнцтва ў самыя задпія рады, а шмат загналі і на хоры. Пераможаныя ня скардзіліся: яны разумелі, што посьпех збору з балю на карысьць бедных студэнтаў залежыць не ад іх, а ад шоўку, аксаміту і накрахмаленых каўнерыкаў.

У фойе ішла апошняя падрыхтоўка да адчыненьня кіоскаў з кветкамі, шампанскім, марожаным, а каля ўваходу ў залю бойка прадавалі мастацка-выкананыя програмы. Каўнерыкам даводзілася кепска, бо рэшты не давалі.

Раптам з усходаў данесься якісьці рух, хутка прабіўся ў залю і ў фойе і прымусіў усіх спыніць гутарку і ўпіцца поглядам на ўваходныя дзьверы. Туды разам з студэнтам, які палаў ад шчасьця, падымалася вядомая ўсяму Пецярбургу балярына Кшэсінская, якая згадзілася прадаваць шампанскае ў кіоску. Агульны рух быў выклікан яе сукенкай, гэта значыць, ня простай глухой чорнай шоўкавай сукенкай, а брыльянтавай імпэратарскай каронай,—падарункам Нікалая II, якая была прыколана зьлева на грудзёх, і кольве з вялікіх, вялічынёй у буйны арэх, брыльлянтаў, якое абвівала яе шыю.

— Якая сьмеласьць!—чулася сям-там з радоў публікі, што запаўняла залю і якая зайздрасна ўпілася вачыма ў карону.

— Вось плачуць дзе народныя грошыкі!—далятала з задніх радоў.

Кшэсінская, усьміхаючыся і адказваючы на рэдкія прывітаньні, прайшла ў фойе і заняла месца ў кіёску. У момант кіоск абступіла залатая моладзь. Гандаль пачаў багач—студэнт граф Строганаў, які пажадаў выпіць чару шампанскага, неахайна палажыўшы перад прадаўніцай пяцьсот рублёў і папрасіўшы ў знак рэшты дазволу пацалаваць ручку.

Уладзік у нязьменнай тужурцы і рускай рубашцы прайшоў са скрыпкай у футляры на эстраду, палажыў інструмант каля свайго месца ў студэнцкім оркестры і накіраваўся да дзьвярэй вялікага задняга пакою, які найбольш яго цікавіў. Там уздоўж сьцяны цягнуўся доўгі непамаляваны стол, каля якога стаяла некалькі табурэтак. Пакой быў яшчэ пусты. Уладзік вярнуўся ў залю, прайшоў на хоры, прывітаўся там з дзесяткам асоб і завязаў ажыўлёную гутарку. Аднак, званок, які хутка празьвінеў, прымусіў яго выйсьці ўніз і накіравацца да эстрады, куды ўжо зьбіраўся аркестр.

Праз некалькі мінут на дырыжорскім мастку зьявілася спатканая аплёдысмэнтамі мужная постаць Глазунова. Ён узмахнуў палачкай, упіўся пагрознымі вачыма ў карнэтыстага, які часам фальшывіў, і гукі ўрачыстага маршу напоўнілі высокае памяшканьне. Публіка рассаджвалася па мясцох. Пасьля маршу аркестр сыграў уэртуру з „Князя Игоря“ і ўступіў эстраду іншым удзельнікам. Слухачы, асабліва хоры і заднія рады, сваімі крыкамі „брава! біс!“ віталі студэнтаў музыкаў. У адказ на аплёдысмэнты кланяўся Глазуноў.

Забралі крэслы і пюпітры, выцягнулі рояль, і па залі паплылі магутныя гукі эпітолямы з „Нэрона“ ў выкананьні Тартакава.

Пасьля Тартакава выступіла з дэклямацыяй Комісаржэўская, у мяккі і глыбокі голас і стройную постаць якой Уладзік быў крыху закаханы. Яна прачытала верш Некрасава і прывяла гэтым галёрку ў надзвычайнае захапленсне. Тужуркі, стрыжаныя галовы выяўлялі сваё захапленьне па адрасу артысткі. Але яшчэ больш яно адносілася да Некрасава, імя якога непарыўна зьвязвалася з змаганьнем супроць ураду. „У парадного пад‘езда!“—„Железную дорогу!“—раўла галёрка.

Комісаржэўскую прымусілі чытаць пяць раз.

Амаль усе артыстыя выбралі для сваіх выступленьняў творы перадавых аўтараў, якія так любілі студэнты, і шчодра ўзнагароджваліся за такі выбар урачыстымі крыкамі пахвалы.

У заключэньне концэрту студэнцкі оркестр разам з хорам выканаў унівэрсытэцкі гімн: „Гаудэамус Ігітур“, падхоплены амаль усей заляй.

Публіка выйшла ў фойе, буфэт і на ўсходы. Службоўцы хутка выносілі з залі крэслы, падрыхтоўваючы яго да танцаў. Каля эстрады заблішчэлі трубы оркестру гвардэйскага палку.

Уладзік спусьціўся ўніз, пакінуў у разьдзявальні футляр з скрыпкай, прывітаў мімаходам корнэтьстага, у якога на гэты раз усе сышло ўдачна і, бокам праціскаючыся праз натоўп, сьпяшаўся да запаветнага задняга пакою.

Дзьверы ў яго былі шчыльна зачынены, але калі Уладзік нецярпліва рвануў ручку, прыадчыніліся, і з-за іх зірнуў твар знаёмага студэнта. Калі ён пабачыў Уладзіка, то прапусьціў яго і зноў зачыніў дзьверы.

Пакой быў ужо біткам набіты тужуркамі і стрыжанымі галовамі.

— Пачынайце! Пачынайце—гучэлі нецярплівыя галасы.

На стол узьлез высокі худы студэнт з доўгімі валасамі, агледзеў зьверху тых, хто сабраўся, узмахнуў доўгімі, як крыльля ветрака, рукамі і голасна засьпяваў:

„Па Маскве пранёсься слых:
Міратворац наш... пракіс!"

Шматгалосны хор голасна падхапіў:

„Ах, ты, зімачка, зіма,
Ты халоднаю была".

Студэнт сьпяваў куплеты за куплетам:

„Усю паліцыю з ног зьбілі
Соцыялістых грозных сілы!"

Яго перапыняў шматгалосы прыпеў.

Кожны ўдзельнік хору імкнуўся перакрычаць суседа. Выходзіла часамі ня зусім гладка, але за тое, калі прыадчыняліся дзьверы, ураган галасоў магутнай хваляй вырываўся ў залю і далятаў нават да прадпакою. Паліцыя, якая была яўна і няяўна на вечары, скрыгатала зубамі, але зрабіць нічога не магла, бо сьпяваньне рэволюцыйных песень увайшло ў традыцыю студэнцкіх баляў.

Уладзік вышаў у залю і спыніўся каля калёны.

З эстрады даляталі мілагучныя і пругкія гукі штраўсаўскага вальсу, і танцоры, сплятаючыся ў рознакалёрны рухавы вянок, круціліся, аддаючыся рытму музыкі. Бездакорныя студэнцкія мундзіры з залатой абшыўкай на высокіх каўнярох, сурдуты, белыя пальчаткі, дыяганалевыя нагавіцы са штрыпкамі, якія стройна аблягалі нагу, фракі штацкіх гасьцей, празрыстыя убёры дзяўчат, іх белыя туфелькі, якія амаль не датыкаліся да люстранага паркету, якія мільгалі ў такт вальсу, водар парфумы, які напаўняў залю... Зусім іншы сьвет, які ня мае нічога агульнага з касавароткамі і простымі сукенкамі задняга пакою! Тут—імкнуцца да асалоды, аддаюцца хараству і музыцы, захопленыя пераліўнымі рухамі пад гукі оркестра. Там—з маладой бадзёрасьцю і натхненьнем захоплены сьпевамі рэволюцыі. Гэтыя будуць карыстацца ўсімі ласкамі жыцьця Тых—чакае турма, ссылка, жабрацтва, жыцьцё загнанага ваўка. Уладзік усім серцам быў з імі. Але як прыгожа тут, у залі! Якія прыгожыя гэтыя ружовыя дзяўчаты, якія недаступныя яны ў сваёй чыстаце! Да іх наблізіцца, як роўны мае права толькі герой, толькі талент, здольнік, які

падыходзіць да іх хараства і грацыі, якія лоўкія і вабныя сваім выглядам гэтыя пустагаловыя студэнты ў мундзірах і сурдутах на белай падшыўцы, якія захавалі зайздрасьць сваіх рук пад белымі пальчаткамі. Як упэўнена адчуваюць яны сябе на балі, з якой агідаю паварочваюцца яны, калі з задняга пакою ў залю далятаюць абрыўкі песень рэволюцыі. Якія гадкія і подлыя яны, і, разам з тым, якую прыгожую гірлянду ўтвараюць яны ў парах, што круцяцца па залі! Няўжо дзяўчаты, якіх яны абнімаюць, у часе вальсу ня бачаць іх нікчэмнасьці? Чаму яны ўсьміхаюцца ім? Чаму дазваляюць брудным рукам гэтых тупых самцоў сьціскаць сябе, як сваю законную здабычу?

Оркестр грае на памяць, не пазіраючы на ноты. Салдаты пазіраюць на танцораў. Пра што яны думаюць? Эх, калі-б гэты оркестр перасадзіць у задні пакой, каб магутны выбух вайсковых труб падхапіў гімн рэволюцыі!

Уладзік вярнуўся да хору.

Прасьпевалі „Нагаечку", „Дубинушку", „Укажи мне такую обитель", „Лапти", „Вы жертвою пали", „Байкал", „По пыльной дороге", „Варшавянку", але запал харыстых ня толькі не астыў, але разгараўся ўсё больш. Лахматы студэнт ахрып, мокрыя ад поту пасмы яго валасоў прыліплі да ілба, але нікому ня ўступіў сваёй ролі дырыжора.

Кончылі пасьля трэцяй гадзіны раніцы „Марсельезай", якую вынесьлі ў пустую залю, а адтуль на вуліцу. Каля Неўскага проспэкту разьбіліся на групы. Большая частка накіравалася дамоў, а самыя неўгамаваныя шумным натоўпам пайшлі на Васільеўскі востраў піць гарбату ў якуюсьці рамізьніцкую гарбатню, адкрытую ўсю ноч.

5

У габінэце літаратара Шурынава было накурана. Усе сядзелі на канапе, крэслах. Уладзік стаяў каля бібліятэчнае шафы і з хваляваньнем разглядаў тых, якія якраз выклікалі ў ім пачуцьцё бязьмежнай пашаны. Тут былі лепшыя прадстаўнікі літаратуры і перадавой грамадзкай думкі. Першае месца сярод іх займаў Максім Горкі, на якога Уладзік доўга пазіраў не адрываючыся. Гэтая вялікая рука напісала „Макара Чудру", „Мальву", „На дне", „Песьню пра Буравесьніка"... Горкі апавядаў хаваючы ў вялікіх навіслых вусох ухмылку, што міністр ўнутраных спраў Сіпягін і мітрапаліт Антоні дабіваюцца з ім спатканьня.

— А мне здаецца,—чаго прасьцей?—гаварыў ён глухім голасам.— Няхай загадае мяне арыштаваць—не ў пяршыню!—і прыдзе ў жандарскую на допыт. Або да сябе хай загадае даставіць. Вось і буду ў яго ў гасьцях.

Тоўсты адвакат, заўсёды абаронца па політычных справах, горача абараняў сваю прапанову ўчыніць чарговы скандал па адрасу ўраду.

— Я дакладна разузнаў: на сходах біблейскага таварыства або таварыства па распаўсюджваньню сьвятога пісаньня,—ліха яго ведае, як

яно называецца, ніяк не магу запамятаць,—амаль нікога звычайна ня бывае. Уступіць у члены гэтага таварыства можна без усялякіх перашкод: унесьці тры рублі і гатова справа. Запішамся мы ўсёй кампаніяй, чалавек пяцьдзесят будзе зусім даволі. Зьявімся на першы-ж агульны сход і будзем у абсолютнай большасьці. А там і паставім пытаньне аб выключэньні з ліку ганаровых членаў таварыства вялікага князя Уладзімера, старога пацука Пабеданосцава, Іоана Кронштадзкага і кучу іншых! Гарантую, што пройдзе як ня трэба лепш! Разумееце, як пра гэта будуць скрозь крычаць, які ня людзкі скандал! Пасьля—устанаўляй зноў! Любата!

Прапанова гэта выклікала агульны сьмех, але да яе ніхто не захацеў аднесьціся сур'ёзна, на вялікую крыўду адваката.

Высокі чорны мужчына ў цёмных пэнснэ падышоў да Ўладзіка, Уладзік быў з ім знаём раней.

— Ну, што ў вас ва унівэрсытэце? Хутка зноў баставаць будзеце? Як расьце ваша організацыя? Івана Сьцяпанавіча даўно бачылі?

Уладзік адказаў ухіляючыся. Яму вельмі не падабалася гэта манера распытвацца пра пляны і склад організацыі, а Міхаіл Іванавіч вечна прыставаў з такімі пытаньнямі. А не адказаць яму нялоўка: ён у свой час быў у ссылцы ў Сібіры. А цяпер рознымі спосабамі дапамагаў рэволюцыйному руху, выдаваў буйны марксыцкі часопіс.

— Нічога сабе, расьцем. А ў унівэрсітэце пакуль спакойна. Пра будучае не гадаем, жывем сёнешнім днём. Рыхтуемся да выбараў стараст,—ухмыляючыся сказаў Уладзік.

— Чаму вы да мяне не заходзіце? Спаткаеце цікавую публіку.

— Дзякую вам, зайду абавязкова.

— У мяне да вас дарэчы ёсьць вялікая просьба. Вам Ганна Аляксандраўна раскажа.

Ганна Аляксандраўна—грамадзянская жонка Міхаіла Іванавіча, была поўнай яго процілегласьцю. Міхаіл Іванавіч, не зважаючы на свае стараньні надаць сабе панскі выгляд, ня мог зрабіць гэтага, хоць фарбаваў валасы. Уладзік ня ведаў іх натуральнага колеру, але шмат хто памятаў часы, калі Міхаіл Іванавіч быў вельмі рудым. Анна Аляксандраўна, не зважаючы на свой узрост, захавала манеры інстытуткі, належала да дваранскай сям'і і, не саромеючыся староньніх, дапякала Міхаіла Іванавіча яго мяшчанскім пахаджэньнем. Яна таксама насіла цёмнае дымнаватае пэнснэ і Ўладзік ніколі не бачыў яе вачэй. Жылі яны на Чацьвертай Раждзесьцьвенскай, займалі багатую кватэру, мелі дарагое абсталяваньне і наладжвалі часта вечарынкі з далікатнымі вячэрамі і вінамі. Міхаіл Іванавіч гаварыў, што ён зьяўляецца буйным акцыянэрам Гартманаўскіх заводаў у Луганску, і, апрача таго, вядзе ўдачную біржавую гульню,—абставіны, якія прымушалі шмат каго пазіраць на яго скоса і ня лічыць яго сваім чалавекам, не зважаючы на мінулую ссылку.

У габінэце ішла жорсткая спрэчка паміж марксыстымі і народнікамі аб лёсе капіталізму ў Расіі. Народнікі абаранялі суполкавую форму

зямлякарыстаньня сялян, пры чым бачылі ў суполцы ўжо гатовую форму соцыялістычнага колектыву, якую трэба толькі напоўніць адпаведным зьместам. Вось чаму яны адводзілі сялянству асноўную ролю ў рэвалюцыйным руху і зусім не хацелі лічыць рабочую клясу колькі-небудзь значнай велічынёй. Марксыстыя даводзілі, што суполка зьяўляецца гістарычным перажыткам, прысуджаным на пагібель, і лічбамі, і фактычнымі дадзенымі даводзілі распад суполкавых форм зямлякарыстаньня, якое адбываецца нават у межах Расіі. Сыпаліся цытаты з кнігі Леніна „Разьвіцьцё капіталізму ў Расіі“, якая зьявілася вялікім пунктам падпоры абаронцам тэорыі Маркса.

Уладзік слухаў іх спрэчку з вялікай цікавасьцю і стараўся лепш зразумець і запамятаць асноўныя пазыцыі марксыстых, каб пасьля расказаць пра гэта на чарговым сходзе рабочага гуртку за Неўскай заставай. Цяпер ён у пытаньнях марксызму ўжо быў падкаваны ў кожным разе на дзьве нагі (да чатырох заставалася яшчэ значная дыстанцыя) і не бяз усьмешкі ўспамінаў свой адказ на запытаньне: чым марксызм адрозьніваецца ад народніцтва, якое задаў яму адзін з таварышоў у Маскве, калі ён яшчэ быў у гімназіі. Уладзік тады, баючыся прызнацца ў сваёй несьвядомасьці, сказаў, што народнікі прапаведваюць ісьці ў сялянства і весьці па вёсках пропаганду супроць ураду, а марксыстыя прапануюць куды лепшы плян: заместа паасобных гутарак з сялянамі,—пайсьці на фабрыкі і заводы і агітаваць адразу сотні рабочых,—тых-жа сялян, згуртаваных разам,—у чым і ёсьць галоўная перавага рабочае клясы, згодна тэорыі Маркса. Праўда, пабачыўшы недаверлівы погляд у адказ на гэта растлумачэньне, Уладзік знайшоў у сабе мужнасьці прызнацца, што ён гэта „ня зусім пэўна“ ведае...

— Панове, дазвольце запрасіць вас у сталовую,—перабіла спрэчку гаспадыня.

— Адну хвілінку, зараз кончым,—з просьбай зьвярнуўся да яе знаўца аграрнага пытаньня Маслаў, які толькі што нарыхтаваў для супраціўніка-народніка забойны аргумэнт.

— Ну, ведаеце, калі чакаць, пакуль вы скончыце,—дык самавар ня толькі астыне, але ўвесь высахне!

Усе ўсталі і накіраваліся з габінэту. Маслаў усё-ж такі ўхапіў за гузік сурдута свайго суседа і стараўся па дарозе сапсаваць ему апэтыт довадам няўхільнай пагібелі суполкі і няўхільнага ўступленьня сялянства на шлях пролетарызацыі.

6

Званок, Уладзік адчыніў дзьверы.

— Уладзімер Мікалаевіч дома?

— Гэта я. Заходзьце калі ласка.

Незнаёмая ўвайшла ў пакой Уладзіка, акінула яго поглядам, падняла вуальку і ціха сказала:

— Я ад Івана Сяменавіча.

Уладзік запрасіў яе распранучца і запрапанаваў крэсла, а сам сеў насупроць.

— У вас у саседнім пакоі нікога няма? Адтуль ня чуваць?—сказала яна, заўважыўшы застаўленыя камодам дзьверы.

— Гаспадыні няма дома, так што ва ўсёй кватэры я адзін.

— Вельмі добра. Іван Сямёнавіч расказаў мне, што ў вас за Неўскай заставай ёсьць добра організаваны гурток рабочых. Ён накіраваў мяне на дапамогу вам. Я, вядома, яшчэ не практычная, але аддам усе сілы, каб быць карыснай. Далейшае залежыць ужо ад вас, гэта значыць у сэнсе маёй работы.

— А вы, дазвольце даведацца, хто?

— Я курсістка бястужаўка. Прымала ўдзел у гуртках на нашых курсах, чытала рэфэраты на тэму пра рабочае пытаньне, пра соцыялізм, пра матэрыялізм, сачу за нелегальнай літаратурай, стараюся быць у курсе падзей, крыху ведаю тэорыю Маркса, гэта значыць так, каб выкладаць яе асновы.

— Вельмі добра. Але, ці бачыце, я павінен вас адразу папярэдзіць, рабочыя глядзяць на курсыстак чамусьці ня вельмі добра. Як раз на гэту тэму ў мяне апошні раз была заядлая спрэчка. Даў я ім прачытаць Бебеля „Жанчына і соцыялізм“, пасьля наладзіў на гэту тэму гутарку. Кажуць, разумець то мы разумеем, а вось у жыцьці неяк ня так выходзіць...

Уладзік зірнуў на суседку і пабачыў, што яе вялікія чорныя вочы поўныя сьлёз, якія яна дарэмна старалася стрымаць патугай волі.

— Што з вамі?—палахліва запытаўся ён, узяўшы яе за руку.

Яна нахілілася тварам на стол і расплакалася.

Уладзік ня ведаў, што рабіць. Прынёс шклянку вады, угаворваў супакоіцца. Яна ўзяла шклянку дрыжачай рукой і паднесла яе да вуснаў. Чуваць было, як шчоўкалі аб шкло яе зубы. Глынуўшы крыху, яна паставіла шклянку на стол і выцерла вочы хустачкай.

— Вы мяне прабачце,—загаварыла яна парыўчатым і ня зусім згодным голасам.

— Не падумайце, што я гістэрычка. Проста гэта мой праклятый пол... Заўсёды стаіць папярок дарогі. Не вінавата-ж я, што прырода стварыла мяне жанчынай?.. Другі год я імкнуся да ўдзелу ў руху, і нікуды, апрача свайго гуртка на курсах, папасьці не магу... У мінулым годзе папрабавала весьці заняткі ў гуртку на фабрыцы Масквеля. Там-жа працуе бальшасьць жанчын. Нічога ня вышла. Лічаць мяне чужой, называюць „паненкай“, думаюць, што я ад няма чаго рабіць, як пані патранэса, да іх зьявілася... Давялося пакінуць... Вырашыла я сур'ёзна заняцца вывучэньнем марксызму. Не адрываючыся сяджу за кнігамі паўгода і буду яшчэ вучыцца... Хацела атрымаць такія веды, якія прымусілі-б забыцца на тое, што я ў спадніцы... Цяпер вырашыла праверыць

сябе, зьвярнулася да Івана Сямёнавіча, а ён паслаў да вас... І вось, вы... кажаце... зноў перашкода... Перш, чым я ўзялася за справу...

— Прабачце, я ня ведаў, што гэта вам так...

— Не, не,—перабіла яна.—Ня трэба прабачэньняў. Вы вельмі добра зрабілі, што сказалі проста. Было-б куды горш, калі-б раптам з першага разу я нечакана заўважыла недавер'е або яшчэ горш, кпіны.

— Ведаеце што,—цьвёрда сказаў Уладзік.—Наша задача змагацца з неразумнымі забабонамі. Давайце разам праб'ем сьцяну, на якую вы натыкаецеся. Я падрыхтую глебу, скажу пра вас на бліжэйжым-жа сходзе гуртку, а пасьля і прывяду вас туды. Толькі і вы ўжо самі трымайцеся сьмела і незалежна, як роўная з роўнымі, ні ў чым ня ўступаючы, і ніякім чынам не стараючыся як-небудзь падладзіцца да рабочых. Гаварыце з імі так, як вы гаворыце з усімі іншымі, не хаваючы, што вы—інтэлігентка,—ды, аднак, вам і схаваць гэтага было-б немагчыма, варта толькі на вашы рукі зірнуць... Дарэчы, як вас зваць?—запытаўся Уладзік, усьміхнуўшыся пры руху, якім яна схавала свае рукі, калі ён упамянуў пра іх.

— Завеце мяне Галя,—адказала яна.

— Дык вось, таварыш Галя, значыцца ідзем у бой?

— Ідзем,—сказала яна радасна.—Дзякую вам, вы ў мяне зноў надзею ўзварухнулі. Але калі давядзецца расчаравацца...

Глыбокая маршчына лягла на яе лоб паміж брывамі.

— Вы ня можаце зразумець,—сказала яна далей, якая гэта пакута мне. Зойдзеш да таварыша з пытаньнямі, якія ўсіх нас мучаць, а ён,— усё так, або пачынае жартаваць, як з дзяўчынкай, якая хоча дазнацца тое, што ёй яшчэ рана ведаць, або пробуе рабіць залёты... Калі-б вы ведалі, як гэта цяжка! З вас-жа кожны, бяз выключэньня, бачыць у жанчыне,—а асабліва ў прыгожай,—перш за ўсё самку, а не таварыша. Скажэце адкрыта, калі вы адчынілі дзьверы і пабачылі мяне, хіба ў вас ня было пра мяне думкі, як пра жанчыну? Гэта значыць, можа быць, я няправільна выказваюся, але вы інакш паглядзелі-б, калі-б на маім месце быў мужчына?

— Я не хачу вас запэўніваць, што я лепшы ад іншых, але ў гэтым выпадку вы памыляецеся. А вось калі вы заплакалі, мне так захацелася дапамагчы вам, абараніць вас ад усяе крыўды і няпрыемнасьцяй.

— Мы будзем спатыкацца, працаваць разам. Давайце ўмовімся, што вы ня будзеце глядзець на мяне, як на жанчыну, а зусім так, калі-б на маім месцы быў, скажам, ваш таварыш студэнт.

— Пастараюся,—вось і ўсё, што магу вам адкрыта абяцаць.

— Калі-ж мне прыйсьці да вас і калі мы пойдзем у гурток?

— Заходзьце ў суботу, гадзін у шэсьць вечара.

— Добра. А пакуль бывайце здаровы.

Уладзік выпусьціў яе з кватэры. На прыступцы ўсходаў яна амаль цюкнулася з Уладзікавай гаспадыняй, якая акінула яе зацікаўленым і крыху кплівым поглядам.

— Ваша прыяцелька?—запыталася яна, уваходзячы ў прадпакой.— Вы маеце густ...

— Ведаеце, я вас вельмі прашу пакінуць гэтыя жарты,—сурова сказаў Уладзік.

— Ого! Вунь куды ў вас зашло! Прашу прабачэньня, ня буду больш чапаць такіх дарагіх для вас асоб.

7

На трэцяга сакавіка назначана дэманстрацыя. Процьма лістовак за подпісам студэнцкіх рэвалюцыйных організацый і проклямацыі „Саюзу змаганьня“ запрашаюць усіх на Неўскі проспэкт да Казанскага сабору на 12 гадзін дня. Проклямацыі ў дзясятках тысяч экзэмпляраў распаўсюджаны па заводах і фабрыках, паасобныя экзэмпляры іх вісяць на дошцы з аб'явамі ў студэнцкай сталовай і зьбіраюць каля сябе натоўпы студэнтаў. Ва унівэрсытэце ідуць жорсткія спрэчкі. Частка студэнцтва протэстуе супроць удзелу студэнтаў у вулічных выступленьнях, даводзячы, што студэнтам перш за ўсё трэба слухаць лекцыі, а ня ўмешвацца ў політыку. Другая частка гаворыць, што наогул ня варта наладжваць—пасьля практыкі мінулага году, бяззбройных дэманстрацый і падстаўляць сябе пад казацкія бізуны, ня маючы, чым на іх адказаць. Большасьць не пярэчыць супроць дэманстрацыі, але выказвае сумненьне ў мэтазгоднасьці выступленьня разам з рабочымі. Заклік „Касы Радыкалаў“—першай студэнцкай марксыцкай організацыі, якая заваявала ў унівэрсытэце правадырства і якая карыстаецца вялікім аўторытэтам, тушыць спрэчкі. На дошку аб'яў ліхаманкава прыклейваюць рэзолюцыі, якія вынесьлі з прычыны надыходзячай дэманстрацыі сходамі горнага і тэхнолёгічнага інстытутаў, бястужаўскіх жаночых курсаў, сходы курсісткмэдычак. Прыхільнікі дэманстрацыі ўрачыста зазначаюць на правільнае вырашэньне пытаньня гэтымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Хтосьці пытаецца пра інстытут інжынэраў шляхаў зносін, але атрымоўвае жорсткі адказ:—„Ня ведаеце, ці што, колега, што там усе кар'ерыстыя і мамчыны сынкі сядзяць? Яны, вядома, ня пойдуць“.

Уладзік ужо цэлы тыдзень гарыць усхваляваньнем. Надыходзіць першае сапраўднае баявое хрышчэньне. Ён даручыў Галі вышыць на вялікім чырвоным штандары надпіс: „васьмігадзінны працоўны дзень“. Гэты штандар, можа быць, згубіцца на пляцы ў ліку іншых, але ён здаецца Уладзіку асабліва каштоўным і вымагае героічнай абароны.

Гурток за Неўскай заставай таксама абгаварваў парадак удзелу ў дэманстрацыі, зьвязаўся з гурткамі іншых заводаў і выступіць організавана. Там таксама шыюць штандары. Шмат цяжкасьцяй выклікала пытаньне, якім чынам няпрыкметна пранесьці на месца дэманстрацыі кійкі. Штандары будуць схаваны на грудзёх, а ў кожную хвіліну можна іх дастаць. Але на чым іх узьняць? Выручыў Пётра, які ўзяўся даставіць штандартнікам кійкі, падобныя на звычайныя палачкі, да якіх лёгка будзе

прывязаць штандар спэцыяльна прышытымі да яго тасемкамі. З за заставы вырашылі ісьці на Неўскі з самае раніцы па адным-двух, каб не зьвяртаць на сябе без пары ўвагі паліцыі і не даваць прычыны да сутычак.

Уладзік ужо два разы быў у Ржэўскага з мэтай даведацца што-небудзь пра меркаваньні ўраду, але пачуў толькі, што з гэтае прычыны было сакрэтнае пасяджэньне ў міністра ўнутраных спраў, аднак, якія там вынесены пастановы—невядома. Ржэўскі вельмі цікавіўся падрабязнасьцямі надыходзячай дэманстрацыі, але Уладзік расказаў толькі пра тое-што было надрукавана ў проклямацыях.

Вечарам другога сакавіка Уладзік вышаў на Неўскі проспэкт з мэтай правесьці рэкогносцыроўку. Нічога надзвычайнага ня было заўважана. Правы бок проспэкту быў як наўсёды, залюднены, сярод натоўпу кідаліся ў вочы крыклівыя ўбёры простытутак. Уладзік павольна дайшоў да кафэйнай Андрэева, якая зьмяшчалася ў доме нумар чатыры побач з галоўным штабам, і ўвашоў туды, спадзяючыся спаткаць каго-небудзь з таварышоў і даведацца апошнія навіны. У куце ён заўважыў пусты мармуровы столік і прысеў да яго. Нікога з знаёмых ня было. Каля стойкі з пірожнымі і венскімі булачкамі тоўпіліся, як заўсёды простытуткі. Некаторыя з іх сядзелі за столікамі і павольна пілі каву, чакаючы каго-небудзь, хто прываблены іхнымі ўсьмешкамі, падсядзе да іх і заплаціць за выпітае. Дзьве з іх падыйшлі да Уладзіка і папрасілі пачаставаць іх. На гэты прадмет кавярня прырыхтоўвала „пітво“, якое было ў шырокім попыце з боку студэнтаў. „Пітво“ уяўляла сабой салодкую падфарбаваную ваду з пластком цытрыны наверсе і каштавала пяць капеек шклянка. Для студэнцкае кішэні ня цяжка, і для госьцей зусім падыходзіць, бо ад „колег“ яны на большае і не разьлічвалі. Уладзік раскуціўся на дзьве шклянкі „пітва“ з пірожнымі.

Дарэмна прачакаўшы з поўгадзіны, Уладзік вышаў зноў на Неўскі. Публіка ўжо зьмянілася, і засталіся амаль толькі тыя, хто шукаў прадажнага каханьня і прадаўшчыцы яго. На рагу Міхайлаўскай паліцыя нечакана наладзіла аблаву на простытутак, якія рассыпаліся ад яе ў розныя бакі. Тры з іх падбеглі да Уладзіка і папрасілі правесьці каля паліцыі. Уладзік узяў дзьвёх пад рукі і з незалежным выглядам прайшоў каля ланцуга гарадавых пад апекай акалодачнага, якія ня мелі права чапаць жанчын, калі яны ідуць з кавалерам. Дайшоўшы да чыстага месца, ён разьвітаўся з сваімі выпадковымі спадарожніцамі і выслухаў ад іх выяўленьне гарачай падзякі і запэўненьне, што яны ўсе заўсёды будуць разам з студэнтамі супроць праклятай паліцыі.

Каля другой гадзіны ночы Уладзік пачуў цоканьне капытоў коннага атраду, якое набліжалася з боку Гарохавай вуліцы. Некалькі ўзводаў коннай паліцыі выехалі па Казанскай вуліцы на Неўскі і схаваліся ў заўгадзя расчыненых дворнікамі брамах суседніх двароў.

Уладзік сашчапіў зубы. Засада. Ліха з імі. Няхай. Па дарозе дамоў Уладзік купіў у разносчыка тры пачкі табакі.

8

Касыя прамені сонца ранічкою залезьлі ў Уладзікаў пакой і прымусілі яго перапалохана ўскочыць з ложка.—Няўжо праспаў? Але гадзіньнік паказаў толькі палову восьмае.

Зноў заснуць зусім не выпадала. Уладзік памыўся халоднай вадой і адчуў сябе бадзёрым і сьвежым, не зважаючы на тое, што амаль усю ноч ня спаў.

Уладзікава шныпарэньне пачула гаспадыня і пастукала яму ў дзьверы.

— Што гэта вы так рана ўсталі сёньня? паставіць самаварчык?

— Пастаўце, калі ласка.

Праз некалькі мінут яна несла загатаваны самавар.

— З чым-жа вы гарбату будзеце піць? Можа, па булкі зьбегаць?

— Не, дзякуй, у мяне сухары ёсьць.

— Дазвольце запытацца,—памаўчаўшы сказала яна,—што гэта кажуць, сёньня беспарадкі якіясьці будуць? Зноў, кажуць, студэнты супроць ураду ідуць.

— Я таксама чуў сёе-тое, але ня ведаю напэўна.

— Дворнік казаў, у вучастак выклікалі іх. Там прыстаў папярэджваў, загадаў, каб брамы былі запёрты, і нікога акрамя тых, што пражываюць у доме, не прапускаць. Казаў, студэнты хочуць прыгон назад вярнуць, таму і скандаляць.

— Якое глупства!

— Чаму глупства? Ва ўнівэрсытэтах вучацца ўсё панскія сынкі, ну а паном кепска давялося, як сялян вызвалілі. Вось і стараюцца за сябе.

— Гэта нахабная провокацыя,—абурыўся Уладзік. Ды вось вам довад: а чаму-ж рабочыя прымаюць удзел у дэмонстрацыях? Таксама за прыгон стаяць?

— Ну, іх проста з панталыку зьбілі, падманілі. Яны не разумеюць, няпісьменныя.

Уладзік хацеў пярэчыць, але стрымаўся. Няхай думае, што хоча, яе не пераканаеш; у кожным разе зараз гэтым займацца некалі.

— А вы таксама пойдзеце на Неўскі?

— Пайду паглядзець.

— Ах, не хадзеце. Ну, якая вам цікавасьць? У мінулым годзе казакі і паліцыя студэнтаў бізунамі разагналі, а цяпер тое-ж будзе. А там у сумятні хіба будуць разьбірацца, хто вышаў скандаліць, а хто проста падзівіцца? На кожнага студэнта накідацца будуць. Вунь-жа, і салдат цяпер вучаць,—кажуць славеснасьць якаясьці там ёсьць, пытаюцца: хто ворагі бацькаўшчыны? А трэба адказваць: жыды, палячышкі і студэнты. І вас забраць могуць... А мне вас так шкада...

— За пакой я вам заплаціў па першае красавіка,—пасьпеець ў выпадку чаго другому здаць.

— Ды хіба я пра пакой? Гэта нават і няхораша з вашага боку так гаварыць,—пакрыўдзілася гаспадыня.—Я ад усяго сэрца.

— Прабачайце, калі ня так сказаў. Пра мяне не клапацецеся, а я за сябе сам пастаяць здолею.

Задзынкаў званок у дзьверах.

— Каго гэта нясе ў такую рань?—выйшла адчыніць гаспадыня, і, вярнуўшыся сказала:

— Гэта да вас. Паненка ваша.

Уладзік насьпех накінуў на пакурчаную пасьцель коўдру. Увайшла Галя.

— Добры дзень,—моцна паціснула яна руку Ўладзіку.—Я ня вельмі рана?

— Як бачыце, я ўжо ўстаў. Хочаце гарбаты?

— Вып'ю.

Уладзік прынёс сподак і філіжанку.

— Дайце пабуду я гаспадыняю ў вас,—сказала Галя і ўзялася разьліваць гарбату.

— Гатова—ціха сказаў Уладзік, прыадчыніўшы дзьверы і павярнуўшы ключ.

— Вядома,—усьміхнулася Галя, расшпіліла жакет і, адвярнуўшыся, выцягнула з-за пазухі акуратна складзены чырвоны скрутак.—Вось, паглядзеце.

На яскрава-чырвонай матэрыі былі нашыты буйныя—ледзь не ў поўаршына літары: Васьмігадзінны працоўны дзень.

— Неяк асабліва прыемна было працаваць над гэтым лёзунгам, які зьяўляецца агульным для міжнароднага пролетарыяту. Вам падабаецца?

— Вельмі добра.

— Вось мы сядзімо, п'ем гарбату,—задуменна сказала Галя. А хто скажа дзе мы будзем сёньня вечарам? Можа быць, у турме, а можа... Вы ведаеце, рыхтуецца лютая бойня.

— Гэта ня важна. Толькі-б удалася дэмонстрацыя, а наш асабісты лёс мяне не цікавіць,—адказаў Уладзік і, адчуўшы ў сваім адказе налёт позы, крыху пачырванеў.—У кожным разе я прашу вас быць як можна больш асьцярожнай. Трэба забясьпечыць работу гуртка. Нельга-ж дапусьціць, каб у выніку аднае дэмонстрацыі развалілася ўся наша справа, пастараўся ён паправіцца.

— Чаму-ж вы да сябе самога не прыстасоўваеце гэтых правіл?

— Я таксама пастараюся застацца цэлым.

— Абавязкова. Вы больш каштоўны для саюзу, чым я.

— Ну, пра гэта ня нам судзіць.

Выпіўшы філіжанку гарбаты, Галя ўстала і паглядзела на гадзіньнік.

— Ужо дзевяць. Трэба ісьці.

Уладзік узяў яе руку і доўга трымаў у сваёй.

— Пільнуйце сябе,—шапнуў ён.

Яна ўзьняла на яго вочы. Уладзік раптам, нечакана для сябе, прытуліў яе і прыціснуў вусны да яе крыху раскрытага роціку. Яна моцна пацалавала яго і кінулася да дзьвярэй.

— Бывайце здаровы.

10

Уладзік выйшаў на Неўскі.

Быў сьветлы сонечны дзень. Правы бок проспэкту ўжо ачысьціўся ад сьнегу, і буйныя квадраты каменнага тротуару бялелі чыстатой. Да звычайных ранішніх прахожых далучаліся рабочыя, шмат якія апранулі пад жакетку чырвоныя касавароткі або чырвоны гальштук. Усе яны ішлі ў кірунку да Казанскага сабору. Уладзік пайшоў за імі.

Гарадавыя стаялі на рагох, каля булачных тоўпіліся кухаркі з кошыкамі, газэтчыкі выкрыквалі назвы сьвежых газэт, латошнікі, якім дазволена было прадаваць, але забаронена спыняцца, баязьліва апускалі свае кошыкі каля тротуара, і баязьліва пазіралі ў бок паліцэйскіх, нарыхтаваныя ў любы момант падхапіць пад паху свой рухомы магазын і шмыгануць у бакавую вуліцу, або, калі гэты манэўр ня ўдасца,—заплаціць дань гарадавому, які ўлавіў іх.

Каля Екацерыненскага каналу прахожыя ішлі павольна, шмат якія спыняліся каля парэнчаў і пазіралі на брудны лёд, які пачаў ужо асядаць. Групы зьбіраліся каля вітрын магазынаў і з цікавасьцю аглядалі выстаўленыя тавары, пры чым асаблівай увагай карысталіся магазыны, якія былі недалёка ад Казанскага сабору.

Уладзік спатыкаўся поглядам з гэтымі цікаўнымі і ня мог стрымаць усьмешкі па іх адрасу, на якую яны, бачучы студэнцкую форму, адказвалі таксама ўсьмешкай. Каля Паліцэйскага моста Ўладзік спаткаў двух членаў свайго гуртка з-за Неўскай заставы і прывітаўся з імі вачыма. Далей публіка прыкметна радзела, і Ўладзік павярнуўся назад. Чым бліжай ёй падыходзіў да Мікалаеўскага вакзала, тым больш цесным і больш чорным рабіўся паток, які ўліваўся на Неўскі з рабочых раёнаў. У некаторых у руках Уладзік пабачыў палачкі работы Пётры, якія былі прызначаны для штандараў. Уладзік пастукваў аб тротуар такой-жа палачкай, а ў бакавой кішэні яго паліта ляжаў скручаны штандар з надпісам, які вышыла Галя. Яго грудзі хваляваліся ад радасьці. Гэтыя тысячы рабочых і студэнтаў, якія нястрымна ішлі да вызначанага на дэманстрацыю месца,—гэта ўсё таварышы, якія выйшлі на змаганьне за агульную для ўсіх справу,—гэта армія, атрады якой загартаваны ў падпольлі ўпартай і настойлівай работай членаў „Саюзу змаганьня“. Гэта авангард расійскага пролетарыяту, які толькі яшчэ выпроствае свае магутныя плечы і пробуе сьмела крыкнуць у вочы ўраду і ўсяму насельніцтву сталіцы, што ён існуе, што ў яго ёсьць ужо свае патрабаваньні, што ён гатоў да змаганьня, што яго ня спыняць казацкія сотні, эскадроны жандараў і зграі гарадавых з дворнікамі. Уладзік адчуваў сябе адзінкай

рабочай арміі, аднэй з галоўных дзейных асоб дэмонстрацыі, якая рыхтавалася разгарнуцца супроць усясільнага самаўладзтва. Як яму хацелася абняць у захапленьні ўвесь сьвет, схапіць за рукі і цалаваць гэтых старых і маладых, голеных і барадатых рабочых, якія запоўнілі сабою абудвы тротуары, і шырокай хваляй рухаліся да Казанскага сабора.

Стрэлка гадзіньніка на Мікалаеўскім вакзале паказвала 25 мінут дванаццатай. Уладзік пахаладзеў ад жаху. Няўжо ён спозьніцца да дванаццаці гадзін быць каля сабора? Хуткім крокам ён накіраваўся туды, насілу праціскаючыся паміж натоўпу, які павольна рухаўся. Сэрца палахліва білася. Чаму яны ўсе ідуць так павольна? Аднак, на іх не ляжыць адказная роля, якая выпала Ўладзіку. Гэта-ж ён, Уладзік Сабураў, павінен разгарнуць у натоўпе штандар, надзець яго на кіек, і высока ўзьняўшы над галавою, кінуцца з ім на сярэдзіну Неўскага, вядучы за сабай тысячы дэмонстрантаў.

— Куды ты так сьпяшаешся? Пасьпеем!—пачуў Уладзік ззаду голас, азірнуўся і спаткаў мяккія добрыя вочы пажылога рабочага. Гэты воклік і зварот на „ты" супакоілі яго і прымусілі ўзяць сябе ў рукі. Сапраўды неразумна імкнуцца наперад, расьпіхваць усіх і зьвяртаць гэтым на сябе агульную ўвагу.

Каля Казанскага сабора натоўп спыніўся, сьціскаючыся ўсё шчыльней і шчыльней двума сустрэчнымі патокамі, якія бязупынна ліліся з процілеглых бакоў Неўскага проспэкту. Атрад гарадавых, які зьявіўся пад начальствам паліцэйскага афіцэра, запрашаў публіку разыходзіцца, але сам бачыў, што яго загады не памогуць.

Уладзік быў на рагу Канюшаннай вуліцы, калі сярод напружанай цішыні чаканьня цяжка пракаціўся выбух палуднёвай гарматы з Петрапаўлаўскай цытадэлі. Стрэл быццам выхапіў з натоўпу некалькі чырвоных штандараў, якія выйшлі на сярэдзіну проспэкту і павялі за сабой густыя калёны рабочых і студэнтаў.

„Уставай, падымайся, рабочы народ!"—палілася падхопленая тысячамі грудзей рабочая марсэльеза.

Уладзік адхінуўся да сьцяны дома, выхапіў з кішэні свой штандар і дрыжачымі рукамі стараўся прывязаць яго да кійка. З адчаем у сэрцы ён шаптаў—„Спазьніўся! Спазьніўся! Не пасьпеў".

Штандар, нарэшце, надзеўся. Уладзік узьняў яго і кінуўся на вуліцу. Першае, што ён пабачыў, быў атрад конных жандараў, які імчаўся з брамы дому нумар першы па Казанскай вуліцы на дэмонстрантаў. Уладзік кінуўся насустрач, спадзяючыся штандарам напужаць коняй і прымусіць іх павярнуць назад. Але жандары ўжо праскакалі і перад імі замігалі срэбныя палоскі. Сякуць шаблямі.

— Таварышы! За мной! На выручку!—закрычаў ён, не разумеючы, чаму дэмонстранты, уцякаюць назад на тротуар і ня слухаюць яго заклiку.

Марсэльеза яшчэ далятала з розных бакоў, але там, куды кінуліся жандары, яна патухла ў крыках болю, адчаю і гневу. Новая хваля падхапіла Ўладзіка і аднесла яго на тротуар. Ад гасьціннага двара, імчалася хвошчучы бізунамі ўсіх, хто пападаўся па дарозе, казацкая сотня.

— Чакайце! Чакайце—крычаў Уладзік, як раптам пабачыў проста перад сабой выскалены дзікі ад злосьці вусаты твар гарадавога і адчуў удар па галаве. Штандар у яго руках захістаўся, але хтосьці вырваў яго. Гарадавы схапіў Уладзіка за каўнер паліта левай рукой, а правай ўсё хвастаў кулаком, стараючыся папасьці ў твар. Уладзік пасьпеў дастаць з кішэні васьмушку табакі, і поўнай жменяй шыврганув у вочы гарадавому. Той ахнуў, выпусьціў Уладзіка і прысеў. Яго зьбілі на зямлю, пачалі таптаць нагамі. Уладзік шмыгануў у натоўп, узьбег на тротуар і пабачыў свой штандар далёка паміж кучкі дэмонстрантаў, якіх асаджвалі паліцэйскія. Дабрацца туды было нельга, бо пасярэдзіне лупцавалі бізунамі казакі.

— Адыходзьце хутчэй! Вас заўважылі і забяруць!—пачуў Уладзік і падначальваючыся загаду, зьвярнуў на Канюшанную вуліцу разам з адціснутым туды натоўпам. Куды ісьці? На вочы папаліся дзьверы аптэкі. Уладзік шмыгануў туды і запытаўся ў фармацэпта, які стаяў каля прылаўка:

— Можна ў вас перачакаць?

Той правёў яго ў маленькі пакой за ляборатарыяй.

— Вы ранены?

— Не,—адказаў Уладзік, і раптам зразумеў, што гэтым адказам ён называе сябе дэзэртырам. Ён моцна пачырванеў і закрыў твар рукамі.

— Супакойцеся. Выпіце вады,—пачуў Уладзік голас, у якім на яго зьдзіўленьне ня было ніякай ноткі агіды.—Пасядзіце тут, а праз гадзіну-другую здолееце спакойна пайсьці.

11.

Два дні Ўладзік нікуды ня выходзіў, ня сьмеючы паказацца на вочы таварышам. Настойліва стукала ў галаву думка пра самагубства, але ён адганяў яе: гэта было-б ухіленьнем ад адказнасьці, трусасьць, яшчэ горшае—другое дэзэртырства. На трэці дзень ён вырашаў пайсьці ў арганізацыю і патрабаваць над сабой таварыскага суду.

Каля ўваходу ў студэнцкую сталовую панавала нязвыклае бязьлюдзьдзе. Дайшоўшы, Уладзік прачытаў: „Сталовая зачынена“.

Ён прайшоў на двор і зазірнуў у вакно загадчыцы. Левая фіранка была апушчана,—знак бясьпечнасьці. Падняўся на ўсходах і пазваніў.

— Дзякаваць богу! Вы цэлыя!—спаткаў Уладзіка муж загадчыцы.— А мы ўжо рыхтаваліся запісаць і вас у сьпіс часова выбытых у тыраж.

Ні слова пра Ўладзікавы паводзіны на дэмонстрацыі. Мабыць, ён яшчэ нічога ня ведае...

— А шмат заарыштаваных?

— Добрая палова нашай організацыі, ня лічачы соцень іншых. Арышты пачаліся ўночы з другога на трэцяе, але галоўная маса забрана на самай дэмонстрацыі. Вось паглядзеце.

Ён працягнуў Уладзіку паперку, сьпісаную прозьвішчамі.

— Дабрынін, Ракаў, Гарняк Бокі, Пляшчэеў, Паўлаў, Кузьмічоў...— мільгалі перад Уладзікавымі вачыма прозьвішчы знаёмых і незнаёмых студэнтаў і вострая зайздрасьць да іх упівалася ў сэрца. Усе яны могуць пазіраць таварышам проста ў вочы, а ён...

— Кіраўнічая група зьбярэцца сёньня ў восем гадзін увечары на кватэры чыноўніка Антонава, Вялікі проспэкт, 84. Там абмяркуем, як быць далей. Заходзьце.

Уладзік раптам зразумеў, што гаварыць тут пра сваё дэзэртырства нявара. Ён скажа ўсё на сходзе організацыі, дзе яго ўчынак адразу атрымае належную ацэнку. А да гэтага трэба схадзіць да Івана Сямёнавіча.

— Абавязкова буду,—адказаў Уладзік і выйшаў на вуліцу.

Іван Сямёнавіч якраз быў дома. Ён запрасіў Уладзіка сесьці, а сам, заклаўшы рукі за сьпіну, пачаў хадзіць па пакоі. На ілбе яго глыбокай рысай цямнела складка.

— Та-ак...—раптам спыніўся ён супроць Уладзіка.—Рэволюцыя патрабуе ахвяр, але калі гэтыя ахвяры бяссэнсавыя і недарэчныя, міжвольна можна згубіць усякую вытрымку.

— Чаму-ж бяссэнсавыя і недарэчныя?—зьдзівіўся Уладзік.—Дэмонстрацыя дасягнула свае мэты, сабрала, мабыць, за паўсотні тысяч удзельнікаў...

— Я не пра дэмонстрацыю,—перабіў яго Іван Сямёнавіч.—Хіба вы ня ведаеце?

— Што запытаўся Уладзік,—і сэрца яго трывожна застукала.

— Учора вечарам застрэлілася Сьмірнова.

— Якая Сьмірнова?—схапіў Уладзік руку Івана Сьцяпанавіча.

— Вы-ж з ёй працавалі. Галя.

У Уладзіка адразу высахла ў роце.

— Як Галя? Чаму?

— Нічога невядома. Ніякіх пісулек не пакінула. Радні ў яе тут, здаецца, няма. Кватэрная гаспадыня перш усяго зьвярнулася ў паліцыю. Рэчы яе апячаталі, перапіску забралі на прагляд. Трэба спадзявацца, што ў яе няма нічога консьпірацыйнага...

— Вядома, няма! — пераканаўча ўсклікнуў Уладзік. — Ёй наша справа была даражэй за ўсё на сьвеце...

— Гэта, скажам, няпраўда, бо інакш яна не пакончыла-б з сабою ў той час, калі пасьля арыштаў кожны чалавек нам асабліва дараг.

— Але-ж якія прычыны? Бачыў я яе раніцой у дзень дэмонстрацыі. Яна была поўная бадзёрасьці і энэргіі...

Уладзік раптам моцна пачырванеў, успомніўшы пра пацалунак.

— Ніхто ня ведае. Учора яна ўвесь дзень была дома, сказала гаспадыні, што баліць галава, а вечарам у яе пакоі раптам выбухнуў стрэл. Гаспадыня кінулася туды і знайшла яе труп.

Уладзік доўга сядзеў моўчкі. Пасьля запытаўся:

— Калі яе хаваюць?

— Ня ведаю, — адказаў Іван Сямёнавіч. — Гэта нам не цікава.

— У вас ёсьць яе адрас?

— Вам туды хадзіць ня варта. Яна была на падазрэньні ў паліцыі, і ня трэба даваць ахранцы лішнюю сувязь з вамі.

Уладзік устаў, раптоўна разьвітаўся і выйшаў. Ужо на парозе ён успомніў, што хацеў расказаць Івану Сямёнавічу пра свой брыдкі ўчынак на дэманстрацыі, але забыўся. Сьмерць Галі засланіла сабою ўсё, і асабістыя перажываньні адыйшлі на задні плян.

Дома ў сябе на стале Ўладзік пабачыў ліст з гарадзкой маркай. У момант разрэзаў канвэрт і дастаў сьпісаны лісток паперы. Неахайна зірнуў на першыя радкі і раптам упіўся ў яго вачыма.

„Я вырашыла напісаць толькі вам. Няхай для іншых мой адыход у нябыцьцё зьявіцца загадкай. Пасьля ўсяго, што здарылася, я не магу жыць. Я няпрыгодная да змаганьня. Калі я пабачыла казакаў, што ляцелі на нас, мяне ахапіў жах. Я скавытала ад страху, я не валодала сабой. Рабочы, які стаяў побач са мной, балюча схапіў мяне за руку і груба закрычаў на мяне: „Якога чорта гэтыя гістэрычкі блытаюцца пад нагамі. Убірайцеся вон!“ І штырхануў мяне на тратуар. Я паваліласся, але хутка ўстала і, згараючы ад сораму, падыбала ў бок, заткнуўшы вушы рукамі, каб ня чуць сьпеву нашага гімну, ня чуць крыкаў таварышаў, якіх зьбівалі, імкнучыся хутчэй адыйсьці, адыйсьці, адыйсьці. Ён — гэты рабочы — зрабіў зусім добра. Ён выпіхнуў мяне ня толькі з радоў дэманстрантаў, а і з таго асяродку, у якім я хацела жыць і працаваць. Я — няпрыгодны элемэнт, які блытаецца пад нагамі рэволюцыйнага руху. Я — гістэрычка. Што-ж мне застаецца рабіць? Выйсьці замуж і пладзіць дзяцей? Цыраваць мужу шкарпэткі і лаяцца з кухаркай за перасмажанае мяса? Марай майго жыцьця было адмовіцца ад сябе, як ад жанчыны, стаць раўнапраўнай у шэрагах змаганьнікаў рэволюцыі. Мяне так балюча сьцёбала жыцьцё на гэтым шляху. Памятаеце першае наша спатканьне? Вы падтрымалі мяне тады, вы шмат дапамагалі мне ў апошнія месяцы. Хоць і вы... але пра гэта ня трэба; я сама вінавата. Пра вас я захавала самыя лепшыя ўспаміны і вам жадаю ўсяго сьветлага ў жыцьці. Хачу толькі сказаць вам, што ў вас шмат ідэалізму, і калі-небудзь жыцьцё жорстка разаб‘е вашы адарваныя ад рачаіснасьці ілюзіі. Я праклінала лёс за тое, што ён зрабіў мяне жанчынай, але да гэтага часу прычынай праклёнаў былі адносіны да мяне мужчын, а цяпер я ведаю, што і ў нутры самой сябе я толькі гістэрычка, я баюся адкрытага змаганьня, я толькі перашкаджаю іншым, я лішняя. І я адыходжу. Бывайце, памятайце і прабачце. Галя“.

Ліст упаў на падлогу. І раптам Уладзік успомніў словы Івана Сямёнавіча пра магчымасьць якіх-небудзь компромэтуючых організацыю паказаньняў у забраных паліцыяй паперах Галі. Галя-ж ня ведала, што Уладзік застаўся жывым на дэмонстрацыі, а калі-б гэты яе ліст папаў у рукі жандараў, ён служыў-бы доказам сувязі Уладзіка з рэволюцыянэрамі... Як подла думаць пра гэта цяпер! Бедная, любая. Уладзік падняў ліст і прыціснуў яго да вуснаў.

12

Дзьверы Уладзіку адчыніў гімназісьцік, сын Антонава, радасна прывітаўся з ім.

— Просіма проста да папы ў габінэт.

Гэтага хлапчука Уладзік ведаў раней і даваў яму розныя даручэньні: перадаваць пісульку, аднесьці пачак літаратуры. Гімназісьцік умеў прашмыгнуць усюды, як мыш, нічога не баяуся і не выклікаў ніякіх падазрэньняў у паліцыі.

У габінэце ўжо сядзелі на канапе і ў крэслах шэсьць студэнтаў.

— Ага! Яшчэ адзін! — спаткалі яны выкрыкамі Уладзіка. — А мы думалі, што ўсе, апрача нас, або пад замком, або ў бальніцы.

Уладзік раптам успомніў, што, захоплены думамі аб сваім дэзэртырстве, а пасьля весткаю аб сьмерці Галі, ён да гэтага часу не запытаўся, колькі раненых. Можа быць, ёсьць і забітыя!

— А колькі чалавек пацярпела! Хто?

— Дакладных лічбаў мы яшчэ ня ведаем, наогул дзесяткаў пяць набярэцца. З унівэрсытэцкіх паранены шабляй у галаву Пятакоў, у Фанчэнкі зламана рука, Якабсону расьсеклі плячо. У бястужаўкі Шыраевай выбіта бізуном вока. Забітых няма, але не пазбаўлена магчымасьць сьмерці каго-небудзь ад ран, бо ёсьць цяжка параненыя.

— Да іх трэба далучыць Сьмірнову, якая застрэлілася, — глуха сказаў Уладзік.

— Якую Сьмірнову? — трывожна пасыпаліся пытаньні.

— Таксама бястужаўка. Яна працавала ў „Саюзе Змаганьня“.

— Колегі, давайце рыхтаваць організацыю, — сказаў Флораў. — Прапаную наступны парадак дня: першае — пра дэмонстрацыю, другое — пра далейшую работу нашай організацыі. Пакуль абмяжуемся гэтым.

— Мне выйці? — запытаўся гаспадар кватэры.

— Так. Лепш, калі мы застанемся адны.

— Дазволіце прысланць вам гарбаты? — запытаўся Антонаў, устаючы.

— Не, дзякуй. Гэта будзе перашкаджаць нашай рабоце.

Антонаў выйшаў і шчыльна прычыніў за сабой дзьверы. Уладзіку здалося няёмкім, што гаспадара кватэры так несарамліва выставілі з уласнага габінэту і нават не папрасілі прабачэньня.

— Давайце пачнем. У каго ёсьць сьпіс нашых страт? Прашу зачытаць.

Студэнт Сьцішынскі дастаў лісток, пакрэмзаны прозьвішчамі. Уладзіку здалося, што гэта той самы, які ён бачыў у руках у мужа загадчыцы сталовай.

— Выявілі, што асобы, якія загадвалі друкарскай тэхнікай організацыі, цэлыя. Даручылі прысяжнаму пісьменьніку адозваў Грышыну скласьці лісток з прычыны дэмонстрацыі.

— Выйшла лепш, як мы меркавалі, — сказаў Фролаў. — Пярэйдзем цяпер да другога пытаньня: што нам рабіць далей.

— Я прашу даць мне слова для паведамленьня, — сказаў Уладзік, устаючы. — Я лічу патрэбным даць справаздачу пра свой удзел у дэмонстрацыі.

— Мы ня мелі на ўвазе слухаць апавяданьні паасобных удзельнікаў, — сказаў Фролаў. — Калі ў вас ёсьць цікавы матэрыял, вы, можа быць, гэта паведаміце проста Грышыну, а ён выкарыстае для лістка?

— Не. Мне трэба расказаць вам усім, бо невядома, ці здолею я прымаць удзел у далейшым абгаварэньні.

— Гаварыце.

Уладзік расказаў падрабязна пра ўсе падзеі, у якіх прымаў удзел. Інцыдэнт з табакай, выклікаў выкрыкі пахвалы. Паводзіны фармацэўта ў аптэцы таксама ўсіх зацікавілі.

— Гэта вельмі характэрна, — сказаў Флораў. — Зьвярнеце ўвагу на тое, што ўласьнік аптэкі не перашкодзіў схаваць Сабурава.

Уладзік кончыў.

— Паведамленьне гэтае мы выслухалі з задаваленьнем, — сказаў пануры Абрамаў, — але ня ведаю, чаму колега настайваў на ім. Спадзяюся, не для таго, каб проста пахваліцца сваёй удачнай тактыкай і адвагай?

Уладзік аслупянеў.

— Як пахваліцца? Я лічу, што я пакінуў пост, і быў дэзэртырам... Мне трэба было змагацца да канца... А я ўцёк...

Усе расьсьмяяліся.

— Прабачце, колега, але вы вялікі романтык. Чаму вы думаеце, што організацыя, пасылаючы вас на дэмонстрацыю, абавязкова патрабавала ад вас легчы касьцьмі або, па меншай меры, сесьці ў кутузку і папасьці ў месцы вельмі далёкія? Зусім, не! Вы зрабілі сваю справу, і вельмі добра, што захавалі сваю недатыкальнасьць.

— Значыцца, па-вашаму, я не зрабіў нічога брыдкога?

— Пакінце гаварыць глупства. Мы і так з-за вашай гутаркі змарнавалі шмат часу. Пераходзім да наступнага пытаньня.

Уладзік сеў, але нечаканыя адносіны таварышоў ніяк не ўкладваліся ў яго галаве. Здавалася, што ён чагосьці, відавочна самага важнага, не дагаварыў, а ў процэсе пераказаў, наадварот, можа быць, нават прыфарбаваў сваю ролю... Трэба абдумаць.

*(Працяг будзе).*

З расійскае. З рукапісу пераклаў **Я. Плашчынскі.**

# ЯНКУ КУПАЛУ

**Валеры Маракоў**

Па песьнях і думах
Мы любім паэтаў,
Мы з песьняю творым
І ў бойку ідзем.
Мы мудрасьць вякоў
І сусьвету
Знаходзім ў паэты
Штодзень.
Мы белыя крыльлі
Сваіх рыштаваньняў
Авеялі тайнай
Напружаных баляд.
Мы творым
Вялікае раньне —
Камуну
Ва весь далягляд...
І хай навальніцы
Гуляюць часамі,
Хай нехта
Далёкаю крыўдай
Ілжэ—
Мы кожную цэглу,
Мы кожны камень
Ўзьнімаем вышэй,
І вышэй.
А калісьці сумнай
І крыўднай жалейкай,
Вялікім і змучаным
Шляхам жыцьця,
Сьпявалі вы думы
Тугі-безнадзейкі,
А часам узьнімалі
Ўзбураны сьцяг.

У вашых я песьнях
Знайшоў навальніцы,
Ўсе фарбы і гукі
Палёў дарагіх,
Пазнаў і красы
Нячуванай крыніцы
Й яе няўміручых надзей
Берагі.
Праз сон на кургане,
Ад спаленых гнёздаў
Вы клікалі к зорам,
На вольны прасьцяг,
Вы сэрца,
Вы кроў сваю,
Розум —
Усё кінулі
Ў буры жыцьця...
. . . . . . . .
Па песьнях і думах
Мы любім паэтаў,
За кожнае слова,
За кожны радок,
Што нашым агнём
І трывогай сагрэта,
Купала,
Вам гэты вянок!

# КРОКІ І ДНІ.

(*Нарыс*)

**Ян Скрыган**

I

Калі ехаць зімою па Магілеўшчыне — трэба злазіць з саней і за цуглі зводзіць каня ў глыбокія ручаіны. Па ручаіне праедзеш удоўж ціхаю, асьцярожнаю ступою, а тады па другім беразе ускарабкаешся наверх і ўжо сьмела гэйкнеш на каня. Рвануцца сані, брызьне ў вочы халаднаваты вецер і паволі — з цемры, з ветру — выплыве аганькамі сялцо. Тады трэба зноў прыцішыць хаду, бо па вузкай, круглай, як перавернены дагары жолаб, вуліцы шыбануць сані ўбок, у канаву, і трэба будзе злазіць зноў, каб памагчы ўскарабкацца каню на сярэдзіну.

Па дарозе комунар Пракоп знаходзіцьме нейкія слупкі і паказвацьме межы колгасу. Летась яны былі вунь там (у той бок падымаецца рака), сёлета пасунуліся сюды, а гэта трэ' будзе слупкі ўжо выкідаць, бо Бухарына-Пролетарскі колгас пашырыў свае межы аж на 9.000 гектараў.

Пракоп яшчэ пачне расказваць, як тут шмат ёсьць нядобрых людзей, што падганяюць кліпкі ў рабоце па колектывізацыі, як шкодзяць і распускаюць усялякія чуткі кулакі. І хіба дзіва? Яны нават два разы палілі комуну. Дзіўней тое, што ёсьць такія, якія зьвіхнуліся. Гэтыя шкадней.

З жалем Пракоп скажа, як у сяле Прудок, Царковіцкага сельсавету „праз пропаганду даўнейшага матроса і партыйца калебнуліся селавікі. Усе былі запісаліся ў колектыў, а на заўтра 25 чалавек падало заявы каб выйсьці назад. А „матрос“ з кулакамі завёў хэўру, паддаўся ім, бо ажаніўся з кулацкаю дачкою і грае ў іхную дудку“...

Шмат чаго яшчэ раскажа Пракоп. Паволі, хрыпла рыпецьме яго голас і ня разьбярэш іншы раз, ці то палазы крахтанулі раптам пад ухабу, ці то вылузалася Пракопава слова. А сам ён карчукаваты, пакладзісты і ў фігуры непаваротнасьць паважная нейкая. Шахцёр сам Пракоп, і ад гэтае работы пад левым вокам знак сіняваты астаўся — пад шкуру чарнільнымі лужынкамі паяўядалася гэтая сінь. Як гаворыць Пракоп, то ўвесь час, здалёк недзе, пырскаюць халаднаватым бляскам вочы.

Калі з вамі ехацьме хатнік Штабны — сухарлявы, доўгі, як стусіна хлопец — дык ён абавязкова пераб'е ўсялякую гутарку, перакажа нанава

пасвойму так, каб было харашэй. Пасьля ён пачне гаварыць, як яму *аднаму*, на два сельсэветы вельмі цяжка працаваць, як без яго нідзе нічога ня зробяць і закончыць тым, што на яго вельмі злосныя ўсе настаўнікі і настаўніцы раёну, бо нешта раз на раённым сходзе ў Касьцюковічах ён „выступіў і пабіў іх ушчэнт“.

Па дарозе давядзецца праехаць праз Муравільле — вялікае, з пакручастымі вуліцамі, сяло. Збоку мільгане старая белая цэркаўка, дзе-нідзе рыпнуць на вечарынку дзьверы і па адным азавуцца сабакі.

— От тут кулакоў шмат было, — скажа Пракоп, — і ня так кулакоў, як несьвядомых, бо ўвесь час поп рызы даваў. Доўга калябаліся селавікі, але катора пара, як у колгас ужо падаліся, а поп як пазнаў, што нічога ня будзе, як ён хацеў, дык сам у колгас пасьля прасіўся, хэ-хэ-хэ...

— Я тут здорава пытаньне паставіў, — дадасьць Штабны. — Я тут, як прачытаў штук колькі лекцый пра рэлігію і пра ўсялякую іншую работу, дык і паставіў на сваім. І ад папа адкаціліся...

Згадзіўшы, уперадзе перамігнуць новыя аганькі. Нокне Пракоп — сіберным ветрам шыбане ў твар. Паўз гумны, паўз раскарачыстыя сухадрэвы зачахкаюць падковы цьвёрдай — з грыбаватымі хаткамі — вуліцы.

Вы прыедзеце ў Пушкова.

## II

Маленькая, нізенькая, як запалкавая скрыначка, хатка. Скрыначка гэта перагароджана на дзьве палавіны і ў першай — збоку прыкархнула печ. Заходзяць мужчыны, жанчыны, дзятва. Спалоханая газовачка па гзымсе сіліцца зазірнуць кожнаму ў вочы, але — віхаюцца бароды, труцца кажухі, пыхкае ўгору густы махоркавы дым і ніяк не пазнаеш ніводнага чалавека.

На покуці, над сталом у другой палавіне вісіць лямпа. Кожны сіліцца пралезьці ў гэтую палавіну, кожны хоча праплішчыцца бліжэй да стала. А хата ўся ўжо запакована: паразьмяшчаліся на зэдліках, на ўслонах, на лавах, на куфрох і ўстоячкі сярод хаты. Тыя, што ня месьцяцца ў хаце — сабраліся чарадою на вуліцы і прыліпаюць да шыб.

У хаце — дым.

У хаце — духата.

Сход.

— Ведаеце пра што сёньня гаварыць будзем? — пытаецца старшыня сельсавету.

— Ведаем, але гавары.

— Паслухаем, не пашкодзіць.

— Дык от — сход лічу адчыненым. Мы сёньня сабраліся, каб абталкаваць пра колектыў. Вы ведаеце, што наш раён суцэльнае колектывізацыі — ударны так сказаць... Пара ўжо рыхтавацца да веснавое сяўбы, а ваша Пушкова зусім адстала... Трэба каб вы от вырашылі і, калі што, дык пачынаць з насеньнем, ды з коньмі, а то зрываецца работа... Мера-

прыемствы нашае партыі і савецкае ўлады мы павінны выканаць... От так лічу будзем і пачынаць. Калі што каму няясна, дык пытайцеся — давайце паталкуем. Хто што мае яшчэ сказаць?

Натаўп загаманіў між сабою. Перш паволі, нехаць зашоргалі галасы, а тады пачалі выкідацца выразнымі думкамі.

— Ну, вот вы кажаце колектыў, а ці добра ў ім жыць будзе? азываецца з першае палавіны голас.—Няхай-бы больш нам чаго расказалі, што гэта за колектыў і якія парадкі ў ім. Ды каб тут от і зачытаць гэтыя парадкі, тады больш чаго панялі-б і паталкавалі.

— Колектыў памойму гэта добра. Я ведаю, скажам, як і на будоўлю пойдзеш, то гуртам куды спарней, як аднаму, але з коньмі, памойму, трэ' было-б пачакаць да вясны. Цяпер сама што заработкі пачаліся ў лесе, то кожнаму і зарабіць хацелася-б.

— Табе добра зарабіць, Ігнат, бо ты каня маеш, а от такі, як я, з чым зарабляць стане, калі ў мяне адна аўца ў хляве хвастом матляе.

Ніто спрэчкі, ніто запытаньні пасыпаліся з ўсіх бакоў. Прыслухоўваецца, запісвае старшыня, а тады адказваць пачынае.

— Вы самае галоўнае — з коньмі ды з заработкамі, а таго ня ведаеце, што, каб пачаць пановаму жыць, то ўсё добра абмеркаваць трэба. Як мы будзем пачынаць сяўбу, калі ня ведаем чаго і колькі ў нас ёсьць. А калі пачакаем, то надыдзе вясна, а мы ня ведацьмем з чаго і пачынаць. Ніто абагульваць, ніто засявацца. Так што трэба рабіць цяпер, а не тады, як на паляваньнеісьці. Хто яшчэ што скажа?

— Дай мне.

Старшыня зірнуў у бок.

— Гавары, толькі ня бауся, як заўсёды.

Выпрастаўся на ўвесь свой даўжэзны рост Штабны, сажмакаў кубанку пальцамі, падняў яе над галавамі — пачаў. Плян Даўэса, Юнга, колёнізацыя, прыгоннае права, Комінтэрн, Ліга Нацый, капіталістычны лад, Форд, Стынес, Кітай, 1905 год, пяцёхгодка, індустрыялізацыя, колектывізацыя — усё ўспамянуў Штабны. Доўга гаварыў. Перш роўна, стрымана, а пасьля кавалкамі пачаў вырывацца голас, і моцна тузалася над галавамі кубанка. Па шчоках цуркамі паліўся пот і ад лямпы блішчэў на пляскатых сківіцах.

— Пасьля ўсяго гэтага ясна, таварышы, што нам трэба арганізавацца ў колектывы і пачаць новае жыцьце,— з патосам закончыў Штабны.

Расшпіліўшы грудзіну—бліскучы, мокры праціснуўся да стала гадоў пад сорак мужчына. Вылузаў з натаўпу крысы кажуха, яшчэ больш расхрыстаў грудзіну і павярнуўся на хату.

— Я, можна сказаць, прашу даць слова. Штабны тут нам казаў, але мы нічога не зразумелі. Даваса гэтага я ня знаю, але знаю, што калі можна сказаць, суцэльная колектывізацыя і ўсе кругом ужо ўступілі, то і нам марудзіць нечага. Муравільле абагулілася ўжо даўно, а нам як-бы і ня трэба. Я, можна сказаць, знаю, гэта як у шахтах усё роўна — раз

ты думаеш, што рабіць, дык каб снасьць была пад рукамі. Трэба будзе араць, засяваць, а мы ня ведаем нават чаго і колькі ў нас будзе — гэта старшыня сказаў верна. І нечага нам пад кулацкую дудку скакаць. Раз пачынаць, дык пачынаць, а зарабляць і ў калякціве можна будзе і адзін аднаму памагаць будзем. От як я думаю.

— І праўда.

— А памойму пачакаць трэба.

У спрэчках, у гутарках — яшчэ знаходзіліся запытаньні. У кожнага быў свой рупесак і хацелася, каб як сьлед яму расказалі.

— А як мне, калі мой муж у шахтах і я ня знаю што рабіць? — пытаецца кабеціна.

— А ці прымаюць зусім старых? — хоча даведацца дзядок.

— А ці добра будзе ў колектыве жыць?

— Які трэба пай?

— Што зразу трэба абагульваць?

— Ці можна падацца ў іншы колгас?

— Скажы, як ты нам старшыня, онь у мяне хата зусім развалілася, то як-жа я пастаўлю новую, калі ў мяне ў калякціве нават каня ня будзе?

— Раз у калякціве, значыць разам вывязем і паставім,—адказвае сусед.

Зноў спрэчкі. Зноў з усіх куткоў — і адтуль: з-пад газоўкі, і з вуліцы — галасы. Марочыцца, сіпіць ад духаты лямпа. Дым, пот, кажухі, шапкі, гамонка, мокрыя, бліскучыя твары.

— Дык як, мужчыны, хто яшчэ хоча гаварыць?

— Пачакаць трэба.

— Не чакаць, а зразу пачынаць.

— Каб гэта лепш у Антонаўку.

— Правільна. У Антонаўку, нам зручней туды. Нас тут шмат такіх і мы даўно надумалі туды падацца.

— І тут астанешся.

— Дык якая прапанова? У мяне ёсьць — організаваць колектыў, выбраць брыгаду, каб заўтра пачаць і стайні рабіць.

— Галасуй.

— Чаго тут — і галасаваць нечага. Ты там, як старшыня — сьпіскі пад рукамі маеш — от і чытай кожнага па чарзе.

— І то верна.

Гамонка змоўкла. Старшыня ўзяўся за сьпіскі. З вуліцы — яшчэ шчыльней папрыліпалі да шыб.

## III

Бухарына-Пролетарская комуна нарадзілася ў 1918 годзе. Нарадзілася тады, калі гэта была яшчэ зусім новая, нікому нячуваная форма жыцьця. Ня дзіва, што было страшна, што цяжка было пачынаць. Трэ' было адчайвацца, трэ' было начамі ня спаць — думаць, сварыцца з бацькамі,

з мацярамі, з жонкамі і ўсё такі — адчаяцца, надумаць. Комунарка Балотнічыха сама расказвае, як першыя часы яна месяцаў два ня жыла з мужам, бо ён паступіў у комуну. Як гэта падумаць — трэба было ўсё аддаваць, усяго цурацца і ісьці невядома як жыць. А як часам няўдача, а як усё разбэсьціцца, прападзе — што-ж тады — як на сьвет вочы паказаць? як паказацца ў людзі?

— І сьмешна цяпер успамінаць,— кажа яна,— проста, хоць разлуку было бяры. Колькі я яго ўгаварвала, колькі прасіла і гразіла, і плакала — нічога не памагае: пайду, кажа. А мы вёрст тры адсюль жылі, дык ён робіць-робіць тут цэлы дзень, а канач дахаты варочаецца, бо што-ж, тут і начаваць ня было дзе. Дык я, бывала, ужо і спаць разам не хачу, а самой так і шчыміць сэрца — шкода яго, і хочацца паставіць на сваём. Пасьля — яму-ж трэ' было пай сюды даваць — дык мы нават падзяліліся, ды ён усё сваё сюды і перавёз. А мне ўжо і самой хочацца, але неяк страшна. Думаеш — ашукаюць цябе, ачмуцяць, а тады хоць у сьвет з торбаю ідзі. І доўга я так у разлучніцах жыла, а тады ўжо неяк падалася ды пераехала да яго... Але пакутавалі — нават вядра ў хаце ня было, ніто каб чаго...

Вось так нараджвалася комуна.

І такіх комунараў было сем чалавек.

Бачылі гора, пакуту, нястачу.

Цярпелі паклёпы, пасьмешашчы, пагарду.

Усё перажылі, як перажылі і пана.

А пана перажылі так:

У Царковішчах таемна была рэволюцыйная організацыя. Шахцёраў, сэзоньнікаў шмат у Магілеўшчыне — прыяжджалі яны з работ і, разам з мазулямі, з чарнатою, з потам, з чарнільнымі плямамі пад вачыма прывозілі новыя рэволюцыйныя ідэі. Паволі, паціху іх расьсявалі сярод сялянства, распальвалі тую нянавісьць да сваіх работнікаў, што гадамі таілася ўнутры і, калі прышла першая вестка пра рэволюцыю — злосьць, агіда выбухнула наверх. Уночы, узброіўшыся стрэльбамі, вілкамі, сахарамі, сабраліся і навалаю рушыліся на маёнтак. Днём яшчэ парабак паказаў, што да пана маюць зьехацца другія, каб вырашыць, каб параіцца што рабіць, бо ў паноў ужо даўно было чорнае прачуваньне. Зьехаліся. Сяляне іх прыцікавалі, лежачы на шляху ў канавах, і, калі тыя ў пакоях ужо падымалі шыпучыя шклянкі — уварваліся і перавязалі ўсіх. Адзін прабаваў уцячы, але не ўдалося, бо нечая куля дагнала і прымусіла пачакаць. „Свайму“ таксама не пашчасьлівіла — нехта нечым таркануў у жывот.

Пасьля іх засадзілі ў парожную лазьню і паставілі варту. Вартаваць вызвалася Альжбета — баявая, хвацкая дзяўчына. Захацелася ёй на золку папробаваць руку — ціха, каб ніхто ня чуў, шапнула пану:

— Смалі.

Вытарашчыў пан вочы. Недаверыў.

— Смалі пакуль ня бачыць ніхто, бо будзе позна.

Паволі хіснуўся ў бок, азірнуўся пару разоў, а тады трушком пад шлях пусьціўся. Падняла Альжбэта руку, злажылася — покнуў у раніцы наган, а пан неяк нязграбна, нехаця зваліўся пад куст.

От так і пражылі пана.

І кожны раз, як пра яго ўспомняць, то ўспамінаюць і Альжбету.

— От была — нават рука не скаланулася.

Шмат романтыкі пражылі — рэволюцыйнага, бунтоўнага запалу. З гэтага запалу і вырасла ў 1918 г. Бухарына-Пролетарская комуна. Расла паволі, ішла ўпартаю цьвёрдаю ступою — зубамі, нэрвамі брала кожны дзень. Жарты сказаць — „нават вядра ў хаце ня было". Значыць — трэба было пачынаць з вядра, горш таго — з магілеўскіх раскошных лапцей па калені.

Былі і маладушныя. Штодня нылі і другім сэрца праядалі. А кулакі радаваліся тады і адзін да аднаго ў госьці з самагонам хадзілі.

Комунараўцы не паддаліся.

На шэсьцярых конях, як яны кажуць, выехалі. На шэсьцярых — бо было шэсьцера на ўсю комуну.

Пасьля па крысе пачалі прыплываць новыя комунары. Буйнець, расьці гаспадарка пачала. Паналаджвалі сякія-такія панскія машыны. Сваіх крыху падбавілі. Купілі рухавік — панскі бровар на млын перарабілі. Набылі трактар, паўскладаную малатарню. Жніяркі, касаркі па полі пусьцілі.

Прапаў страх некалішні ў сялян — далучаліся да комуны і зусім не баяліся свайго „на людзі" аддаваць. У 1927 комуна ўжо мела 21 сям'ю, магла-б мець і больш, але ня пушчала нястача зямлі. Залетась гэтае пытаньне вырашылася — 72 прымежныя гаспадаркі далучыліся з усім сваім скарбам і з зямлёю. Сёлета да комуны дапушчаюцца два сельсаветы і ўтвараюць Бухарына-Пролетарскі колгас.

Да гэтага часу комуна мела паляводзкі і жывёлагадоўчы напрамак. Калі зразу было шэсьцера коняй, дык у 1929 іх ужо налічвалася 64 і 182 каровы (6 быкоў). На отшыбе, каля возера, стаіць мураваны млын, а едучы па шляху, збоку можна заўважыць нізкія, доўгія будынкі—гэта комунская цагельня. Ставячы новыя будынкі, рамантуючы старыя — на сьцены, на ўшулы, на падмуроўку — комунарам ня трэба клапаціцца дзе дастаць матэрыялу, бо ён у іх пад бокам.

## IV

Бухарына-Пролетарская комуна мела-б шмат большае, але ёй, як кажуць, не пашанцавала. Клясавая барацьба, кулацкая ненавісьць да новых форм селавога жыцьця не магла астацца няпрыкметнаю. З ціхіх, „бяскрыўдных" паклёпаў, з агіднае хлусьні і цкаваньня—яна пераходзіць

у сваю пасьлядоўнасьць і прымае больш вострыя, больш выразныя формы. Кулацтва скарыстоўвае ўсе франты для таго, каб як мага больш нашкодзіць таму храстку, што адбірае ў яго сок.

Комуну палілі два разы: у 1928 і ў 1929 годзе.

Першы раз гэта абышлося толькі адным стогам саломы. Магло-б гэтым і не абыйсьціся, бо поруч стаялі гумны, адрыны, але комунары своечасова перасьцераглі.

Першую няўдачную спробу кулакі паправілі роўна праз год—прыдумалі ўсё складана, організавана. Трэба было зрабіць эфэкт. Трэба было, каб ад усяе комуны астаўся толькі попел.

Уночы, ужо пад раніцу ўспыхнуў аганёк, успыхнулі пад другімі будынкамі: пад гумнамі, пад хлявамі, пад стайнямі. Гайсанула, паласнулася полымя. Залілася агнём уся комуна.

— Гэта шчасьце яшчэ, што нашы мужчыны позна варочаліся недзе са сходу, ато ад нас не асталося-б і сьледу.

А мужчыны нарваліся тады ўпору. Варта было на хвілінку спазьніцца, як загарэліся-б усе будынкі, бо кулацкая авантура была прыдумана вельмі хітра. Пад усе будынкі загадзя былі пападложаны адмысловыя кнаты. Лёжа скручанае перавясла — густа ўтыканае запалкамі. Калі падпаліць за канец, дык запалкі ў перавясьле паступова загараліся і даходзілі да кулька, а гэты кулёк быў падложаны або да гэтай аблітай сьцяны, або ў сярэдзіну да збожжа ці сена. У мітусьні, у вэрлаху, бегаючы комунары і патрапілі на гэтыя перавясла. Вось-вось яны ўжо дагаралі да кулькоў. Загадзя, зусім выпадкова ўдалося выратаваць комуну, але ўсё-ж згарэла напакаванае збожжам вялікае гумно і стайня. З стайні таксама ўдалося павыпушчаць коні.

Злачынцамі аказаліся суседнія кулакі і даўнейшыя бандыты. Было заарыштавана сем чалавек, з іх адзін бывалешні комунар. Некалі ён быў пралез у комуну, каб шкодзіць у ёй з нутра, каб паступова, пaціху яе развальваць. Гэта яму не ўдалося, бо ў 1927 г. комунары разгадалі „новага чалавека“ і выключылі. У яго асталася адна магчымасьць — перавярнуць комуну ў попел.

Гэтыя два пажары далі комуне каля 20 тысяч рублёў страты. Але комунары духам ня ўпалі. Барацьба яшчэ горш загартавала іх. Работаю, упартасьцю яны бяруць кожную цалю свайго жыцьця.

— Цяпер мяне ня зманіш. Як некалі было страшна цурацца ўсяго ды ісьці ў комуну, дык цяпер яшчэ горш страшна падумаць, каб гэта давялося зноў жыць адным,—кажа тая сама цётка Балотнічыха.—Гуртам одэтак куды лепш. І спарней шмат. Ад нас пажары колькі ўзялі, дый то мы ня горш жывём за другіх. І харчоў нам хапае, і радзію паслухаць можна, дый гаспадарка наша ўсюды відна. Зірнем на нашу, дык адразу пазнаць, што не селавая, ці праедзеш на кані, то зразу відна, што з комуны. Адно дрэнна, што ў нас цяпер непарадкаў шмат стала, ад таго куды пагоршала і комуна.

Комуна, канешне, мае дасягненьні, канешне, мае ўплыў на ваколічнае селянства, але ня шкодзіць пагаманіць пра гэтыя „шмат непарадкаў“, каб і другім паказаць, як лёгка ўтварыць імі адмоўны эфэкт.

Тут можна сказаць пра гаспадароў, пра гаспадарскае вока і пра іншыя акалічнасьці.

V

У спадчыну астаўся кавалак панскага маёнтку. Асproducer. Парк, сады, будынкі, аздоба.

Калі прайсьці па гэтым парку цяпер—роўным квадрацікам абвядуць наўкола ясяновыя страшныя алеі. Па дарозе пападуцца жывыя альтанкі, нейкія замежныя хвойныя дрэвы, нейкія нізкія густыя кусты. Дрэвы, алейкі, зноў дрэвы—сымэтрычныя і параскіданыя абыяк. Наабапал нізкія, купчастыя сады. Думаеш: хараша на яго страх было пазасаджвана. Гэта-ж улетку які адпачынак можна наладжваць. Такога месца не знайсьці і ў Менску.

Гэтая культура гадавалася вякамі.

Цяпер яна запушчана, неагледжана. Ідучы сустракацьмуцца панскі — даўнейшыя і сьвежыя. Валацьмецца ламачча, гальлё, а старая ліпа расшчапілася на дзьве палавіны і адна, абваліўшыся, паўгінала, пакрэмсала суседнія, больш маладыя, зграбныя расьліны. Між хвойных замежных дрэў панавыбягаў нейкі парасьнік. Тут можна спаткаць і вішаньнік і алешнік і стусінаваты бярэзьнік. Збоку можна напаткаць сажалку. На ёй па бакох пачынае прымайстроўвацца лаза. Далей — мабыць стаяў нейкі будынак—ляжацьмуць узгоркі размытае цэглы, а між іх паабвальваныя норы сутарэньня. Урэшце—стаіць саламяная будачка, а за будачкаю — зноў між парасьніку — відзён і галоўны комунарскі будынак. З аднаго канца ён двухпавярховы. На першым паверсе ў кутку месьціцца адна сям'я. Другія пакоі пустуюць. Наверсе канцэлярыя.

У парк упіраецца вялікі ганак—вэранда. Слупы пакасіліся, пабутлелі. Гнілыя дошкі паправальваліся. У дзіркі зьмятаецца сьмецьце. Прыходзяць каровы, пярэднімі нагамі становяцца на ганак і п'юць пойла. Так завезена ў комунараў: кожнаму падзелена карова, каб аддаваў ён свае сытыя памыі. Карова ведае свайго прымацованага—ідзе проста на ганак, топчацца, прабівае капытамі яшчэ большыя дзіркі, брудзіць і ідзе ў хлеў. Ад таго каля дому нячыста, валяецца сьмецьце і тхне смурод.

На двары—былі некалі газоны, кветкі. Яны ня толькі не дагледаліся, а і зьнішчыліся парадкам новае будоўлі. У комуне няма пэўнага вызначанага пляну забудоўкі, а таму — спатрэбілася паставіць коопэрацыю—ну і паставілі яе сярод двара. І вылупілася маленькая, нягеглая хацінка, як бяльмо на воку. Гэтак і з другімі жыльлёвымі будынкамі: яны ставяцца абы дзе, дзе ёсьць месца і гэтым псуюць правільнасьць комунарскае сядзібы. Такая няздатнасьць ня толькі ў Бухарына-Пролетарскай. Гэта можна заўважыць і ў „Савецкай Беларусі“ і ў „Прогрэсе“ і ў „Розы Люксэмбург“.

Комунары ня ўмеюць яшчэ як сьлед шанаваць і машын. Хай не машына—хай старызна. Усё адно ёй павінна быць месца, яе трэба прыладаваць. А то, каля коопэрацыі — каля тае самае коопэрацыі, што „вылупілася бяльмом на воку" — у сьнег паўправалі аднаконкі плугі. Пад варывенькаю да сьцяны—як жывыя ад холаду — папрытульваліся нейкія махавінкі, шасьцярні, пранты, драпачы. Каля клеці пазвальваліся ў кучу, паабрасталі сьнегам плугі параконкі — ардынаркі і з дубальтовамі лемяхамі. Калёсікі паблыталіся паасобку. Прыгледзішся—тут можна пазнаць і барабан ад арфы, а наперадзе скарчанеўшы стаяць дзьве сеялкі.

Гэта мы клецъ перасыпалі,—наперад апраўдваецца старшыня,—тады павыносілі былі, але неяк і не давялося ўпарадкаваць... А сеялкі, дык яны ў нас так сабе, бо мы сеем рукамі.

Гэтым старшыня, канешне, не апраўдаўся, а прызнаньне пра сеялкі зусім падвяло яго. Папершае — не пахвальна, што калі нават ёсьць і машыны, а сеецца ўручную, а падругое—хоць машына і ня служыць, а даглядаць яе трэба.

Зрабіўшы сваё прызнаньне, старшыня спакойна накіраваўся да канцэлярыі. Па вытаптаным двары грузна затопалі яго боты і раскідалі ад сонца бляск.

## VI

Левы бок галоўнага будынку аднапавярховы. У ім месьціцца дзьве школы і клюб. Клюб павінен быць месцам здаровага адпачынку комунараў. Але да гэтага часу ён ня прыладжаны. Няма сапраўды таго прытулку, які ўцягнуў-бы сюды кожнага, бо нават і радыё, пра якое казала Балотнічыха, стаіць ня ў клюбе, а ў трактарыста. Ён бо самы спраўны махайнік, ну няхай у яго і стаіць. А хто пойдзе ў чужую хату дакучаць людзям. Ну і слухае радыё большай часткай адзін трактарыст, а калі што цікавае—назаўтра раскажа. Няма і газэт. Некалькі штук ляжаць за шклом у шафцы, але яны ня чытаюцца, бо хто пойдзе нудзіцца ў клюб. Тое самае і з кнігамі. Некалькі лічаных штук ляжыць іх у той-жа шафцы. Хатніка Штабнога і ня турбуе ніхто, бо ўсё адно ведаюць, што нічога ні новага ні старога няма.

На дзень у клюбе лавы паскіданы ў куток. Ля сьцяны куча дошак. У другім кутку некалькі калодак і яны падстаўляцца пад дошкі тады, калі будзе спэктакль.

У канцы сцэна. Па суботах на гэтай сцэне і адбываюцца спэктаклі, але ад таго, што новых п'ес няма, а ўсе яны старыя і шмат разоў глядзеліся, то можна будзе паказаць якую-небудзь хоць нехлямяжанькую, але кароценькую і тады адчыніць танцы. А танцы—самае галоўнае. Інакш моладзь і ў клюб ня пойдзе. А то знойдзецца зух гарманіст, расьцягне гармонік да адказу—і як тады ўтрымацца, каб не аддубасіць кадрылю. Гарманісту—гонар і слава. Сядзіць ён, пакурвае, а тады

падыдзе дзяўчынка і папросіць—ласкава, канешне, папросіць—каб сыграў вальс. Яшчэ мудрэй расьцягнуцца мяхі — заліваецца галасамі, гарue ад падэшваў вечарынкавых клюб.

Ля сцэны стаіць рояль. Бадай кожны комунар ад 8 да 20 год умее іграць. Стогне рояль, немым голасам надрываецца цэлы дзень. Пазьдзіранымі косткамі клявішы выглядаюць, як шчарбатыя зубы. І кожны клявіш свой нораў мае: той не ўгінаецца, той не адгінаецца, а таго—бі ці ня бі, усё роўна нічога ня чутно будзе.

Самы галоўны музыкант цэлы вечар нацыбучвае вальс, тустэп і польку. Калі ўдарыць ахвота—рэпэртуар пашырыцца. Можна будзе сыграць яшчэ „Хіляйля-хіляйлём“.

— У нас дзьве былі,—кажа ён,—адну ўжо кончылі, а гэта от другую даіграваем.

А даігрываць няварта было. Рояль—рэч дарагая, можна было даглядзець яе і скарыстоўваць куды лепш.

Самы галоўны канчае, а садзіцца другі і пачынае зноў з таго самага толькі з меншым уменствам.

От так і працуе клюб. А загадчык Штабны — сухарлявы, доўгі, як стусіна хлапец—спрачаецца з настаўніцамі, расказвае пра грамадзянскую вайну, пра бандытаў і яму некалі зірнуць на работу.

## VII

З новым чалавекам хочацца пагаварыць. Сабраліся комунары і комунаркі ў хату. Вымаюць махорку, круцяць цыгаркі тоўстымі задрантвелымі пальцамі—як кропелькі махрыцы перасыпаюцца з аднае паперкі ў другую—перасыпаюцца, абменьваюцца думкі.

— Кіраўніцтва ў нас дрэннае, безгаспадарчасьць заядае, — кажа стары комунар Захар.—Паехала от усё начальства на зьезд у Касьцюковічы, нікога намесьнікам, ці кіраўніком гэтым не пакінулі, а ў колгас людзі прыходзяць з далучаных сёл па справах, і нідзе нікога няма. А работа таксама—чорт ведае што рабі. Ня ведаеш куды і павярнуцца нават.

— Вельмі ўжо ў нас цяпер неяк не палюдзку усё пашло, — дадае кабеціна.

— Што-ж ты хочаш людзкага, калі ад галавы гэта ідзе. Што называецца селі мы цяпер на седама з сваім Саветам. Ніводнага комуніста ў Савеце няма, а старшыня чорт ведае якую політыку гне.

Падумаўшы, глыбока зацягнуўшыся дымком, Пракоп скардзіцца далей.

— Ашукаліся мы цяпер з сваім Саветам. Ні работы, ні кіраўніцтва, так толькі каб адтупаць. А комуністаў мала—восемь чалавек з кандыдатамі на ўвесь новы калгас, ды тыя ўсе занятыя. А тут вот і ідзе суматоха. Кулацкую лінію гне старшыня—гэта я скажу проста. Увесь час супроць колектывізацыі быў. Яму хочацца, каб гэта маленькаю

кучкаю так сабрацца дый чухаць чараўцо, а там хоць трава не расьці. Вот табе і музыка. І ў гаспадарцы тое самае—нідзе гаспадарчага вока няма. Жарты сказаць — каб з першага месца ды на потым апынуцца. Гэта што вельмі няма часу цяпер — усе занятыя на сёлах. Даводзіцца перавыбараў чакаць, а так—даўно ўжо што зрабілі-б.

У гэтым вялікая праўда. Пралазілі ў комуну кулакі, каб шкодзіць. Комунары праганялі іх. А гэта ў самай галаве небясьпека засела. Толькі цяпер адчулі комунары, якую вялікую ролю іграе кіраўніцтва. А старшыня, Падабед Сафрон, або вельмі замаскаваны і хітры шкоднік, або зусім няздольны кіраўнік. Наўрад ці правільным будзе другое. Ідэя адмежаванасьці, ідэя вузкае нажывы за лік дзяржавы—зусім знаёмая ідэя кулацкіх комун, і ці ня імкнуўся да гэтага і Падабед? Стоячы на чале комуны, ён змагаўся супроць колектывізацыі, а калі перамаглі яго—астаўся ў бачку, у справе колектывізацыі ніякага ўдзелу ня прыняў і на гаспадарку плюнуў. Няхай, моў, глядзяць якое дабро тут. Млын, той самы млын, што з бровара перарабілі, катора пара стаіць, бо нешта маленькае ў ім сапсавалася. Ніякіх запасных частак няма. Млын стаў, а на комуну штодня трэба дзесяткі і сотні пудоў мліва. Трэба карміць сьвіней, жывёлу. Трэба харчавацца самім. А там—не хапае нейкае маленькае штучкі—хоць вязі куды-небудзь за дзесяткі вёрст малоць.

А яшчэ і малацьба гэтая ідзе. Цепарся пара было памалаціць, аж брыдка. Дый малацьба тая—няхай-бы хоць адзін, а то з Савету прышоў ды паглядзеў, дык іх і духу няма. Няўпраўкі ўсё. От так і скаціліся на гэтае пятае месца.

Сумленным комунарам, якія змаглі некалі „ўсё аддаць, усяго сцурацца і ісьці невядома як жыць“—шкода комуны. Кожны непарадак, што здарыўся не па неабходнасьці, а па неахайнасьці чапае іх за нутро. Ня дзіва, што так прагна чакаюць яны перавыбараў.

Люты месяц. Бухарына - Пролетарская яшчэ не памалаціла свайго збожжа. Раніцою даецца нарад на малацьбу. У гумне пазьбіраліся—старыкі, сярэднія, маладзіцы. Парашчынялі вароты, пападкідалі снапы, прырыхтаваліся—чакаюць трактара. Чакае яго і высозная на таку малатарня. Сядзяць, стаяць, каласкі перабіраюць, а трактара няма. Гутаркаю заняліся—мужчыны сёе-тое ўспамінаюць з грамадзянскае вайны, старэйшыя—з царскае здарэньне якое прыставяць. Кабеты—у сваю чаргу—гуртком, на снапох паўсядаўшыся гаворку находзяць. І гаварыць надакучыла, і мароз за пальцы цісьне, а трактара няма. Так ужо і нудзіць пачалі-б каб не Кандрат. Але той нашоў забаўку. Тупаючы каля заперы, на мыш неяк натрапіў. Падседзеў, злавіў рукавіцаю за хвосьцік і давай да жанчын з ёю пацыкацца. Піск, крык на ўсё гумно. Умяшаліся мужчыны—за крысы лавіць пачалі, як тыя ўцякаць зьбіраліся. Выпала недзе мыш, згубілася, а трактара ўсё няма. А ўжо і гадзіньнік так на другую налазіць.

— Што за чорт, пайду пагляжу хіба—кажа барадаты Захар.

— Але схадзі хіба, што ён там бавіцца.

А з трактарам тое самае што і з мышам. Распаліў яго трактарыст, вывеў з гаражыка на двор і чуе; лапаціць вельмі нешта, перабоі, як ён кажа, вялікія. Але мала што перабоі — і чалавек бывае закашляецца, але-ж гэта-ж пройдзе і нічога — здароў чалавек. Толькі трактар аказаўся не здаровым. І сам трактарыст добра ведаў, што даўно згабляваласся нейкая там шайбіна ўнізе і што даўно пахропвала машына. Ведаў, што трэба новая шайба, але таму, што ня зьбіраўся век векаваць у колгасе, дык і не клапаціўся пра новую.

І вось толькі цяпер, калі ўжо трактар пачаў ірваць нутро—машыніст суняў яго каля сьвірна.

— Ні пайдзёць, правіць трэба—заявіў ён і зьлез папраўляць.

Расшрубаваў, паразьбіраў усё і пальцамі пакалупаў шайбу.

— Налівоць трэба, а тут і волава няма.

Доўга корпаўся пад нізом трактарыст, на сьпіну лажыўся, пальцамі, малатком стукаў, паўдня прагараваў, а ў гумне, чакаючы яго, лавіў мышы чалавек 20 нарад малацьбітоў. Дзень прападаў дарам, а ніхто нават і не наказаў тым, каб варочаліся да хаты і ня даў другога нараду.

Трактарыст усё спадзяваўся наладзіць. Урэшце, у дзьве гадзіны дня падняўся, пачухаў патыліцу і гукнуў да старшыні, што крочыў па дварэ.

— Малаціць сёньні ня будзім. Трактару рамонт нады.

— Ня будзем дык і ня будзем,—пераказаў старшыня і паволі пакрочыў у канцэлярыю. Таксама грузна ступалі яго юхтовыя боты і па халявах торкаў кажух.

Трактар адмовіўся малаціць. Трэба вялікі рамонт. Яшчэ летась з восені гэта відна было, а гэта—пачыналася вясна, падыходзіла ворыва і толькі тады, як машына зусім адмовілася працаваць—адумаліся, што трэба лячыць.

От так, пакрысе, памаленьку і зьмяняла комуна першае месца на пятае. А Падабед Сафрон спакойна сядзіць у канцэлярыі і паволі перакідае галачкі на лічэбніку, падлічваючы, колькі якому члену яшчэ трэба ўнесьці пай у коопэрацыю—колькі з якога трэба адлічваць.

## VIII

Канешне, Ракоп сказаў праўду. Колгас у 9000 гектараў—плойма работы—а ўсяго восем комуністаў, дый тыя ніколі ня стыкаюцца. Комсамольская ячэйка слабая. Аздараўляючы ад кулацкае рызыдоўлі сёлы—некалі было зьвярнуць увагі на асяродак—на комуну. Ад таго і спала работа. Ад таго і паслаблі лейцы кіраўніцтва.

На сходзе ў Пушкове шмат было за тое, каб далучыцца да Антонаўскае комуны. Чаму да Антонаўскае? Бо там на многа лепш пастаўлена работа, бо на многа эфэктыўнейшая гаспадарка. От тут і паказаліся тыя „шмат непарадкаў“, пра якія казала Балотнічыха, от тут і пака-

заліся вынікі Сапронавага гаспадараньня. А Бухарына - Пролетарская мела ўсе падставы, каб ня траціць свайго першага месца.

Едучы назад з Пушкова—сіверам сьцяўся мароз. Сані рыпяць па ранішняму—глуха, коратка абрываючыся. У сёлах на попрадкі пазапальвалі агні.

— Здорова даводзіцца працаваць,—кажа Пракоп,—а наперадзе яшчэ колькі работы...

— Здорава!

І ў здаровай бальшавіцкай рабоце залог соцыялістычнае перамогі.

Люты-сакавік 1930 г.

## ДОМ

**Максім Лужанін**

Днём і ноччу ён рос.
Працавалі ў тры зьмены
з раньніх рос
да вячорных,
з зары
да зары,
і калі на хвіліну
змаўкала каменьне, —
пачыналі сьпяваць
муляры.
— Тэмпаў
рук цана —
рэконструкцыя!
Пе-
ра-
будаваць
жыцьцё!
Асінстанам
ударных плянаў,
музыкай
фабрычных
верацён.
Заціскаліся зубы
пад'ёмнай машыны,
гаварыў,
скрыгатаў
на падважніках
блок,
і калі—
неба
ўперлася
ў сьцены
плячыма —
узьвіўся сьцяг,

баявой перамогі
крыло.
І напорна ўздымалася
творчая радасьць,
і дужэла адноўленасьць
нашай зямлі,
і ня сходзіла з плянаў
вытворчай нарады
маладая краіна,
як мы.

Так,
з іскрыстымі кроплямі
творчага поту,
у нястрымных размахах
упартай рукі,
выплывалі,
        на рэйках
                напружнай
                        работы
збудаваныя
        намі
  вякі!
І мінуўшы нізіну
зачмураных продкаў,
ў бляску дзей
расьцьвіла
        перамога
                стырна.
З кожным
        новым
                паверхам —
расла
    пяцігодка,
вырастала вясна!

* * *

**Сяргей Фамін**

Туманамі залачонымі
Праходзіла восень клёнамі,
Закранула сосны сонныя
Ỉ пранеслася загонамі.

На пахучых канапляньніках
Вераб'і лcraталі зграямі.
Ỉ ступала восень раненька
Над палямі ўраджайнымі.

За ракой прастор аселіцы
Хваляваўся малатарнямі.
Пад мякіннаю мяцеліцай
Працавалі дружна ўдарнікі.

Журавы плылі занізкамі
Над саўгаскімі палосамі.
Ỉ шумеў за дальлю шызаю
Шлях чырвонымі абозамі.

... А калі ішлі калёнамі
Творчай працай нестамлёныя —
Прывітаньнем за загонамі
Ім зьвінела восень клёнамі.

1929 г., восень.

# ІТОГІ ВЫКАНАНЬНЯ ПЯЦІГАДОВАГА ПЛЯНУ

**А. Шэйнін**

Няма патрэбы казаць аб тым, якое вялізарнае значэньне мае аналіз вынікаў выкананьня пяцігадовага пляну за мінулыя паўтара гады. Гэты аналіз дэманструе нам, у якой меры ажыцьцяўляюцца пэрспэктыўныя намёткі пяцігадовага пляну, на якіх вучастках вызначылася яго перавыкананьне і дзе павінны быць прыкладзены дадатковыя высілкі для таго, каб забясьпечыць рэалізацыю высокіх адказных задач пяцігадовага пляну. Мова аб'ектыўных лічбаў уладарна кажа аб правільнасьці генэральнае лініі партыі ў галіне індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі. І наадварот, яна пераконвае ў тым, у якой меры памыліліся панікёры і ныцікі з лягеру правых ухілістых, якія расцэньвалі пяцігадовы плян, як плян нерэальны і непасільны для народнае гаспадаркі.

Праверка выкананьня пяцігадовага пляну народна-гаспадарчага будаўніцтва па БССР мае вялікае значэньне яшчэ таму, што ў ім былі вызначаны параўнальна больш высокія тэмпы разьвіцьця гаспадаркі, чымся па ўсяму Саюзу. Такая ўстаноўка, якая знайшла свой адбітак у пяцігадовым пляне, поўнасьцю адказвала адпаведнай пастанове XV зьезду ЎсеКП(б), які падкрэсьліў, што „пяцігадовы плян павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу пытаньням уздыму экономікі і культуры адсталых нацыянальных акраін і адсталых раёнаў, выходзячы з патрэбы паступовай ліквідацыі іх экономічнай і культурнай адсталасьці, адпаведна прадугледжваючы больш шпаркі тэмп росту іх экономікі і культуры, выходзячы з увязкі патрэб і патрэбнасьцяй гэтых раёнаў з патрэбамі і патрэбнасьцямі Саюзу“.

Разгортваньне процэсу пашыранае вытворчасьці народна-гаспадарчай сыстэмы БССР за мінулыя паўтара гады адбывалася на базе ўзмацненьня тэмпаў матэрыяльнай і соцыяльнай рэконструкцыі краіны і ўздыму соцыялістычнай самасьвядомасьці і актыўнасьці рабочае клясы. У сувязі з новай соцыяльна-экономічнай сытуацыяй на працягу мінулага пэрыоду мела месца перабудова форм змычкі з вёскай, значныя зьмены, як у галіне організацыі працы, так і ў іншых галінах. У сувязі з узмоцненым наступленьнем на капіталістычныя элемэнты на гэтым адрэзку пяцігадовага пляну адбылося рэзкае абвастрэньне клясавай барацьбы, якое налажыла свой адбітак на разьвіцьцё шэрагу важнейшых народна-гаспа-

дарчых процэсаў. Усё гэта разам узятае вызначае выключнае значэньне 1928-29 году і першай паловы 1929-30 году, як важнейшага адрэзку пяцігадовага пляну.

Наш агляд ітогаў выкананьня пяцігадовага пляну мы пачнем з вядучай галіны народнае гаспадаркі—са сфэры прамысловасьці.

Рэалізуючы задачу ўзмацненьня позыцый прамысловасьці ў народнай гаспадарцы БССР, пяцігадовы плян вызначыў высокія тэмпы разьвіцьця прамысловасьці на працягу плянуемага пяцігодзьдзя. Агулавая продукцыя буйнай прамысловасьці павінна была за пяць год узрасьці ў 4,3 разы, а прамысловасьць, падпарадкаваная ВСНГ, у 4,8 разы. Колькасьць рабочых у буйнай дзяржаўнай прамысловасьці павінна была ўзьняцца з 39,4 тысяч чалавек да 92,2 тысячы чалавек—ці на 134 проц. А па лініі прадпрыемстваў, што ўваходзяць у склад рэспубліканскай прамысловасьці—на 142 проц. Якасныя ўстаноўкі ў галіне прамысловасьці характарызуюцца заданьнем падваеньня росту продукцыйнасьці працы, зьніжэньнем сабекошту на 32 проц. пры павялічэньні номінальнай заработнай платы на 35 проц., а рэальнай—на 50 проц. Гэтыя буйнейшыя заданьні павінны былі быць дасягнуты на аснове рэконструкцыі вытворчай базы ў выніку капітальных укладаньняў, якія па лініі рэспубліканскай прамысловасьці былі вызначаны ў суме 225 млн. за пяцігодзьдзе. Ажыцьцяўленьне гэтай програмы павінна было прынесьці рашучыя ўзрухі ў структуры народнае гаспадаркі БССР.

Паглядзім, як ажыцьцяўляецца прамысловая пяцігодка, якая вызначае такія значныя зьмены ў народна-гаспадарчай сыстэме краіны?

Агулавая продукцыя ўсёй дзяржаўнай цэнзавай прамысловасьці дала рост за 1927-28 год на 33,3 проц., за 1928-29 год — на 44,4 проц. На 1929-30 год плянам вызначаўся прырост продукцыі супроць папярэдняга году на 65,2 проц. Такім чынам, дзяржаўная буйная прамысловасьць дае з году ў год тэмпы прыросту, якія ўсё павышаюцца, пры гэтым рэзка вызначаецца 1929-30 год ў адносінах значнага перавышэньня адпаведных намётак пяцігадовага пляну.

У мэтах больш поўнага аналізу ітогаў работы прамысловасьці за мінулыя паўтара гады мы зьвернемся да даных, што характарызуюць дынаміку агулавай продукцыі і рэспубліканскай прамысловасьці. Агулавая продукцыя рэспубліканскай прамысловасьці ў 1928-29 годзе дала рост на 45,7 проц., крыху адстаўшы ад заданьняў пляну. Трэба адзначыць, што прырост, якога дасягнула продукцыя рэспубліканскай прамысловасьці, у 1928-29 годзе зьявіўся вынікам узмацненьня інтэнсыўнасьці яе працы, пераважна ў другой палове году. Выключнае значэньне тут адыграў уздым актыўнасьці рабочае клясы, які выразіўся ў разгортваньні соцыялістычнага спаборніцтва ў справе выкананьня плянавых заданьняў. Плян на 1929-30 год вызначыў выключна высокі тэмп росту прамысловай продукцыі, які вымяраецца ў 77,5 проц. У абсолютным сваім выразе агулавая продукцыя павінна скласьці ў 1929-30 годзе

309,3 млн. рублёў (у цэнах 1926-27 г.), супроць 216,7 млн. руб., вызначаных пяцігодкай для гэтага году. Такім чынам плян 1929-30 г. значна выперадзіў намёткі пяцігадовага пляну і па аб'ёму сваёй програмы блізка падышоў да заданьняў на трэці год пяцігодкі.

Якія фактары садзейнічалі такому рэзкаму перавышэньню заданьняў пяцігодкі па лініі прамысловай продукцыі? У асноўным яны заключаюцца, перш за ўсё, ва ўзмацненьні нагрузкі асноўнага капіталу (рост зьменнасьці, пераходзе на бесьперапынны рабочы тыдзень і г. д.), што ў абстаноўцы працоўнага ўздыму рабочае клясы дазволіла запроектаваць павялічаныя заданьні на другі год пяцігодкі.

Адначасна з ўзмацненьнем нагрузкі на колькасныя вынікі працы прамысловасьці вельмі моцны ўплыў робіць пашырэньне тэхнічнай яе базы. Адносная вага абсталяваньня ў асноўных капіталах рэспубліканскай прамысловасьці эволюцыянуе наступным чынам: I-X-27 г.—43 проц. I-X-28 г.—44 проц., I-X-29 г.—52 проц.

Вось лічбы, што ілюструюць паступовае ўзмацненьне значэньня новага будаўніцтва, ствараючага асноўны капітал, які якасна рэзка адрозьніваецца ад „старога“ асноўнага капіталу.

**Капітальныя ўкладаньні ў рэспубліканскую прамысловасьць.**

| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1929-30 г. |
|---|---|---|---|---|
| | У млн. руб. | | | |
| Агульная сума ўкладаньняў . . . | 9,3 | 16,7 | 25,8 | 52,4 |
| У тым ліку новае будаўніцтва. . | 3,0 | 7,7 | 14,2 | 34,1 |
| Доля новага будаўніцтва у %% . | 32,3 | 46,1 | 55,0 | 65,1 |

Адносная вага продукцый новых фабрык і заводаў у продукцыі рэспубліканскае прамысловасьці ў першым паўгодзьдзі 1929-30 года ўжо складае 18,4 проц.

Барацьба за асваеньне высокіх тэмпаў, якой было афарбована першае паўгодзьдзе 1929-30 г., апіралася на ўлічэньні эфэктыўнасьці капітальных укладаньняў папярэдніх год, узмацненьне нагрузкі старога асноўнага капіталу і скарыстаньні новых організацыйных мэтодаў (бесьперапынны тыдзень, сямігадзінны рабочы дзень).

Да канца першага паўгодзьдзя бесьперапынным рабочым днём было ахоплена ўжо 77 прадпрыемстваў з 25,5 тысяч рабочымі, што складае 60,3 проц. агульнага складу рабочых рэспубліканскае прамысловасьці. У канцы першага-ж паўгодзьдзя з скарочаным рабочым днём працавала 21 прадпрыемства з агульным лікам рабочых у 9,5 тысяч чалавек, што складае 22,4 проц. агульнага ліку рабочых.

Уяўляе глыбокую цікавасьць аналіз ходу барацьбы за прамфінплян 1929/30 г. на працягу першай паловы году.

Калі супаставіць ітогі першай паловы 1929/30 г. з аналёгічным пэрыодам мінулых год, то прырост агулавай продукцыі выразіцца ў 72,1%. Тэмп прыросту, такім чынам, хоць і значна перавышае адпаведныя тэмпы мінулых год, усё-ж адстае ад заданьня прамфінпляну. Аднак, калі паглядзець, як разгортвалася работа прамысловасьці ўнутры паўгодзьдзя, то мы ўбачым малюнак сыстэматычнага яе ўзмацненьня з месяцу ў месяц і набліжэньня да плянавага ўзроўню. Першы квартал даў прырост супроць першага кварталу мінулага году толькі на 63,4%. У выніку працы за студзень гадавы прырост 4-х месяцаў выражаецца ўжо ў 67,9%, за 5 м-цаў гэты прырост ужо даходзіць да 69,4% і, нарэшце, за 6 м-цаў—да 72,1%. Узровень агулавай продукцыі за сакавік перавысіў сакавіковы ўзровень 1929 г. ўжо на 82,5%. Гэта кажа аб тым, што вытворчая програма на 1929/30 г. зьяўляецца зусім рэальнай і што яе поўнае выкананьне залежыць у канцовым ліку ад напружанай працы самой прамысловасьці.

Высокі арганізуючы ўплыў на ўзмацненьне работы прамысловасьці ў другім квартале зрабіла адозва ЦК УсеКП(б) ад 25 студзеня, мобілізацыя грамадзкае ўвагі да пытаньня выкананьня прамфінпляну і актывізацыя мерапрыемстваў організацыйна-тэхнічнага характару, накіраваных на выкананьне заданьняў прамысловага пляну на 1929/30 г.

У адозьве ЦК УсеКП(б) канстатуецца, што „рашаючай прычынай невыкананьня пляну першага кварталу зьяўляецца невыстарчальная мобілізацыя складу гаспадарчых, профэсыянальных, комсамольскіх і партыйных сіл і ўсяго беспартыйнага актыву рабочае клясы наўкола конкрэтных заданьняў па росту продукцыі, зьніжэньня сабекошту і паляпшэньня якасьці продукцыі“. Іменна прычыны суб'ектыўнага парадку, невыстарчальнасьць высілкаў, пакладзеных для выкананьня павялічаных заданьняў на другі год пяцігодкі, і абумовілі невыкананьне паўгадовага пляну на 5,8%. Найбольшае адставаньне ад пляну далі наступныя галіны: гарбарна-абутковая (14,2%, у тым ліку па абутку—19,8%), мэталя-апрацоўчая (8,2%), тэкстыльная (17,3%), харчовая (9,3%). На ўзроўні пляну ці з значным яго перавышэньнем вынікі работы панчошна - трыкатажнай, швэйнай і папяровай галін. Далейшае разьвіцьце спрыяючай тэндэнцыі, якое знайшло свой выраз у паказчыках работы прамысловасьці за сакавік месяц, павінна забясьпечыць поўнае выкананьне гадавога прамфінпляну. Об'ектыўныя ўмовы разгортваньня прамысловасьці на другую частку году ствараюць станоўчыя ўмовы для рэалізацыі колькасных заданьняў прамфінпляну. Сюды адносяцца—узмацненьне пераходу на бесьперапынны тыдзень, падвышэньне эфэктыўнасьці соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, разгортваньне рэконструкцыйных і рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, увод у эксплёатацыю новых прадпрыемстваў і правядзеньне організацыйных мерапрыемстваў. Абавязковай умовай выкананьня пляну на 1929/30 год зьяўляецца рашучае ўхіленьне настрояў „фэтышызацыі“ об'ектыўных прычын, якія часта назіраліся. Цікавую

ілюстрацыю магчымасьці перавыкананьня пляну дае нам папяровая прамысловасьць, якая ў сувязі з павялічанымі запатрабаваньнямі на яе продукцыю пераглядзела свой плян і, мяркуючы па паказальніках красавіка, пасьпяхова яго ўжо выконвае. Такім чынам прамысловасьць БССР у 1929/30 годзе робіць вялізарны брасок наперад, пакідаючы далёка з-заду меркаваньні пяцігадовага пляну. На аснове аналізу ходу выкананьня пляну ў 1929/30 г. і ўлічэньня рэсурсаў, якія ўсё выяўляюцца, у сучасны момант запроектаваны тэмпы росту прамысловай продукцыі на трэці год пяцігодкі. Намёткі на 1930/31 год носяць яшчэ чарнавы характар, аднак яны ўсё-ж ускрываюць пэрспэктывы далейшага разьвіцьця прамысловасьці БССР. Ліміты да контрольных лічбаў на 1930/31 год вызначаюць больш, чым падваеньне продукцыі рэспубліканскае прамысловасьці. *Па свайму аб'ёму выработка продукцыі прамысловасьці ВСНГБ у 1930/31 г. павінна перавысіць разьмер продукцыі, якая вызначана на апошні год пяцігодкі. Гэта значыць, інакш кажучы, што ў частцы продукцыі прамысловая пяцігодка будзе выканана менш, чым у тры гады.* Ці трэба казаць, якое гэта мае значэньне ў справе гаспадарчай рэконструкцыі БССР? Асабліва істотна, што разьвіцьцё прамысловасьці, адпаведна папярэдніх намётак будзе ісьці ў інтэнсыўным тэмпе ня толькі па лініі лёгкай індустрыі, але і цяжкай. Вытворчасьць сродкаў вытворчасьці ў 1930/31 годзе будзе складаць каля 177 млн. руб. (па цане 1926/27 г.), у той час як пяцігадовым плянам меркавалася, што ў 1932/33 г. продукцыя галін, што ўваходзіць у групу „А“ (г. зн. вытвараючых сродкі вытворчасьці) выразіцца толькі ў 148,3 млн. руб. Значны ўзрух вызначаецца па лініі машынабудаўніцтва, хэмічнай прамысловасьці, вытворчасьці будаўнічых матэрыялаў і г. д.

Характарызуючы ітогі рэалізацыі пяцігодкі ў галіне прамысловасьці трэба спыніцца таксама на тых вучастках, дзе мы пакуль яшчэ ня маем выстарчальнага ўзруху. Мы маем на ўвазе ўсю галіну якасных паказальнікаў, дзе ажыцьцяўленьне заданьняў пяцігадовага пляну адбываецца стрыманым тэмпам.

Калі ўзяць дынаміку такога абагульваючага якаснага паказальніка, які характарызуе ўсю суму якасных дасягненьняў у прамысловай гаспадарцы, як паказальнік зьніжэньня сабекошту, то ён дае такі нам малюнак. У 1928-29 г.—першы год пяцігадовага пляну—даў зьніжэньне сабекошту продукцыі рэспубліканскае прамысловасьці толькі на 4,5%, у той час калі плянам вызначалася скарачэньне выдатка, вытворчасьці на 7%. На 1929/30 г. плянам была пастаўлена задача зьніжэньня сабекошту на 11%. Мяркуючы па выніках першага паўгодзьдзя, задача гэта яшчэ поўнасьцю не рэалізавана. Па орыентыровачных падліках зьніжэньне сабекошту за першае паўгодзьдзе вызначаецца толькі ў межах 7%. Гэтая лічба значна перавышае ітог першага паўгодзьдзя 1928/29 г., калі зьніжэньне сабекошту дало толькі 2%. Адставаньне ад пляну тым ня менш выражаецца ў істотнай велічыні. Недазьніжэньне сабекошту б'е па

ўнутрыпрамысловаму накапленьню і гэтым самым можа паставіць пад удар выкананьне пляну капітальнага будаўніцтва.

Ці ня сьведчыць недавыкананьне пляну зьніжэньня сабекошту аб нерэальнасьці самога заданьня, тым больш, што 1928/29 г. таксама ня даў поўнага выкананьня дырэктывы аб сяміпроцантным зьніжэньні сабекошту?

Беглы аналіз эволюцыі зьніжэньня сабекошту паказвае нам, што справа тут ні ў якім разе не заключаецца ў непасільнасьці самога заданьня. Як і ў адносінах колькасных паказальнікаў спасылка на об'ектыўныя ўмовы павінна быць рашуча адкінута. Бо ў сапраўднасьці першае паўгодзьдзе 1928/29 г. дало толькі 2% зьніжэньня сабекошту. Другое паўгодзьдзе, калі наўкола пытаньня зьніжэньня сабекошту была мобілізавана ўвага прамысловасьці, выкрыла ўжо амаль поўнае выкананьне гэтага заданьня. Другая палова году не пакрыла, праўда, прарыву першага паўгодзьдзя, тым ня менш ітогі сьведчаць аб тым, што сяміпроцантнае заданьне было ў поўнай меры рэальным заданьнем для 1928/29 г. У такім-жа стане знаходзіцца справа і ў 1929/30 годзе. Разам з мобілізацыяй грамадзкай увагі і нарастаньнем актыўнасьці прамысловасьці ў галіне падвышэньня якасьці яе працы на працягу першага паўгодзьдзя з месяца ў месяц адбываўся процэс паляпшэньня паказальнікаў зьніжэньня сабекошту. Паасобныя галіны ўжо блізка падышлі да выкананьня плянавага заданьня.

Аналіз элемэнтаў зьніжэньня сабекошту з відавочнасьцю паказвае, што недавыкананьне гэтай важнейшай дырэктывы народна-гаспадарчага пляну зьявілася вынікам невыстарчальнага ўтаненьня элемэнтаў працы і сыравіны. Ня гледзячы на тое, што номінальная зарплата паказала рост, які ўступае намёткам пляну, расход зарплаты на адзінку продукцыі ў сярэднім па прамысловасьці аказаўся ўсё-ж вышэй плянавых намётак у зьвязку з недавыкананьнем проектоўкі па лініі росту продукцыйнасьці працы. Рост выработкі на аднаго рабочага ў першым паўгодзьдзі ў параўнаньні з першым паўгодзьдзем 1929/30 г. складаў амаль 35%, г. зн. столькі-ж, скольні вызначалася і плянам. Трэба, аднак, прыняць пад увагу, што гэты рост продукцыйнасьці працы ішоў ад высокага ўзроўню другога паўгодзьдзя, што паніжае значэньне гэтага каэфіцыенту.

Роўным чынам і па лініі зьніжэньня выдаткаў па элемэнтах сыравіны, апалу, дапаможных матэрыялаў і г. д.—першае паўгодзьдзе 1929/30 г. ня прынесла выстарчальна станоўчых вынікаў. Такім чынам прычыны недазьніжэньня сабекошту ў асноўным ляжаць у невыстарчальнай мобілізацыі скарыстаньня ўсяго арсэналу мерапрыемстваў, якія павінны былі быць зьвернуты на барацьбу за асваеньне якасных паказальнікаў пяцігодкі.

Побач з гэтым трэба адзначыць няспрыяючыя паказальнікі, якія ёсьць па лініі якасьці продукцыі. Уся сукупнасьць матэрыялаў, што датычыцца

пытаньня якасьці продукцыі, паказвае, што апарат прамысловасьці з гары да нізу праявіў недапушчальную пасыўнасьць на гэтым важнейшым вучастку яго работы. Пытаньні якасьці заставаліся ў цяні, не знаходзіліся ў полі ўвагі работы прамысловасьці. У далейшым тут патрэбна згуртаваць сур'ёзныя высілкі, маючы на ўвазе, што якасьць продукцыі зьяўляецца адным з найбольш адстаючых вучасткаў прамысловага фронту.

Мы намалявалі ў самых агульных рысах ход выкананьня пяцігадовага пляну прамысловасьці.

Ніжэйнаступныя лічбы выразна паказваюць значнае ўзмацненьне вагі прамысловасьці ў народна-гаспадарчай сыстэме БССР:

| | 1926/27 г. | 1927/28 г. | 1928/29 г. | 1929/30 г. |
|---|---|---|---|---|
| А. Наёмны пэрсонал прамысловасьці ў %% да ўсяго наёмнага пэрсоналу . . . . | 20,3 | 20,4 | 21,6 | 23,5 |
| Таксама ў буйнай прамысловасьці . . . . . . | 14,8 | 15,2 | 16,6 | 18,7 |
| Б. Агулавая продукцыя прамысловасьці ў %% да ўсёй агулавай продукцыі краіны . . . | 30,2 | 30,3 | 34,5 | 43,8 |
| Таксама ў буйнай прамысловасьці . . . . . . | 13,3 | 16,8 | 22,5 | 31,7 |

Паказальнікі гэтыя навочна выкрываюць глыбыню і інтэнсыўнасьць процэсу зьмены структуры народнае гаспадаркі БССР, што адбываецца. Дырэктыва пра пашырэньне значэньня прамысловасьці ў экономіцы БССР, якая атрымала свой адбітак у пабудаваньнях пяцігадовага пляну, дапаўняецца і выконваецца надзвычайна пасьпяхова. Аб гэтым гаворыць хоць-бы амаль падваеньне ўсяго за два гады (1928/29 па 1929/30 г.) ролі продукцыі буйнай прамысловасьці ў агульнай народна-гаспадарчай продукцыі краіны.

Ажыцьцяўляецца таксама задача падцягваньня ўзроўню гаспадарчага разьвіцьця БССР да ўзроўню ўсяго Саюзу. Вось характэрныя паказальнікі ў гэтых адносінах. Рост продукцыі прамысловасьці БССР, які ідзе ў тэмпах, што перавышаюць агульна-саюзныя тэмпы (досыць паказаць, што тэмп росту прамысловасьці ВСНГБ вызначаны на 1929/30 г. у 2,5 раза выпераджае адпаведны тэмп па Саюзу), забясьпечвае павялічэньне вагі агулавай продукцыі цэнзавай прамысловасьці БССР ва ўсёй цэнзавай прамысловасьці Саюзу. Калі ў 1928/29 г. роля буйнай прамысловасьці БССР у адпаведных саюзных ітогах выражалася коэфіцыентам 1,43%, то для 1929/30 г. яна ўжо выражаецца коэфіцыентам 2,13%. Для параўнаньня адзначым, што ў 1924/25 г. адносная вага агулавай продукцыі БССР вымяралася ў мізэрна малой лічбе ў *0,76%. Ад 0,76% да 2,13%—такая дыстанцыя, якую прайшла прамысловасьць БССР на працягу апошніх год.*

У адпаведнасьці з інтэнсыўным ростам прамысловасьці і ўздымам усяе народнае гаспадаркі БССР мінулыя паўтара гады характарызуюцца вельмі буйным ростам наёмнага пэрсоналу ва ўсіх галінах працы.

Асабліва вялікім тэмпам расьце лік рабочых у сфэры прамысловае вытворчасьці.

Вось даныя дынамікі рабочых у буйнай прамысловасьці БССР:

| | Тыс. чал. | у %% да мінулага году. |
|---|---|---|
| 1 кастрычніка 1925 г. | 21,5 | — |
| " " 1926 " | 27,1 | 126,0 |
| " " 1927 " | 28,8 | 106,3 |
| " " 1928 " | 34,1 | 118,4 |
| " " 1929 " | 43.8 | 128,4 |
| " красавіка 1930 " | 52,6 | 120,1 |

Колькасьць індустрыяльнага пролетарыяту БССР за 2½ гады (з I/X—1927 г. па 1/IV—30 г.) амаль падвоілася. Пры гэтым першае паўгодзьдзе 1929/30 г. у сувязі з павышаным тэмпам росту прамысловай продукцыі і павялічэньнем агульнага маштабу матэрыяльнай рэконструкцыі краіны паказвае такое вялізарнае паскарэньне тэмпаў прыросту рабочае сілы (якое выразілася ў абсолютным паказальніку ў 8,8 тыс. чалавек супроць 2,9 тыс. чалавек за першае паўгодзьдзе 1928/29 г.). І тут ў галіне працы, як і па лініі прамысловай вытворчасьці, першыя гады пяцігодкі даюць такім чынам значнае выпярэджваньне адпаведных намётак пяцігадовага пляну.

Далучэньне значных мас насельніцтва да продукцыйнае працы пацягнула за сабой рэзкае скарачэньне беспрацоўя. Грунтуючыся на запроектаваных тэмпах росту паасобных галін гаспадаркі, пяцігодка вызначала зьніжэньне беспрацоўя толькі ў канцы пяцігодзьдзя. У сапраўднасьці-ж ужо *першае паўгодзьдзе бягучага году прынесла рэзкае скарачэньне ліку беспрацоўных, зарэгістраваных у органах працы.* Агульная колькасьць беспрацоўных на 1 мая складала 19,9 тыс. чалавек супроць 37,3 тыс. чал. на 1 мая 1929 г., г. зн. выкрыла скарачэньне на 47%. У сапраўднасьці-ж зьніжэньне выражаецца ў яшчэ большай вялічыні, бо ў складзе зарэгістраваных беспрацоўных лічыцца 6.500 чал., што знаходзяцца на рознага роду курсах.

Проблема беспрацоўя, як такая, фактычна зараз зьнята з чаргі дню. Замест гэтай проблемы перад народнай гаспадаркай БССР устае задача другога характара, іменна задача падрыхтоўкі кадраў для забесьпячэньня рабочай сілай народнае гаспадаркі, якая прогрэсыўна разьвіваецца. Паскарэньне тэмпаў разьвіцьця народнае гаспадаркі абумоўлівае пераход да новых шляхоў разьмеркаваньня кадраў і іх падрыхтоўкі. Проблема гэтая ў сэрыі іншых проблем устае, як адна з важнейшых задач, якія падлягаюць вырашэньню ў бліжэйшы пэрыод.

Інтэнсыўнае пашырэньне наёмнага пэрсоналу высувае проблему жаночае працы і шэраг складаных пытаньняў, зьвязаных з культурна-бытавым абслугоўваньнем рабочае масы (грамадзкае харчаваньне, ясьлі і г. д. і да т. п.).

Адзначаючы зьявішчы ў галіне працы, якія мелі месца на працягу паўтара год, трэба падкрэсьліць яшчэ наступныя моманты. Рост наёмнага пэрсоналу ў сучасны момант ідзе, і, відавочна, у далейшым будзе яшчэ ісьці ў яшчэ больш буйных разьмерах, за кошт уцягненьня іншых членаў сям'і ў прамысловую вытворчасьць і іншыя галіны народнае гаспадаркі. А гэта вядзе да павялічэньня сямейнага бюджэту, тым самым да паляпшэньня добрабыту рабочае сям'і, што ў сваю чаргу цягне за сабой зьмену структуры рабочага бюджэту ў сэнсе яго большай „шляхэтнасьці“. Такім чынам, незалежна ад падвышэньня індывідуальнай заработнай платы, якое адбываецца ў адпаведнасьці з плянавымі меркаваньнямі, мае месца процэс значнага ўздыму добрабыту рабочае клясы, як просты вынік інтэнсыўнага пашырэньня яе колькасьці.

Мы ахарактэрызавалі асноўныя ітогі выкананьня пяцігадовага пляну ў галіне прамысловасьці і працы.

Паглядзім цяпер, як адбываецца процэс перабудаваньня тэхнічнай базы прамысловасьці. Найбольш агульным паказальнікам тут можа служыць дынаміка капітальных укладаньняў. Вышэй былі ўжо прыведзены даныя аб падвышэньні ролі новага будаўніцтва ў агульнай суме капітальных укладаньняў. Тут мы адзначым, як ідзе выкананьне пяцігадовага пляну ў гэтай галіне. Капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць ВСНГБ на 1929/30 г. вызначаны плянам у разьмеры 52,2 млн. руб. супроць 38,4 млн. руб. на пяцігодцы. Лімітамі да контрольных лічбаў на 1930/31 г. вызначаецца яшчэ больш буйнае перавышэньне намётак пяцігадовага пляну. Пры гэтым заслугоўвае быць адзначаным, што ўжо ў 1929/30 г. капітальныя ўкладаньні ў групу „А“, г. зн. у галіне вытворчасьці сродкаў вытворчасьці, паводле сваіх абсолютных разьмераў ужо перавышаюць капітальныя ўкладаньні ў групу „Б“, г. зн. у галіны, што вырабляюць сродкі спажываньня. Іменна—з 52,2 млн. руб., што ўкладваюцца ў рэспубліканскую прамысловасьць у 1929/30 г. 28,6 млн. руб., накіроўваюцца ў групу „А“ і 23,6 млн. руб.—у групу „Б“. На 1929/30 г. запроектавана яшчэ больш буйная разьбежка ў кірунках капітальных укладаньняў на карысьць групы „А“. Перавышэньне меркаваньняў пяцігадовага пляну па лініі капітальных укладаньняў забясьпечвае далейшую тэхнічную рэконструкцыю прамысловасьці ў маштабах, далёка пакідаючых ззаду меркаваньні пяцігадовага пляну.

Капітальныя ўкладаньні ў электрыфікацыю (без фабрычна-завадзкіх станцый) павінны складаць у 1929/30 г. 16,7 млн. руб. супроць 9,3 млн. р. у 1928/29 г. і 10,7 млн. руб. вызначаных пяцігодкай на 1929/30 г. Такім чынам і па лініі капітальных укладаньняў у электрыфікацыі плян выконваецца з перавышэньнем. Гэтага яшчэ нельга сказаць, аднака, пра дына-

міку энэрга-забесьпячэньня. Праўда, паказальнікі апошніх год паказваюць вялікі ўздым электрыфікацыі краіны, які характарызуецца ростам выработкі электраэнэргіі і магутнасьці электрастанцый.

**Паказальнікі электрыфікацыі БССР.**

А. Дынаміка выработкі электраэнэргіі.

| | У млн. квт. гадз. | У %% да мін. году. |
|---|---|---|
| 1927/28 г. | 37,3 | — |
| 1928/29 „ | 50,2 | 134,6 |
| 1929/30 „ (мяркуецца) | 85,1 | 169,5 |

Б. Магутнасьць усіх электрастанцый.

| | У тыс. квт. | У %% да мін. году. |
|---|---|---|
| 1/X-27 г. | 11,7 | — |
| 1/X-28 „ | 14,4 | 123,1 |
| 1/X-29 „ | 17,2 | 119,4 |
| 1/X-30 „ | 33,6 | 195,4 |

Аднак, параўнальна з пяцігадовым плянам мы маем на вучастку электрыфікацыі некаторае адставаньне, якое зьяўляецца вынікам спазьненьня пуску ў эксплёатацыю электрастанцый, што будуюцца. Вучастак электрыфікацыі патрабуе самае глыбокае ўвагі, маючы на ўвазе тое выключнае значэньне, якое надаецца пяцігадовым плянам электрыфікацыйнаму сэктару народнае гаспадаркі БССР. Меркаваньні на трэці год пяцігодкі па лініі электрыфікацыі пакідаюць таксама далёка ззаду намёткі пяцігадовага пляну. Трэба думаць, што ў самы бліжэйшы час вучастак электрыфікацыі будзе падцягнуты да агульнага фронту народна-гаспадарчага будаўніцтва БССР.

Пераходзім да асьвятленьня асноўных працэсаў, меўшых месца ў галіне сельскае гаспадаркі.

Пяцігадовы плян вырашаў проблему ўздыму сельскае гаспадаркі на базе соцыялістычнай рэконструкцыі. Пяцігодкай вызначалася давядзеньне ролі аграмаджанага сэктару ў засеўнай плошчы БССР да 18 проц. у канцы пяцігодзьдзя. Першы год пяцігодкі аказаўся годам пераломy ў справе колектывізацыі вёскі. У выніку імкненьня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак да колектыўных мэтадаў працы вага засеўнай плошчы пад колгасамі за год узрасла з 1,1 проц. да 4 проц. 1929-30 г. прынёс далейшае надзвычайна буйнае разьвіцьцё руху. Да сярэдзіны сакавіка статыстычныя даныя паказвалі малюнак надзвычайна высокага тэмпу росту колектыўных гаспадарак. Дасягнуўшы кульмінацыйнага пункту да пачатку другой дэкады красавіка, колькасьць колектывізаваных гаспадарак затым рэзка зьнізілася. Да моманту веснавога севу процант колектывізаванай засеўнай плошчы складаў каля 18 проц. Прычыны

спаду хвалі колектывізацыі высьветлены з вычарпальнай паўнатой і яснасьцю ў артыкулах т. Сталіна „Галавакружэньне ад посьпехаў“ і „Адказ таварышом колгасьнікам“. У асноўным яны зводзяцца да парушэньня прынцыпу добраахвотнасьці, адміністраваньня, да забываньня таго, што на данай стадыі асноўнай формай колектывізацыі зьяўляецца сельска-гаспадарчая арцель, да пашырэньня аб‘ектаў колектывізацыі (аграмаджаньне курэй) і г. д. Меўшыя месца пры правядзеньні колектывізацыі ў шэрагу мейсц перагібы партыйнай лініі ўзмацнілі хістаньні серадняцтва і пацягнулі значны адсеў ад колгасаў. Сюды дадаткова далучылася актывізацыя дзейнасьці кулацкіх пластоў вёскі, якія скарысталі становішча, што стварылася, у сваіх мэтах, невыстарчальна організацыйна-гаспадарчае ўзмацненьне колгасаў і г. д

Актывізацыя барацьбы з перагібамі і скажэньнямі, якія зьяўляюцца асноўным тормазом пасьпяховага правядзеньня колектывізацыі сельскае гаспадаркі, ствapae спрыяючыя ўмовы для далейшага разьвіцьця процэсу соцыяльнай і матэрыяльнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Ня гледзячы на сур‘ёзныя ўскладненьні, створаныя перагібамі ў вёсцы, мы ўсё-ж спачатку веснавога севу маем у БССР больш высокі ўзровень колектывізацыі, чымся гэта вызначалася контрольнымі лічбамі на канец году (11,6 проц.) Сучасны ўзровень колектывізацыі вельмі блізка падыходзіць далей да заданьняў пяцігадовага пляну на апошні год пяцігодкі (16 проц.)

Стаўка пяцігодкі па давядзеньні ролі соцыялістычнага сэктару ў вёсцы да 1932-33 г., прыблізна да 1/5, у сучасны момант, у выніку інтэнсыўнага процэсу перабудовы вытворчых адносін у вёсцы перавышана фактычным ходам колектывізацыі. У адпаведнасьці з студзеньскай пастановай ЦК УсеКП(б) БССР закончыць поўную колектывізацыю сельскае гаспадаркі да канца пяцігодкі. Гэта факт—вялізарнага значэньня для пэрспэктыў разгортваньня вытворчых сіл сельскае гаспадаркі БССР. Павялічаныя тэмпы соцыяльнай рэконструкцыі вёскі параўнальна з пяцігодкай абумаўляюць рэальную магчымасьць больш шпаркага разьвіцьця вытворчых сіл вёскі, чымся гэта была вызначана ў пяцігадовым пляне. Перад веснавой засеўнай кампаніяй бягучага году ўжо пастаўлена конкрэтная задача пашырэньня яравога кліну на 12 проц. Няма ніякага сумненьня ў тым, што ўзмацненьне і пашырэньне соцыялістычнага сэктару ў вёсцы дазволіць значна выперадзіць меркаваньні пяцігодкі, як у адносінах пашырэньня засеўных плошчаў і ўраджайнасьці, так і ва ўсёй галіне сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

Адным з буйнейшых ітогаў 1929-30 г. зьявілася тая акалічнасьць, што ход соцыялістычнай рэконструкцыі ў сельскай гаспадаркі высунуў на чаргу дня, як асноўны лёзунг, задачу ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі. Соцыяльныя процэсы, што разгарнуліся ў галіне сельскае гаспадаркі на працягу першых паўтара год пяцігодкі, напоўнены вялізарным гістарычным сэнсам. Яны выходзяць

далёка за межы соцыяльнай програмы пяцігадовага пляну. Яны, гэтыя процэсы, у спалучэньні з паскарэньнем тэмпаў разьвіцьця прамысловасьці на аснове высокай актыўнасьці працоўных мас, стварылі новы этап у экономіцы пераходнага ад капіталізму да соцыялізму пэрыоду. „Па-новаму ставіцца цяпер пытаньне аб нэпе, аб клясах, аб колгасах, аб экономіцы пераходнага пэрыоду“ (З прамовы тав. Сталіна на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксістых ад 27-XII-1929 г.).

Кранаючы процэсы, меўшыя месца ў галіне сельскае гаспадаркі, трэба адзначыць адмоўныя ітогі ў галіне жывёлагадоўлі. Абвастрэньне клясавай барацьбы ў вёсцы, а таксама шэраг фактараў суб'ектыўнага значэньня (перагібы, позны прыступ да разьвіцьця патрэбных мерапрыемстваў і г. д.) прывялі да адмоўных зьявішчаў у гэтай галіне. У выніку ўзмоцненага забою быдла, які сконцэнтраваўся, галоўным чынам, на працягу першых чатырох месяцаў году, 1929-30 г. прынёс заметнае зьніжэньне колькасьці статкаў. Асабліва буйнае зьніжэньне канстатуецца па статку сьвіней і маладняку буйнага быдла.

Няспрыяючая дынаміка жывёлагадоўлі ставіць ва ўвесь рост проблему жывёлагадоўлі як адну з важнейшых проблем са сфэры сельскай гаспадаркі. Гэтай проблеме трэба будзе зьвярнуць максымальную ўвагу. Патрэбна будзе паставіць яе ў цэнтры мерапрыемстваў сельскае гаспадаркі для таго, каб у самы кароткі тэрмін ліквідаваць страты, нанесеныя ў галіне жывёлагадоўлі.

У галіне тавараздвароту, асноўныя ітогі наступныя.

На працягу першых двух год пяцігодкі, у выніку ўзмацненьня і пашырэньня працы коопэрацыі, адбылося рэзкае скарачэньне долі прыватнага сэктару, як у загатоўчай дзейнасьці, так і ў галіне пасярэдніцкага тавараздвароту, прычым тэмпы далейшага звужэньня работы прыватніка заметна перавышаюць меркаваньні пяцігадовага пляну. Пяцігодкай меркавалася зьменшыць адносную вагу прыватнага сэктару ў раздробным звароце з 29,6 проц. у 1927-28 г. да 12,8 проц. у 1932-33 г. Ужо ў 1928-29 г. мы мелі значнае скарачэньне ролі прыватніка ў тавараздвароце. 1929-30 год дае далейшае інтэнсыўнае разьвіцьцё тэндэнцыі, што вызначылася ў соцыяльным складзе пасярэдніцкага тавараздвароту. Роля прыватніка ў раздробным гандлі ў сучасны момант выражаецца ў надзвычайна нязначных велічынях, якія далёка ўступаюць адпаведным меркаваньням пяцігодкі на канцовы яе год. Такім чынам, і ў галіне пасярэдніцкага тавараздвароту процэсы аграмаджаньня разьвіваліся ў тэмпах больш высокіх, чым гэта вызначалася пяцігадовым плянам. Ці трэба казаць аб тым, што ўзмацненьне тут позіцый аграмаджанага сэктару, як і ў іншых галінах дае большы экономічны эфэкт у выніку непамерна больш высокага якаснага ўзроўню гаспадаркі аграмаджанага сэктару.

Буйныя посьпехі, якія дасягнуты за мінулы пэрыод у галіне разьвіцьця плянавых загатовак, у асаблівасьці значнымі ітогамі першага паўгодзьдзя 1929-30 году, зьявілася пасьпяховае правядзеньне кампаніі па

загатоўцы збожжа і бульбы. Новыя мэтоды загатовак, што былі ўжыты, заснаваныя на падвышэньні актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і прыцягненьні грамадзкасьці да справы загатовак, апраўдаліся цалкам і поўнасьцю. Так, загатоўкі збожжа складалі ў 1929-30 г. нябывала высокую для БССР цыфру ў 104 тысячы тон, супроць 20,6 тысяч тон у 1928-29 годзе, г. зн. перавысілі мінулы год амаль у 5 раз.

На высокім узроўні разьвіваліся таксама загатоўкі тэхнічных культур:

| | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1929-30 г. | 1929-30 г. у %% да 1928-29 г. | 1928-29 г. у %% да 1927-28 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| | у тонах | | | | |
| Льнонасеньне | 10.208 | 14.542 | 26.841 | 184,6 | 142,5 |
| Льновалакно | 6.296 | 8.084 | 14.226 | 176,0 | 128,4 |

Няспрыяючая дынаміка жывёлагадоўлі знайшла свой асаблівы адбітак у ходзе і структуры плянавых загатовак (мяса, буйная скураная сыравіна). Так рост загатовак мяса складаў у 1929-30 г. 58,6 проц. Трэба, аднак, адзначыць, што рост аб'ёму плянавых загатовак на мясным рынку адбываўся ня толькі ў выніку ўзмацненьня выкідваньня скаціны, але і за кошт росту ахопу прапаноў, што ўжо зьяўляецца паказальнікам станоўчага значэньня.

У адпаведнасьці з тым, што рост пакупальных фондаў насельніцтва адбываўся больш шпаркім тэмпам, чым было вызначана пяцігодкай, разьвіцьцё пасярэдніцкага таваразвароту таксама дае малюнак буйнага выпярэджваньня намётак пяцігадовага пляну. Так, звароты коопэрацыі за першае паўгодзьдзе 1929-30 г. значна перавысілі меркаваньне контрольных лічбаў.

У сувязі з соцыяльна-экономічнай абстаноўкай мінулы пэрыод характэрызуецца пераходам на прынцып паглыбленага клясавага рэгуляваньня спажываньня.

Паглыбленае рэгуляваньне спажываньня на клясавай аснове адыграла вялізарную станоўчую ролю ў справе барацьбы за падвышэньне рэальнай заработнай платы.

Значныя вынікі дасягнуты, далей, па ўсяму фронту соцыяльна-культурнага будаўніцтва. У 1929-30 годзе БССР—першая рэспубліка ва ўсім Саюзе практычна рэалізавала задачу ўвядзеньня абавязковага ўсеагульнага навучаньня. Задача гэта выконваецца настолькі пасьпяхова, што зараз выяўляецца поўная магчымасьць закончыць уцягненьне ў 4-гадовыя школы ўсеагульнага абавязковага навучаньня ўсіх дзяцей ва ўзросьце ад 8 да 11 год да 1931-32 году замест 1932-33 г., як гэта было вызначана пяцігодкай. Значна большы размах параўнальна з пяцігодкай атрымалі мерапрыемствы па лініі ліквідацыі няпісьменнасьці.

Мы ня кажам ужо аб пяцігодцы кадраў. У гэтай галіне пяцігадовы плян зараз ужо ня можа служыць кіруючай асновай. У сучасны момант

у адпаведнасьці з вялізарнымі патрэбнасьцямі ў кваліфікаваных кадрах пабудавана новая пяцігодка кадраў, якая істотна адрозьніваецца па размаху сваіх заданьняў і па маштабу мерапрыемстваў ад ранейшых проектовак у гэтай галіне.

Калі зьвернемся да дынамікі такога агульнага паказальніка аб'ёму мерапрыемстваў у галіне асьветы, якой можа зьявіцца эволюцыя сумы выдаткаў, то мы атрымаем наступны малюнак. Агульны разьмер выдаткаў на справу асьветы ў 1929-30 г. выразіўся ў 61 млн. руб., супроць 39 млн. руб. у 1928-29 г., г. зн. даў рост на 56 проц., такім чынам выперадзіўшы значна адпаведныя намёткі пяцігадовага пляну.

Значным выпярэджваньнем супроць проектовак пяцігодкі ішло таксама разьвіцьцё справы аховы здароўя. Пашыралася мэдыка-санітарная сетка, значна павялічыўся аб'ём мерапрыемстваў у галіне аховы мацярынства і младзенчаства і г. д., і да т. п.

У адпаведнасьці з высокімі тэмпамі росту ўсяе народнае гаспадаркі БССР буйныя тэмпы выкрыла таксама разьвіцьцё бюджэту.

| | 1927-28 г. | 1928—1929 г. | | 1929—1930 г. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Пяцігодка | Фактычн. выкананьне | Пяцігодка | Фактычн. выкананьне |
| | У млн. рублёў | | | | |
| Зводны нэтто | 81,4 | 103,6 | 114,7 | 151,4 | 167,2 |
| Дзярж. брутто | 62,1 | 86,4 | 97,7 | 122,1 | 141,4 |
| " нэтто | 38,9 | 52,0 | 57,3 | 79,8 | 84,5 |
| Мясцовы | 42,5 | 51,6 | 57,4 | 77,6 | 82,7 |

Такім чынам, асноўныя ўстаноўкі пяцігодкі народна-гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР у галіне соцыялістычнага разьвіцьця вытворчых сіл, тэхнічнай рэконструкцыі, індустрыялізацыі і аграмаджаньня выконваюцца і пры гэтым выконваюцца з такім перавышэньнем, што ствараецца бясспрэчная магчымасьць выкананьня лёзунгу рабочае клясы „Пяцігодку ў 4 гады". Значны рост асноўных фондаў аграмаджанага сэктару ў выніку буйных капітальных укладаньняў, якія да таго ўсё павялічваюцца, больш рацыянальнае і інтэнсыўнае скарыстаньне абсталяваньня на аснове новых падважнікаў (бесьперапынка, семігадзінны рабочы дзень), карэнны ўзрух па лініі соцыяльнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, рост продукцыі прамысловасьці, які крыху перавысіў намёткі пяцігадовага пляну,—усё гэта ў абстаноўцы высокага ўздыму актыўнасьці рабочае клясы стварае прадпасылкі для паскоранага прасуваньня наперад у процэсе выкананьня вялізарных і цяжкіх задач, сформулёваных у пэрспэктыўным пляне.

Пад кіраўніцтвам партыі, пры актыўнай дапамозе і садзейнічаньні рабочай клясы ўсяго Савецкага Саюзу, БССР пасьпяхова перамагае сваю гаспадарчую адсталасьць і выраўноўвае свой фронт соцыялістычнага будаўніцтва да ўзроўню ўсяго Саюзу.

Шпаркі тэмп росту экономікі і культуры БССР не павінен засланяць патрэбнасьці згуртаваньня максымуму сіл на падцягваньне адстаючых вучасткаў.

На шляхох соцыяльна-экономічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі БССР наперадзе яшчэ многа вялікай і напружанай працы. Баі за пяцігодку яшчэ далёка не закончаны.

Аднэй з важнейшых умоў пасьпяховага выкананьня програмы пяцігадовага пляну зьяўляецца далейшая рашучая барацьба з правым ухілам—галоўнейшай небясьпекай на даным этапе. Толькі на падставе генэральнае лініі партыі маглі быць дасягнуты тыя значныя посьпехі, якія мы зараз маем па шляху выкананьня пяцігодкі.

Шляхі пройдзенага адказнага этапу пяцігодкі даюць упэўненасьць, што рабочая кляса БССР, сьледуючы асноўным вехам пяцігодкі, здолее захаваць і разьвіць завяваныя высокія тэмпы і вырашыць задачу соцыялістычнай перабудовы адсталай гаспадаркі БССР у гістарычна-мінімальны пэрыод.

# ШЛЯХ ПОЭТЫ[1])

*(Да 25-годзьдзя літаратурна-мастацкай дзейнасьці Янкі Купалы)*

**Л. Бэндэ**

I

Дваццаць пяць год назад, на ніве беларускай літаратуры засьпяваў песьню „простага мужыка"—Янка Купала. Дваццаць пяць год—велічэзны гістарычны этап. За гэты час адбыліся гістарычныя падзеі, якія ня маюць сабе роўных у адвечнай гісторыі чалавецтва. За гэты час, рабочая кляса, разам з сялянствам штурмавала самаўладзтва (1905 г.), цярпела паражэньні, дасягала перамог. За гэты-ж час чалавецтва згубіла „агулам" трыццаць пяць мільёнаў душ, як даніну імпэрыялістычнаму капіталізму, і дзесяткі тысяч губіць штогодна покуль не загоніць у дамавіну віноўніка згуб—капіталізм.

За гэты-ж час разгарнулася сусьветная комуністычная рэволюцыя, што сваім магутным выбухам садрыгнула ўсясьветны капіталізм і вогністай мятлой вымела рэшткі фэодалізму, разбурыла і зьнішчыла капіталізм, як пануючую сыстэму на $^1/_6$ зямной кулі, прывяла праз гэроічную барацьбу рабочую клясу да яе панаваньня.

Комуністычная рэволюцыя ў сваім нястрымным ходзе „папутна" разарвала і ланцугі, што скоўвалі народы „великой неделимой России", і замест нацыянальнага рабства ўтварыўся і дзялімы, і адзіны, вялікі саюз соцыялістычных рэспублік. Працоўны беларус, што вякамі знаходзіўся пад цяжарам падвоенага соцыяльнага прэсу,—заняў пачэснае месца ў вялікай сям'і працоўных, што будуюць соцыялізм.

Праз грамадзянскую вайну, праз іспыты холаду і голаду, капіталістычнай інтэрвэнцыі і блёкады, перамагаючы ворагаў і ўсе цяжкасьці на сваім шляху, рабочая кляса пры неадменным саюзе з працоўным сялянствам ідзе да стварэньня новай грамады соцыялізму.

На гэтым гістарычным шляху працоўныя дабіліся непараўнальных ні з чым посьпехаў. Напоўпатрыярхальная Расія ператвараецца ў краіну электрычнасьці, калгасаў; рамесьніцка-саматужная „акраіна" Беларусь робіцца краінай соцыялістычнага земляробства, краінай камбінатаў, сельмашаў і Асінбуду.

---

[1]) Гэты артыкул уяўляе сабою даклад, прачытаны аўтарам у Беларускай Акадэміі Навук 24-га мая г. г. Умовы працы, той кароткі час, які быў удзелены для працы, дзякуючы тэрміновасьці,—усё гэта не магло не адбіцца на артыкуле. Аўтар добра ведае недахопы, неапрацаванасьць свайго артыкулу. *Л. Б.*

Зьмяняюцца і людзі, ператвараецца псыхіка патрыярхальнага селяніна, учарашняга саматужніка разам і на падставе ператварэньня ўмоў іх існаваньня і акаляючай іх рэчаіснасьці.

Шматмільённыя працоўныя масы, пад кіраўніцтвам Ленінскае Партыі, напружваюць ўсе сваі сілы, каб хутчэй пазбавіцца ад спадчыны былых часоў, каб хутчэй завяршыць „скачок з панаваньня неабходнасьці ў панаваньне свабоды“ (Энгельс).

І вось, праз гэтыя дваццаць пяць год, якія складаюць некалькі эпох у разьвіцьці чалавецтва,—Савецкая працоўная грамадзкасьць сьвяткуе юбілей, праглядвае пройдзены шлях, ацэньвае ролю, вызначае тычкі далейшага шляху—аднаго з буйнейшых сапраўдных пачынальнікаў беларускай літаратуры—Янкі Купалы.

## II

Янка Купала поэта складаны і living рознастайны, глыбока эмоцыянальны, высока мастацкі. Зрабіць больш-менш поўны аналіз яго творчасьці зараз проста немагчыма, ды і наўрад ці магчыма, ці пад сілу гэта ўдзячная праца адной асобе. Для дасканальнага досьледу багатай творчасьці Купалы патрэбна праца колектыву на працягу значнага часу. Да таго-ж трэба дадаць, што яшчэ ня ўтвораны нават і прадмовы навуковага досьледу творчасьці Купалы.

Таму, па вышэйназваным прычынам, мы ня ставім сваёй задачай усебаковы соцыялёгічны аналіз творчасьці Купалы, а толькі мы хочам, наколькі нам гэта ўдасца,—ускрыць галоўныя мотывы яго творчасьці, высьвятліць на фоне гістарычнага разьвіцьця—у якіх узаемаадносінах і ўзаемадзеяньнях знаходзілася творчасьць Купалы з тым гістарычным разьвіцьцём, што яго парадзіла, якую „купнасьць грамадзкіх адносін“ уяўляў і ўяўляе Купала, і ў якіх узаемаадносінах з пролетарскай сучаснасьцю зараз знаходзіцца творчасьць Купалы. Творчасьць мастака, поэты, пісьменьніка, як пэўны від дзейнасьці грамадзкага чалавека, ёсьць нішто іншае, як выражэньне пэўных рэальных грамадзкіх адносін у спэцыфічнаўласьцівым той ці іншай творчай індывідуальнасьці—пераламленьні. Сама чалавечая асоба, незалежна ад яе грамадзкае значнасьці, ад яе ролі, заўсёды была, ёсьць і будзе продуктам грамадзкіх адносін яе часу. Яна, асоба чалавечая, яе думкі і пачуцьці не перастаюць быць прадуктам грамадзкіх адносін, нават і тады, калі яна сьвядома, ці несьвядома становіцца ў супярэчнасьць з адносінамі яе парадзіўшымі, калі яна адварочваецца ад акаляючага яе асяродзьдзя, калі яна замыкаецца сама ў сябе, ці ў нейкую „духоўную сутнасьць“. Больш таго: „сутнасьць чалавека—кажа Маркс—ня ёсьць абстракт, уласьцівы асобнаму індывідууму ў сваёй сапраўднасьці, яна ёсьць купнасьць грамадзкіх адносін“ (Маркс—тэзісы аб Фэйербаху).

Таксама і мастацтва пэўнай эпохі цалкам, творчасьць таго ці іншага пісьменьніка ў паасобку—заўсёды зьяўлялася прадуктам акаляючай яго рэчаіснасьці, у такой-жа меры, як і прадуктам творчага процэсу пісьменьніка „творца". Таму зразумець у асноўных рысах і контурах творчасьць нашага юбіляра немагчыма без разуменьня тых гістарычна-грамадзкіх адносін, у іх многаабразіі і адзінстве, у іх разьвіцьці і конкрэтнасьці,—якія парадзілі і фарміравалі Купалу, як поэту. Аднак мала разумець тое, што творчасьць пісьменьніка народжана поўнай купнасьцю грамадзкіх адносін, пераломленых праз клясавую псыхоідэолёгію той ці іншай творчай індывідуальнасьці. Зьяўляючыся параджэньнем грамадзкіх адносін, пісьменьнік, як і кожная актыўная чалавечая асоба, сваёй спэцыфічнай дзейнасьцю ўплывае, узьдзейнічае на парадзіўшыя яе грамадзкія адносіны, на псыхоідэолёгію сваёй, альбо другой клясы. Сьвядомасьць ня толькі пароджана быцьцём, але ў сваю чаргу і ўтварае быцьцё—гаварыў Ленін. Гэта значыць, што і літаратура, як пэўны від сьвядомасьці, будучы пароджана грамадзкім быцьцём у сваю чаргу актыўна ператварае, утварае быцьце. І таму пры разглядзе творчасьці пісьменьніка яе нельга зразумець па-за яе соцыяльнай функцыяй.

Далейшай абсалютнай умовай, каб рабіць правільную ацэнку творчасьці Купалы, зразумець усю яго вялікасьць, сілу і бясьсільле, павінен быць выбар адпраўнага пункту, з якога разглядаць творчасьць нашага поэты. Немагчыма пазнаць творчасьць поэты з агульначалавечага пункту гледжаньня. Чалавецтва падзелена на клясы, а клясы маюць праціва-леглыя інтарэсы, клясы вядуць паміж сабою барацьбу, агульначалавечы пункт гледжаньня ёсьць проста фікцыя, за якую хаваецца фэлістэр, падобны да пустой кішкі.

Немагчыма зразумець усю істоту творчасьці Купалы і з пункту гледжаньня тых ідэй і настрояў, якія знайшлі мастацкі сынтэз у яго творчасьці, як гэта робяць некаторыя дасьледчыкі.

Правільную ацэнку творчасьці Купалы магчыма зрабіць, карыстаючыся ўказаньнем Леніна адносна разуменьня творчасьці Талстога, „только с точки зрения... пролетариата" (Ленин).

Толькі разглядаючы творчасьць і творчы шлях Купалы пад кутом гледжаньня разьвіцьця пролетарскага руху, пад кутом гледжаньня адпаведнасьці тых ідэй, пачуцьцяў і настрояў, што крысталізаваны ў творчасьці поэты, з ідэямі, рухам і барацьбой адзінае, пасьлядоўна-рэволюцыйнае, ні з чым няпрымірымае клясы—пролетарыяту.

Усякі другі падыход, усякая другая спроба ўскрыць асноўныя тычкі і мотывы творчасьці Купалы, няўхільна будзе не навуковай, аднабокай, а часта, як гэта ў большасьці і ёсьць,—панігірычнай, альбо зусім бяспрынцыпнай. Варта хоць-бы спаслацца на агульна-гуманітарны падыход Л. Клейнборта [1]).

---

[1]) Глядзі яго „Молодая Белоруссия" прадмову да „Сборника стихов"—Купалы.

## III

Купала зьявіўся на ніве беларускай літаратуры ў той час, калі капіталістычныя адносіны разгарнуліся настолькі шырока, што паўсюды прыйшлі ў рэзкую супярэчнасьць з рэшткай прыгоньніцтва, калі тэндэнцыя капіталістычнага разьвіцьця вёскі рэзка вызначылася, як па лінііператварэньня абшарніка ў капіталістага-зямляўладара, так і па лініі раскіданьня патрыярхальнага гнязда дробнага вытворцы і замены яго вясковым кулаком, разгортваючыяся капіталістычныя адносіны парушалі руціну, закасьнеласьць і заплесьненасьць патрыярхальна-абшарніцкай краіны. Парушалася аседласьць, прыкованнасьць селяніна да яго „вузенькай палоскі", хоць селянін і заставаўся прыкаваным да вясковай суполкі. Разбураемы капіталізуючымся абшарнікам і працэсам нараджэньня вясковага капіталісьціка, селянін пабываў на заробках, у гарадох, ухадзінах у Сібір—пабачыў, як кажуць сьвет іншы за свой. Руска-японская вайна, сплаў лесу ў „Прусы" ў гэтай справе адыйгралі сваю ролю. „На зьмену прыгоннай Расіі ішла Расія капіталістычная. На зьмену аседламу, прыросшаму да сваёй вёскі селяніну, які верыў папом, баяўся „начальства"— вырастала новае пакаленьне сялян, якія пабывалі ў адхожых промыслах у гарадох, якія навучыліся кой-чаму з свайго чорнага вопыту і наёмнай працы" (Ленін).

Праўда, Беларусь не зьяўлялася краінай буйнай прамысловай вытворчасьці, яна была краінай дробнае, пераважна рамесьніцкае прамысловасьці, раскіданай па мястэчкам. Тым ня менш рабочая кляса, рамесьнік зьяўляліся сілай, супроць якой царскай уладзе ня раз прыходзілася пасылаць казакаў і войскі.

Рабочая кляса, вядучы барацьбу супроць самаўладзтва і капіталістых, „дапамагала мільёнам сялянства ўзьняцца, выпрастацца, скінуць з сябе звычкі прыгонных рабоў" (Ленін), і павяла іх на барацьбу „за зямлю" супроць абшарніка, „за волю" супроць самаўладзтва.

Пачатак XX стагодзьдзя адзначыўся досыць інтэнсыўным разьвіцьцём сялянскага руху. За пэрыяд 1900—1904 году адбылося трыццаць адно рэвалюцыйнае выступленьне беларускіх сялян супроць абшарнікаў, чыноўнікаў і айцоў духоўных [1]).

1905 г. пачаўся масавым рабочым і сялянскім рухам. У маі 1905 г. паветы тагочаснае Менскай губ. былі ахоплены сялянскімі хваляваньнямі, „бунтамі" і рэвалюцыйнымі выступленьнямі.

Купала засьпяваў свае песні, зайграў на жалейцы якраз у самы разгар сялянскай рэвалюцыі (Май 1905 г.—надрукаваны першы верш Купалы „Мужык"), калі мужык пачаў усьведамляць, што і ён чалавек, што і ён павінен мець нейкія правы, мець долю.

І менавіта раскаты грому рэвалюцыі 1905 г., рэвалюцыі, якая павінна была рэволюцыйным націскам зьнішчыць рэштку прыгоньніцкіх адносін,

---

1) Глядзі—Агурскі „Революционное движение в Белоруссии", БДВ, 1928 г.

што перашкаджалі разьвіцьцю капіталістычнага спосабу вытворчасьці,— абудзілі ўсе пласты, усе клясы тагочаснай грамады.

Як вядома кожнаму знаёмаму з гісторыяй рэвалюцыі ў Расіі, цэнтральным пытаньнем рэвалюцыі 1905 г, гвазьдзём, як гаварыў Ленін, зьяўлялася зямля, гэта рабіла рэвалюцыю сялянскай, буржуазнай, як і ўсякую сялянскую рэвалюцыю. Рабочая кляса, як найбольш рэвалюцыйная, як найбольш пасьлядоўная, уздымаючы на барацьбу сялянства, дапамагаючы яму, кіруючы ім, разам з ім (сялянствам) надавала рэвалюцыі дэмакратычны, народны характар.

На рэвалюцыю ішлі з рознымі патрабаваньнямі і з рознымі мэтамі амаль усе клясы тагочаснай грамады. На рэвалюцыю ішла (праўда, з аглядкаю) да пары, да часу і буржуазія ўсіх нацый.

Буржуазія ішла для таго, каб консолідавацца самой у пануючую і палітычную клясу, захапіць сабе ўладу, зьнішчыць прыпоны, што перашкаджалі разьвіцьцю капіталістычных адносін. Яна ішла супроць самаўладзтва, каб, замяніўшы яго сабою, капіталістыя, абшарнікі і вясковыя кулакі маглі спакойна, беспадзельна і вольна грабіць гарадзкіх рабочых, вясковую беднату і батракоў.

Рэвалюцыя сваім раскатам грому абудзіла, зварушыла і розныя клясы нацыянальна-прыгнечаных народаў. Актывізавалася нацыянальная буржуазія (і нават абшарнікі), гарадзкая і местачковая дробная буржуазія; ўзьняўся на барацьбу і прыдушаны падвойным прэсам соцыяльнага і нацыянальнага ўціску беларускі селянін, беларускі батрак.

Рэвалюцыя „ўпяршыню стварыла ў Расіі з натоўпу мужыкоў, прыдушаных праклятай памяці прыгоньніцкім рабствам, народ, які пачынае разумець свае правы, пачынае адчуваць сваю сілу“ (Ленін). Кожная з гэтых кляс прад'яўляла свае патрабаваньні магутнаму лёкаматыву— гісторыі.

Беларускі селянін павёў барацьбу „за зямлю“ супроць абшарнікаў беларускіх, польскіх, расійскіх; „за волю“ супроць самаўладзтва, яго бюрократычнай сыстэмы і чыноўнікаў, з якой-бы яны нацыі ня выходзілі.

Праўда, у гэтым магутным сялянскім руху „за зямлю і волю“ было шмат стыхійнасьці, несьвядомасьці, цемры, дробна-ўласьніцкай мяшчанскай лятуценнасьці, неразуменьне палітычнага боку руху. Але „сялянству патрэбна зямля і яго рэвалюцыйнае пачуцьцё, яго інстынкты, першабытны демократызм, ня можа інакш выразіцца, як у налажэньні рук на абшарніцкую зямлю“ (Ленін). Беларускі селянін, батрак, супроцьпаставілі сябе абшарнікам, паном, незалежна ад іх нацыянальнага паходжаньня, як працоўныя эксплёататарам. Бо толькі ў магутным руху рэвалюцыі, у рашучых бойках з самаўладзтвам кожны пласт, кожная кляса пазналі сваіх і чужых, сваіх ворагаў і прыяцеляў.

Сапраўды народная рэвалюцыя не абмяжоўваецца тым, што яна са зброяй у руках уздымае мільённыя масы на барацьбу супроць старога

ладу, а яна ідзе далей, яна (рэволюцыя) абуджвае прыдушаныя, падспудныя творчыя сілы гэтых мільённых мас, рэволюцыя ня толькі падаўляе асобу масай, але высока ўздымае асобу, надае ёй сілу, павялічвае ролю кожнае асобы.

## IV

Грамадзкія адносіны пэрыяду, які мы разглядаем, становішча тых кляс, якія змагаліся, як супроць агульнага ворага на тым гістарычным этапе самаўладзтва з яго абшарніцкім зямляўладзтвам, так і паміж сабою—параджалі ў сваю чаргу адпаведную, у большай ці ў меншай меры, псыхоідэолёгічную накірованасьць кожнай клясы.

Кожная з тых кляс, што змагаліся, мела сваіх ідэолёгаў, мастацкіх выразьнікаў псыхоідэолёгічнай сваей накірованасьці.

Беларуская буржуазія, якая знаходзілася на этапе свайго фарміраваньня, консолідацыі і аформленьня ў выразную сацыяльную групу беларускага народу, мела найбольш закончанага свайго мастацкага выразьніка—Максіма Багдановіча.

Абуджанае рэволюцыяй, актывізаванае барацьбой беларускае сялянства парадзіла выразьнікаў сваіх імкненьняў, жаданьняў, сваёй псыхоідэолёгічнай накіраванасьці, з свайго асяродзьдзя.

І менавіта Янка Купала і Якуб Колас зьявіліся першымі, найбольш гучнымі, найбольш дэмократычнымі, найбольш глыбокімі выразьнікамі пэўнай часткі настрояў і жаданьняў, сілы і слабасьці беларускіх народных мас, якія пачалі выходзіць на гістарычную арэну.

Купала распачынае сваю літаратурна-мастацкую дзейнасьць вершам „Мужык“, надрукаваным у газэце „Северо-Западный Край“ (мая 15 ст. ст. 1905 г.).

„Што я мужык, усе тут знаюць,
І як ёсьць гэты сьвет вялік,
З мяне сьмяюцца, пагарджаюць,—
Бо я мужык, дурны мужык“.

Далей поэта паказвае становішча мужыка:

„Чытаць, пісаць, я ня умею,
Ня ходзіць гладка мой язык,
Бо толькі вечна ару, сею,—
Бо я мужык, дурны мужык“.

Вечна аручы і сеючы, здабываючы працаю хлеб свой, працуючы як вол рабочы, мужыку прыходзіцца зносіць лаянку, крык, рэдка сьвята ведаць. І ўсё-ж ня гледзячы на гэта:

„Галеюць дзеці век бяз хлеба,
Падзёрты жончын чаравік,
Ня маю грошай на патрэбу.—
Бо я мужык, дурны мужык“.

Намаляваўшы вобраз мужыка, яго гаротны стан, Купала гэты вобраз, гэтую характарыстыку цалкам і поўнасьцю адносіць і да сябе.

Купала ня лічыць сябе поэтай (мабыць у тым сэнсе, як разумеўся ў той час поэта, як нейкі звышчалавек, нейкае боскае стварэньне), а простым Янкай Купалай, сьпяваючы песьні „Убогай мовай“.

„Я не поэта, о крый мяне божа!
Ня рвуся я к славе гэткай нямала,
Хоць песеньку-думку і высную можа,
Завуся я толькі—Янка Купала“.

Песеньку-думку снаваць зьбіраецца Купала аб сваім народзе, аб бядзе, нядолі.

„Доляй убогі, ён ціхі, нясьмелы,
Бяда, яго маці, узгадавала,
Сьлёзы пагарды п‘е толькі век цэлы...
Ат, ведама, просты Янка Купала“.

Так характарызуе сябе Купала з выхадам сваім на поэтычную арэну. І ў гэтай засмучона-сатырычнай характарыстыцы адчуваецца тая горкая сапраўднасьць, што парадзіла Купалу. Калі зьвярнуцца да біографічных даных, то мы ўбачым усю чорную праўду вышэйпрыведзеных радкоў пра радаслоўную Купалы. Купала выходзіць з напоўпралетарызаванай засьценкавай шляхты. „Да 21 году гаспадарыў дома, араў, касіў, сек дровы“—піша Купала ў сваёй аўтабіографіі. Але гаспадарыў не на сваёй зямлі, а на арэндаванай і „Гаспадарка на чужой зямлі надаела“. Пасьля гэтага Купала „праслужыў 3 гады у броварах“ чорнарабочым, дзе, як ён кажа, зазнаў такога пекла, якога яшчэ ня меў. Толькі пасьля ўжо трох год працы ў броварах Купала „найшоў лёгкі хлеб“ на працы ў бібліотэцы потым на курсах Чэрняева ў Петраградзе і, нарэшце, рэдактарам „Нашай Нівы“.

Песьні-думы поэты паводле яго ўласнага прызнаньня парадзіў:

„Дух збадзяны
У хатцы дзюравай,
На зямельцы акаванай,
Бязвольнай, бясправай“.

Каму-ж накіроўваць свае песьні-думкі, паўстала пытаньне перад поэтай. Поэты пяюць свае песьні „Сытым і адзетым“, „кожны край“, кожны народ мае тых, што апяваюць яго, а беларусы, просты мужык, доляй убогі, з дзюравай хаткай, нікога ня мае. Дык каму-ж нёс песьні—пытае поэта.

„Каму вас, песьні, я нясьмелы
Тут буду пець, снаваць з душы,
З душы няшчаснай, набалелай,
. . . . . . . . . . . .
Ці для тых цёмных, нешчасьлівых,
Што не патрапяць прачытаць,
Ці для тых сьветлых, а зласьлівых,
Што не захочуць вас і знаць?“

Паставіўшы гэтае, так сказаць, праграмнае, ці, як зараз кажуць, „пляцформенае“ пытаньне перад сваімі песьнямі, Купала вырашыў яго тым, што зьбіраецца сьпяваць свае песьні пра нядолю сваіх братоў—мужыкоў, чый „дух збадзяны“, хто жыве ў „дзюравай хатцы“. Купала зьбіраецца сваімі песьнямі:

„Тых будзіць, хто сьпіць,
Хто церпіць бяз віны“.

І з гэтым сацыяльным асяродзьдзем, з яго лёсам зьвязвае Купала лёс сваіх песень-думак.

Што-ж зьяўляецца аб'ектам поэтычных песень-дум поэты з выхадам яго на поэтычную арэну, інакш кажучы, якая кляса тагочаснай грамады выказвала свае пачуцьці, жаданьні і думы праз поэту.

Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба прасачыць компонэнты творчасьці Купалы ў яе пачатку, увесь той псыхоідэолёгічны комплекс, які сынтэтычна прадстаўлены ў песьнях Купалы.

Калі прасачыць за ўсімі вобразамі Купалы пэрыяду „Жалейкі“, як па вершам, што надрукаваны ў „Жалейцы“, так і ў тых вершах, што не ўвайшлі ў „Жалейку“, а надрукаваны пасьля, у зборніку „Спадчына“, дык прыдзецца прызнаць, што дамініруючым вобразам, дамініруючай пэрсонай, дамініруючым аб'ектам поэты зьяўляецца беларускі селянін-бядняк з яго вузенькай палоскай, а часта і безьзямельны, яго нэндза, яго гора. Гэтаму вобразу праціпастаўлен, як антагоністы, другі вобраз, другі род пэрсанажаў, якія адпавядаюць тагачаснай рэчаіснасьці—пан, паліцэйскі, казна з яе падаткамі з беднага мужыка.

„Як цыган той, па сьвеце век цэлы бадзяюся
Бяз прытоньня, бяз родненькай, цёпленькай хаткі;
Над чужой працай з сіл маладых выбіваюся,
Сьветлай веры у будучнасьць нікнуць астаткі“.

Гэта голас беларускага бедняка, ператоранага, бадзяючагася, як цыган, па сьвеце, які над чужой працай з сіл выбіваўся.

Кругагляд поэты засланы сьлязьмі, крывёю і бядой. „Кругом бачу і сьлёзы, і кроў, і бяду“, ды яшчэ пан, што смокча сок з беднага мужыка і крычыць:

„Прэч з дарогі, мужык, абарванец ліхі!“

За пэрыяд „Жалейкі“ Купала ўтварае шэраг крыштальных бядняцкіх вобразаў, абцягвае іх лясіста характэрнымі і выразнымі дробязямі з гаротнага стану бядняцкіх пластоў беларускае вёскі. Найбольш закончаны, найбольш насычаны эмоцыянальна вершы, найбольш поўныя вобразы тыя, што ўзяты непасрэдна з акаляючай яго рэчаіснасьці.

Каб пацьвердзіць гэта, мы спашлемся на высока-мастацкі для таго часу творчасьці Купалы верш „Зімою“, адзначаны „1/II 1906 г.“. Гэты верш па сутнасьці нагадвае будучыя поэмы Купалы, з уласьцівай яму стылізацыяй і надаваньнем новай якасьці народнай вуснай творчасьці.

Калі не памыляюся, верш „Зімою“ першая найбольш буйная спроба выкарыстоўваньня поэтай багатае беларускае народнае творчасьці.

Поэта апавядае пра долю „Прыгожай Ганулі“

„Гістор'я старая: убогая дзеўка
Пайшла ў двор на службу для хлеба куска,
Пайшла, паганяная гора прыпеўкай,
Ад хаты радзімай, сьвятога кутка“.

Утварыўшы вобраз гаротнай Ганулі, поэта зьвязвае непадзельна сябе з гаротным жыцьцём Ганулі:

„Я ў песьню пральлю твае думы,
І разам сьпяём гулкім голасам
Пад дзікай мяцеліцы шум“.

Поэта малюе патрасаючы вобразы бедняка, замучанага бядою да астатку, яго стан.

„Бядак жыве толькі сягоньня,
Дзён лепшых яму не чакаць;
Цар-голад няшчаснага гоне
Крывавага хлеба шукаць“.
Пакінуўшы родную хатку,
Калі йшчэ такая дзе ё,
Замучан бядой даастатку,
Ідзе, каб здабыць на жыцьцё“.

Купала стварае шэраг высокамастацкіх вобразаў гаротнага стану беднага мужыка-беларуса. У вобразах найбольш закончаных, найбольш насычаных эмоцыянальна Купала непадзельны ад аб'екту сваей творчасьці, ад беларускага бедняка-селяніна, органічна зьліты з ім.

„Гора нам бедным, гора загнаным,
Мучаць нас чорныя долі,
Стогнем пад царам, стогнем пад панам,
Стогнем мы дома і ў полі.

Вечна ня знаем суду і права,
Цёмны народ мы сярмяжны.
Б'емся, працуем сьлёзна, крывава,
Едзе па карку нам кажны.

Нас самавольна земскі карае,
Душыць, саджае ў вадседкі,
Крыўдзіць вураднік, поп абірае,
Воласьць з нас цягне пасьледкі.

Гляньце: паліц'я, войска, вастрогі,
Цэрквы, чыгунка, палацы!—
Гэта наш труд, падаткі, налогі,
Наша мужыцкая праца.

Плача ў няволі край наш радзімы,
Самі-ж ня знаем спакою:
Паляць нас леты, студзяць нас зімы,
Мучыць нас голад вясною.

Творчасьць Купалы пэрыяду „Жалейкі“ есьць ваплашчэньне ўсіх бед, усяго гаротнага стану, усёй нэндзы, усёй горычы, усёй злосьці на сябе і на акаляючай рэчаіснасьці, усёй нясьмеласьці беларускіх бядняцкіх сялянскіх мас. Гэта сьцьвярджаецца ўсёй сыстэмай дамініруючых вобразаў, псыхоідэолёгічнай накіраванасьцю, усімі нават формальнымі компонэнтамі творчасьці Купалы за гэты пэрыяд. Павольнасьць, а часамі нэрвовасьць рытму вершаў, засмучона-жаласьлівая няпэўнасьць, лексіка, мэтафора, усё цалкам і поўнасьцю адпавядае псыхоідэолёгічнаму стану пэўнай часткі „нясьмелай“ беларускай беднаты таго часу. Гэта дае нам права вызначыць Купалу, пачатковага пэрыяду, як песьняра беларускай сялянскай беднаты, правільней было-б сказаць, што праз Купалу, як свайго мастацкага выразьніка, пачала гаварыць беларуская вясковая бедната, якая пачыналася ад адвечнага сну і выходзіла на вялікую гістарычную арэну барацьбы за сваю долю.

Таму ні ў якім разе нельга згадзіцца і прымірыцца з думкай, што Купала толькі пераапрануўся ў вопратку беднаты, толькі браў вобразы з бядняцкага асяродзьдзя, але-ж ня быў песьняром беларускае беднаты, а прадстаўніком іншых кляс, што змагаліся супроць рэштак фэодалізму і самаўладзтва. Нельга згадзіцца з думкай, якую выказваюць некаторыя дасьледчыкі, што Купала пясьняр „сялянства наогул“. Сьцьвярджаць гэта, значыць наогул не разумець таго, што як пісьменьнік, так і творчасьць яго ёсьць параджэньне пэўнай клясы. „Сялянства наогул“ ужо перад 1905 годам было неаднароднае, а падзеленае на пэўныя соцыяльныя групы, паміж якімі адбывалася ўжо і ў той час клясавая барацьба.

Станоўчыя ідэалы, патрабаваньні як аб'екты творчасьці Купалы і сам Купала прадстаўляе жыцьцё, жаданьні, што захаплялі поэту і аб'ектаў творчасьці яго, лішні раз сьведчаць пра клясавую прыроду творчасьці Купалы. На гэтых станоўчых ідэалах мы трошкі і спынімся.

Купалу, як і бедняка таго часу, не захаплялі пролетарскія соцыялістычныя ідэалы. Яго ідэалы так-жа абмежаваны як сама творчасьць пэрыяду „Жалейкі“.

Бядняк Купалы, як і сам поэта, ня бачыць заўтрашняга дня свайго, ня бачыць, хоць і адчувае, што сёнешні бядняк заўтра пературварыцца ў пролетарыя „Вольнага як птушка“. Таму ідэалы яго накіраваны не наперад, а назад. Ня заўтрашняе ён бачыць, а ўчарайшае; туды ён накіроўвае свае думы, пачуцьці, свае жаданьні. Яго ідэалы ня выходзяць з дробнаўласьніцкіх, наіўных, па сутнасьці, імкненьняў. Найбольш поўным, найбольш характэрным у гэтым сэнсе зьяўляецца верш „Чаго нам трэба“.

„Трэба нам, трэба перш-на-перш хлеба,
Хлеба, каб стала на цэленькі год,
Дроўцаў палена, конікам сена,
Капейку якую сабе на зварот.

Трэба нам, трэба, як сонца з неба,
Лепшы, даўжэйшы зямелькі шнурок,

Сытай скацінкі, новай хацінкі,
Каб красаваўся пры хатцы садок.

На сьвята скварку, часам і чарку,
Булкі і сыра гасьцей частаваць.
Цэлы адзетак, кніжак для дзетак,
Трэба нам школы па вёсках прыдбаць.

Роўнай дарогі, ботаў на ногі,
Мультану жонцы на лепшы каптан.
Жыць сьмела ў хатцы і не баяцца,
Каб не ганялі ў воласьць, у стан.

Доктара трэба, шпіталь нам трэба,
Дарма лячыліся-б дзе бедакі;
З торбай-жа ў старасьці каб не цягацца,
Трэба ўстроіць прытулак такі".

Як відаць, гэты верш канцэнтруе ў сябе цэлую праграму патрабаваньняў, якія, аднак, ня выходзяць з рамак звычайных, перадрэволюцыйных дробнаўласьніцкіх патрабаваньняў сялянства, з кола якіх ня выходзілі ідэалы, надзея на рэстаўрацыю, штодня разбураемых беларускіх бядняцкіх мас. Імкненьне да „доўгага-доўгага шнуру з зялёным аўсом" часьценька сустракаецца ў Купалы як яно было ў аб'ектаў яго творчасьці.

Шлях, па якім трэба пайсьці, спосабы, якімі дасягнуць лепшай долі для бедняка ў поэты ня ясны, ня выразны, не ўсьвядомлены, як не ўсьвядомлены ўсе прычыны беднасьці штодзеннага абядненьня сялянскіх мас. Прычыны беднасьці поэта бачыў толькі ў існаваньні феодальна-абшарніцкай эксплёатацыі і казны.

Часамі заўважаюцца зрывы ў поэты на шлях перамаганьня існуючых умоў працай. „Працай усё зможам..." і нядолю і няволю. Часамі поэта зварочваецца да таго, хто „вечна адзеты і сыты", і заклікае яго „пашкадаваць мужыка".

„Пашкадуй-жа ты, брат, мужыка,
Каб яму было жыць весялей!
Пашкадуй — не адсохне рука,
Пашкадуй, не чакай, а хутчэй".

Ну, а калі-ж гэты „вечна сыты і адзеты", „брыты" не пашкадуе, тады „на сьвет многа прыдзе бяды".

„Бо за крыўду сваю адамсьціць,
Сьвіньням будзе крыві не пабраць —
Адамсьціць аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць".

Гэтая, здавалася-б, страшная пагроза, па сутнасьці сваёй ёсьць толькі ўзмах кардоннага мяча, рукамі ўнутрана ўзбунтаванага, але нясьмелага Купалы. Гэта ня ёсьць, ні ў якім разе, прызыў да сапраўднае расправы з тымі, хто „вечна сыты і адзеты".

Рэволюцыя, рэволюцыйная барацьба, якую разам з рабочай клясай вяла перадавая частка сялянства ў 1905-6 г.г., не знайшла дамініруючага панаваньня ў творчасьці Купалы. Яе месца займае плач, скарга, просьба да тых, хто „вечна адзеты і сыты“, „пашкадавець мужыка“, часамі пагроза, надзея на будучыню. Песьні больш напоўнены плачам і скаргамі.

„Бо ў песьнях шмат скаргаў на хціўцаў нясецца,
А ў скаргах бяздольных шмат праўды чувацць“.

Песьні пранікнуты горкаю праўдай, але далей констатаваньня, як правіла, яны ня ішлі. Аднак гарачае соцыяльнае паветра рэволюцыйнай пары часамі дула і на поэту. Як-бы ў адказ на подыхі гэтага рэволюцыйнага паветра, поэта прысьвечыў некалькі сваіх вершаў вясьне чалавечай, што пахавае „наша гора, як сьнег, як завею“. Паперш за ўсё трэба адзначыць тую характарыстыку, якую дае Купала вёсцы: „Вёска... заліта людзкімі сьлязамі“, у ёй „горка пакрыўджаны плача“, але-ж:

„Занадта сьляпы люд, занадта баіцца,
Каб мог ён за крыўду сваю заступіцца.
Праз тое і вёску так хваляць поэты,
Найболей такія, што, зьеўшы катлетаў,
Віном якім смачным катлет той закусяць;
О, гэткія, пэўна, аб шчасьці пець мусяць“.

Даўшы такую характарыстыку вёсцы і „сялянскім“ поэтам, Купала спадзяваўся, што ёсьць на сьвеце вялікая праўда, што за сваё паніжэньне адплаціць людзям.

„Але ёсьць-жа вялікая праўда на сьвеце,—
Праўда сілаю роўная сонца агням,—
Цяпер сьпіць, але ўстане і бляск свой раскверціць,
За сваё паніжэньне адплаціць людзям...

І ў поэты запальваецца сьвятло надзеі, што гэтая праўда нязагадзя прыдзе і чалавек стане ня толькі душою вольны, бо:

„Нам есьці хочацца тым болей,
Чым горай голад прыгняце,
Тым рвемся больш мы і да волі,
Чым меней к нам яе ідзе“.

І таму што-б ні рабіла чорная сотня, якія-б спосабы ня ўжываў дэспат, усе-ж ня змогуць прымусіць чалавека быць нявольным душою.

„Дарэмна сьвісткамі нагаек
Застрашыць хочуць тыраны,
Нагнаўшы чорных соцен шаек,
Акулі рукі у кайданы.

. . . . . . . . . . . .

Ня страшны мне Сібір, вастрогі,
Меч катні над шыяй маей,
Хоць і скуюць мне рукі і ногі,
Хоць зрэнкі выдзяруць з вачэй.

. . . . . . . . . . . .

Дарэмна гіканьне нясецца
Дэспатаў подлых над зямлёй,
Што воля ў путы акуецца,
Згняцецца сілаю, пятлёй.
. . . . . . .

Ці-ж людзі сонца згасіць могуць,
Згасіць, як сьвечку, яснасьць дня
І волі-ж дэспоты ня змогуць,
Бо воля сонейку раўня".

Па ўсёй бачнасьці гэтая „песьня вольнага чалавека" напісана ў час разгрому, прыдушэньня царызмам рэволюцыі 1905 г., яна, мабыць, адносіцца да вясны, лета 1906 г. Мы яе ўзялі для таго, каб паказаць, наколькі поэта закаханы ў волю, наколькі моцнае жаданьне волі.

Барацьба за волю там-сям захапляе поэту. Ідзе вясна-рэволюцыя, якая:

„Невясёлыя думы і сны разганяе,—
Ажна хочацца жыць ўсёй душой".

Купала вітае гэтую вясну чалавецтва сваім бадзёрым настроем і прыветлівай песьняй. Аднак бадзёры настрой, прыветлівая песьня рэволюцыі абмяжоўваецца сузіральнымі адносінамі да рэволюцыі, а не актыўна чыннымі.

„Ах, так хочацца жыць і жывую надзею
Калыхаць у душы, думку сьніць аб адным:
Што вясна наша гора, як сьнег і завею
Пахавае ў рацэ, спале сонца агнём".

Праўда, інагды пад такі бадзёры настрой поэта, захапіўшыся гэтым „вясеньнім" настроем, заклікае касца „з калоды ўстаць" і пайсьці за лепшую долю на барацьбу.

„Пяюць птушкі пад вакном,
Лепшай долі даўно жджом...
Ну, досьць коску ўжо кляпаць,
Час з калодкі уставаць.
Гоп, гоп, гоп,
Час ужо ўставаць".

Таксама некалькі вершаў, якімі распачынаецца „Гусьляр", гучаць больш-менш актыўна. Але-ж гэтыя частковыя бадзёрыя і прызыўныя настроі поэты не зьяўляюцца асноўным кірункам як „Жалейкі", так і „Гусьляра". Актыўна рэволюцыйны настрой зьяўляецца другарадным настроем, другарадным, так сказаць, пабочным элемэнтам у творчасьці Купалы пэрыяду „Жалейкі", а таксама і „Гусьляра", пра якіх будзе гутарка ўперадзе.

Агульны тонус творчасьці Купалы за той час не актыўны, пасыўна-сузіральны, з рознастайнымі настроямі, з вузкім колам абмяжованых дробнаўласьніцкіх імкненьняў — сялянства, насычаны скаргаю, плачам, жальбою і калі-ні-калі „сьветлай верай і надзеяй". Але-ж „Душа ные, а болем ўздымаюцца грудзі".

„Роднай песьняй“ усё-ж застаецца песьня „у суме і ў горы“, у якой „адбіваецца нядоля і доля“, „уздыханьні, што ходзяць з сахою, з сякерай, і холад, і голад, няволя і воля і ў будучнасьць ясну надзея і вера“. І гэта мае сваю пэўную законамерную прычыну. Умовы жыцьця самога поэты ў час выхаду яго на поэтычную арэну, напоўжабрацкае становішча бядняцкіх беларускіх мас, псыхоідэолёгічная накіраванасьць і імклівасьць акаляючых яго штодня разбураемых і ўнутрана бунтуемых, але „ня сьмелых“, каб узьняцца на рэволюцыйную барацьбу, а таму плачучых — бядняцкіх мас — і ўсё гэта зьявілася адпраўным, выточным матар‘ялам для яго творчасьці.

У творчасьці Купалы знайшлі сваё высокамастацкае адлюстраваньне псыхолёгічныя перажываньні і імкненьні той часткі беларускага сялянства, якая адчула і ўсьвядоміла, убачыла непасрэдныя прычыны свайго гаротнага стану (феодальна-абшарніцкую эксплёатацыю), але якая далей скаргі, плачу, дробнаўласьніцкіх лятуценьняў прымітыўных, наіўна сацыялістычных жаданьняў зрабіць усіх роўнымі, ураўняць багатага з бедным, беднага з багатым—не пайшла. Ды і поэта ня ўздымаецца вышэй гэтых непасрэдных настрояў, вышэй варыяцыі, псыхікі гэтай соцыяльнай групы.

Актыўная рэволюцыйная барацьба, якую вяло ў 1905 і 1906 г. г. сялянства разам з рабочай клясай, пітала некаторыя надзеі ў „Сьветлую будучнасьць“ у гэтага пласта сялянства. Зараджаліся гэтыя надзеі, вера і ў поэты. Але як гэты соцыяльны пласт беднаты не асьмеліваўся падняцца на барацьбу, так і поэта не сьпяваў пра яе, не заклікаў на актыўную дзейнасьць, каб перабудаваць уласнымі сіламі свае гаротнае жыцьцё.

Як плакаў забіты, цёмны селянін-бедняк, так і плакаў поэта, плакалі яго песьні, губілася ўсякая надзея на будучыню, пакрывалася ўсё змрокам.

„Плачаце вы, песьні,
І я з вамі плачу.
Хацеў бы вас, песьні,
Зрачыся, пакінуць,—
Сілачкі-ж мне мала,
Буду ўжо так гінуць“.

Поэта ўпадае ў няверʻе, што прыдзе лепшы час, калі можна будзе „весела запець“. Разбураны ходам эканамічнага разьвіцьця і расплastaваньнем вёскі, селянін ператвораны ў пралетарыя, што бадзяецца „як цыган“, у пэўныя моманты губіць усякую надзею на сваю рэстаўрацыю, а таму апускаецца, адлучаецца ад сьвету, замыкаецца ў самога сябе, так і поэта замыкаецца ўва ўнутр сябе, адрываецца ад жыцьця і нават ад абʻектаў сваіх песень. Сам поэта і яго песьні робяцца тым обʻектам, які аплаквае пясьняр.

„І так мне здаецца,
Колькі ні тужыці
Са мной вы, я з вамі
Вечна будзем жыці“.

Кажа ён зварочваючыся да сваіх песень.

Нават там, дзе Купала выступае ад імя сваёй асобы, дзе ён выказвае свае асабістыя жаданьні і хаценьні, ён ня ўздымаецца на вышыню палітычных патрабаваньняў свайго часу, на вышыню задач палітычнай барацьбы, якую ў той час вяла рабочая кляса і перадавая частка сялянства.

„Дык-жа знайце, чаго-б я хацеў,
Аб чым думачкі толькі мае:
Каб мой люд маю песьню запеў
І пазнаў, аб чым песьня пяе!"

А песьня-ж яго не заклікала на рэволюцыйную барацьбу, ня ўздымала і не актывізавала люд сваім сумам і мінорнасьцю. Песьні пра нядолю, пра няволю зьяўляліся не актыўна чыннымі, а пасыўна-сузіральнымі, а таму і сіла іх знаходзілася ў адваротных адносінах да рэальнай барацьбы працоўнага сялянства ў пэрыяд 1905—7 г. г.

Купала абагульвае настрой і адданьні пэўнага пласту сялянства, прадстаўніком якога ён зьяўляецца. Прадстаўляе гэтыя псыхолёгічныя перажываньні і жаданьні, плач і скаргу за агульна-народныя жаданьні за настроі „душы беларускай".

І Купала робіцца волатам там, дзе ён абмалёўвае жыцьцё селяніна, нядолю і няволю краіны, уся сіла яго ў гэтым, у вобразе гаротнага стану працоўнага беларуса, хоць і не заўважае тых клясавых супярэчнасьцяй, якія ўжо існавалі ва ўнутры беларускага сялянства. Купала малюе шматгранны вобраз бядняцкай Беларусі, адначасова не заўважаючы клясавых супярэчнасьцяй у беларускай вёсцы, затушоўвае рэальныя процэсы, скажае рэчаіснасьць. Там-жа, дзе Купала імкнецца сайсьці з высокамастацка абмаляванага гаротнага паднявольнага стану працоўных, там Купала бясьсільны, бездапаможны. Месца рэальнай барацьбы, якую вяла перадавая частка сялянства з існуючымі ўмовамі свайго існаваньня, у творчасьці Купалы займае скарга, плач, надзея, сьветлая вера, а не актыўны заклік на барацьбу.

Дзе-ж прычыны таму, што поэта, малюючы патрасаючыя вобразы становішча беларускага селяніна, няшчаснай старонкі яе—цемру, забітасьць, нэндзу і роспач,—ня клікаў люд сваёй старонкі на рэволюцыйную барацьбу супроць існуючых умоў, за лепшую будучыню, у якую „сьветлай верай" часамі нікнуў поэта? Ці можа поэта сьвядома не хацеў сьпяваць так, каб уздымаць сваей песьняй „люд прыдушаны і скуты" на ўсенародны сход? Не, прычына ня ў тым, што поэта не хацеў сьпяваць заклікаючых, актыўна-дзейных песень, справа не ў суб'ектыўным жаданьні, ці нежаданьні. Купала занадта любіў свой люд, сваю старонку, каб сьвядома ня пець актыўна-дзейных песень, каб не заклікаць на барацьбу. Гэта па-першае, а па-другое, прычыну трэба шукаць не ў суб'ектыўных жаданьнях, ці нежаданьнях, а ў аб'ектыўнай рэчаіснасьці.

Прычыны сумнасьці яго песень ляжаць у тым сумным матар'яле, з якога ён тварыў свае песьні, у суме, у бязрадасным жыцьці

і настроі, у сумным адчуваньні тых працоўных мас, якіх апяваў Купала ў сваіх песьнях:

„Ї б'юся-ж напрасна.
Як рыба аб лёд,
Ад долі няшчаснай
Няма мне варот". (Спадчына).

Купала шукаў праўды, шукаў долі, шукаў варот ад нядолі, як бедны мужык, што з кожным днём усё больш і больш разбураўся, што судзіўся з панам, але не знаходзіў той праўды, а таму ахапляў яго сум, беспрасьветнасьць, ажно да згубы часамі веры і надзеі, што калі-небудзь знойдзена будзе праўда і доля.

Прычыны сузіральнасьці, пасыўнасьці песень Купалы ў той час, як перадавая частка сялянства разам з рабочай клясай вяла рэволюцыйную барацьбу супроць існуючай рэчаіснасьці—гэтыя прычыны ў тым, што Купала, папаўшы ў асяродзьдзе нашаніўцаў, адарваўся па сутнасьці ад тых мас, якіх аплакваў у сваіх песьнях, а ў сілу гэтага ня прымкнуў да жывой рэволюцыйнай практыкі працоўных мас і таму ня ўлаўліваў павышаную пульсацыю актыўнай дзейнасьці перадавой часткі працоўнага сялянства, а таму і настрой яго ліры быў не заўсёды сугучны перадавой частцы сялянства, што вяло рэволюцыйную барацьбу.

„За ніякія справы ні разу ня судзіўся",—кажа пра сябе Купала ў сваёй аўтобіографіі. Ї гэта праўда. „Наша Ніва", як і яе ўдзельнікі, стаяла ў старане ад рэволюцыі, а таму судзіць іх было незавошта.

Больш таго. Купала ў сваей творчасьці пэрыяду „Жалейкі" пачаў апяваць учарайшы дзень селяніна, каб потым апяваць і ў ружовых фарбах маляваць мінулае, як кажуць, „залаты век" Беларусі, а пра будучыню часамі забыць. Узьняўшыся „над сваёй айчынай", поэта зварочваецца да бога [1]) і пытаецца ў яго:

„Дзе той час, у якім
Тут кіпела жыцьцё?
Свой народ быў кругом
Ї любіў свае ўсё!
. . . . . . . . . . .
Весяліўся народ,
Аж грымела сяло!
Ва ўсіх сьветлы паглёд,
Ва ўсіх шчасьце цьвіло.

Такі настрой поэты, захапленьне мінуўшчынай, „залатым векам" Беларусі, сьведчыць аб тым, што той настрой, тая ідэолёгічная накіраванасьць, што існавала ў нашаніўскім асяродзьдзі, усё больш і больш

[1]) Пад гэтым вершам рэдакцыя I тому збору твораў дае жартлівую заўвагу: „зварот поэты да нейкага „бога", які быццам „стварыў сьвет"—ёсьць ня болей, як поэтычны зварот. Біблейская казка аб стварэньні сьвету богам зруйнавана сучаснай навукай і адкінута назаўсёды". Вось сапраўды: „Скажи мало, зато здорово". (Пруткоў).

уплывалі на поэту, каб нарэшце прышчапіць лібэральна-народніцкія погляды і на выйсьце з таго соцыяльнага тупіка, у які загнаны працоўныя масы роднай старонкі.

„Эй, каб цёмен ня быў,
Чытаць кніжкі умеў,—
Я-б і долю здабыў,
Я-б і песенькі пеў!"

Асьвета, уменьне чытаць кніжкі, вось тое, што пазбавіць мужыка ад нядолі, ад нярадасьці, дасьць долю, волю і магчымасьць песеньку пяяць.

Разам з гэтым Купала часамі высоўвае на першы плян „родненькую мову", бярэ беларуса як нейкую адзінасьць, не дыфэрэнцыруючы яго на соцыяльныя пласты, супроцьпастаўляючы беларуса як свайго чужому не-беларусу—суседзяй-жа заклікае не сварыцца, жыць у ладу, любіцца:

„Любімось, мае суседзі!
Кіньма сваркі, звадкі;
Жыйма, як родныя дзеці
Аднэй нашай маткі!"

Што-ж датычыцца роднай мовы, то Купала заклікае беларуса ня чурацца „сваей родненькай мовы" і папракае зласьліва селяніна беларуса, што той сьвінку ставіць вышэй мовы:

„О, я знаю: сэрца маеш
Бо па сьвінцы нават плачаш,—
А што мовай пагарджаеш,
Дык гэтага і ня бачыш".

Захапіўшыся мовай самой па сабе, адарваўшы пытаньне мовы, а разам з гэтым і нацыянальнае вызваленьне ад пытаньняў барацьбы супроць самаўладзтва і абшарнікаў, Купала не заслужона папракае селяніна, што ён па сьвінцы плача, а мовай пагарджае. Для селяніна, чый вобраз так мастацка абмаляваў поэта ў сваёй „Жалейцы", у той час сьвінка была больш важнейшай справай, чымся пытаньне мовы, бо сьвінка зьяўлялася менавіта тым, што падтрымлівала і так напоўжабрацкае існаваньне селяніна-бедняка. Упікі-ж Купалы селяніну сьведчаць аб тым, што Купала адарваў нацыянальнае вызваленьне ад вызваленьня клясавага, не ўсьвядоміў іх адзінства, узяў нацыянальнае вызваленьне само па сабе як нейкі абстракт, і об'ектыўна загаварыў языком сытага нацыянала-буржуа, якому ня прыходзілася клапаціцца і плакаць па сьвінцы.

Праўда, такія народніцка-лібэральныя, нацыянал-буржуазныя настроі, як ідэалізацыя мінуўшчыны, як выпячываньне на першы плян і вышэй за ўсё нацыянальнага моманту не зьяўляюцца імпонэнтнымі для тагачаснай творчасьці Купалы. Яны былі навеяны тым нацыянал - лібэралізмам нашаніўства, у атмасфэры якога знаходзіўся Купала.

Іменна буржуазныя рэволюцыянэры больш за ўсё захапляюцца мінуўшчынай і на іх традыцыя мінулага мацней за ўсё гняце.

„Традыцыя ўсіх памершых пакаленьняў як страшнае відзеньне гняце мозг жывых. Якраз у той час, калі людзі стараюцца, каб радыкальнаператварыць сябе і акружаючы іх сьвет, стараюцца стварыць нешта, ніколі яшчэ не існаваўшае—якраз у такія эпохі рэволюцыйных крызісаў яны заклапочаны выклікаць на дапамогу сабе відзеньняў мінулага, бяруць у іх імёны, баявыя паролі, гарнітуры, каб у гэтым асьвечаным вякамі адзеньні, гэтым перанятым у продкаў языком разыграць новую дзею на сусьветнай гістарычнай сцэне“ (Маркс).

І далей Маркс піша: „Але пры ўсёй характарызуючай буржуазную грамаду адсутнасьці гэроізму ёй патрэбен быў гэроізм самаахвераваньня, тэрор, каб зьявіцца на сьвет, і для гладыятараў буржуазнага ладу клясычна строгія традыцыі Рымскай рэспублікі давалі тыя ідэалы, тыя мастацкія формы і сродкі самаашуканства, якія ім былі патрэбны, каб захаваць ад саміх сябе буржуазна абмежаваную сутнасьць сваёй барацьбы і падтрымліваць свой энтузіазм на вышыні вялікай гістарычнай трагэдыі“. Нешта у мініацюры падобнае разыгрывалі і кловуны беларускага нацыянал-адраджанізму, часамі трасучы жабрацкаю торбай беларускіх сялян, як штандарам, каб сабраць навакол „сябе народ“, а на самой справе рабілі камічнае ўражаньне сваёю няздольнасьцю зразумець рэальную хаду гісторыі. Але-ж хапала ў іх сілы, каб нацягваць часамі вопратку продкаў на поэту зусім другога складу.

Што-ж датычыцца выпячваньня мовы на першы плян, дык гэта ўласьцівасьць неадменна ад кловунаў вялікай гістарычнай драмы. „Буржуазія заўсёды на першы плян ставіць свае нацыянальныя патрабаваньні. Ставіць іх бясспрэчна. Для пролетарыяту яны падпарадкаваны інтарэсам клясавай барацьбы“ (Ленін). Нацыянальныя інтарэсы для селяніна таксама былі падпарадкаваны інтарэсам барацьбы з самаўладзтвам, з абшарніцка-фэодальнай эксплёатацыяй.

Ды для Купалы ў пачатку яго творчасьці нацыянальныя інтарэсы, нацыянальнае вызваленьне было непарыўна, непадзельна з вызваленьнем ад тых умоў, у якіх знаходзіліся пакрыўджаныя, худыя, у горы і бядзе, апранутыя у лапці—беларусы, якія хочуць звацца людзьмі.

Варта хоць-бы спаслацца на патрасаючы верш „А хто там ідзе“.

Купала ў пэрыяд „Жалейкі“ яшчэ не разгарнуў як стаць сваіх палітычных ідэалаў. Воля, што займае значнае месца ў творчасьці Купалы, для яго нейкі абстракт, нейкі абсолют сілай роўны з сонцам. Ён яшчэ блудзіў па пуцявінам прымітыўных, дробнаўласьніцкіх лятуценьняў.

„Жалейка“ зьявілася асноўнай клеткай, з якой разьвіўся ўвесь Купала. Ужо „Жалейка“ ў пачатковым відзе мела амаль усе ідэолёгічныя элемэнты далейшай творчасьці Купалы. Аднак асноўны пасьлядуючы матыў, вызваляючы актыўна чынны характар творчасьці, разгарнуўся пасьля пэрыяду жорсткай дэпрэсіі ў творчасьці поэты, выкліканай рэакцыяй.

## IV

1906—9 г.г. зьяўляюцца гадамі жорсткай барбарскай рэакцыі. Ураз-бродку дзейнічаючыя сілы рэволюцыі былі зломлены. Рэакцыя сьвяткавала сваю перамогу над рэволюцыяй. Сталыпін вяроўкамі наводзіць парадак у краіне і прускімі бюргерскімі мэтадамі завяршае буржуазную рэволюцыю.

Буржуазія кінулася ў абдымкі самаўладзтву, супроць якога ўчора ма-хала кулакамі. Рэволюцыйны пролетарыят пераварыў свой вопыт і рых-таваўся да новых, больш рашучых боек. Дробная буржуазія, напалоханая рэакцыяй, праклінала на чым сьвет „пракляты пяты год“, яе інтэліген-цыя сьпяшалася ад свайго мінулага рэволюцыйнага, „заражала грамадз-кую атмосфэру ўныньнем, маладушшам, рэнегацтвам“ (Ленін).

Беларускія „адраджэнцы“ ратуюць за хутары і пішчаць пра асьвету „сярмяжнага, гаротнага брата-крывічаніна“.

„Гаротны, сярмяжны брат-крывічанін“ пад націскам фарсіраванага на-саджэньня капіталізму і зьверху і зьнізу губіў апошнюю стаць зямлі, яго патрыярхальнае гняздо раскідвалася капіталізмам, а ён самператвараўся ў кадравы састаў рэзэрвнай арміі. Абвастраліся і клясавыя супярэчнасьці ўнутры вёскі, унутры сям'і беларускай“.

У атмосфэру „ўныньня“, маладушша, трапіў і Купала, „Гусьляр“, частка „Шляхам жыцьця“ носяць глыбокія сьляды ўныньня, маладушша, бязвер'я, беспрасьветнасьці, пазбавіцца ад якой заклікаў раней поэта, а часамі і дэградацыі асобы поэты.

У формальна-тэхнічных адносінах Купала робіць у „Гусьляры“, а так-сама і асабліва ў „Шляхам жыцьця“ досьць вялікі крок уперад, але ў ідэолёгічным сэнсе „Гусьляр“ значны крок ад „Жалейкі“ назад. Тра-піўшы ў вышэйпаказаную атмосфэру і Купала далей адыходзіць ад жыцьця і ад аб'ектаў сваёй творчасьці беднага, забітага, цёмнага беларускага селяніна. Поэта рвецца:

„К зоркам агністым, к прывольлю нябеснаму,
Вырваўшы з ціны жыцьцёвай душу,
Мчыся, ня дайся цярпеньню балеснаму,
Горда пакінь земляную глушу“,

бо „там эрубіны спаткаюць цябе“ і „будзе на сэрцы спакойнасьць вялікая“.

Купала, як увасьне, блудзіць па жыцьцёвым пуцявінам, кідаецца з ад-нагo аб'екту на другі, і толькі:

„А як да могілак прыдзем:
Крыж, каля крыжа бадылі,
І тут мы толькі увідзім
Як-жа здарма век блудзілі“[1]).

[1]) „Наша мінуўшчына“ рысуецца поэту на гэтай стадыі творчасьці ўжо ня ў гэтакіх ружовых фарбах як раней:

„Мы ня жылі, як жывуць людзі,
Гасьцінцам славы не хадзілі,
Ня зналі ўцехі нашы грудзьдзі,
Вянкоў мы славы не насілі“.

Поэту ахоплівае гэты магільны, халодны настрой. Ён часта да яго зварочваецца як да адзінага канца ў жыцьцёвым блуканьні:

„Дзён вясёлых мне ня знаці
Да самай магілы".

Стоячы на могілках, поэта ў сэрцы думку калыхае:

„Ганю ад жыцьцёвага шуму
Ў загробны край сваю душу".

Ён зьбіраецца зыйсьці з нудой і бядой у магілу.

„Так цяжка жыць паміж жывымі,
Ў магіле будзе мо' лягчэй".

Поэта плача па замучанай старонцы, ходзіць хмуры з хмурымі думкамі і бездапаможна пытаецца—ці ўзойдзе калі сонца чалавецтва, ці знойдзецца калі праўда і доля:

„З плачам думка-песьня льлецца
Па замучанай старонцы,
З плачам рэха адаб'ецца...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?
Ці ты ўзойдзеш?"

Замест сонца поэце

„Навяртаюцца на вочы
Сьлёзы, як раса,
Сьветлых думак гнаць ня хоча
Маладосьць краса".

А замест сьветлых думак

„Лятуць толькі думкі з даля
Хмурныя, як я".

Аднак, калі некалі поэту прыходзяць другія думкі, якія ён заклікае граць з вераю шчасьлівай зьменным людзям і сьвету, зайграць, як калісьці ігралі на жалейцы:

„Эх, вы, мае думкі,
Устаньце, ачуняйце!
Хоць вам мо' і цяжка,
Як калісь, зайграйце!"

Але-ж замест уздыму ад магільных песень, ад хмурых думак, поэта заводзіць бяседу ў шынку, дзе свой і ня свой робіцца братам.

„Годзі маркоціцца, хлопцы, дзяўчаты
Дружна падходзьце к сталу во сюды!
Будзем гуляці—шынкар наш багаты,
Дасьць чым пацешыцца, дасьць, як вады.
Гэй, грамадой
Засядзьма ў рад!
Свой, ці ня свой—
Нам кожны брат,
Будзьма аднэю сям'ёй!"

Поэта заклікае піць каб уздрыгнуў зьдзіўлены сьвет, жыць сёньнешнім і ня думаць аб тым, што „заўтра“ нясе.

„Жыйма сягоняшнім шчыра у волю,
Плюйма на тое, што „заўтра“ нясе“.

Для ўяўленьня ўпадку, варта параўнаць вышэйпададзеныя вытрымкі з вершу „Бяседа“ з вершам „Гарэлка“ ў пэрыяд „Жалейкі“, дзе да гарэлкі Купала падыходзіць з гуманітарна-асьветніцкімі мэтамі.

Вось што ў „Жалейцы“ гаворыць гарэлка свайму спажыўцу:

„На лоб павылазяць
Чырвоныя вочы,
І воблік твой сказяць,
Твар плямы абскочаць.
Расхрыстаеш грудзі
Ты, п'яны гуляка,
Язык-жа твой будзе
Брахаць, як сабака.
О, дзікім, о, страшным
Зраблю без прагляду.
Га! бойся, няшчасны,
Быць пад маёю ўладай...

Ідэйны упадак, плач, беспрасьветнасьць, бязьвер'е, дэградацыя,—вось чым характэрна творчасьць Купалы эпохі рэакцыі. Прычыну гэтаму тлумачыць сам поэта, калі „Дунулі сіверы“...

„Думалі душы—ўжо вольныя—
Дні ўсешчасьліваесьці блізка.
Ды знаць гаротным бяздольнае
Суджана з роду, з калыскі“.

За гэты-ж час Купала разгортвае і некаторыя свае філёзофскія прынцыпы. Праўда, ягоная філёзофія надзвычайна нагадвае скэптыцызм у прымітыўным выглядзе. Вера ў рок, у фатальнасьць жыцьцёвых законаў („Адвечная песьня“), вось па сутнасьці і ўся філёзофія Купалы гэтага часу.

Дэпрэсія творчасьці Купалы завяршаецца пэўнай філёзофскай сыстэматызацыяй, адпаведнай упадніцкаму ўманастрою поэты за гэты пэрыяд.

„Гусьляром“ не заканчваюцца ўпадніцкія настроі ў творчасьці Купалы, яны знаходзяць месца і ў „Шляхам жыцьця“.

І ў „Шляхам жыцьця“ Купала часьценька выбіваецца з сіл, успамінае могілку.

„ З доляй змагацца з сіл выбіўся я,
Эх, ты, магілка, эх, дзе ты мая?

І нават у 1914 годзе Купала:

„Пытаньне злога не пазбыцца
Як мара бледная, стаіць:
Куды ісьці? за што ўчапіцца?
Якім багом паклоны біць?

. . . . . . . . . . . .

Служыць, служыць жадаў народу,
Сваім закованым братом...
І сіл ня стала з непагодай
Вясьці вайну, вясьці з жыцьцём.
. . . . . . . . .
У жуткім, чорным беспрасьвецьці
Бушуе выпасьвены кат...
Любіць... Каго? за што любіць?
І ненавідзець сіл няхват.

І поэта зварочваецца да бога:

„Сашлі мне сьветлую падмогу
Астаткі сіл сваім аддаць
І не зрабіўшы брату злога—
Пад крыжам бацькавым сканаць".

V

З 1909-10 г. г. пачынаецца новая хваля рэволюцыйнага руху, якая сваім подыхам уплывае на поэту, узбуджае яго настрой.

У 1910-11 г. г. поэта ў асноўным выбраўся з атмосфэры журбы і маладушнасьці, набраўся новых сіл, веры ў будучыню і пачаў зноў сьпяваць свае песьні, на гэты раз больш гучней, больш актыўна, мастацка больш высока. Але-ж і песьні набылі другі характар, разгарнулі і політычныя імкненьні і ідэалы Купалы. Купала ўздымае сваю творчасьць на вышыню політычных задач, і па сутнасьці ператвараецца ў песьняра нацыянальнага вызваленьня.

Усе клясы прыгнечаных нацый у рэволюцыйнай барацьбе супроць самаўладзтва бачылі адзіную магчымасьць нацыянальнага вызваленьня, па рознаму яго разумеючы. Ва ўмовах Беларусі, як краіны нацыянальна прыгнечанай, вызваленьне ад самаўладзтва было-б адначасова і вырашэньнем нацыянальнага пытаньня ў той меры, у якой яно наогул магчыма, ва ўмовах панаваньня капіталу з яго „дэмократыяй". Нацыянальнае вызваленьне, барацьба за яго, зьяўлялася непарыўнай часткай з буржуазна-дэмократычнай рэволюцыяй у Беларусі.

Але розныя клясы па рознаму разумелі нацыянальнае вызваленьне. Калі для беларускіх працоўных мас нацыянальнае вызваленьне было цесна зьвязана з соцыяльным, вызваленьнем, у той-жа час для беларускае буржуазіі (беларускіх абшарнікаў нават) нацыянальнае вызваленьне азначала ўтварэньне буржуазна-дэмократычнай дзяржаўнасьці на чале са сваёй нацыянальнай буржуазіяй і абшарнікамі. Беларуская буржуазія бачыла нацыянальнае вызваленьне ў тым, каб скінуць панаваньне расійскага самаўладзтва, каб самой быць і політычна пануючай клясай і каб вынікі эксплёатацыі працоўных мас дастаўляліся ёй беспадзельна. Буржуазія заўсёды на першы плян ставіць свае нацыянальныя запатрабаваньні. Яна заўсёды імкнецца захапіць пад свой уплыў шырокія колы мас, як рэальную сілу для „внушительности" сваіх патрабаваньняў. Сутнасьць т. зв. беларускага „адраджанізму" менавіта ў гэтым і заключаецца.

Развіваючыся як поэта, Купала ад пасыўна сузіральных адносін да акаляючага жыцьця, ад фіксацыі зьяў сацыяльнай несправядлівасьці, ад аплакваньня нядолі беднага беларуса пераходзіць да актыўна-чыннай творчасьці, з пэўнымі мэтаімкненьнямі. Ён адчувае „гулкі стогн лесу“, чуе, як „з ветрамі, з бурамі б'юць на трывогу“.

Купала чутка прыслухоўваецца да „Нёмана“, „Сьвіслачы“, вёскі, якая „пакуль-што маўчыць“.

Яго верш „Заваяваным“ дыхае агромністай сілай, прызывам працягнуць справу тых, хто „у дамоўку бяз часу зышлі“.

„Сьпіце ўсе тыя, што праўду на сьвеце шукалі,
І, не здабыўшы, у дамоўку бяз часу зышлі.
Гразьзю ў вас кідалі, вольна дыхаць не давалі...
Хай-жа пацешацца: ўжо вы спачылі ў зямлі.

. . . . . . . . . . .

Сьпіце вы, слаўныя гора і працы натомкі,
Хутка над вамі распалім памінкаў агонь!

. . . . . . . . . . .

Сьпіце! Мы вашых на век не забудзем магілаў;
Збуджаны вамі, мы ўскрэсьлі, мы больш не засьнём“.

Тое-ж самае трэба сказаць і пра асноўны кірунак творчасьці з 1910 г. У песьнях Купалы ўжо менш засмучанасьці, менш беспрасьветнасьці, нават тады, калі ён апявае „жыцьцё наша праклятае“. Адначасова з гэтым, мяняецца і характар песьні, надаецца ім і другі павышаны рытм, зьмяняюцца пэрсанажы.

„Зазьвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песьня наша, як воля магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў сьвет рэхі грымучыя.

. . . . . . . . . . .

Пей-жа, песьня, дзень, ноч, песьня родная нам,
Апявай жыцьцё наша праклятае,
І зайграй ты па сэрцу хоць раз бедакам,
Научы, як знайсьці шчасьце багатае“.

Купала заклікае да сьмеласьці ісьці наперад і весьці другіх, і тагды „будзе твой верх, твае права ўсягды“. У 1912 годзе Купала піша баявы верш „Годзе...“

„Годзе брахні ўжо, падкупліных зводаў!
Годзе таптаньня прадвечных сьвятых!
Сьцежку свабоднаму духу народу,
Сьцежку да сонца і зор залатых“.

Купала заклікае беларуса аратага сьмялей узьняць вочы к сонцу.

„Сьмялей беларус араты!
Сьмялей уздымай к сонцу вочы,—

а ў другім вершы кліча родную старонку паказацца сьвету:

„Пакажыся сьвету,
Сьвету ды народу
Родная старонка,
Як зара да ўсходу“.

Прарок Купалы, які „хадзіў паміж людзей, сярод народу таго краю, што на'т свайго імені ня знаў“, таксама заклікае рабскія натуры паўстаць, узяць у рукі паходні, скідаць ёрмы.

„Паўстаньце, рабскія натуры,
Пакіньце свой адвечны сон,
Загаманіце віхрам, бурай,
Каб ажна дрогнуў ваш палон!
. . . . . . . .
Пара у рукі браць паходні,
Уставаць, ісьці, ноч расьсьвятляць!
Бо што ня возьмеце сягоньня,
Таго і заўтра вам ня ўзяць.
На зло крывавым перашкодам
Скідайце ёрмы, клічце сход
І дайце знаць другім народам,
Які вы сільны йшчэ народ“.

І ня гледзячы на тое, што

„...людзі, глянуўшы на сонца,
Адказ казалі грамадой:
Пакольки-ж нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?“

Купала не перастае пець прызыўныя песьні, якія заклікаюць беларускі народ змагацца за сваю будучнасьць, нават малюючы жахлівы вобраз разбураючай чыннасьці капіталізму ў сваёй драме патрыархальнай Беларусі, „Раскіданае гняздо“.

Роднае слова беларускае, якое так беражна шануе поэта, якое так узбагаціў сваёю творчасьцю, робіцца часамі штандарам барацьбы з тымі ўмовамі, што крыўдзілі яго, што не давалі беларусу сваім родным словам вылажыць сваю скаргу, прызываць братоў на барацьбу, Купала піша, што калі:

„З попелу мінуўшых дзён сьляпых, крывавых
Весела ўзойдзе рунь сьвятлянай славы,
І радзімым словам, рукой мазолістай
Беларус упіша на старонцы чыстай
Кнігі ўсіх народаў важна, ў няпрымусе
Сумную аповесьць роднай Беларусі“.

Куды-ж клікаў Купала народ свой, за якую лепшую будучнасьць? „Купала, узьняўшыся вышэй простага агульна-рэволюцыйнага протэсту супроць соцыяльнага прыгнечаньня, аднак не ўяўляў ясна сабе мэты вызваленчага руху. Яна ў яго ня ясная, расплыўчатая, да простага абмежаваная.

Ён часта зварочваецца да сонца і заклікае яго:

„Гэй ты, сонца, гары
Ад зары да зары,
Ланцугі распалі
Па ўсёй чыста зямлі!“

Гэта сонца, як сымбаль свабоды, як сымбаль лепшай будучыні Купала часта кліча:

„Дык глянь з хоромаў вольных, высокіх
Да Крывіцкіх туманных нізін...
Казкай векаў блізкіх і далёкіх
Клічам, сонца, цябе, як адзін!

Протэст Купалы галоўным чынам накіраваны супроць фэодальнай эксплёатацыі, супроць царскага палітычнага прыгнечаньня роднай старонкі, мэты яго, імкненьні ня выходзяць з буржуазна-дэмократычных рамак. Будучнасьць Беларусі марылася поэту як дэмократычная дзяржаўнасьць беларускага народу, які па думцы поэты адрозьніваецца ад іншых народаў, а Беларускі край ад іншых краёў тым, што:

„сьвет там выдумкі знае—
троны, кароны, вісельні, кулі,—
выдумаць гэта мы ў сваім краі
няяк мінулі".

Ідэалы Купалы ня выходзілі з рамак буржуазна-дэмократычнай дзяржаўнасьці ў нацыянальнай афарбоўцы.

Яму хацелася, штобы Беларусь была „вольнай", як і ўсе другія народы

„Глянь, во англік ці немец!—яны ўсе ўмеюць скеміць,
Ім і шчасьці і радасьць пакорны:
Мы ляжым, як мядзьвёдкі, як гнілыя калодкі,
І нас топча хто болей праворны".

Каб яна заняла „свой пачэсны пасад між народамі".
Сваім „сваякам па гутарцы" Купала ня двухсэнсова кажа:

„Дык хай-жа Вас не асіле зьверства непагоды,
Распусьціце свае крыльля як і ўсе народы".

Таму што

„Простым мы словам з сьветам гаворым,
Песьні аб цяжкай творым нягодзе,
З думкамі рвёмся к сонцу і зорам,
рвёмся к свабодзе.

і далей:

„хочам па просту, каб лепш ручыла
Нашым хацінам, нашым прыплодам,
Каб стаць раўнаю славай і сілай
іншым народам".

Вынікам усяго гэтага, вынікам усёй барацьбы па думцы поэты павінна быць вольнасьць „пачэсны пасад між народамі", „свае родненькае слова" і нарэшце і якасьці гаспадарчага выніка:

„О, тады сноп у сноп
Жніва наша будзе...
Сотня коп, мільён коп ..
Дзівуйцеся людзі!".

Якімі-ж сродкамі дасягнуць усяго гэтага? Якімі шляхамі ісьці да сонца, да зор, да свабоды?

Купала дае на гэта такі адказ, зварочваючыся да моладзі:

„Схамянайся-жа ты, моладзь арліна!
Ў бок другі віхры веяць прымусь.
Бяры сьветыч, ідзі за судзьбінай,
Ідзі з словам сьвятым: Беларусь!“.

Такім чынам, калі прыняць даміруючыя настроі вершаў, кампазыцыйныя пабудовы вершаў, іх дынаміку і рытміку, тыя прызыўныя словы, што кідаліся поэтой да народных нізін, то мы можам зрабіць вынік, што шляхам, якім Купала мысьліў, што пойдзе Беларусь да сваёй будучыні, дык гэта барацьба, рашучая, крывавая барацьба ўзьняўшыхся народных нізін. І ён кідае агністы заклік да сакалінай сям'і маладой Беларусі.

„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі,
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі“.

Купала піша агністыя, заклікаючыя з вялізарнай сілай—вершы да народных „нізін“, якіх заклікае паўстаць, ісьці на барацьбу за сваю бацькаўшчыну. Будучыню Беларусі ён зьвязвае з барацьбой народных нізін, на гэтыя нізіны ён арыентуецца, верыць у іх сілу і перамогу. Вось гэта і робіць Купалу сапраўдным гусьляром рэволюцыйна-дэмократычнага, нацыянальна-вызваленчага руху, робіць яго сапраўдным народным поэтай, што на многа галоў вышэй уздымае яго ад нашаніўскіх лібэралаў.

Але-ж гэты шлях не адзіны. У Купалы ёсьць і другі шлях, якім ён марыў дасягнуць лепшай долі, шчасьця і багацьця. Гэта той шлях, элемэнты якога мы ўжо знайшлі ў „Жалейцы“, у вершы „каб я цёмны ня быў, чытаць кніжкі ўмеў, я-б і долю здабыў, я-б і песеньку сьпеў“.

Гэты асьветніцкі шлях дасягненьня лепшай долі зноў раіцца Купалай беларусу, як роўназначны, а не як падпарадкаваны, для дасягненьня „долі і волі“ поруч з асьветай як і ў „Жалейцы“ Купала ставіць працу і як сілу для дасягненьня мэт. Варта саслацца хоць бы на верш са „шляхам жыцьця“, „вучыся“.

Элемэнты, што былі ўжо ў пачатку творчасьці, зараз разгарнуліся ў сыстэму, занялі дамінуючае месца. Уплыў нашаніўскай ідэолёгіі на поэту дасягнуў такое ступені, калі поэта сам абярнуўся ў ідэолёга, баяна нашаніўства. Купала робіцца цалкам сфармаваным нашаніўцам з усімі ўласьцівымі нашаніўцу якасьцямі. Нацыянальна-вясковая абмежаванасьць, ідэалізацыя патрыярхальна-фэодальнай мінуўшчыны, Беларуска-Літоўскай Русі, абарона „самабытнасьці“ беларускага народу, а адсюль затушоўваньне клясаў і клясавай барацьбы ў беларускім народзе, скажонае мастацкае адлюстраваньне беларускай рэчаіснасьці „маці бацькаўшчына“, „сьвятая Беларусь“.

Каб пацьвердзіць гэтае, спашлемся на творы поэты. Нацыянальная вясковая абмежаванасьць поэты найбольш ярка выявілася ў вершу „Ня шукай“ (спадчына):

„Ня шукай сабе дружкаў
*Між чужынцаў*, між піяўкаў,
Ні ў месьце, ні ў палацы,
Ні пры лёгкай панскай працы,—
Ня шукай ты там дружакаў!“

Тут Купала бярэ ў адзін радок і чужынца і піяўкаў, і места і палац, гэта значыць, што і рабочы гораду і селянін другой нацыі ня можа быць дружаком нацыянальнага рэволюцыянэра.

Дзе-ж Купала раіць у працівалегласьць гэтаму шукаць дружакоў?

„Ты іх знойдзеш вельмі блізка
Каля хаты, каля нізкай,
Дзе ганяў жывёлу змалку,
Дзе касой махаў на ранку,
Толькі ўмей шукаці блізка!“

Зразумела, што такая вясковая, патрыархальна нацыянальная абмежаванасьць ні ў якім разе ня можа быць уложана ў рэволюцыйны багаж поэты.

Такая-ж абмежаванасьць знаходзіць месца ў прызыўна-баявым вершы „Годзе“:

„Годзе заходняй ці ўсходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна,
Ўсе вы, панове, аднакай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі-б да дна“.

Купала не зразумеў таго, што і ў заходняй і ў усходняй культуры, і ў культуры яго народу ёсьць дзьве культуры, не зразумеў ён і таго што калі „Усе панове“ „аднакавай натуры“, дык рабочыя з „панове“ не аднакавы, а самі рабочыя паміж сабою прынцыпова не адрозьніваюцца па сваім натурам.

Ідэалізацыія мінуўшчыны, на якую мы зьвярталі ўвагу яшчэ пры разглядзе „Жалейкі“, дасягае тут свайго вышэйшага пункту, свайго завяршэньня. Фэодальна-эксплёататарскае старое часоў „Русі і Літвы“ часоў „Войскаў Усяслава“ апяваецца як нешта гэроічнае, як нешта народнае, што мае агульна-народнае, агульна-нацыянальнае значэньне.

„Перашло, мінула,
Што калісь жыло,
Ў курганох заснула
Зельлем зарасло.
Пад магіл навалай
Дрэмле Русь, Літва—
За тэй тая з хвалай
Легла галава.
Ня гудзе ў павазе
Голас вечавы,

Ня шукаюць князя
Славы і бітвы.
Войска Усяслава
Ня ідзе ў паход
На той бой крывавы
За свой край, народ.
Сьцены і запоры
Палачан, Мянчан
Леглі у разоры
Зможаных палян.
Ні сьвятых дуброваў,
Зьніч пайшоў з вадой,
Загасьціў лад новы,
Ды ня той, ня свой.
Слых адно праходзе
Калі-ні-калі
У жывым народзе,
На жывой зямлі".

Гэтая слашчава романтычная ідэалізацыя „залатога веку" патрыярхальна-фэодальнай Беларусі ня можа таксама быць аднесена да рэвалюцыйнай спадчыны Купалы.

Самабытнасьць беларускага народу, у тым, што ён адзіны, цэльны, вясковы народ, у ім няма клясаў, няма багатых, а парабашчоны чужынцамі ўвесь беларускі народ са сваёй „Бацькаўшчынай маці", якая знаходзіцца ў душы кожнага беларуса.

З такімі вось, нашаніўскімі настроямі Купала і спаткаў соцыялістычную рэволюцыю.

VI

На рэволюцыю Купала адгукнуўся не адразу, галасы яго жалейкі кінулі граць, гучэць. Купала не адразу зразумеў няўхільнасьці магутнага бегу гісторыі, надзвычайнай складанасьці падзей. Не зразумеў ён і шляху рэволюцыі, не зразумеў ён і таго, што рэволюцыя, каб сапраўды вызваліць працоўныя масы Беларусі ад адвечнага нацыянальнага уціску, павінна была няўхільна перарасьці з рэволюцыі буржуазнай у рэволюцыю соцыялістычную.

І гэта зусім натуральна. Рэальны ход гісторыі пайшоў ня тэй дарогай, ня ў той бок, куды настройвала нашаніўская ідэолёгія. Нацыянал-лібэральная ідэолёгія, лібэрал-народніцкія погляды на характар і рухаючыя сілы рэволюцыі прыйшлі ў супярэчнасьць, у сутычнасьць з пролетарскім характарам нашай рэволюцыі.

Толькі, пасьля, ужо з другой паловы 1918 году, Купала ня сьмела бярэ і прабуе галасы жалейкі, але-ж яго ахапляе трывога.

„Я зноў заснуўшую было жалейку
бяру і пробую ў ёй галасоў:
Ці хопіць сьветлых, звонкіх думак—слоў,
Ці гладка пойдзе песьня-добрадзейка?

І пачынаю йграць з трывогай нейкай,
Хоць песьня як і здаўных б'е часоў,—
Зьвініць, як вецер паміж верасоў,
І ў перагонкі рвецца з салавейкай.
А ўсё-ж, як тамка сваякі—суседзі
Яе паймуць, хацелася-бы знаць,—
Ці блаславяць, ці ўтопчуць гідка ў гаць?
Адно снуючы з сумам па прасьледзьдзі,
Я голасна йграць буду ў тайным брэдзе.
Для бацькаўшчыны-маці буду йграць!"

Чаму-ж гэта такая трывога ахапіла поэту, чаму гэта ён зьбіраецца „у тайным брэдзе" йграць пра бацькаўшчыну? Няўжо-ж справа толькі у суседзях? Не, справа ня толькі ў суседзях, колькі ў тым, што:

„Здавалася, ноч не пяройдзе,
Іража ня згрызе вечных путаў,—
Аж бліснуў пажар на Усходзе,
І дрогнулі рабскія скруты
І дрогнула Крыўды ўсяўлада
Разьлегся скрозь кліч пяруновы;
Апалі кароны, пасады,
З нявольнікаў спалі аковы.
І мілай пацехай зазьзяла
І доля і слава людзкая,
Дый толькі знаць слава і хвала
Ня доўгавечнай бывае.
Раскованы раб сябе выдаў—
Ня ўзьнесься ў высь дух чалавечы
Нявольнік пабратаўся з крыўдай
І ў помач ёй даў свае плечы.

Інакш кажучы, Купала застаўся яшчэ ў палоне нашаніўскай ідэолёгіі.

Пасьля трывожнай спробы, Купала зноў засьпяваў бацькаўшчыне, пачаў зноў заклікаць народ свой на барацьбу супроць тых, хто „твою маці—бацькаўшчыну рэжа жывую, рве на часьці, на кускі", супроць „ворагаў беларушчыны". Але-ж Купала не заўважыў таго, што беларускія працоўныя масы ў той час вялі барацьбу як супроць ворагаў беларушчыны, так і супроць ворагаў з самай беларушчыны, якія імкнуліся з сярэдзіны разарваць цела Беларусі, патапіць у крыві, крывёю заваяваны Кастрычнік.

Купала не зразумеў соцыялістычнага характара нашай рэволюцыі, ня здоляў захапіцца баявым і творчым энтузіязмам працоўных, што стварылі прадумовы соцыялістычнага будаўніцтва, што разьбівалі кайданы адвечнага соцыяльнага рабства, што стваралі новае, але не патрыархальнае, капіталізмам „раскіданае гняздо", а падмурак пад сусьветную комуністычную рэволюцыю.

Купала праяўляе далей паасобныя стыхійныя выбухі, творчыя парывы, гэта выліваецца ў зборнік вершаў „Безназоўнае", але, застаючыся ў палоне нашаніўскай ідэолёгіі, „Безназоўнае" так і засталося „безназоўным".

„Тутэйшыя“ завяршаюць крызіс нішаніўства і крызіс поэты. Магутнае соцыялістычнае будаўніцтва, якое разгарнулі працоўныя масы пад кіраўніцтвам Ленінскае партыі, нячуваныя посьпехі ў будаўніцтве нацыяльнай культуры зноў абудзілі творчыя парывы поэты. Купала пачынае разумець сутнасьць падзей, што адбываюцца, пачынае разумець той шлях, па якім рабочае кляса вядзе вёску з дробнаўласьніцкай капіталістычнай явы, ад спадчыны былых часоў, ад дробных пасёлкаў з пахілымі хатамі, ад гаротнага стану, ад торбы жабрацкай—„да лепшай долі, лепшай славы“. Купала ўступіў у этап новага ўздыму творчасьці, на гэты раз сугучнай толькі тым, хто сваёй актыўнай штодзеннай дзейнасьцю зводзіць вёску з дробнаўласьніцкай, капіталістычнай явы на шырокае поле соцыялістычнага земляробства.

„Так сыдзеш вёска з яснай явы,
Як сон маркотны, нежаданы,
Бо твой народ вернападданы
Ідзе ўжо, скінуўшы кайданы,
Да лепшай долі, лепшай славы“.

Купала становіцца на шлях апавяданьня творчага процэсу магутнага соцыялістычнага будаўніцтва, і гэты шлях зьяўляецца адзіна-прогрэсыўным шляхам разьвіцьця беларускай літаратуры, сапраўдным пачынальнікам якое зьяўляецца Купала.

---

# ЛІТАРАТУРА СУЧАСНАЙ ГРУЗІІ

## Г. Таўзарашвілі

Сучасная мастацкая літаратура Грузіі атрымала вялізарную культурную спадчыну літаратуры XIX сталецьця. На арэне грамадзка-культурнага разьвіцьця другой паловы мінулага сталецьця рэльефна вылучаюцца фігуры надзвычайна таленавітых пісьменьнікаў, якія ўзбагацілі агульны стыль грузінскае мастацкае творчасьці сваімі выдатнымі творамі.

Магутны і буйны талент корыфэя новай грузінскай літаратуры І. Чаўчавадзэ, а таксама сьвежы і шырокі па свайму соцыяльнаму значэньню і размаху мастацкага пэндзля творчы патос А. Казьбегі, Важа-Пшавэла, А. Цэрэтэлі і Е. Ніношвілі і цэлай пляяды клясыкаў XIX сталецьця, побач з сваясаблівым выяўленьнем экономічнай структуры і пануючай ідэолёгіі сучаснага ім грузінскага грамадзтва, дасканала і яскрава адбілі грузінскую новую прозу і пэрспэктыву верша. Усе стадыі разьвіцьця грамадзкіх форм знайшлі сваіх прадстаўнікоў у мастацкай пісьменнасьці XIX сталецьця. Раньні романтызм у асобе поэтаў: А. Чаўчавадзэ, Н. Бараташвілі, Гр. і. В. Орбэліяні і інш. выявіў сьветапогляд тэй грузінскай інтэлігенцыі, якая, адмовіўшыся ад старых фэодальных адносін, не знайшла сабе месца ў новым грамадзтве, якое заснавалася на капіталістычных формах гаспадаркі і стала ідэалізаваць гістарычнае мінулае свайго народу. Прадстаўнікі іншых літаратурных плыняў больш конкрэтна адбівалі інтарэсы пэўных кляс грузінскага грамадзтва. Рэалістыя І. Чаўчавадзэ і А. Цэрэтэлі і інш. выяўлялі соцыяльны экономічны стан і нацыянальныя рысы аджываючай зямельнай арыстократыі, а таксама і новыя імкненьні дробнай буржуазіі; прадстаўнікі гэтай-жа школы Л. Ардазіані, Г. Эрыставі і інш. цалкам вызначаліся, як прадстаўнікі гандлёвае клясы, а Г. Цэрэтэлі ў сваіх творах адбіў асноўныя рысы прамысловай буржуазіі, якая нараджалася. Але яшчэ ў пяцідзесятых гадох заняволенае прыгоннай залежнасьцю грузінскае сялянства мела ў мастацкай прозе сьмелага і рэволюцыйнага прадстаўніка ў асобе выдатнага пісьменьніка Д. Чонкадзэ, які абвясьціў, што сялянства толькі з дапамогаю зброі можа дабіцца свайго поўнага экономічнага і праўнага вызваленьня.

Рэволюцыйна-дэмократычныя ідэі ў новай мастацкай грузінскай літаратуры яшчэ мацней разьвіты ў канцы XIX і ў пачатку XX сталецьця. Э. Ніношвілі, які пісаў галоўным чынам з жыцьця бядняцкіх пластоў сялянства, папулярнай мастацкай агітацыяй, досыць сьмела рэволюцыянізаваў вясковы быт, а затым стаў выказчыкам рабочых ідэй, зьявіўся

адным з заснавальнікаў соцыял-дэмократычных організацый у Грузіі. І. Давіташвілі, зьяўляючыся таксама ў пачатку сваёй літаратурнай дзейнасьці сялянскім пісьменьнікам, у далейшым, з паступовай капіталізацыяй вёскі, эволюцыянізаваў у бок рабочай поэзіі і стаў любімым лірыкам працоўных.

Ч. Лоцтатыдзэ, буйны рабочы бэлетрысты, які прынёс сябе ў ахвяру рэволюцыйнай працы і бліжэйшы папярэднік пролетарскай поэзіі, таленавіты поэта І. Эўдошвілі ўсёй сілай перажывалі прыгнечанае і нявыносна цяжкое экономічнае і праўнае становішча рабочых і заклікалі іх да рашучай барацьбы супроць усіх чужаедаў і эксплёататараў. Яшчэ ў самым пачатку XIX ст. з шпаркім ростам індустрыяльнай прамысловасьці і ўзмацненьнем буржуазіі расьлі і ўзмацняліся і рабочыя організацыі. Побач з палітычным аб'яднаньнем рабочых зьявіліся і літаратурныя аб'яднаньні. Да 1905 году грузінскія рабочыя пісьменьнікі, у асаблівасьці поэты, у выстарчальнай меры добра ўсьвядомілі канечнасьць організацыі кірунку рабочай мастацкай літаратуры, якая стыхійна разьвівалася, і, сапраўды, у розных прамысловых раёнах пачалі ўзьнікаць літаратурныя групы рабочых пісьменьнікаў, якія прымалі непасрэдны і актыўны ўдзел у рэволюцыйным руху. Але буржуазны характар гэтага руху і адсутнасьць у ім організаванага пролетарскага кіраўніцтва, адбіліся і на большай частцы рабочай літаратуры, у сэнсе спаўзаньня яе з сваіх клясавых позыцый і паступовай дэмократызацыі. Гэтым толькі можна тлумачыць, што паражэньне рэволюцыі 1905 году выклікала ўпадніцкія настроі сярод многіх рэволюцыйных пісьменьнікаў Грузіі адзначанага пэрыоду. Н. Чхіквадзэ, А. Абашэлі, Оболі-Муша, В. Рухадзэ, Х. Вардошвілі і інш. горка перажывалі гэтую няўдачу рэволюцыйнага руху і падпалі суму, згубілі далейшую рэволюцыйную пэрспэктыву.

Да рэволюцыі 1917 года выдатнае месца ў грузінскай літаратуры займаў таксама таленавіты бэлетрысты-драматург Д. Кліашвілі, які пісаў ўдалыя бытавыя этуды з жыцьця абломкаў зруйнаванага дваранства. Ш. Арагвіспірэлі, вельмі орыгінальная творчая асоба, першы спрабаваў стварыць псыхолёгічную новэлу ў грузінскай літаратуры. В. Барнові, адзін з заснавальнікаў гістарычнага роману, Ш. Дадзіяні, які пісаў спачатку на рэволюцыйныя тэмы, але пасьля перайшоў у лягер буржуазнай літаратуры. Гэ Табідзэ, чулы романтык з шчырым лірычным патосам, Язэп Грышашвілі, поэта з выдатным па багацьцю фарбаў талентам, К. Макашвілі, буйны лірык і гумарысты, пісьменьнікі Н. Зомлетэлі і Г. Кучышвілі, прадстаўнікі пролетарскай поэзіі з рознастайнымі літаратурнымі талентамі, А. Шаншыяшвілі і шмат іншых, якія ня спыняюць сваёй літаратурнай дзейнасьці і па сучасны момант.

Лютаўская рэволюцыя 1917 году і ўвесь пэрыод грузінскай меншавіцкай „дэмократычнай рэспублікі“ (да 1921 году) у мастацкай літаратуры асаблівага, якасна-своеасаблівага стылю, па сутнасьці, не стварыў. Усе старыя літаратурныя плыні працягвалі сваё існаваньне па старых

шляхох; узмацніліся толькі нацыяналістычныя тэндэнцыі ў іх, якія і да адзначанага пэрыоду ў выстарчальнай меры моцна былі развіты грузінскай літаратурай. Для новых карэнных зрухаў у мастацкай літаратуры, і для ўзьнікненьня новых школ і аб'яднаньняў, патрэбна была рэволюцыя экономічнай і соцыяльнай структуры грамадзтва, якая наступіла толькі з савецізацыяй Грузіі.

I

Пачатковым пэрыодам сучаснай грузінскай літаратуры, такім чынам, трэба лічыць 1921 год, г.зн. пэрыод заснаваньня савецкай улады ў Грузіі. З гэтага часу ў грузінскай мастацкай літаратуры яскрава вызначыліся дзьве асноўныя палітычныя лініі: першая вызначалася, як сіла, якая адкрыта ішла ў форме агалашэньня „нэўтралітэту“, была накіравана супроць дыктатуры пролетарыяту, а другая—як сіла, што змагалася за ўзмацненьне і пашырэньне яе. Па першай лініі згрупаваліся ўсе буржуазныя пісьменьнікі Грузіі, а па другой—пачала разьвівацца маладая пролетарская літаратура. Пры гэтым першая, буржуазная лінія аб'яднала галоўным чынам пісьменьнікаў, організаваных задоўга да савецізацыі Грузіі, у пэўных асоцыяцыях. З іх найбольш буйнейшымі і ўплывовымі да гэтага часу літаратурнымі плынямі зьяўляюцца „ордэн“ поэтаў сымболістых „Галубыя Рогі“ і так званая „акадэмічная асоцыяцыя“. Праўда, шмат пісьменьнікаў з гэтых плыняў у далейшым, з разьвіцьцём і ўзмацненьнем савецкай улады ў Грузіі, рашуча парвалі з антысавецкім блёкам, але ў пачатку ўсе яны стаялі на ўскрайнім правым флянгу грузінскай літаратуры.

1. Аб'яднаньне сымболістых „галубарогаўцаў“ узьнікла ў Грузіі ў 1916 годзе. Карэньні зараджэньня гэтай літаратурнай школы зусім не заключаюцца, як мяркуюць некаторыя таварышы, у мэханічным перасаджваньні францускага сымболізму на грузінскую зямлю, а іх трэба шукаць ва ўнутранай гаспадарчай структуры грузінскага грамадзтва. Як вышэй сказана, разьвіцьцё індустрыі і гарадзкой культуры, канчатковае зруйнаваньне рэшткаў замкнутай гаспадаркі і старых укладаў жыцьця, шпарка надыходзячае капіталістычнае разьвіцьцё краіны ў пачатку XX стагоддзя, стварылі надзвычайна складаныя соцыяльныя адносіны і новыя ўмовы жыцьця. Такі пералом у экономічнай структуры Грузіі адпаведным чынам ня мог не адбіцца на мышленьні і ідэёвых імкненьнях грузінскай грамадзкасьці. Інтэлігенцыя, якая ўжо значна ўзмацнілася к гэтаму часу, прымушана была пакінуць стары сьвет соцыяльных зьявішчаў і разьвівацца на новай урбаністычнай культурнай аснове.

Грузінскі сымболізм выражаў ідэёвыя імкненьні гэтай гарадзкой інтэлігенцыі і буржуазных цывілізаваных норм. Бязумоўна, што „ордэн галубарогаўцаў“, які вырас у грузінскай рэчаіснасьці, перажываў вялізарны ўплыў заходня-эўропэйскага і рускага сымболізму (Болер, Верхарн, Маларме, Рамбо, Уайльд, Варлен Бальмонт, Брюсов, Блёк), але разам

з тым нельга таксама дапускаць ідэёвае ўтаесамленьне гэтых хоць-бы ідэнтычных школ, бо як „усякае грамадзтва жыве ў сваім асобным гістарычным асяродзьдзі, якое можа быць і сапраўды бывае вельмі падобна на гістарычнае асяродзьдзе, абкружаючае іншыя народы, але ніколі ня можа быць і ніколі ня бывае аналёгічным з ёю“ (Плеханов), то само сабой зразумела, што рознасьць і сваясаблівасьць гістарычных асяродзьдзяў Грузіі і Францыі ці Расіі непасрэдна павінны былі выклікаць значную розьніцу паміж сымболічнымі плынямі гэтых краін.

Агульны сьветапогляд грузінскіх сымболістых (дэкадэнцтва, містыцызм, аполёгія амаральнасьці і інш.) нічым не адрозьніваецца ад сьветапоглядаў сымболічных плыняў Захаду і Расіі, але гістарычная сваясаблівасьць умоў існаваньня грузінскага народу і нацыянальнае заняволеньне Грузіі рускім самаўладзтвам, якое цягнулася з моманту „далучэньня“ Грузіі да Расіі (1801 г.) сваімі гэнэтычнымі карэньнямі ўплывала на выпрацоўку моцных патрыётычных мотываў у грузінскіх сымболістых. Захапленьне, „гістарычным“ патрыётызмам і нацыянальны фольклёр зьяўляюцца адным з дамінуючых мотываў іх творчасьці. Яны апявалі Грузію, як „краіну сонца і поэзіі“ і выстаўлялі любоў да яе „на першае месца“. Нездаволеныя сучаснасьцю і ня бачачы ў будучыні нічога суцяшальнага і надзейнага, „галубарогаўцы“ ў ідэалізаваным далёка незваротным мінулым бачылі сымболь „вольнай радзімы“. „Стыгматы расы“ і сьцягі Грузіі служаць цэнтральным стымулам іх жыцьця і дзеяньня; творчым-жа „гэрбам“ для іх зьяўляецца „Халдэя“ (Грузія) у „ірдзяным спліне“.

Тут нас галоўным чынам цікавіць дзейнасьць грузінскіх сымболістых пасьля савецізацыі краіны. Новая расстаноўка кляс і пролетарская структура вытворчых адносін канчаткова падарвалі асновы буржуазнай культуры і ў прыватнасьці, буржуазнай мастацкай літаратуры. Сымболізм, як літаратурная школа буржуазіі, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, натуральна павінна была адмерці. Але дзякуючы новай экономічнай політыцы, увядзеньне якой супала з заснаваньнем савецкае ўлады ў Грузіі (1921 год) гэты процэс „адміраньня“ грузінскага сымболізму ня спыніўся да апошніх дзён.

У савецізацыі Грузіі сымболістыя „галубарогаўцы“ ўбачылі скасаваньне незалежнасьці сваёй радзімы і зругу шмат якіх індывідуальных рысаў, „лібэральнага дэмократызму“ свае нацыі. Зусім, таму, зразумела, што „рыцары лятуценьняў“ „халдэйскіх балаганаў“, у Савецкай, рэволюцыйнай Грузіі не маглі знайсьці адпаведны ім творчы стыль. Адпалі старыя літаратурныя мотывы сымболізму; але дробная буржуазія, якая адраджалася на асновах нэп‘у і індывідуальнае гаспадаркі, імкнулася адбіць гэтыя мотывы, як мотывы, што выражалі яе соцыяльную сутнасьць. Такім чынам, ордэн „галубыя рогі“ з першых-жа год савецізацыі Грузіі, у асноўным працягваў сваё існаваньне на старых літаратурных позыцыях.

Галоўны прадстаўнік грузінскіх сымболістых, буйны тэорэтык і бэлетрысты Рыгор Робакідзэ ў шэрагу сваіх драм, напісаных ім у пэрыод ад 1923—26 г. г. („Ландо“, „Мальштрэм“ і інш.), ня спыняючы разьвіваць старыя мотывы, якія характэрызуюцца адрывам ад рэальных процэсаў жыцьця, нанова зьвярнуўся да проблем містыкі і „мітолёгічнага“ романтызму. Істотным зрухам вытворчасьці Рыгора Робакідзэ зьявілася драма „Ламара“. Тут аўтар з мэтофізычных ідэй перайшоў да фольклёрнага рэалізму, да народных мотываў. У гэтай драме, перажываючы формальна-лёгічны ўплыў славутага грузінскага поэты Важа-Пшавэла, вобразы Г. Робакідзэ насычаны нязвычайнай выразнасьцю. Соцыяльных тэм сучаснасьці Робакідзэ сьвядома ўхіляецца, каб ня выявіць яскрава свае адносіны да іх і парушыць „роўнавагу“ нэўтралізму. Аднак у романе „Зьмяіная скура“ [1]), якая дала яму міжнародную вядомасьць, аўтар, закранаючы ўкосна проблемы рэволюцыйнага руху ўсходніх колёній супроць ангельскага імпэрыялізму, характэрызуе гэты рух, як рэгрэсыўную сілу, накірованую супроць цывілізацыі і культуры і г. д. Праўда, роман напісаны з высокай літаратурна-мастацкай умеласьцю, уласьцівай наогул стылю Робакідзэ, і адрозьніваецца глыбокім аналізам шэрагу проблем. Але трэба канстатаваць, што ён (роман) не пазбаўлены мыстыцызму і мэтафізычных настрояў.

Выдатны лірык грузінскага сымболізму Тыцыян Табідзэ, больш пэўна і шчыра выявіў свае адносіны да савецкае ўлады. Той факт, што ён, ня спыняючы пяяць „Мухамбазом“ аб „кабахскіх раніцах“ ды пра дзяўчатак Орбеліяні, ці богеме п'янства, што па сутнасьці зьяўлялася зваротам да старых дэкадэнцкіх мотываў, выразна вызначыў характар сьветапогляду поэты, які няздольны аддацца соцыялістычнаму будаўніцтву. Ён сам адчуваў, што абкружаючая рэчаіснасьць сучаснай літаратурнай творчасьці прад'яўляе іншыя патрабаваньні, чымся ён мог-бы даць, і таму зусім натуральна, што яго поэзія, паводле ўласнага прызнаньня аутара, „пакрылася чорным мракам“ і, урэшце, зразумеў, чаму сумаваў па Халдэі (старажытнай Грузіі). У вершы, напісаным на сьмерць С. Есеніна, Т. Табідзэ, кажучы аб тым, што і „для іх (поэтаў Грузіі) іншыя насталі часы“, прадвяшчаў і сабе такі-ж канец, г.-зн. казаў, што „іх таксама хутка задушаць як сабак“. Тыя-ж мотывы разьвіваў ён і ў іншых творах. („Скіфскія ночы“). Але ў далейшым, пасьля пэўнага пэрыоду „хістаньня“ лёгіка фактаў магутнага ўздыму прамысловасьці і ўзмацненьня саветаў, пераканалі яго ў непарушнай сіле саветаў. І сапрауды ў апошнія гады Табідзэ спрабаваў падыйсьці да актуальных тэм сучаснасьці, але для ўмацаваньня на савецкай пляцформе яму трэба прайсьці даўгі шлях уласнага перавыхаваньня і пераробкі.

Поэт Паоло Яшвілі, уладаючы пэўнай культурай верша, пасьля савецізацыі пісаў мала, а ў апошнія гады аб ім зусім нічога ня чутно. Але ў наш

[1]) „Зьмяіная шкура“ Г. Робакідзэ ў 1928 г. вышла на нямецкай мове з прадмовай Сг. Цвэйга.

пэрыод „маўчаньне“ пісьменьніка можна толькі разглядаць, як адрыў ад творчай дзейнасьці савецкай улады. Тое-ж самае можна сказаць адносна поэта Раждзена Гвэтадзэ, які раней сваім імкненьнем да орыгінальнага літаратурнага жанру прадвяшчаў новыя шляхі разьвіцьця яго творчасьці. Зусім адышоў таксама ад мастацкай літаратуры сымболісты Г. Леонідзэ, усяго толькі ў апошні час ён заняўся крытыка-бібліографічнай дзейнасьцю. Што-ж датычыцца поэты Колаў Надырадзэ, то ён застаўся з тым жа, чым ён зьявіўся сьвету, г. зн. „з носам разьбітым, тварам урода, поўных губ авал“, але калі да гэтага часу ён з сумам вандраваў па славутых гарадох, то цяпер і ад гораду, як вогнішча індустрыялізацыі і пролетарскай культуры, адвярнуўся і ў ідэалізацыі вясковай прыроды дажывае апошнія дні свайго романтызму.

Асобна стаіць поэта-бэлетрыстыя Ніколо Міцышвілі. Ён сярод грузінскіх сымболістых „галубарагоўцаў“ больш за ўсіх знаходзіўся ва ўладзе рэлігійнага транса і містычных вобразаў. Але пасьля савецізацыі Грузіі ўвесь шлях яго творчасьці зьяўляецца шляхам разьвіцьця цьвярозага рэалізму. Праз уласную органічную, псыхічную ломку, шляхам разьвіцьця здольнасьці об'ектыўнага сузіраньня абкружаючай рэчаіснасьці. Сярод сымболістых Грузіі ніхто ня быў так далёка ад рэволюцыйных ідэй, як Н. Міцышвілі, але ніхто так глыбока і моцна ня мог перарабіць сваю ўнутраную прыроду, як ён, каб наблізіцца да гэтых ідэй. Н. Міцышвілі адзін з першых прыняў савецкую ўладу і сваёй практычнай дзейнасьцю даводзіць адданасьць ёй. У галіне пісьменьніцкай дзейнасьці Мікалаю Міцышвілі ў сучаснай грузінскай літаратуры належыць піонэрства стварэньня эпопэйнай прозы, як найбольш адпавядаючай формы творчага стылю сучаснасьці.

Валяр'ян Гапрындашвілі, выдатны поэта і тэорэтык грузінскага сымболізму і адзін з галоўных заснавальнікаў гэтай школы рэволюцыйным ідэям ня быў чужым і раней.

Яго імкненьне да грамадзка-дэмократычных мотываў Верхарна, адбіваючы настроі прогрэсыўна рэволюцыйнай інтэлігенцыі, надзвычайна палягчылі яму цяпер зжыць закатныя ідэі і перайсьці да тэмаў савецкага будаўніцтва. У першыя-ж гады ўстанаўленьня пролетарскай улады ў Грузіі В. Гапрындашвілі выкінуў лёзунг: „зварот да зямлі“, які для лева-дэмократычнай часткі грузінскіх сымболістых паслужыў магутным стымулам прасунуцца да соцыялістычных ідэй. Шэраг рэволюцыйных твораў Гапрындашвілі („Парыская Комуна“, „Кастрычнік“, „Ленін“, „Сакко і Ванцэцьці“ і інш.), насычаныя бадзёрым духам барацьбы за ідэалы працоўных, робяць бясспрэчным, што Гапрындашвілі зможа застацца поэтам соцыялізму.

У гісторыі грузінскай літаратуры ордэн „Галубыя рогі“ ў барацьбе з старым мелка-памесным і нова-клясычным стылем, бязумоўна, адыграў буйную рэволюцыйную ролю. У гэтым яго гістарычнае значэньне. У да-

лейшым-жа, з канчатковым зруйнаваньнем усіх буржуазных і дробна-буржуазных укладаў у нашай краіне, г. зн. усіх асноў і крыніц, што харчавалі грузінскі сымболізм у цэлым, і гэтая літаратурная школа як пэўны кірунак няўхільна павінна зыйсьці са сцэны культурнага жыцьця Грузіі.

2. Другім літаратурным аб'яднаньнем, якое стаіць на яўна-буржуазных, анты-савецкіх позыцыях, зьяўляецца існаваўшая да апошніх дзён так званая „Акадэмічная Асоцыяцыя“ грузінскіх пісьменьнікаў. Яна ўтварылася шляхам злучэньня памянёнай спачатку дэмократычнай групы пісьменьнікаў „Дэмос“ і права-консэрватыўнай групы „Іліоні“. Гэтая асоцыяцыя дэкляравала прынцыпы незалежнага ад політычна-грамадзкага жыцьця дзяржавы, разьвіцьця мастацтва і літаратуры. Мастацтва не павінна быць падпарадкавана ўплыву політыкі дзяржавы; яна мае свае ўласныя непарушныя законы разьвіцьця і ня ставіць на мэце выконваць якую-небудзь функцыю грамадзкага жыцьця. „Мастацтва стаіць па-за лявізной і правізной“. Падобныя ідэі разьвівалі „акадэмікі“ у пэрыод напружанай працы гаспадарчага аднаўленьня краіны і новага культурнага будаўніцтва, калі ўсе галіны навукі і мастацтва павінны былі выконваць прыкладныя задачы гэтага будаўніцтва. Лёзунг „мастацтва для мастацтва“, які абараняецца памянёнай групай грузінскіх пісьменьнікаў у 1924-25 г.г., зьяўляўся рэакцыйным лёзунгам нават у адносінах прогрэсыўнай буржуазнай ідэолёгіі Заходняй Эўропы. Але старшыня гэтай „акадэмічнай асоцыяцыі“ поэт белетрысты і яе ідэолёг Канстантын Гамсахурдзін, абараняў памянёны лёзунг толькі для таго, каб захаваць пад ім іменна політычныя, г. зн. антысавецкія мэты „асоцыяцыі“ і садзейнічаць узмацненьню буржуазнага, контр-рэволюцыйнага блёку пісьменьнікаў. Бэлетрыстыя І. Тацішвілі і А. Чумбадзе, якія ўваходзілі ў гэтую асоцыяцыю і якія падзялялі такім чынам „мастацкую пляцформу“, аддавалі перавагу таму, каб рэстаўраваць старыя легенды і байкі, чымся пісаць аб новых формах соцыяльнага жыцьця. Але політычнае крэдо і настроі „акадэмікаў“ яскравей за ўсё знайшлі свой адбітак у творчасьці былой групы „Дэмоса“—А. Абашэлі. У Савецкай краіне яго „вочы ўспрымаюць толькі сьвет, што плача“ і „слух—кліч старажытнасьці“. Соцыяльна-індывідуальная прырода поэты, выхаванага на дарэволюцыйных рэгрэсыўных, дробна-буржуазных традыцыях, сказалася нагэтулькі глыбока прасякнутай гэтымі традыцыямі, што ён стаў няздольным об'ектыўна сузіраць абкружаючыя зьявішчы. Паводле погляду Абашэлі толькі ў мінулым маглі ствараццa ўмовы для адраджэньня культуры, а ў сучасны момант:

Атмосфэра стала іншай,  
занялалі малітвы і поэзія,  
памёр цудоўны, стары шаіры,  
а новае акутана ценьню.

Тут зерна, што цяпер іншай стала атмосфэра, што сапраўды мы адвыклі маліцца і што „цудоўны, стары шаіры“ (чатырохсьцішша) так сама пахаваны са старым ладам, але заняпад поэзіі ці цені новага маглі

паказацца поэту Абашэлі толькі таму, што для разуменьня гэгай поэзіі і „новага“ патрабуецца перш за ўсё новы чалавек з новым сьветаўяўленьнем. Уся вялізарная культурна-асьветная дзейнасьць органаў улады, у прыватнасьці, пашырэньне кніжнай сеткі, акадэмічныя выданьні ўсіх літаральна клясыкаў Грузіі, і апублікаваньне старых помнікаў, што маюць якую-кольвек навуковую каштоўнасьць і ўсе іншыя мерапрыемствы, накірованыя да культурнага разьвіцьця народу, для поэты А. Абашэлі застаюцца таксама незаўважанымі.

„Цяпер ужо гром ня друкуецца,
І бык ня рычыць з высокіх гор,
Вершы патоплі ў дробных вестках,
сьпісаных з газэтных слупцоў“.

Пад громам поэт відавочна разумее нікчэмны стон сабе падобных поэтаў. Але гэты верш цікавы тым, што тут аўтар адбіў думку сваёй групы аб „высокім“ назначэньні мастацтва аб ізолёваньні яго ад практычнага жыцьця грамадзтва і падзей дню. Таму зусім натуральна, што А. Абашэлі тут рашуча протэстуе супроць так званай „малой формы літаратуры“, супроць яе злобадзённасьці, і тым самым не разумее сапраўднага прыкладнога значэньня мастацтва і літаратуры ў наш час. А. Абашэлі перажыў свой век, а ад нашага адстаў, але гэта і сам поэт прызнае:

„Я змарыўся ад штомінутнага адступленьня,
Зьяўляючыся ганебным месцам нашага часу,
І баюся вогненных ветраў гудзеньня“.

Ал. Абашэлі, калісьці (1905 год) шчыры рэволюцыянэр, цяпер адышоў ад рэволюцыі, спалохаўся яе вогненных вятроў і гудзеньня фабрычных комінаў.

У „Акадэмічную асоцыяцыю“ пісьменьнікаў уваходзіць і поэт Язэп Грышашвілі, поэта, бязумоўна, таленавіта і папулярны. Грышашвілі да „акадэмікаў“ прышоў па рэйках буржуазнай літаратуры, аднак, з гэтых рэек ён ня сыходзіў. Мотыў яго поэзіі ў мінулым: эротыка, сэксуальнае пачуцьцё, прыгожае жаночае цела, словам: патолёгія каханьня. Пасьля савецізацыі Грузіі Грышашвілі хутка згубіў попыт на старыя мотывы, свае літаратурнае творчасьці. Савецкая грамадзкасьць у барацьбе за ўзмацненьне новае дзяржавы наўрад ці магла-бы скарыстаць гэтыя мотывы, ды і буржуазным прапластоўкам было не да забавы і Грышашвілі „спынуўся як кропка свайго вершу“. Узмацненьне народнае гаспадаркі і пачатак рэконструкцыйнага пэрыоду канчаткова пахавалі ўсякія хімэры аднаўленьня „старых парадкаў“. Буржуазная літаратура, у асобе свайго прадстаўніка Я. Грышашвілі, імкнулася замацаваць у мастацтве помнікі адыходзячага „гібеючага“ сьвету. Ён „уважліва узіраўся ў старыну, пазалочаную сталецьцямі і ўбраную ў дываны“. Грышашвілі ня

мірыцца з тым фактам, што індустрыяльны рытм гораду паглынуў ідылію старога Тыфлісу:

> „*Аккмары* [1]), барацьба, звычаі мясцовыя
> Старажытней старажытнага правіла,
> Вы памерлі ў нашай грузінскай песьні,
> І сум па сабе пакінулі".

Або:

> „Але песьні і шум асядаюць на дахах,
> І жалеза глытае гукі
> Я коміны заводаў і фабрык чую,
> З золкам узамен дудукі" [1]).

Поэт добра зразумеў асноўную сілу, руйнуючую стары сьвет—гэта разьвіцьцё фабрык і заводаў. І калі спачатку Я. Грышашвілі яшчэ наіўна верыў, што „рэчка пацячэ па старому рэчышчу", то цяпер, пераканаўшыся ў няўгрунтаванасьці сваіх ілюзій, сам прызнаўся, што ён як Отэлло бяз Дэздэмоны, жыцьця іншага адсталы вястун".

Адносна іншых членаў „Акадэмічнае асоцыяцыі" няма патрэбы гаварыць. Трэба толькі ўспамянуць, што ў працэсе рэконструкцыі народнае гаспадаркі, маленькая, але здаровая група „акадэмікаў" парвала з азначанай асоцыяцыяй і некаторыя з іх, як, напрыклад, А. Чумбадзэ, набліжаецца да савецкай літаратуры.

3. Левы фронт (Леф) грузінскай літаратуры. Аб'яднаньне „Леф" разьвілося з групы футурыстых. Грузінскі футурызм на арэне літаратурнай дзейнасьці выступіў у 1920 годзе. Выступіў ён громкім паходам супроць старых і існаваўшых пры ім літаратурных форм і плыняў. Карэньні ўзьнікненьня грузінскага футурызму выплывалі з левага крыла дробнай буржуазіі, ня маючай пэўнай соцыяльнай глебы і конкрэтнай ідэолёгічнай концэпцыі. Грузінскі футурызм апіраецца на дэклясаваную частку грузінскай інтэлігенцыі і аж да яго „ператварэньня ў „Леф" ён уяўляў з сябе конкрэтна не „ўсталеную" соцыяльную групу, аднак, ня маючы нічога супольнага з рабочай клясай і з яе ідэолёгіяй. Савецізацыя Грузіі дыфэрэнцыравала соцыяльныя карэньні грузінскага футурызму. На аснове матэрыяльнага астову соцыяльных і культурных адносін, які ўсё зьмяняецца, футурызм ці павінен быў загінуць, або перарадзіцца ў іншую літаратурную форму. Правабуржуазная частка, якая толькі культывавала ідэі італьянскага футурызму школы Марынэці, адышла ад яго. Частка, што засталася, больш выразна вызначылася, як аб'яднаньне, якое стаіць на рэволюцыйных позыцыях. Захапленьне бязьзьместавымі фразамі павінна была ўступіць месца „тэхнолёгіі слова", добраякаснаму літаратурнаму будаўніцтву.

Пераробка грузінскага футурызму на новай аснове пачалася шуканьнем шляхоў прыстасаваньня да савецкага рэжыму. Ідэолёгічны павадыр

---

[1]) Старажытныя арцельныя аб'яднаньні.

[2]) Дуда.

грузінскіх футурыстых Б. Жгенці, яшчэ ў 1923-24 годзе імкнуўся заваяваць сваёй групе права на рэволюцыйную літаратуру. І сапраўды, рэволюцыянізаваньне футурызму пачалося з адмаўленьня ад сваіх ідэолёгічных літаратурных позыцый і грунтоўнай рэвізіі політыка-літаратурнай пляцформы рускага „Лефа“ (пад уплывам якога ў пэўнай меры формаваўся грузінскі футурызм на новым этапе). Пераход грузінскага футурызму на новыя культурна-літаратурныя позыцыі і рэорганізацыя яго ў „Леф“ супаў з аб‘яднаньнем і ўзмацненьнем анты-савецкага блёку ў грузінскай літаратуры. У першы час „Леф“ выявіў надзвычайную нясьмеласьць і бяспрынцыповасьць у барацьбе супроць гэтага блёку; але ў далейшым грузінскі „Леф“ пападае пад непасрэдны ўплыў грузінскай пролетарскай культуры і пасьля органічнага перабудаваньня сваіх шэрагаў умацаваўся на сапраўды рэволюцыйнай глебе. Праўда, хістаньні і „ўхілы“ сярод лефаўцаў, яшчэ ня зусім зжыты, яшчэ ня так даўно здольны пісьменьнік з „Лефу“ С. Чыкавані „баяўся абуджанага народу“ і яму „здавалася, што ён пяе апошні раз і б‘ецца аб хвалі, што вяшчаюць яму пагібель“.

Але падобныя мотывы ўжо не характэрызуюць грузінскі „Леф“ у сучасны пэрыод свайго разьвіцьця. Таленавіты бэлетрысты Дэмна Шэнгелая яшчэ ў працы над старым тэматычным матэрыялам паказаў новыя мэтоды мастацкае творчасьці і трэба спадзявацца, што пераход яго на актуальныя сучасныя тэмы будзе знаменавацца соцыялістычным успрыйманьнем акружаючай рэчаіснасьці.

У такіх, прыблізна, умовах расьце і ўзмацняецца маладая, але магутная асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў Грузіі, і перш чым перайсьці да кароткай характарыстыкі пісьменьнікаў, якія не ўваходзяць у пэўныя аб‘яднаньні, спынюся на гэтай асоцыяцыі.

## II

*Пролетарская літаратура.* Да савецізацыі Грузіі пролетарская літаратура разьвівалася слаба і неорганізавана. Яна яшчэ не ўяўляла з сябе ідэолёгічна аформленай плыні з выразна пэўнымі клясавымі мэтамі. У творчасьці паасобных прадстаўнікоў да савецкай пролетарскай літаратуры, мы часта сустракаем дробна-буржуазна-рэволюцыйныя і дэмократычныя настроі. Паколькі да-савецкую пролетарскую літаратуру толькі ўмоўна можна назваць клясава-пролетарскай. Пасьля савецізацыі Грузіі (1921 г.) літаратура перамогшае клясы ўступіла ў новую, рэальную фазу свайго адраджэньня. Яна шпарка вышла на шлях мэтанакіраванага організаванага разьвіцьця і выпраставала сваю клясавую пляцформу. Першы пэрыод грузінскай пролетарскай літаратуры распрацоўваў галоўным чынам мотывы фабрычна-заводзкае працы. Поэты гэтага кірунку С. Эулі, П. Самсонідзэ, Н. Зомлетэлі і Вакелі і інш., выхадцы з працоўнага асяродзьдзя, перш за ўсё зьвяртаюцца да фабрыкаў і заводаў, як вогнішчаў індустрыялізацыі. Там яны бачаць крыніцы новага жыцьця, раз-

горнутата на колектыўнай працы пролетарыяту, крыніцы, што формуюць клясавую сьвядомасьць рабочых і даюць натхненьне для бязьлітаснай барацьбы супроць клясавага ворага. С. Эулі стварыў цэлую эпопэю аб фабрічным гымне. Яго поэзія глыбока адбівае імкненьне рабочае клясы, закліканае перш за ўсё замацаваць рэволюцыйныя заваёвы. П. Самсонідзэ адбіў пройдзены „вогнены“ шлях барацьбы пролетарыяту і яго бясстрашны рэволюцыйны рух у барацьбе за комуністычнае грамадзтва. Н. Зомлетэлі найбольш пасьлядоўна служыў выяўленьню сапраўды рэволюцыйных ідэй пролетарыяту ў эпоху ўзмацненьня ўлады і рэагаваў на ўсе важнейшыя падзеі бягучага рабочага руху. І. Вакелі больш пашырыў прызму свае творчасьці ў тэматычных адносінах і побач з інтэрнацыяналізмам выражаў мотывы орыгінальнага соцыялістычнага патрыётызму.

Галоўная і выключная роля пісьменьнікаў адзначанага першага пакаленьня заключаецца ў тым, што яны маладую пролетарскую поэзію вывелі з-падпарадкаванага стану і ўгрунтавалі яе на цьвёрдай глебе. Паасобныя бакі рабочага быту і індывідуальна-псыхічныя якасьці памянёнымі пісьменьнікамі ў пачатковым пэрыодзе сваёй літаратурнай дзейнасьці краналіся мала. У гэтых адносінах прымітыўнае поэтычнае натхненьне рабочых Хэчуашвілі, Ш. Наўтлугелі, Г. Шынатэхелі і інш. больш рэльефнае. Зьвяртаючы асаблівую ўвагу на агітацыйна-пропагандыцкае мастацтва, першае пакаленьне пролетарскіх пісьменьнікаў тым самым выканала патрабаваньні таго пэрыоду разьвіцьця грузінскай комуністычнай рэволюцыі, калі яна ўнутры рэспубліканскім дробна-буржуазным абкружэньні больш за ўсё мела патрэбу ў агітацыйнай літаратуры і адпаведнай мастацкай пропагандзе.

Новым (другім) пэрыодам разьвіцьця сучаснай пролетарскай літаратуры можна лічыць 1923-24 год, калі на ніву культурнай дзейнасьці выступіла маладая плеяда камсамольскіх пісьменьнікаў. Аб'яднаўшыся наўкола часопісі „Мамовалі“ („Будучыня“), яна паставіла сваёй задачай не абмяжоўваць пролетарскую поэзію адцягнёным рэволюцыйным романтызмам, а больш глыбей, усебакова выяўляць увесь унутраны сьветапогляд рабочае клясы. Памянёныя пісьменьнікі, якія ўзрасьлі на лепшых літаратурных традыцыях сучаснасьці, цалкам вызначыліся, як прадстаўнікі рабочае клясы, яны ўсьвядомлены, што пролетарыяту мала зруйнаваць стары сьвет, яму патрэбна новая творчая дзейнасьць для дасягненьня конкрэтных, бліжэйшых мэт дыктатуры пролетарыяту. Лепшыя прадстаўнікі гэтага маладога пакаленьня поэтаў: Я. Лісашвілі, К. Бобохідзэ, К. Каладзэ, К. Лордкіпаныдзэ, А. Машавілі, Ф. Нароўшвілі, К. Пэодосішвілі, Е. Палумардвінаў, Рондэлі, Цварава, Асламазішвілі, уяўляюць сабе згуртаваны колектыў перадавога ідэолёгічнага і мастацкага крыла рабочае клясы.

Пераходны пэрыод і рознабаковасьць форм клясавай барацьбы патрабавалі адпаведнай організацыі псыхікі працоўных. У зьвязку з гэтым

рэвалюцыйная моладзь, усьвядоміўшы гэтую неабходнасьць, вывучае і распрацоўвае розныя мэтоды мастацкага вазьдзеяньня на паводзіны рабочага чытача і адпаведнай арганізацыі яго псыхікі. Для гэтага яны імкнуліся ўразумець існуючыя ў грузінскай літаратуры дасягненьні ў галіне формы і рытму і выпрацаваць новую адзіную форму пролетарскай літаратуры, заснаванай на прынцыпе монолітнай еднасьці вобразу і зьместу.

Мотывы актыўнай самадзейнасьці чалавека, які перабудоўвае стары, аджываючы сьвет, асабліва выяўлены таленавітым поэтам А. Машашвілі, на мастацкай інтуіцыі якога глыбока адбіты дух пролетара, які стварае новыя адносіны, але ня адкідвае і каштоўныя дасягненьні старой культуры. Карло Каладзэ ўладае бясспрэчным поэтычным патосам. Добра ўсвоіўшы тэхніку слова, ён сваю поэзію ўзбагаціў і новымі мотывамі. Побач з агульна-чалавецкімі „космополітычнымі“ ідэямі, ён увёў у пролетарскую літаратуру і нацыянальныя моманты, праўда, пераходзячыя часам у стыхійнае імкненьне да старажытнасьці. У апошні час ён многа працуе і ў галіне драматургіі. Е. Палумардвінаў вылучыўся як здольны пролетарскі бэлетрысты. Яго апавяданьні, за малым выключэньнем, прысьвечаны пытаньням культурнай рэволюцыі і перавыхаваньню адсталага сялянскага насельніцтва. Поэта бэлетрысты К. Лордкіпаныдзэ, перамогшы крытычна старую літаратуру і спадчыну, імкнуўся стварыць новыя прынцыпы пролетарскага літаратурнага стылю. Ён галоўную ўвагу зьвяртае пытаньням захаванай клясавай барацьбы ў горадзе і ў вёсцы і распрацоўвае проблему новага чалавека і новай комуністычнай моралі. У галіне пролетарскай прозы працуюць таксама бэлетрыстыя Цварава, Асламазівішвілі і інш. пісьменьнікі, якія маюць выразна акрэсьлены літаратурны матэрыял. Ня кажучы пра паасобных пісьменьнікаў гэтай другой маладой плеяды, трэба адзначыць, што яны ў сваіх творах кранаюць амаль усе бакі грамадзкага і індывідуальнага жыцьця рабочага ды селяніна. Проблемы эстэтычных асалод, адносіны да працоўнай жанчыны, да новай моралі пролетарскай літаратуры, вырашаны ў агульным правільнай залежнасьцю з рабочай ідэолёгіяй.

Усё разьвіцьцё грузінскай пролетарскай літаратуры, побач з сваім унутраным ідэолёгічным ростам і організацыйным узмацненьнем, ёсьць барацьба супроць антысавецкай буржуазнай літаратуры, барацьба за сваю гегемонію ў галіне мастацкай культуры. Калі ў сучасны момант гэтая барацьба закончана аб'яднаньнем навакол пролетарскай літаратуры рэволюцыйнага фронту пісьменьнікаў, які ўяўляе з сябе домінуючую мастацкую сілу, то ў процэсе гэтай барацьбы некаторыя пролетарскія пісьменьнікі часам пападалі пад уплыў антысавецкага блёку і ўхіляліся ад клясавай пролетарскай лініі. Гэты ўплыў выразіўся ў нацыяналістычных тэндэнцыях і ў ідэалізацыі сялянскай вёскі. Пролетарскі поэт К. Каладзэ ў адзін час горка перажываў тую акалічнасьць, што „аддаляецца ад Грузіі стары яе выгляд, старое адценьне“ і, адчуваючы, што

гэтае аддаленьне вечнае, паэт імкнецца „у сваім сэрцы выкапаць магілу для іх“. К. Каладзэ здаецца дзіўным, што цяпер шмат поэтаў змарыліся ад замілаваньня да нацыянальнага мінулага, і ён не бяз некаторай пагарды заяўляе, што „стаіць побач з гэроямі сваёй роднай зямлі“. Шмат чым захапляе пачуцьцё поэта гістарычнае мінулае Грузіі. Але галоўным чынам у найвялікшае захапленьне прыводзяць яго гэроічныя ўчынкі сваіх продкаў, што прынесьлі сябе ў ахвару ідэям свабоды бацькаўшчыны і касьцямі якіх пакрыта ўся тэрыторыя Грузіі.

„Родная зямля. Калі я на цябе наступаю,
Адчуваю, што ламаюцца косьці маіх продкаў“.

Культу старажытнасьці аддаў сваю дань і другі пролетарскі поэт А. Ламашвілі. Ён таксама аднаўляе лёс старой Грузіі, па шмат якіх помніках сучаснасьці і схіляе галаву перад такімі мясцамі

„дзе перарэзаны нэрв
нашых продкаў
і морам праліта кроў“.

Цяжкасьці, зігзагі будаўніцтва соцыялізму паслабілі першапачатковы рэволюцыйны энтузіязм і поэты І. Вакелі. У яго зьявіліся тэндэнцыі ў бок захапленьня бадай што не патрыярхальным вяековым бытам і яго адсталай дробнай гаспадаркай. Ён з асаблівым пачуцьцём у стылі грузінскіх клясыкаў І. Чаўчавадзэ і Р. Эрыставі ўспамінае пра тыя часы, калі ня было яшчэ чыгункі і сялянам трэба было езьдзіць на фургонах і перавозіць соль з Соляні (ля Каспійскага мора) у Грузію.

„Лунная ноч... Блісьціць больнінская дарога,
І чую я сумны голас арабшчыка,
Што едзе ў Соляні па гэтай дарозе“.

Але жыцьцё сучаснага селяніна, паводле перакананьня поэты І. Вакелі, „уяўляе адну муку“ і ў песьні „гучаць гымны роднага суму“.

Так успрыняў пролетарскі поэта рэволюцыйны рытм вёскі, якая абуджаецца. Але было-б несправядліва і па сутнасьці няправільна казаць цяпер аб тым, што ў творчасьці памянёных пролетарскіх поэтаў (К. Каладзэ, А. Машашвілі і В. Вакелі) да апошняга часу маюцца нацыяналістычныя і консэрватыўна-сялянскія мотывы. Грузінская пролетарская літаратурная крытыка сваячасова выкрыла ўсю антысавецкую сутнасьць падобных палітычных памылак у пролетарскіх пісьменьнікаў. У сучасны момант (1930 год) амаль цалкам зжыты ўсе гэтыя памылкі і адступленьні ад клясавых позыцый. Выпраставана ў асноўным палітычная лінія. Але ўсё гэта ня значыць, што сучасная марксыцкая літаратурная крытыка не павінна напомніць аб іх і не папераджаць маладых савецкіх пісьменьнікаў, ад паўтарэньня падобных памылак.

Хутка пасьля савецізацыі Грузіі на позыцыі асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў перашоў вядомы поэта Г. Кучышвілі, выхаваны ў рабочым асяродзьдзі і які адыграў буйную ролю ў процэсе зараджэньня і разь-

віцьця і папулярызацыі рабочай літаратуры. С. Эртацміндэлі, які піша галоўным чынам з жыцьця рэвалюцыйнай інтэлігенцыі і г. д.

У пэрыод рэканструкцыі прамысловасьці і колектывізацыі сельскае гаспадаркі грузінская пролетарская літаратура, выконваючы важнейшыя політычныя функцыі дзяржавы, распрацоўвае спэцыяльныя тэмы соцыялістычнага будаўніцтва і імкнецца пашырыць свой уплыў на шырокія масы рабочых і сялян.

### III

1. *„Папуччыкі“* грузінскай савецкай літаратуры. Яны ўяўляюць тую частку пісьменьнікаў, якая ў сучасны момант цалкам садзейнічае справе пролетарскага будаўніцтва і разьвіцьцю рэволюцыйнай культуры. Яна, гэтая частка, да савецкай улады прышла не адразу, а толькі ў выніку пэўных хістаньняў з жыцьця зьменавехаўскага лібэралізму і „нэўтральных“ тэндэнцый. Сярод сучасных грузінскіх папуччыкаў найбольш сталым можна лічыць Л. Каічэлі, Д. Суліашвілі, А. Чанжвіашвілі, Р. Лордкіпанидзэ, Л. Метрэвелі, В. Георгадзэ, Мосашвілі, Купрашвілі і інш. пісьменьнікаў, якія ў апошні час па характару проблем, што імі распрацоўваюцца, і ідэолёгічных установак вырашэньня гэтых проблем, бесспрэчна ўзмацняюць соцыялістычны фронт грузінскай мастацкай літаратуры.

Бэлетрысты Л. Каічэлі задаўся мэтаю прасачыць у сваіх романах паасобныя пэрыоды гісторыі рэволюцыйнага руху ў Грузіі з 1905 году. Першы яго роман „Тарыел Голуа“ ўяўляе спробу мастацкага аналізу рэволюцыйных падзей 1905 г. У другім романе „Кроў“ А. Каічэлі дае эпізодычную характэрыстыку нелегальнай барацьбы грузінскіх с-д. організацый (бальшавікоў і меншавікоў) за пэрыод пасьля 1905 году да вайны 1917 году. У наступных частках „Крыві“ пісьменьнік, відавочна, пяройдзе да рэволюцыі 1917 г. і 1921 г., бэлетрысты Д. Суліашвілі працуе таксама па пытаньнях першае рэволюцыі. Ён даў шэраг яскравых фактаў барацьбы бальшавікоў у 1905 годзе і нарысаваў жывыя портрэты некаторых соцыялістых, што загінулі за справу рэволюцыі. Поэт і бэлетрысты А. Шаншыашвілі, піша галоўным чынам па пытаньнях распластаваньня вёскі і клясавай барацьбы паміж бяднякамі і кулакамі. Н. Лордкіпанідзэ толькі ў самы апошні час становіцца ў шэрагі папуччыкаў. Яго творчасьць перажыла тры стадыі разьвіцьця. Да 1917 года ён яшчэ зьяўляўся прадстаўніком памеснага стылю грузінскай літаратуры. Затым распрацоўваў соцыяльныя мотывы дробна-буржуазнай дэмократыі, а пасьля савецізацыі Грузіі перайшоў „з трапінак на рэйкі“, г. зн. далучыўся да савецкай літаратуры. Ён правільна выяўляе шэраг вельмі характэрных момантаў сялянскага рэволюцыйнага руху пасьля паражэньня рэволюцыі 1905 году. Б. Купрашвілі піша таксама на тэму сялянскай рэволюцыйнай барацьбы. Р. Мэтравелі распрацоўвае праблемы рэволюцыйнай моралі. У апавяданьні „Бальшавік“ ён даў тып трывалага комуністага, які ставіў свой рэволюцыйны абавязак вышэй усякай асабістай прыязьні

і індывідуальных узаемаадносін. Поэты В. Горгадзэ, І. Мосашвілі, прысьвячаючы свае творы пытаньням будаўніцтва і садзейнічаючы ўзмацненьню ідэолёгічнага фронту рабочых, ужо запрацавалі сабе права на рэволюцыйную поэзію.

Папутніцкі фронт грузінскай літаратуры паступова разьвіваецца і ўзмацняецца. У мінулым годзе мы мелі прыліў яшчэ шмат маладых і здольных сіл да гэтага фронту.

Бязумоўна, што ў далейшым яго рост будзе суправаджацца ўзмацненьнем на яго ўплыву пролетарскай літаратуры і марксыцкай мастацкай крытыкі.

2. Паміма памянёных намі вышэй літаратурных аб'яднаньняў і „папуччыкаў" літаратурную дзейнасьць сучаснай Грузіі вядуць таксама пісьменьнікі, ня зьвязаныя організацыйна ні з якім аб'яднаньнем. Аднак ідэолёгічная большасьць іх зусім ясна аб'яднана літаратурным флянгам. А ідэолёгія гэтага флянгу зьяўляецца ідэолёгіяй буржуазнай дэмократыі.

Буйны бэлетрыст Міхаіл Джавахішвілі, які выявіўся яшчэ да рэволюцыі сваімі новэламі, пасьля савецізацыі Грузіі з першага свайго роману вызначыўся, як пісьменьнік буржуазнага асяродзьдзя. М. Джавахішвілі не адкідвае Кастрычнікавай рэволюцыі, але адбівае яе скажона, ня бачучы ў ёй ніякіх станоўчых творчых імпульсаў. Ён сьцьвярджае яўнае нявер'е ў сучаснае і будучае рэволюцыі. На савецкую ўладу Джавахішвілі глядзіць скрозь акуляры нясьмелага, надломленага інтэлігента, нядольнага ні на якую творчую працу. У вёску-ж, паводле яго думкі, рэволюцыя ўнесла поўны распад і зацьвердзіла капітуляцыю беднаты перад кулацтвам. Ён прыхільна і ў прыгожых сваіх фарбах, апісвае адмоўныя зьявішчы соцыялістычнага будаўніцтва, імкнучыся дыскрэдытаваць гэтым уладу рабочых. Другі бэлетрысты, лепшы стылісты Шалва Дадыяні, які ў пачатку свае сьпелае літаратурнае творчасьці, пад уплывам рэволюцыі 1905 году пісаў творы, насычаныя соцыялістычным духам, цяпер адышоў ад пролетарскай рэволюцыі і па сутнасьці ўзмацняе правае крыло грузінскай літаратуры. Поэт Цацкладзэ, які гарадзкую культуру лічыць скажаючай нравы вёскі. Ніно Тарышвілі—ідэалізуе таксама вёску і патрыярхальны сялянскі быт. С. Канчэлі і інш. зьяўляюцца чужымі новыя соцыялістычныя мотывы. Буйнейшы лірык Галакціён Табідзэ, які перайшоў да рэволюцыйнай літаратуры ад буржуазнай поэзіі, спачатку савецізацыі адным з першых стаў у шэрагі папуччыкаў і шчыра аддаваўся комуністычным ідэям. Але ў далейшым часовыя крызісы і зігзагі савецкага будаўніцтва і ўплыў антысавецкага блёку, які ўзмацніўся, адабралі ў яго рэволюцыйны патос і адштырхнулі ад рэволюцыйнага фронту.

У 1928 годзе правы фронт грузінскай літаратуры спрабаваў аб'яднацца ў асоцыяцыю „Арыфіоні", але хутка пасьля выпуску першага зборніку сваіх твораў, пад націскам крытыкі і савецкай грамадзкасьці, ён распаўся і ў сучасны момант члены яго працуюць індывідуальна.

Такім чынам шмат сучасных грузінскіх пісьменьнікаў, якія друкаваліся задоўга да савецізацыі Грузіі і зьяўляліся выказчыкамі ідэй дробнабуржуазнай інтэлігенцыі, працягваюць сваю дзейнасьць на тых-жа ідэолёгічных позыцыях. У сучасны момант гэтая позыцыя падмацоўваецца новай гарадзкой буржуазіяй, на аснове нэпу і кулацтвам на аснове заможна-індывідуальнае сельскае гаспадаркі. Пакуль гэтыя соцыяльныя катэгорыі існуюць і ўяўляюць з сябе пэўную экономічную сілу, то да таго часу буржуазны плян грузінскай літаратуры таксама будзе мець пэўную рэальную значымасьць і адпаведны попыт. Разьвіцьцём цяжкой індустрыяльнай прамысловасьці і разгортваньнем поўнай колектывізацыі вёскі дзяржава вядзе жорсткую барацьбу супроць памянёных экономічных і соцыяльных асноў буржуазнай мастацкай літаратуры. У гэтай барацьбе пролетарская літаратура, і ў асаблівасьці марксыцкая рэволюцыйная крытыка, якія зьяўляюцца выказчыкамі пануючых ідэй пануючае клясы, павінны служыць спэцыфічнай формай і адпаведным мэтодам клясавай барацьбы за канчатковае ўзмацненьне і забесьпячэньне сваёй гегемоніі.

---

## КНІГАПІС

**Сымон Хурсік. „Шляхамі навальніц“** *Апавяданьні. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск. 1930 г. Старонак 171. Цана 1 руб.*

Зборнік твораў Сымона Хурсіка— „Шляхамі навальніц“ складаюць сем апавяданьняў: Зьмітрок“, Барвяныя бляскі“, „Янка“, „З Палесься“, „З Першым мая“, „Зарабіў“, „Пільнікі“ і „Вырвалася“. Усе гэтыя апавяданьні ў тэй ці іншай меры прасякнуты мотывам соцыяльнай барацьбы. Вартасьць іх павялічвае тое, што Сымон Хурсік зьяўляецца даволі значным мастаком. Ён умее ўдала, жыва, сакавіта падаць той ці іншы малюнак, той ці іншы эпізод, паказаць яго, а не расказаць аб ім, у соцыяльна-псыхолёгічным разрэзе. Творы С. Хурсіка зьяўляюцца ў большасьці мастацкімі вобразамі пэўнага соцыяльнага тыпу жыцьцёвае рэчаіснасьці (за некаторымі выключэньнямі, аб якіх будзем казаць).

Хурсік—рэалісты. Але яго рэалізм падфарбован натуралізмам. Ён натуралізуе клясава тыповыя рысы рэчаіснасьці і гэтым надае творам толькі больш эмоцыяльнай насычанасьці. Хурсік ухіляецца пасыўнага мэтафізычнага натуралізму, хоць, праўда, мясьцінамі і ён заўважаецца. Кажучы гэтыя словы, я маю на мэце, бязумоўна, асноўную лінію творчасьці гэтага аўтара, бо ў гэтай творчасьці заўважаецца і шмат вельмі адмоўных зьяў, шмат дэфэктаў ідэёвага і творчага парадку.

У першым апавяданьні „Зьмітрок“ падаецца, менавіта не абрысоўваецца, а падаецца, паказваецца вобраз маладога хлапца—Зьмітрака, якім валодае клясавая, праўда, ім самім добра і не ўсьвядомленая ненавісьць да клясавага ворага працоўных. Ён нават „з бацькам дома не паладзіў“, бо „хіба-ж з ворагам можна ладзіць“? Гэта не чалавек, а кат, жандар якісьці, падлізьнік папоўскі! „Зьмітраку“ здаецца, што ў Чырвонай арміі ён і радзіўся.. Чырвоная армія лепш за родную сям'ю... „Ён пасьля вайны“ да бацькі не пайшоў: „застаўся на млыне працаваць“. Зьмітракова апавяданьне пра сваё жыцьцё, аб здарэньнях з ім, на грамадзянскай вайне, аб сваім няўдалым каханьні, аб барацьбе з бацькам за права свайго „самавызначэньня“ і супярэчнасьцях у архаічным, косным, традыцыйным побыце носіць выключны мастацкі, псыхолёгічна мотывованы характар. Але ўсё-ж вобраз Зьмітрака носіць значныя рысы індывідуальна-анархіцкага бунтарства і апоэтызаваньне яго аўтарам наносіць значную хібу апавяданьню.

Дыялёгі, параўнаньні, мова і яе вобразнасьць стаяць на мастацкай вышыні.

У апавяданьні „Барвяныя бляскі“ пададзены жывыя абразкі грамадзянскае вайны ў беларускай вёсцы, змаганьне сялян з абшарнікамі і грабежніцкай чыннасьці польскіх белых, бандыцкіх зграй легіёнаў, расправы сялян з панамі і г. д. Малюнкі пададзены з выключным майстэрствам мастака. Але ў гэтым творы ёсьць гэткая, праўда, ня маючая значнай ролі, адна абсурднасьць. Аўтар піша:

„Сум падкраўся няпрыкметна, разам з восеньню, разам з тым, як з нямецкага фронту пайшлі кудысьці

на Расію рускія дывізіі, як пайшлі чуткі, што Керанскі праваліўся, а ўладу захапілі бальшавікі. Адбіраюць фабрыкі, заводы, панскія двары. Гэтыя чуткі маглі прайсьці, вядома, толькі адразу пасьля Кастрычніка 1917 г.

А што мы чытаем у тэксьце апавяданьня сьледам за цытаванымі ўжо намі словамі:

„Заможныя людзі выяжджаюць замежы. Пан Заворскі ў нерашучасьці. Яму сказаў камандзір польскага легіёну, пан Левандорскі, што тут, на Меншчыне, бальшавікоў ва ўсякім разе ня будзе“. І далей ў апавяданьні малюецца расправа польскіх легіёнаў з сялянамі, якія ўздумалі дзяліць панскую маемасьць. Як бачым, тут нейкая няўвязка, ці недарэчнасьць. Выходзіць, што на Меншчыне толькі тады пашлі чуткі, „што Керанскі праваліўся, а ўладу захапілі бальшавікі,“ што „адбіраюць фабрыкі, заводы, панскія двары“, калі ўжо яна (Меншчына, а значыць і наогул Беларусь) была пад польскай акупацыяй, альбо, лёгічна мысьлячы, інакш быццам Беларусь у часы Кастрычніка была пад уладай Польшчы, якой, дарэчы, у той час і ня існавала, як політычна-самастойнай дзяржавы. Бачыце, які кур'ёз, магчымы ў выніку аўтарскае нядбайнасьці да тэксту, або наогул па недагледжанасьці.

Тэматычна з апавяданьнем „Барвяныя бляскі“ мае кантакт апавяданьне „З Першым мая“. Тут малюнкі вёскі ў часы польскае акупацыі, калі ўсё маладое і здаровае вымушана было хавацца з жывёлай па лясох і забойства вахмістара хлапцамі пры ратаваньні свайго сябра занялі дарослых з усяе вёскі ў кучу, „а полымя шугала з хаты на хату, растрасала стрэхі саламяныя, гуло, залівалася ўтрапёным сьмехам дзікім“ і ў гэтым полымі згаралі дзеці ўсяе вёскі. „Ня гледзячы на некаторую схэматычнасьць канцоўкі гэтага апавяданьня, яно робіць надзвычайна моцнае ўражаньне. На гэтых двух апошніх апавяданьнях адчуваецца ўплыў романтыкі, характэрнай наогул для тэматыкі з грамадзянскае вайны.

Апавяданьні „Янка з Падлесься“ і „Зарабіў“ ужо паказваюць соцыяльны твар пасьля кастрычнікавае вёскі, вёскі пэрыяду нэпу, клясавую барацьбу розных соцыяльных прапластаваньняў гэтай вёскі і г. д.

Кулак помсьціцца падпалам на бедняку Янку, ня гледзячы і на тое, што апошні зрабіў раней яму вялікую паслугу, выратаваўшы ў часы грамадзянскай вайны яго сына ад сьмерці, пасьля чаго кляўся, што „пакуль і жыў буду—ты будзеш мой найлепшы сябра... як выздаравею—чым толькі змагу, адплачу... і вось—адплаціў..“ падпалам („Янка з Падлесься“).

У апавяданьні „Зарабіў“, зноў на фоне клясава соцыяльных супярэчнасьцяй з-за ўрэзваньня кулака, апошні пралазіць кіраўніком вясковага коопэратыву з мэтай „зарабіць“ і ў выніку сваіх шкурніцка-рвацкіх інтарэсаў разбазарвае значную суму, якую прыходзіцца сплаціць пайшчыкам.

Чамусьці ў гэтым апавяданьні аўтар усё-ж слаба завастрыў увагу на соцыяльным твары гэтага кулака, клясавай існасьці яго дзейнасьці, наогул падышоў да яго з слабым соцыяльна-клясавым крытэрыям. У выніку, у канцы апавяданьні ён выводзіцца як-бы пакрыўджаным і аўтар спачувае яму.

Да гэтага яшчэ і кулацкага сына аўтар падаў даволі дадатным і паказаў нават амаль што „сябрам“ беднаты, чалавекам „правільным“, які ўпікае бацьку ў тым, што ён не па „чалавечаму“ робіць усё гэта і што „прычым тут людзі? Трэба быць самому чалавекам.“

Тут аўтар, бясспрэчна, зрабіў вялікую памылку, бо, ня кажучы аб адзінках, гэты „вобраз“ кулацкага сына ня тыпавы і паказ яго Хурсікам у гэтым апавяданьні зьяўляецца

об'ектыўна карысным толькі кулаку. Ужо адно гэта робіць гэты твор політычна-шкодным і об'ектыўна-варожым пролетарыяту.

Гэта апавяданьне зьяўляецца горшым ва ўсім зборніку, зьяўляецца пэўным ідэйным правалам. Праца, жыцьцёвы побыт рабочых пільнікаў, працуючых у прыватных пільнях паказаны даволі ўдала ў апавяданьні „Пільнікі“. Немотываваным у гэтым апавяданьні зьяўляецца падпал пільні, помсьцячыся, адным рабочым, які пацярпеў ад яе гаспадара. І хоць аўтар у канцы апавяданьня вуснамі аднаго рабочага і кажа, што гэты падпал „пакараў дзяржаву“, бо на Лейкіндаў (гасп. пільні *У. С.*) ёсьць законны суд... А вось такая самачынная расправа, як сёньня, яна найчасьцей ад усяго бывае толькі злачынствам!..“ і што „час ужо прыкончыць з гэтаю цемнатою“, але-ж гэта думка, ці ідэя не выцякае з усяго папярэдняга разгортваньня дзей, ходам якое і трэба было вызначыць сапраўдны шлях барацьбы з прыватнымі гаспадарчыкамі і эксплёатацыяй. Ад гэтага твор набыў-бы толькі большую грамадзкую літаратурную вартасьць.

У апошнім апавяданьні—„Вырвалася“ —трактуецца, як моладзь, у прыватнасьці маладая жанчына, вырываецца з абдымкаў старога, закаранелага, патрыярхальна-мяшчанскага побыту на прасторы новага жыцьця, шукае будучыні ў працы, у змаганьні.

Да пэўных хібаў усяго зборніку можна аднесьці, прыкладам, надзел адным і тым-жа імем Зьмітрок галоўных герояў апав. „Зьмітрок“ і „Барвяныя бляскі“, гэтае-ж імя сустракаецца і ў апавяд. „Зарабіў“. Дзе-ні дзе ўжываюцца і русізмы, як—„пращчай“—заместа—бывай. Сустракаюцца і зрусіфікаваныя звароты, як „дальш“ замест „далей“. Але ўсе гэтыя нязначныя дэфэкты затушоўваюцца агульнай вобразнасьцю і прыгожасьцю мовы, значнымі мастацкімі сродкамі, якія сьведчаць аб вялікіх творчых магчымасьцях Хурсіка. Праўда, апавяданьні рэцэнзуемага зборніку на сёньняшні дзень ужо згубілі значна ў сваёй актуальнасьці, бо сёньня ў вёсцы асяродкавай проблемай, адлюстроўваньню і трактоўцы якой у мастацкай літаратуры належыць першае месца, зьяўляецца проблема колектывізацыі. Пагэтаму Хурсіку і неабходна неадкладна аддаць пэўную творчую дань гэтай проблеме. У гэтым прадумовы далейшага творчага росту аўтара.

**Уладзімер Сядура.**

**М. Лынькоў. „Гой“.** *Апавяданьні. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск 1929 г. Старонак 71. Цана 30 кап. Сэрыя—„Мастацкае слова масам“.*

Зборнік апавяданьняў -- „Гой“ М. Лынькова мае тры лепшыя апавяданьні гэтага аўтара: „Гой“, „Гома“, „Беня-балагол“. Усе тры гэтыя апавяданьні малююць жыцьцё беларускага мястэчка з яго старым і традыцыйна - архаічным, аджываючым бытам і зараджэньне ў ім новага жыцьця, якое прынесла пролетарская рэволюцыя.

У апавяданьні „Гой“ М. Лынькоў малюе мястэчка, якое носіць у сабе глыбокія карэньні нацыянальнай няроўнасьці і вартасьці, як спачатку дарэволюцыйных грамадзкіх адносін і рашучае выкарчоўваньне гэтых карэньняў новым укладам жыцьця.

Тут перад намі выступае яскравы малюнак тэй нацыянальнай варожасьці, якое насадзіла старое жыцьцё між яўрэямі і „гоямі“ (не яўрэямі).

Гэта апавяданьне мае значную вартасьць у справе прывіўкі чытачу інтэрнацыянальнасьці.

На фоне грамадзянскай вайны падаецца жыцьцё мястэчка. Малады камандзір Міхась кахае яўрэйку Рыву—дачку беднага шаўца. Але гэта каханьне атрымоўвае адпор з боку бацькоў Рывы, бо нацыянальныя традыцыі выклікаюць у іх да „гоя“ варожасьць. І толькі справай, пра-

цай, усімі сіламі, якія Міхась аддае на карысьць палепшаньня жыцьця яўрэйскай беднаты мястэчка, апошняму ўдаецца заваяваць сымпатыю бацькоў Рывы і зрушыць сьцяну нацыянальнай варожасьці. Міхась жэніцца з Рывай. І калі запытаюць старога Мотэля (бацька Рывы — *У. С.*)

— А як жыве Рыва, зяць?

адказвае:

— О! Мой зяць...— за шчасьце-б кожнаму мець чалавека такога".

Але асноўнай хібай гэтага апавяданьня зьяўляецца тое, што аўтар аддаў усю ўвагу трактоўцы нацыянальнага пытаньня і зусім не закрануў пытаньня соцыяльнага, вынікам чаго зусім адсутнічае клясавая дыфэрэнцыяцыя мястэчка, якое ў гэтым апавяданьні выступае як-б суцэльным, адзіным без якіх-бы то ні было клясава-сацыяльных супярэчнасьцяй. Клясавага аналізу насельніцтва мястэчка Лынькоў ня даў і гэтым замазаў клясавую барацьбу. Вось чаму і трактоўка нацыянальнай проблемы ня мае тое значнасьці і вартасьці, бо гэта проблема разьвязваецца абасоблена ад іншых пытаньняў местачковае рэчаіснасьці. Да ўсяго гэтага робіць адмоўнае ўражэньне залішняя сьлязьлівасьць і да некаторай ступені ідылічнасьць разгортваньня падзей.

Але ўсё-ж вартасьць апав. значная. Другое апавяданьне — „Гома"— малюе ўжо няўдачу аднаго каханьня беднага студэнта з дачкою гандляра на глебе соцыяльна-эканомічнай няроўнасьці. Быт, псыхоідэолёгія ўзятага асяродзьдзя замаляваны вельмі калярова.

Апошняе апавяданьне — „Беня балагол" малюе ў соцыяльна-псыхолёгічным разрэзе тып местачковага старога, аджываючага балагола.

М. Лынькоў уладае больш-менш значнымі мастацкімі сродкамі. Дзякуючы яго асабліваму ўменьню концэнтраваць увагу не на рэчах, а на людзях, псыхолёгічна выразна паказваць тыпы, як продукт пэўных соцыяльна - клясавых адносін, хоць часамі ў гэтым аспэкце ў аўтара бывае значны правал („Гой") дзякуючы лёгкасьці ўспрыйманьня і, галоўным чынам, дзякуючы актуальнасьці нашай сапраўднасьці, творы М. Лынькова чытаюцца з зацікаўленасьцю.

На творчасьці М. Лынькова ляжыць даволі значная плёнка сантымэнтальнасьці, якая часам даходзіць да саладкаватага, сьлязьлівенькага лібэралізму, пазаклясавага аб'ектывізму ў абмалёўцы некаторых герояў. Гэта ўсё і дае часам значныя правалы і прыводзіць ў канечным выпадку да стушоўваньня клясавых супярэчнасьцяй — гэтай характэрнай адзнакі буржуазнай ідэолёгіі. Таму М. Лынькову, як мага, неабходна гэтых недахопаў пазбаўляцца.

**Уладзімер Сядура.**

**Ів. Шпілеўскі. Братва.** *Запіскі матроса. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1930 г. Тыраж 3000 экз. 110 стар. Цана 55 кап.*

Запіскі т. Шпілеўскага пачынаюцца з 1912 году, ад паступленьня яго на вайсковую службу ў флёт. Спачатку ў іх кораценька расказана пра цяжкае матроскае жыцьцё за царскім рэжымам і пра першыя гады вайны, а пасьля дадзен цэлы шэраг эпізодаў з эпохі лютаўскай і кастрычнікавай рэволюцыі і грамадзянскае вайны.

Мы ня знойдзем у гэтых запісках імкненьня аўтара характарызаваць і ацаніць эпоху на падставе абагуленьня шырокіх назіраньняў. Адзінае, што аўтар падкрэсьлівае ў сваіх запісках, гэта роля матросаў ў рэволюцыйнай барацьбе.

„Дзе толькі ня было за часы рэволюцыі матроскай шапкі з стужкамі ззаду?" — кажа аўтар — „Матроскія атрады былі ва ўсіх канцох Расіі. Усюды яны прыходзілі на дапамогу прыгнечаным і прыносілі страх і сьмерць ворагу рабочых і сялян".—

. . . . . . . . . . . . . . . . .

„Каб рабіць дасьледы, дык косьці матросаў можна было-б знайсьці па

ўсіх палёх, гарадох, мястэчках і вёсках і ў Крыме, на Волзе і Доне, і ў Сібіры, і на Украіне, і на Беларусі." (Стар. 109—110).

Аўтар браў чынны ўдзел у кастрычнікавай рэволюцыі і грамадзянскай вайне, і расказаў у гэтай кніжцы шэраг цікавых эпізодаў, удзельнікам якіх яму самому давялося быць. Так ён расказвае пра-кастрычнікаўскія дні ў Ленінградзе і Маскве, расказвае, як іхны атрад даганяў бранявік Керанскага, што ўцякаў быў з-пад Гатчыны, як ён быў на Украіне, разбройваў юнкероў у Чугуеве, выводзіў з Гельсінфорсу караблі, каб яны не дасталіся белагвардзейцам, ваяваў пасьля супроць генэрала Юдзеніча пад Ленінградам і з бандытамі на Волзе ў 1921 годзе і г. д.

Усё гэта расказана вельмі проста, але з пэўным патосам, жвавым і мажорным тонам і чытаецца з цікавасьцю. Да-рэчы, кніжкі з гэтак званай мэмуарнай літаратуры ў нас наогул налічваюцца адзінкамі, а пра грамадзянскую вайну да зьяўленьня гэтых запісак іх, здаецца, і зусім ня было. Шкада толькі, што яны, часам, носяць залішне протокольны характар, як, напрыклад, у разьдзеле „Наступленьне Юдзеніча" ды некаторых іншых.

Кніжка „аздоблена" страшэнна халтурнай вокладкай М. Гусева. Наогул мастацкаму аддзелу БДВ трэба ўсё-ж больш сур'ёзна і ўважліва наглядаць за тым, якімі „мастацкімі" пэрламі аздабляецца беларуская мастацкая літаратура.

**А. Лясны.**

**Мастацкае слова масам. Тодар Гладкоў. „Галаваногі чалавек".** *Апавяданьні. Пераклаў з расійскай мовы А. Гурло. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск. 1930 г. Тыраж 3000 экз. Цана 35 кап.*

У кніжцы: караценькія інформацыйныя нататкі пра аўтара і два апавяданьні — „Галаваногі чалавек" і „Беззаганны чорт". Гэтыя апавяданьні Тодара Гладкова, вядомага расійскага пролетарскага пісьменьніка, аўтара славутага „Цэмэнта", зьяўляецца нібы варыянтам аднае тэмы. Яны даюць нам портрэт адмоўных тыпаў нашай рэчаіснасьці, звонку нібы-та зусім савецкіх людзей, а на справе асоб, якія сформаваліся цалкам ва ўмовах старога ладу. Цяпер яны ўсімі шчупальцамі сваімі прысасваюцца да савецкага апарату, да партыі з мэтай задаволіць свае шкурніцкія імкненьні. І шмат іх ёсьць яшчэ ў нашым жыцьці.

„... такія тыпы—усюды: няма ні аднэй, нават маленькай організацыі, дзе-б гэтыя Соскі ня віселі над нашымі галовамі..."

Відаць, па недасканальнасьці нашага жыцьця, ёсьць такія ўмовы, якія ствараюць гэтых людзей-калек (ст. 10),—кажа аўтар, пра пэрсонажа апавяданьня „Беззаганны чорт". Соску, які ў царскі час быў службітам у гімназіі, а цяпер пралез у члены РКК. Але дробна-буржуазнае асяродзьдзе, у якім гэты чалавек сформаваўся, яго канчаткова скалечыла. Ён ня можа быць актыўным карысным працаўніком у грамадзе. Замест працы ён толькі тое і робіць, што, прыкрываючыся аўторытэтам партыйнага працаўніка, назаляе ўсім пропаведзьдзю аскетызму, за якою хаваецца ў ім агідны распусьнік.

Герой апавяданьня „Галаваногі чалавек", т. Кавалёў зусім закончаны і выразны тып кар'ерыстага, якіх таксама нямала прымазваецца да партыі і да савецкага будаўніцтва. Трэба адзначыць, што Кавалёў выяўлен у Гладкова значна лепш, чымся Соска. Характарыстыка апошняга дадзена протакольна і досыць суха, а „Галаваногі молюск" Кавалёў паказан ва ўвесь свой рост, паказан у дзеяньні, дзякуючы чаму аўтар вельмі пераканальна паказаў усю шкодніцкую існасьць гэтага лоўкага праныры авантурыстага.

Як вядома гэтае апавяданьне ў сцэнічнай апрацоўцы ўвайшло ў рэпэртуар Маскоўскага тэатру „Сэмпэрантэ".

Пераклад гэтых апавяданьняў Гладкова на беларускую мову, бязумоўна, прынясе нашай літаратуры не малую карысьць. Па-першае, яны належаць да мала пашыранага ў нас жанру мастацкага тыпізаванага портрэту і слаба разьвітай тэматыкі рабочага жыцьця, а па-другое таму, што яны зьяўляюцца ў сучасны момант вельмі актуальнымі. Яны дапамогуць масаваму рабочаму чытачу выкрываць шкоднікаў тыпу Гладкоўскіх „Галаваногіх молюскаў“, і навучаць няпрымірыма змагацца з імі.

**А. Лясны.**

**Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны. Улажыў М. В. Шатэрнік.** Пад рэдакцыяй **М. Я. Байкова** і **В. І. Эпімаха-Шыпілы.** *Менск — 1929. Выданьне Беларускай Акадэміі Навук. Стар. VI+317.*

Слоўнікавая камісія Беларускай Акадэміі Навук (б. Інстытуту Бел. культуры), ад якой ўжо даўно чакаюць выданьня поўнага слоўніка жывой беларускай мовы, ухваліла пакуль-што выпускаць у сьвет краёвыя слоўнікі паасобных часьцін Беларусі, якія увойдуць, у далейшым, у агульную слоўную скарбніцу. Сьледам за Віцебскім краёвым слоўнікам, укладзеным М. І. Касьпяровічам на падставе матар'ялаў, сабраных Віцебскім акруговым таварыствам і надрукаваным пад кіраўніцтвам успамянёнай камісіі ў 1927 годзе, пад рэдакцыяй тэй-жа камісіі, вышаў у 1929 г. зазначаны ў загалоўку рэцэнзіі слоўнік М. В. Шатэрніка, бясспрэчна, шмат у якіх адносінах лепшы ад слоўніка Касьпяровіча, пазбаўлены ў большасьці выпадкаў недахопаў Віцебскага краёвага слоўніка (аб галоўных недахопах слоўніка Касьпяровіча гл. рэцэнзію І. К(узьміна) у II томе запісак аддзелу гуманітарных навук. Працы клясы філёлёгіі, 1930).

У параўнаньні са слоўнікам Віцебшчыны слоўнік Шатэрніка на першы погляд нібы страчвае ў тым, што ён не ахапляе такога вялізарнага раёну; тэрыторыя, ахопленая ім, нават не адпавядае цалкам яго назьве; адбіліся ў ім галоўным чынам раёны Пухавіцкі, Сьмілавіцкі і частка Шацкага, фактычна-ж „Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны“ тав. Шатэрніка датычыцца амаль што выключна вёскі Старына, што ён і сам зазначае ў сваёй прадмове. Зацікавіўшыся пытаньнем аб тым, які процант слоў у даным слоўніку прыходзіцца на вёску Старыну, мы зрабілі падлік у розных частках кніжкі (на стар. 1—10, 101—110, 201—210 і 301—310), і вось выявілася, што на 1074 слова на гэтых сарака старонках мы маем 955 слоў з нататкай „в. Старына“; гэткім чынам з зазначанай вёскі (якая зьяўляецца бацькаўшчынай аўтара) паходзіць амаль што 9%, і дакладней можа было-б назваць даны слоўнік ня слоўнікам Чэрвеншчыны, а слоўнікам вёскі Старына. Аднак, і такі слоўнік з аднае вёскі можа мець сваю цікавасьць, паказваючы аб'ём ведаў, тэхнікі, сьветапагляд яе насельніцтва, падобна да таго, як пэўную каштоўнасьць можа мець фольклёрны зборнік запісаны нават ад аднэй асобы (пар. напр. беларускія народныя песьні, запісаныя М. Гарэцкім і А. Ягоравым ад мацеры М. Гарэцкага), але, бясспрэчна, выігрываючы ў якасьці або, як кажа рэдакцыя слоўніку, у сваёй суцэльнасьці і адналітнасьці, з колькаснага боку такі слоўнік страчвае.

Па нашаму прыблізнаму падліку ў слоўніку зьмешчана каля 8 з паловай тысяч слоў, але ў слоўным запасе ахопленых тав. Шатэрнікам мясцовасьцяй слоў будзе значна больш, бо ня ўсе словы ён унёс у свой слоўнік. Характар слоўніка ня зусім вытрыманы; мы так і не маглі даведацца, ці аўтар меў на мэце даць слоўнік лексычных дыялектызмаў, ці ён хацеў ахапіць ім увесь слоўны запас.

Так у слоўніку, з аднаго боку, адсутнічаюць такія агульна-вядомыя

словы, як *вада, нага, сьмерць, сьмяяцца,* але, з другога боку, знаходзім у ім словы *рука, хлеб, стол,* далей такія звычайныя словы як *біць, даць,* пад якімі часьцей няма якоганебудзь нязвычайнага сэнсу, якоганебудзь новага іх ужываньня. Бязумоўна, значна лепш было-б, калі-б аўтар даў поўны агляд слоўнага запасу дасьледваных мясцовасьцяй у сваім слоўніку.

Другім недахопам агульнага характару ў слоўніку Шатэрніка зьяўляецца адсутнасьць клясавага разрэзу; у мясцовасьцях, ахопленых слоўнікам, бясспрэчна клясавы склад вясковага насельніцтва ня можа быць аднастайным; побач з бядняцка-сялянскімі элемэнтамі ёсьць там і кулацкія, шляхоцкія, якія адрозьніваюцца звычайна і асаблівасьцямі сваіх гаворак, — гэтага, аднак, аўтар не паказаў. Так, напрыклад, пад словам *ё, ёсьць* і г. д. знаходзім далей і слова *ест*, але, відавочна, у даных раёнах, як і ў іншых мясцовасьцях Беларусі, апошняя форма адзначае шляхоцкія гаворкі. Таксама здаецца нам, што і *а* ў сэнсе злучніка „і" (гл. 1 стар.) аўтар чуў у шляхоцкай гаворцы. Цікава таксама было даведацца, ад каго тав. Шатэрнік чуў слова *цёнгля*. Аднак, даны недахоп нельга лічыць вялікай вінойаўтара, бо слоўнікавая камісія самой Беларускай Акадэміі толькі ў апошнія часы пачала зьвяртаць больш сур'ёзную ўвагу на клясавую дыфэрэнцыяцыю сялянскіх гаворак.

Далей трапляюцца ў слоўніку і ня зусім дакладныя пераклады слоў. Напрыклад слова *адбой* лепш было перакласьці „клеймо на дровах", а не „клеймо для дров". Ці правільна перакладзена слова *зяхаць* („еле дышать, жить")? А асноўны сэнс гэтага дзеяслова будзе іменна „раскрывать рот", або як пераклалі ў сваім „Беларуска-расійскім слоўніку" Байкоў і Некрашэвіч—„дышать открытым ртом". Ня зусім поўным зьяўляецца пераклад слова *зьмінтрэжыць,—цца*; у Дукарцы мы чулі гэта слова ў сэнсе „парушыць разбурыць" (наша хеўра зьмінтрэжылася). Пад словам *палосіна* знаходзім пераклад „одно лыко", але як, відаць нават і з прыкладу „вот доўгая палосіна...", данае слова мае наогул сэнс палоскі ня толькі ў адносінах да лыка.

Можна было-б прывесьці і іншыя прыклады недакладнага перакладу.

Няпоўным зьяўляецца слоўнік Шатэрніка ня толькі таму, што ў ім ня зьмешчаны некаторыя з агульна ўжывальных слоў як *вада, нага*; не ўвайшлі ў яго і некаторыя з больш характэрных слоўных уласьцівасьцяй ахопленага ім раёну, зразумела ні з вёскі Старыны, а з іншых пунктаў, менш вядомых аўтару. Некаторыя з слоў данага раёну можа выпадкова аказаліся прапушчанымі. Так, напр., пад словам *іграць* не паказаны адзін з сэнсаў слова, які, аднак, аўтару быў вядомы, бо яго знаходзім у прыкладах пад словам *ятроўка* (ятроўкі ўсё йграюць дзяліцца).

Невядома, з якой прычыны але не ўвайшлі ў слоўнік і некаторыя з такіх слоў, да якіх часам няпрыхільна адносяцца, як да русыцызму, хоць такі погляд, бясспрэчна, зьяўляецца памылковым і нават шкодным. Калі яшчэ пры ўкладаньні слоўніка норматыўнае мовы могуць быць сумненьні ў адносінах да некаторых бясспрэчных русіцызмаў, дык ва ўсякім разе ў краёвым слоўніку такі адбор нельга рабіць; наадварот, шэраг такіх краёвых слоўнікаў у выніку змогуць давесьці, што тое ці іншае слова, бадай і запазычанае з расійскай (або з якой-небудзь іншай) мовы глыбока ўжо пусьціла карані ў беларускія жывыя гаворкі, ужо перастала быць чужым, стала цалкам сваім словам. Праўда, нельга сказаць, што слоўнік наогул такіх „русіцызмаў" цураецца; ён шмат чым ужо адхіляецца ад слоўнікаў літаратурнай мовы—у ім знай-

дзем і слова *палучаць* (слова ж *атрымаць* зусім няма) ёсьць у слоўніку і слова *канечня*—„пэўна“; у даным прыкладзе толькі няправільна паказана вымаўленьне з *ч*: усюды мы чулі толькі *канешня*), але на паўнату ў адносінах да даданых слоў слоўнік прэтэндаваць ня можа; у ім не знайшлі такіх пашыраных у цэнтральных і ўсходніх беларускіх гаворках слоў, як *дзярэўня, жызьня* (або нават *жыжня*), далей такога ўсюды вядомага слова, як *лошадзь* і г. д. Існуюць гэтыя словы, як вядома нам і ў пунктах, ахопленых слоўнікам. На падставе гэтых нашых уласных назіраньняў мы можам дадаць яшчэ і шэраг іншых слоў прапушчаных у слоўніку Шатэрніка: *Уработ* „обработка“—часьцей кажуць аб зямлі (Роўнапольле), *нырцаць* даць *нурца* (Дукарка), *занездаравець* „захварэць“ (Дукарка), *гібаць* „нешта з цеста рабіць“, „галоўным чынам, мясіць“ (Дукарка), *зборацъ* „перамагчы“ (Турэц) і інш.

Недахопам слоўніка трэба лічыць выдзяленьне ў паасобныя словы вышэйшай ступені параўнаньня: напр., *грубейшы* пры грубы; зусім іншая рэч зьмяшчэньне слова *жыдзейшы* „более жидкий“, бо звычайнай ступені (жыдкі) у данай гаворцы няма.

Нарэшце, трэба адзначыць значную колькасьць друкарскіх памылак; ня ўсе яны нават зьмешчаны ў канцы— у сьпісе заўважаных памылак друку (напр. *солодкій*—на 252 стар., *цібё* зам. цібе на 294 стар., пад словам хвіля і інш.).

Але ня гледзячы на ўсе заўважаныя недахопы і памылкі, краёвы слоўнік Чэрвеншчыны, складзены тав. Шатэрнікам, трэба лічыць каштоўным прыдбаньнем савецкай беларускай культуры. Даючы, з аднаго боку, матар‘ял, які ўвойдзе ў агульны слоўнік беларускай мовы, матар‘ял, які дае ў параўнаньні з надрукаванымі ўжо слоўнікамі шмат новых сакавітых, яскравых слоў, даны слоўнік, з другога боку, дае цалкам правільнае ўяўленьне аб пэўных сялянскіх гаворках цяперашняй Менскай акругі, дае гэткім чынам матар‘ял для вывучэньня беларускіх дыялектаў, што асабліва зьяўляецца важным у даны момант, калі ўсюды такую вялікую ўвагу накіроўваюць на вывучэньне дыялектаў. Тут ня месца дакладна гаварыць аб значэньні дыялектолёгіі: яно ўсім павінна быць вядомым, толькі зазначым, што дакладнае знаёмства з асаблівасьцямі гаворкі, з мэтодамі іх вывучэньня вялікую карысьць прыносіць настаўніку мовы, даючы яму магчымасьць паставіць правільна пытаньне аб суадносінах паміж літаратурным напісаньнем і вымаўленьнем (ортографіяй і ортоэпіяй), даючы яму магчымасьць больш пасьпяхова змагацца з тыповымі памылкамі вучняў данай школы, данай вёскі, гэтым самым хутчэй ліквідаваць няпісьменнасьць.

Мы тут ня будзем на падставе слоўніка Шатэрніка складаць характарыстыку чэрвеньскіх гаворак; такому пытаньню можна было-б прысьвяціць паасобны артыкул; мы толькі на некалькіх узорах пакажам, што гэты слоўнік, у якім прыклады запісаны з захаваньнем асаблівасьцяй мясцовых гаворак, дае аб гэтых гаворках поўнае ўяўленьне. У большасьці выпадкаў гэтыя зьявы цалкам адпавядаюць межам паасобных моўных асаблівасьцяй, праведзеным у нашай „спробе лінгвістычнай географіі Беларусі“. Так, напр., з запісу прыкладаў (самыя словы на першым месцы аўтар передае літаратурным правапісам) можна перaканацца, што гаворкі, якія былі аб‘ектам вывучэньня для тав. Шатэрніка, адзначаюцца наступнымі ўласьцівасьцямі: а) зьмена *а* на *о* перад наступным *ў* (ўцякоў, стоў, казоў), б) сьцягваньне аднолькавых галосных: на брэзкі зам. на абрэзкі (пад слов. абрэзак); в) формы наз. і він. скл. множнага ліку на—э,—*е*: братэ, важке, тры рубле і г. д.; г) скарочаная форма

прыметнікаў: годзян (пад слов. годны); д) форма він. склону адзіночнага ліку жаночага роду прыметнікаў на—*аю*: етакаю-то хвою (пад слов. *аблажыць*; е) формы меснага склону адзіночага ліку прыметнікаў муж. і ніякага роду на—*ом*, без націску—*ум*: на новум месьця; ж) формы першай асобы дзеясловаў тыпу будам (пад слов. аблічыць), пойдам (пад, слов. пілаваць). Знаходзім шэраг цікавых моўных дробязяй: бульма побач з бульба, дромны побач з дробны, ізьзесьці, ізьзеш зам. зьесьці і г. д. У чужых словах зубныя перад *і* зьмякчаюцца: каньдзідат, паліцікант (политик). У чужых словах жан. р. зам. канчаткаў—*ыя*,—*ія* маем—*а*,—*я* (камэда-камэдыя), губэрня.

Даводзіцца толькі закінуць наконт яканьня. Аўтару даных радкоў, разам з проф. Дурнаво, давялося пабываць у некаторых з вёсак, якія ўспамінаюцца ў слоўніку (у Дукарцы, у Роўнапольлі, у Турцы і інш.), і выявілася, што і ў гэтых мясцовасьцях пануе дысыміляцыйнае аканьне і яканьне а ня моцнае, як гэта выходзіць з запісаў Шатэрніка; гэткім чынам, тав. Шатэрнік паўтарыў тую памылку, якую рабілі і раней (аб яе пахаджэньні гл. арт. Дурнаво. Увагі да белар. фонэт. Запіскі аддзелу Гуманітарн. Навук т. II); намёкам на існаваньне ў чэрвенскіх гаворках дысыміляцыйнага яканьня зьяўляецца ў слоўніку напісаньне слова *як* (ненаціскнога) цераз ік: *ік тая вада*.

**П. Бузук.**

# ДА ДВАЦЦАЦІПЯЦІГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ НАРОДНАГА ПОЭТЫ БССР ЯНКІ КУПАЛЫ (Я. Д. ЛУЦЭВІЧА)

28 мая г. г. адбылося 25 год літаратурнай працы Народнага поэты БССР Янкі Купалы. Для ўшанаваньня гэтага Народны Камісарыят Асьветы і Дом Пісьменьніка організавалі ў доме Асьветы ўрачысты вечар прысьвечаны 25-гадоваму юбілею Янкі Купалы.

Заля Дому Асьветы, упрыгожаная чырвонымі палотнішчамі з лёзунгамі і ўрыўкамі з апошніх твораў Янкі Купалы і портрэтамі правадыроў і юбіляра, была перапоўнена. Бурнымі воплескамі быў спатканы юбіляр на сцэне. У прэзыдыум былі запрошаны прадстаўнікі ад партыйных, профсаюзных і пісьменьніцкіх організацый.

З уступным прывітальным словам выступіў Народны Камісар Асьветы тав. Платун. З дакладам аб творчым шляху Янкі Купалы выступіў проф. БДУ М. Піотуховіч.У сваім дакладзе проф. Піотуховіч даў падрабязны аналіз творчасьці Купалы на розных яе этапах.

Ад Савету Народных Камісараў БССР зачытаў прывітаньне тав. Ульянаў. Юбіляра віталі: ад імя Беларускае Акадэміі Навук тав. Ігнатоўскі, ад БелАПП'у—тав. Александровіч, ад яўрэйскай сэкцыі БелАПП'у—тав. Харык, які пасьля прывітаньня прачытаў перакладзены ім на яўрэйскую мову верш Янкі Купалы „Дыктатура працы", ад Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва—тав. Некрашэвіч, ад літаб'яднаньня „Полымя"— т. Нёманскі, ад літаб'яднаньня „Узвышша"—т. Глебка. Народны поэта Якуб Колас прачытаў свой верш, прысьвечаны юбіляру. З вершамі прысьвечанымі юбіляру выступілі яшчэ т. Маракоў і т. Агняцьвет.

У адзнаку 25-гадовага юбілею Янкі Купалы Народны Камісарыят Асьветы БССР устанавіў 2 стыпэндыі імя Янкі Купалы—адну на літаратурным аддзяленьні Пэдфаку БДУ, другую ў Белпэдтэхнікуме. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва— адну стыпэндыю на літаратурным аддзяленьні Пэдфаку БДУ, і Дзяржвыдавецтва РСФСР—2 стыпэндыі ў Маскоўскім Дзяржаўным Унівэрсытэце.

Пасьля ўрачыстай часткі адбыўся концэрт, наладжаны сіламі Музтэхнікуму, Беларускай і Яўрэйскай капель, якія выканалі рад твораў Янкі Купалы, перакладзеных на музыку.

Урачысты вечар быў зазьняты Белдзяржкіно. На імя юбіляра атрымана шмат тэлеграм і прывітаньняў.

НАРОДНАМУ ПОЭЦЕ БССР тав. Я. КУПАЛУ

ПАВАЖАНЫ ЯН ДАМІНІКАВІЧ!

Савет Народных Камісараў БССР шчыра вітае Вас з днём 25-гадовага юбілею Вашай літаратурнай дзейнасьці.

Савет Народных Камісараў з задаваленьнем адзначае Вашы заслугі перад працоўнымі масамі Беларусі. якіх Вы сваімі творамі ў часы панаваньня царызму заклікалі на барацьбу за ўстанаўленьне лепшага жыцьця, за палепшаньне долі працоўнага сялянства. Вашы творы зьявіліся вялікім укладам у скарбніцу беларускай культуры. Рабочая кляса БССР, пад кіраўніцтвам сваёй Комуністычнай партыі, пры дапамозе пролетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкім сялянствам у дні вялікага Кастрычніка 1917 году, скінула векавых прыгнятацеляў-капіталістых і абшарнікаў і ўстанавіла дыктатуру пролетарыяту, вызваліла сялянства ад уціску абшарнікаў, павёўшы яго за сабой па шляху будаўніцтва новага, соцыялістычнага жыцьця.

Пролетарская Кастрычнікавая рэволюцыя вызваліла Беларусь ад нацыянальнага прыгнечаньня, вывела на шлях сапраўднай вольнасьці. Савецкая Беларусь пасьля Кастрычнікавай пролетарскай рэволюцыі стала роўнай сярод роўных—брацкіх савецкіх рэспублік складае непарыўную частку вялікага Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Рабочыя і працоўныя сяляне БССР, выгналі беларускую буржуазію, будуюць новае, нябачанае ва ўсім сьвеце, соцыялістычнае жыцьцё. Гэтая вялікая соцыялістычная будоўля патрабуе многа культурных сіл, патрабуе разьвіцьця новай пролетарскай культуры, якой Вы і надалей можаце аказаць вялікія паслугі.

Савет Народных Камісараў выказвае глыбокую надзею, што Вы, Ян Дамінікавіч, і надалей будзеце ісьці ў ногу з рабочай клясай БССР па яе шляху і сваімі далейшымі творамі, якія будуць вырастаць ужо на новай пролетарскай глебе, будзеце заклікаць шырокія масы працоўных на справу вялікай будоўлі соцыялізму.

Савет Народных Камісараў жадае, каб Вы яшчэ доўгія гады жылі і працавалі над далейшым разьвіцьцём беларускай культуры—пролетарскай па зьмесьце і нацыянальнай па форме.

**Старшыня Савету Народных Камісараў БССР-М. Галадзед.**

Менск, 27 мая 1930 г.

## Народнаму поэце Янку Купалу

ПАВАЖАНЫ ЯН ДАМІНІКАВІЧ!

У дні 25-годзьдзя Вашай творчай літаратурнай працы шчыра вітаю Вас і жадаю Вам доўгагодняй літаратурнай дзейнасьці на карысьць пролетарскай культуры.

Адбіваючы ў сваёй літаратурнай творчасьці дарэволюцыйнага пэрыяду царскі соцыяльны і нацыянальны ўціск на Беларусі і, протэстуючы супроць гэтага панска-буржуазнага прыгнечаньня над працоўнымі масамі,— Вы, Янка Купала, сваімі творамі бязупынна заклікалі працоўныя гушчы Беларусі да пераможнай барацьбы за лепшую будучыню.

Калі ў часы Кастрычнікавай рэволюцыі, працоўныя масы сялянства з пролетарыятам на чале пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі зьнішчылі ўладу буржуазіі і ўтварылі дыктатуру пролетарыяту, і Савецкая Беларусь, стаўшы на шлях соцыялістычнага будаўніцтва, пачала будаваць гэтую лепшую будучыню, Ваша мастацкая творчасьць становіцца сугучнай з гэтай вялікай эпохай.

Яшчэ раз жадаю Вам, дарагі юбіляр, многа год працаваць у далейшым на карысьць нашай соцыялістычнай бацькаўшчыны, і выказваю ўпэўненасьць, што наша пасьпяховае гаспадарчае і культурнае соцыялістычнае будаўніцтва пад кіраўніцтвом пролетарыяту і яго партыі будзе крыніцай натхненьня для Вашай літаратурнай творчасьці ў далейшым, якая ў мастацкай літаратурнай форме дасьць працоўным Беларусі яскравыя прыклады змаганьня і поўнай перамогі за ажыцьцяўленьне соцыялізму.

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **Алесь Хацкевіч**.

29 мая 1930 г. Г. Менск.

## Янку Купалу

Народны Камісарыят Асьветы БССР вітае Вас з 25-годзьдзем літаратурна-мастацкай дзейнасьці.

Ваша творчасьць на працягу 25 год дапамагала працоўнаму сялянству Беларусі ўсьведамляць неабходнасьці пазбавіцца ад бядоты і гора і шукаць шляхоў выйсьця да новай лепшай будучыні.

Гэтае выйсьце працоўнае сялянства знайшло ў Кастрычніку 1917 г., калі яно, на чале з рабочаю клясаю, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі прагнала абшарнікаў і прыступіла да пабудовы соцыялізму.

Вашы песьні вывучае новае маладое пакаленьне ў нашых савецкіх працоўных школах, таму рабочая і працоўная сялянская моладзь і наогул усе працоўныя масы патрабуюць, каб гэтыя песьні былі сугучны інтарэсам рабочае клясы, каб яны служылі будаўніцтву соцыялістычнае культуры.

Выказваючы ўпэўненасьць, што Ваша ліра яшчэ многа год будзе гучэць на карысьць соцыялістычнага будаўніцтва, жадаем посьпехаў у далейшай Вашай творчасьці.

**Народны Камісар Асьветы Платун.**

## Беларуская Акадэмія Навук вітае юбіляра

Беларуская Акадэмія Навук вітае народнага паэту Янку Купалу з 25-гадовым юбілеем яго творчасьці.

Вялікі Кастрычнік стварыў Савецкую Беларусь. Пад кіраўніцтвам нашай Комуністычнай партыі рабочая кляса і сцэмэнтаваныя ёю бядняцка-серадняцкія масы Савецкай Беларусі з вялікім уздымам ідуць па шляху соцыялістычнага будаўніцтва. У штодзённых баёх культурнай рэволюцыі ўзрастае і ўмацняецца наша пролетарская культура, нацыянальная па форме.

Беларуская Акадэмія Навук, пабудованая воляй Савецкай улады, лічыць сваім абавязкам быць актыўнай удзельніцай у культурнай рэволюцыі, у барацьбе за ўмацненьне соцыялізму і пролетарскай культуры як на Беларусі, так і ва ўсім СССР.

Акадэмія ўпэўнена, што акадэмік, народны поэта Янка Купала, яшчэ многа год будзе працаваць на шляхох сваёй творчасьці і разам з усёй рабочай клясай і працоўнымі масамі ўложыць не адну цагліну ў вялікі будынак соцыялізму і пролетарскай культуры

**Прэзыдэнт Акадэміі Навук У. Ігнатоўскі.**

## Прывітаньне Галоўмастацтва

Галоўмастацтва БССР горача вітае Вас з днём 25-гадовай літаратурна-мастацкай дзейнасьці на ніве беларускай літаратуры.

Вялікі Кастрычнік вызваліў працоўныя масы БССР ад соцыяльнага і нацыянальнага ўціску, даўшы поўную мажлівасьць раней прыгнечаным працоўным масам шырока разгарнуць свае творчыя сілы як у галіне гаспадарчага будаўніцтва, гэтак і ўзбагачэньня каштоўнасьцяй свае пролетарскае культуры, нацыянальнае па форме, выкарыстоўваючы з народнае творчасьці і культуры буржуазнай усё тое, што патрэбна ім у іх барацьбе і будаўніцтве. Усё гэта стварыла мажлівасьць Вам надалей служыць гэтым задачам у высокім званьні Народнага поэты.

Галоўмастацтва БССР са ўсёй шчырасьцю жадае Вам посьпехаў на шляху тварэньня поэзіі, якая ўзбуджала-б творчы энтузіязм працоўных мас у вялікай соцыялістычнай будоўлі і звала на ўпартую барацьбу прыгнечаныя яшчэ працоўныя масы Заходняй Беларусі.

**Галоўмастацтва І. Гурскі, Яз. Дыла.**

## Янку Купалу

Рэдакцыя „Савецкай Беларусі“ шчыра вітае народнага поэту Беларусі Янку Купалу з днём яго 25-гадовай літаратурнай дзейнасьці.

Паважаны юбіляр! Ідучы цяжкім „шляхам жыцьця“ ў цёмную ноч царызму, разам з прыгнечаным селянінам-беларусам, ты апяваў на сваёй сумнай „жалейцы“ яго нядолю. Мінула ноч. Сёньня на „раскіданым гнязьдзе“ праклятай „спадчыны“ ты ўзьняў новую песьню пра новую вёску, пра сьветлую будучыню.

Сьпявай-жа, пясьняр, сьмялей і гучней новыя песьні на карысьць соцыялістычнаму будаўніцтву!

Ідзі новым „Шляхам жыцьця“, разам з пролетарыятам да вялікага сусьветнага Кастрычніка.

**Рэдакцыя „Савецкая Беларусь“.**

## Беларуская Асацыяцыя Пролетарскіх Пісьменьнікаў шчыра вітае народнага поэту Беларусі — Янку Купалу ў дзень 25-годзьдзя яго творчае працы

Янка Купала, адбіваючы ў сваёй творчасьці жыцьцё прыгнечанай беларускай вёскі, творчасьці, прасякнутай спачуваньнем да яе бядоты і гора, патрапіў пераключыць гэтае каханьне на вёску новую, калектывізаваную,— у якой будуецца новае жыцьцё. Нацыяналдэмократычнае імгла, якая шмат каму засьцілала вочы, не змагла заслаць ад Янкі Купалы шырокага далягляду соцыялістычнай будучыні працоўных мас Савецкай Беларусі.

Бачачы кругавіды гэтае будучыні нашае працоўнае краіны, Янка Купала сваёю творчасьцю паступова набліжаецца да адзіна-правільнага шляху ў разьвіцьці беларускай літаратуры—пролетарскага шляху.

БелАПП, шчыра вітаючы юбіляра, жадае яму шмат гадоў працы і творчага натхненьня ля адлюстраваньня ў сваіх песьнях таго вялікага будаўніцтва, што праводзіцца працоўнымі Савецкай Беларусі пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыіі.

**Сакратарыят БелАПП‘у.**

## Прывітаньне БДВ

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва шчыра вітае юбіляра з дваццаціпяцігадовай творчай працай у беларускай літаратуры. Мы ўпэўнены ў тым, што яшчэ шмат гадоў будзе гучэць твой голас, дапамагаючы справе соцыялістычнага будаўніцтва і беларускае пролетарскае культуры.

**Белдзяржвыдавецтва.**

## Тов. Янке Купале

ДОРОГОЙ ТОВАРИЩ!

Правление Государственного Издательства поздравляет Вас з двадцатипятилетним юбилеем Вашей творческой работы.

Ваше творчество, проникнутое революционным содержанием, сыграло большую организующую роль в революционной борьбе белорусского крестьянства и несомненно и впредь будет служить строительству социалистической культуры.

Являясь певцом белорусской бедноты, Вы, тов. Янка Купала, заслужено занимаете видное место в советской и мировой революционной литературе.

Отмечая это, Правление Государственного Издательства вместе с тем желает Вам в дальнейшем плодотворной работы.

С своей стороны Госиздат будет способствовать широкому распространению Ваших произведений.

С товарищеским приветом **Зав. Госиздатом Арт. Халатов.**

## Народнаму поэце Рэспублікі Я. Купалу

**„Узвышша“** вітае Вас у дзень 25-гадовага юбілею вашай літаратурнай творчасьці на карысьць працоўных і жадае Вам найвялікшых посьпехаў на далейшым Вашым творчым шляху.

Няхай Ваша поэзія ўздымае энтузіязм працоўных да будаўніцтва соцыялізму!

**Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне „Узвышша“.**

Поздаравляю с днем юбилея от имени Комунистической Академии и секции искусств народов СССР. Лично присоединяю выражение моей симпатии и лучшие пожелания народному поэту Белоруссии.

**Член президиума ЦИК СССР Академик Луначарский.**

Федерация советских писателей РСФСР приветствует Вас и рабочих и крестьян Белоруссии с двацатипятилетним юбилеем художественного творчества их народного поэта.

**Секретариат ФОСП Батрак, Кирилов, Сутырин.**

**Калегія, навуковыя супрацоўнікі і аспіранты інстытуту літаратуры і мовы „РАНІЁН“** вітаюць вас з 25-годзьдзем літаратурнай дзейнасьці. Няхай Ваша мастацкая творчасьць стане зброяй пролетарыяту, магутнай песьняй вызваленай Беларусі.

Подсекция Литературы и Искусства народов СССР Комакадемии приветствует Вас с двацатипятилетием литературной деятельности. Уверена, што Ваше творчество будет орудием бурьбы и строительства трудящихся Белоруссии.

**Ученый секретарь подсекции Али Назим.**

Приветствую с 25-летием творческой работы, проникнутой стремлением к освобождению трудящихся Белоруссии от социальной и национальной неволи. Пусть крепнет Ваша поэзия в гармоническом единстве с социалистическим строительством, пусть слышатся ее звуки на полях Западной Белоруссии.

**Феликс Кон.**

25-летие творчества Янки Купалы—праздник всей пролетарской общественности Советской Белоруссии. Купала—самый крупный предшественник сегодняшнего дня белорусской пролетарской литературы. Его многие строки, прекрасные в своей художественности, пропитанные эмоциональной насыщенностью, звучали призывно и протестующе в царской империи — классовой каторге и национальной темнице. Янка Купала — предтеча нашей пролетарской литературы.

Янка Купала оказался достаточно чутким и достаточно умным, чтобы „сердцем слушать революцию“. Он сумел показать себя советским гражданином и советским поэтом.

В день его юбилея я желаю Янке Купале—певцу обездоленной сермяжно-лаптевой Белоруссии,— чтоб он посвятил свое талантливое перо на службу колхозно-индустрыяльной Советской Белоруссии. Желаю Купале, что-бы в нашем социалистическом строительстве он нашел новые источники вдохновения, новые стимулы поэтического творчества

Товарищеский привет и горячие поздравления нашему народному поэту.

**Председатель секции научных работников БССР академик С. Вольфсон.**

## Ад пролетпісьменьнікаў Зах. вобласьці.

Вітаем Вас з 25-гадовым юбілеем літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці. Выказвае упэўненасьць, што Ваша творчасьць і надалей будзе адбіваць імкненьні бядняцка-серадняцкіх мас Савецкай Беларусі да соцыялістычнага будаўніцтва.

**Сэкратарыят Асацыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў Заходнай вобласьці,**

**Рэдакцыя газэты.**

**З Харкава**

Всеукраінська Спілка Пролетарсько Селянськіх Пісьменників Плуг вітае щиро ювілянта бажае ще довголітньоі праці полі радянськоі літэратури.

**Бюро Плуга Пилипенко, Головко, Панив, Штанглей, Божко, Гжицький.**

**З Харкава**

Інститут Тараса Шевченко щиро вітае шановного ювілянта бажае ще довголитно праці корысти трудящих Білорусі всього світу.

**Президія Академік Багалий, Пиліпенко, Айзенщток.**

**З Харкава**

Мое щире привитання ювілянтові бажаю довгіх славетних днів.

**Петро Панч.**

**З Харкава**

Сердечный привет лучшие пожелания Народному поэту Белоруссии Янке Купале день его литературного юбілея.

**Пролитфронт.**

**З Харкава**

Редакция журналу „Чырвони Шлях" щиро вітае ювілеем народнього поета Білоруської Республікі.

**Редактор Калюжний, Секретарь Костюк.**

**З Ленінграду**

У дзень 25-годзьдзя творчай працы вітаем Вас дарагі юбіляр. Жадаем будучным творчай працы на карысьць беларускага працоўнага люду.

**Белорусская секцыя ЛААП, Правление ЛААП.**

**З Масквы**

Привет дорогому Янке Купале большому художнику основоположнику и певцу поэзии Белоруссии, вдохновителю мас в их победной борьбе живать долго, счастливо.

**Рафальский.**

**З Масквы**

Коллегия, научные сотрудники и аспиранты Института Литературы и языка Ранион приветствуют Вас двадцатипятилетием литературной деятельности. Пусть Ваше художественное творчество станет оружием пролетариата, могучей песьней освобожденной Белоруссии.

**Нусинов.**

**З Масквы**

Собрание национальных писателей в Московском Доме Печати горячо приветствует Вас з двадцатипятилетним юбилеем деятельности являющейся громадным достижением пролетарскай и революционной литературы Советской Белоруссии. Так пусть крепнет Вашим участием литература Октября народов Советского Союза.

**Президиум.**

**З Харкава**

Сердечный привет день юбилея. **Аркадий Любченко.**

## Янка Купала—наш поэт

В те дни, когда трудящиеся БССР отмечают 25-летие литературной и общественной деятельности своего народного поэта Янки Купала, я считаю нужным сказать также несколько слов. На днях мы в вечерней рабочей школе подробно изучили творчество Я. Купалы. И общий вывод, к которому пришли все учащиеся-рабочие, што Янка Купала является действительно народным поэтом, который на протяжении всех истекших 25 лет боролся в передовых шеренгах трудящихся.

Из певца „няволі і нядолі працоўных Беларусі“ Я. Купала после революции стал певцом тех, кто с оружием в руках дабыл себе право на жизнь без помещиков, царей и капиталистов.

Остается только пожелать Я. Купале во второе 25-летие еще больше, чем до сих пор отражать жизнь рабочего класса в своих стихах.

**А. Вольфсон.**
рабочий Бобруйского лесокомбината.

**З Бабруйску**

Шлю палкае прывітаньне Народнаму песьняру Беларусі, жадаю яму яшчэ доўгія гады дапамагаць сваёй высокай мастацкай творчасьцю працоўным масам БССР у іх барацьбе з усімі цяжкасьцямі і перашкодамі на пераможным шляху да соцыялізму.

Ад імя колектыву Беларускага Другога Дзяржаўнага Тэатру.

**Вольскі.**

**Дзяржаўны Яўрэйскі Тэатр Беларусі** перадае братэрскае прывітаньне баяну Беларусі народнаму поэце Янку Купалу, які натхняў сваёй вялікай творчасьцю працоўныя масы Беларусі ў іх рэволюцыйным змаганьні. Нашае пажаданьне—яшчэ доўга і доўга натхняць і дапамагаць працоўным Беларусі ў іх пераможным руху на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

**З Менску**

Дзяржаўны Польскі Вандроўны Тэатр БССР пасылае шчырае прывітаньне народнаму поэце Я. Купалу ў дзень 25-годзьдзя літаратурнай працы.

Радиогазета „Рабочий полдень“ на нацыянальных языках приветствует Вас з двадцатипятилетием плодотворной литературнай деятельности.

**Радно ВЦСПС.**

**Редакция „Литературной Газеты“** горячо приветствует литературные организации и пролетарскую общественность Белоруссии в связи с двадцатипятилетием творческой работы Народнога поэта Янки Купалы.

Пусть крепнет связь между литературами народов СССР.

## Народнаму поэту БССР тав. Янку Купалу.

Усебеларуская Навуковая Мэдычная Асоцыяцыя пры Саюзе Мэдсанпрацы Беларусі горача вітае Вас, Народнага поэту Савецкай Беларусі ў дзень 25-гадовага юбілею Вашай літаратурнай творчасьці. Пясьняр беларускага селяніна, прыгнечанага ў мінулым царызмам, зьмяняецца на нашых вачох у песьняра актыўнае барацьбы за новае соцыялістычнае будаўніцтва вёскі. Шануючы вялікага поэту Савецкае Беларусі, Асоцыяцыя ад імя навуковых працаўнікоў Беларусі жадае Вам далейшага росквіту Вашага таленту на карысьць рабочых і сялян, будуючых соцыялізм.

**Усебеларуская Навуковая Мэдычная Асоцыяцыя.**

27-V-1930 г. Менск.

**З Магілеву**

Янка Купала ў час першай рэволюцыі выдатны змагар шляхам мастацтва за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне працоўных мас Беларусі хутка пасьля Кастрычніка адным з першых яе пісьменьнікаў рашуча парваў з ідэолёгіяй і шляхам нашаніўцаў з шляхам нацыянал-дэмократызму і непасрэдна падыходзіць да позіцыі пролетарыяту, які будуе соцыялізм. Агульны сход працаўнікоў беларускага першага дзяржаўнага тэатру шчыра вітае Народнага поэту БССР у дзень яго юбілею.

**З Горы-Горкі**

Менск, Янку Купалу.

У дзень 25-годзьдзя Вашай літаратурнай грамадзкай дзейнасьці агульны сход навуковых працаўнікоў студэнцтва рабочых служачых Беларускай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі горача вітае Народнага поэту Рэспублікі які змагаецца лепшую будучыню будаўніцтва соцыялізму які заве ў сваіх песьнях усіх працоўных да змаганьня за сусьветны Кастрычнік. Жадаем далейшай працы доўгі час карысьць пролетарскай рэволюцыі.

**Прэзыдыум.**

**З Горы-Горкі**

Менск, Акадэмія Навук, Купалу.

Секцыя Навуковых працаўнікоў Бел. Дзярж. с.-г. Акадэміі горача вітае Вас дарагі Ян Дамінікавіч 25 гадовым юбілеем літаратурнае дзейнасьці. Хай Вашая шчырая песьня падхопленая працоўнымі масамі зьвініць і не замаўкае ніколі.

**Старшыня сэкцыі Лунгерсгауз.**

**З Горы-Горак**

Аршанская Філія БелАПП'у віншуе дарагога Купалу з юбілеем.

**Гаўрук, Аляксееў, Герасімовіч.**

Сход нацыянальных пісьменнікаў у Маскоўскім доме друку горача вітае Вас з 25-гадовым юбілеем дзейнасьці, якая зьяўляецца вялізарным дасягненьнем пролетарскай і рэволюцыйнай літаратуры Савецкай Беларусі.

Няхай узмацняецца вашым удзелам літаратура Кастрычніка народаў Савецкага Саюзу!

**Прэзыдыум.**

## Шматпаважаны Іван Дамінікавіч

Агульны сход студэнтаў Мсьціслаўскага Пэдтэхнікуму і Курсаў прысьвечаны пяцігодзьдзю Мсьціслаўскай Студыі БелАПП вітае Вас з 25-годзьдзем Вашай творчасьці.

Мы будзем помніць і шанаваць імя вялікага народнага беларускага поэты — паэту працоўнай беднаты.

Мы жадаем Вам, шматпаважаны Іван Дамінікавіч, яшчэ доўгіх, доўгіх год жыцьця і творчае працы. Яшчэ раз вітаем незабытнага гусьляра „уладара беларускай песьні" — Янку Купалу.

Паводле даручэньня сходу—**Прэзыдыум.**

Мсьціслаў.

## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* У сувязі з 25-годзьдзем творчай дзейнасьці народнага беларускага поэты Янкі Купалы, прысланы шэраг прывітальных тэлеграм і лістоў поэту.

Загадчык Дзяржаўным Выдавецтвам РСФСР тав. Халатаў у сваім прывітаньні Я. Купала піша:

— Ваша творчасьць, прасякнутая рэволюцыйным зьместам, адыграла вялікую організуючую ролю ў рэволюцыйным змаганьні беларускага сялянства і нясумненна і надалей будзе служыць будаўніцтву соцыялістычнай культуры.

Адзначаючы гэта, Праўленьне Дзяржаўнага Выдавецтва разам з тым жадае вам плённай работы. З свайго боку Дзяржвыдат будзе спрыяць шырокаму распаўсюджваньню вашых твораў.

Старшыня Галоўмастацтва т. Ф. Кон піша:

— Вітаю з 25-годзьдзем творчай працы, прасякнутай імкненьнем да вызваленьня працоўных Беларусі ад соцыяльна-нацыянальнай няволі. Няхай мацнее ваша поэзія ў гармонічнай еднасьці з соцыялістычным будаўніцтвам, няхай чуюцца яго гукі на палёх Заходняй Беларусі.

— Фэдэрацыя Савецкіх пісьменьнікаў РСФСР вітае вас і рабочых і сялян Беларусі з 25-гадовым юбілеем літаратурнай творчасьці іх народнага поэты.

Сэкратарыят Фост—Брык, Кірылаў, Сутырын.

— Вітаю вас з днём юбілею ад імя Комуністычнай Акадэміі і сэкцыі мастацтваў народаў СССР. Асабіста далучаю выражэньне маёй сымпатыі і лепшае пажаданьне народнаму поэце Беларусі.

Член прэзыдыуму ЦВК акадэмік Луначарскі.

Былі таксама прывітаньні: ад сходу нацыянальных пісьменьнікаў (Масква), ад калегіі і навуковых супрацоўнікаў і асьпірантаў інстытуту літаратуры і мовы „Раніён“, ад радыё-газэты „Рабочий полдень на национальных языках“, ад Дзярж. Яўрэйскага тэатру Беларусі, Сэкратарыяту Бел. АПП'у, літзгуртаваньня „Узвышша“ і шмат іншых.

* Друкуецца другая кніжка прозы Янкі Скрыгана пад назваю „Шукае сонца“. Кніжка мае выйсьці ў хуткім часе ў масавым выданьні.

* Вышла з друку поэма Андрэя Александровіча „Цені на сонцы“. Друкуецца яго зборнік вершаў у сэрыі „Мастацкая слова—масам“.— „Устаноўка“ і ў сэрыі „Бібліотэка школьніка“—„Гудкі“.

Зараз Александровіч апрацоўвае для выданьня асобнай кнігай, вершаваны раман „Нараджэньне чалавека“ і працуе над поэмай „Беларусь навыварат“.

* Міхась Чарот працуе над сцэнарыем для Белдзяржкіно „Агні на балоце“.

* Васіль Каваль піша аповесьць „Пасынкі“. Працуе над нарысамі аб калектывізацыі. Вышла з друку кніжка апавяданьняў „Крыніца“.

* Зьмітрок Бядуля піша аповесьць з сучаснага мястэчковага жыцьця пад назвай „Плылі дні“.

* Валеры Маракоў у сучасны момант канчае пісаць і апрацоўвае напісаныя часткі поэмы „Зямля бунтуе“.

* Юлі Таўбін пераклаў на беларускую мову „Выстрел“ А. Безыменскага. Выстрел будзе пастаўлены 15 мая г. г. Беларускім Тэатрам.

* 9 мая ў Доме Пісьменьніка адбыўся вечар чыткі мастацкай літаратуры, дзе выступіла артыстка апавядальніца-дэкляматарша т. Валатова-Сямёнава, якая прыехала ў Менск з Ленінграду.

Тав. Валатова чытала творы пісьменьнікаў: Ляскова, Дастаеўскага, Веры Інбэр, Маякоўскага, Салаўёва, Раманава і інш.

Тав. Валатова-Сямёнава запрошана выступаць у шэрагу менскіх клюбаў і на прадпрыемствах у часе абедзенага перапынку.

Прысутныя на вечары пісьменьнікі і рабочыя выказалі думку аб неабходнасьці стварэньня пры Галоўмастацтве групы апавяданьнікаў-дэкляматараў, якія-б папулярызавалі беларускую пролетарскую літаратуру сярод шырокіх колаў працоўных Беларусі.

* 11 мая ў Менску быў адчынены кніжны базар. Базар меў аддзелы: мастацкі, масавы і дзіцячадашкольнай літаратуры. З 11 па 20-е мая прададзена больш за 20.000 беларускіх кніжак.

* У пляне работы БелАППа ёсьць пункт аб арганізацыі сэкцыі „ачаркістаў“ пры БелАПП‘у.

Неабходнасьць у організацыі гэтай сэкцыі відавочна.

Нарыс у пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва—гэта адна з сапраўдных галін мастацкага слова і пакінуць гэты вучастак без напрамку і кіраўніцтва нельга.

Прапануецца: 1. Організаваць сэкцыю па вывучэньню нарысу. 2. Прыцягнуць да яе організацыі габінэт журналістыкі, ЦБ сэкцыі працаўнікоў друку, Белдзяржвыдавецтва, Калгасцэнтр, Наркамзем і інш. організацыі. 3. Організаваць гурткі па дакваліфікацыі нарысоўцаў. 4. Організаваць ударную брыгаду і г. д.

* 15 мая ў Менску адбудзецца адчыненьне Беларускага Рабочага Вандроўнага Тэатру. Ставіцца п‘еса „Стрэл“ Бязыменскага.

* З восені гэтага году ў Менску адчыняецца Беларускі Дзяржаўны Тэатр юных гледачоў. Пры ім будзе працаваць лялькавы тэатр.

* 2 мая ў Менску адбыўся грамадзкі прагляд новай пастаноўкі ТРАМ (тэатр рабочай моладзі) „Першы штандар“. Пастаноўка адбівае сучасныя тэмы нашага будаўніцтва, работу ўдарных брыгад, соцспаборніцтва і бытавыя пытаньні.

Гэта пастаноўка цікава тым, што яна зьяўляецца вопытам колектыўнае творчасьці, у напісаньні яе прымаў удзел увесь колектыўны ТРАМ.

* Для культурна-мастацкага абслугоўваньня колгасаў падшэфнага саюзу друкароў Халопеніцкага раёну на час першамайскіх сьвят выяжджалі 16 сінеблузьнікаў саюзу.

Апрача гэтага разам з „Сіняй блюзай“ у Халопеніцкі раён выяжджалі некалькі культасьветнікаў-прапагандыстых.

* На сьвята вызваленьня Беларусі ад белапалякаў (11-га ліпеня) у Менск прыедуць з Швэйцарыі 11 футбалістых і 10 лёгкаатлётаў.

* Улетку з БССР за мяжу паедзе 10 беларускіх спартсмэнаў.

* У дзень гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў 11 ліпеня будзе закладзен фундамэнт новага гарадзкога тэатру. Тэатр разьлічваецца на 1.000 месц, памерам у 24.500 кубічных мэтраў. Пабудова мяркуецца быць скончана ў 1931 годзе.

* У Менск вярнуўся з падарожжа па Койданаўскім раёне польскі вандроўны тэатр. Тэатр даў 18 пастановак, з іх 6 канцэртаў. 1 мая вандроўны тэатр наладзіў у вёсцы вялікі антырэлігійны карнавал.

* З 20 мая ў Менску пачаліся спэктаклі тэатру „Красный факел“. Тэатр прыехаў да нас з буйнага рабочага цэнтру, сталіцы Уралу—Сьвярдлоўску. Тэатр ад‘яжджаў з гэтага

гораду з наказам ад рабочых організацый паказаць шэраг новых савецкіх п'ес, організаваць рабочага гледача, наладзіць з ім моцную сувязь.

У рэпэртуары тэатру—амаль усе лепшыя сучасныя п'есы, орыгінальна пастаўленыя лепшымі майстрамі, рэжысэрам тэатру ім. Мейерхольда т. Батурыным, Фёдаравым і інш.

* 15-га мая скончыліся гастролі Бел. Яўр. Дзярж. тэатру ў Маскве, якія меў там вялікі посьпех.

Тэатр прымае таксама ўдзел і ва ўсесаюзнай алімпіядзе ў Маскве.

* Пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле аўтара пастаўлена ў Магілеве 1-м Белдзяржтэатрам новая п'еса Рыгора Кобеца „Гута". Акторскі колектыў на чале з кіраўніком тав. Міровічам цалкам справіўся з задачай пастаноўкі.

П'еса „Гута" будзе першай пастаўлена БДТ-1 на ўсесаюзнай алімпіядзе.

* Рэжысэр Сьмяянаў (БДТ-1) ставіць п'есу „Чудак". Акрамя таго, тэатр рыхтуе пастаноўку п'есы „Поединок" Усьпенскага. Ставіць будуць маладыя сілы—ляборанты Зораў, Рохленка і інш. Гэта пастаноўка будзе спробаю сіл для маладняка тэатру.

* У працягу зімовага сэзону ў Гомлі і Магілеве БДТ-1 паставіў тры новых п'есы—„Міжбур'е", „Ярасьць" і „Гута". Усе тры п'есы прайшлі з вялікім посьпехам і сьведчаць аб нясумненным мастацка-палітычным росьце тэатру.

* БДТ-1 пасьля Гомлю, падзяліўшыся на тры групы, абслугоўваў вёску. Рэжысэр Міровіч напісаў спэцыяльна для колектывізаванай вёскі п'есу, а артысты Цэраг—частушкі. Былі створаны сіламі актораў спэцыяльныя дэкорацыі, якія потым былі пакінуты, як падарунак, вясковым клюбам.

Потым артыстыя тэатру былі на экскурсіі ў Маскве, дзе знаёміліся з усімі новымі пастаноўкамі.

* У Магілеве новыя п'есы ў пастаноўцы БДТ-1 ідуць адразу па 12—14 разоў. Гэта сьведчыць пра вялікую любасьць працоўных да нашага тэатру. Для такога гораду, як Магілеў 12—14 пастановак адной п'есы—рэкордны лік.

* Сёлета ў Маскве адбудзецца Ўсесаюзная тэатральная алімпіяда. На гэтую алімпіяду паедуць з БССР 1-ы Беларускі Дзяржаўны Тэатр і Яўрэйскі Дзяржаўны Тэатр.

* У надыходзячую гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі БДТ-1 будзе сьвяткаваць дзесяцігодзьдзе сваёй працы. Для падрыхтоўкі юбілею вылучана спэцыяльная камісія пад старшынствам тав. Гурскага.

* Колегія Наркамасьветы БССР заслухала даклад аб удзеле тэатраў БССР ва Ўсесаюзнай тэатральнай алімпіадзе, якая адбудзецца ў Маскве. Ад БССР у алімпіядзе будуць удзельнічаць першы Белдзяржтэатр і Беларускі Дзяржаўны Яўрэйскі Тэатр. БДТ-1 пакажа—„Гута", „Міжбур'е" і „Мост". Беларускі Дзяржаўны Яўрэйскі Тэатр пакажа—„Ботвін" і „Овечий Источник".

Колегія вылучыла тав. Мельніка прадстаўніком у оргкамітэт па скліканьню алімпіяды. У журы вылучан ад БССР тав. Некрашэвіч. Акрамя таго, у склад журы увойдзе адзін з беларускіх пісьменьнікаў.

* 12 мая ў Менску адчыніцца пленум ЦП саюзу Працмастацтва.

Пленум заслухае даклады ЦП і ЦСПСБ па абглядзе работы Цэнтральнага праўленьня, абгаворыць пяцігодку Галоўмастацтва і садаклад Белдзяржкіно, вынікі па праверцы выкананьня прамфінпляну і сацспаборніцтва і даклад пасрэдмастацтва аб падрыхтоўцы да летняга і зімовага сэзону 1930-31 г.

Прэзыдыум ЦП саюзу Працмастацтва знайшоў неабходным існуючы ў Менску працкалектыў фото далучыць да Белдзяржкіно.

* Брыгада фабрыкі Белдзяржкіно, пасьля двухмесячнай работы па зды-

маньню фільму аб калгасным будаўніцтве „Уздымайся Беларусь“, зьвярнулася ў Менск.

Брыгада працавала ў большасьці на Магілеўшчыне. Сяўбу зьнімала ў Гомельшчыне. Сваю работу брыгада выканала раней вызначанага тэрміну.

* Зараз у Барысаве працуе экспэдыцыя фабрыкі Белдзяржкіно, якая здымае вялікую мастацкую карціну. Рэжысэр Гаўронскі.

* Фабрыка Белдзяржкіно вядзе інтэнсыўную працу па здыманьню гукавых фільм-кароткамэтражак і беларускага концэрту.

Програма пойдзе 11 ліпеня г. г. у новым гукавым кіно ў Менску „Чырвоная Зорка“.

* Скончыла працу сцэнарная майстэрня пры фабрыцы Белдзяржкіно. Новы набор у майстэрню адбудзецца ўвосені г. г.

* 21 мая ў памяшканьні Музтэхнікуму адбылася генэральная спроба концэртнай праграмы, якая будзе запісана на першы гукавы кіно-фільм Белдзяржкіно. Першы фільм будзе выпушчаны ў працягу бліжэйшага месяца.

* Закончана вялікая мастацкая карціна Ю. Тарыча „Ненавісьць“ („Чорная Кроў“), якая адлюстроўвае рэвалюцыйную барацьбу рабочых Польшчы, здрадніцкую ролю соцыял-фашыстых і падрыхтоўку фашызму да вайны супроць СССР. На грамадзкім праглядзе карціна спаткана надзвычайна добра, Галоўрэпэрткам БССР даў ёй першую катэгорыю.

* 16 мая, у памяшканьні саюзу працаўнікоў мастацтва, адбудзецца сход мастакоў Менску, на якім будзе абгаворана пытаньне аб адчыненьні ў Менску 4-ай Усебеларускай мастацкай выстаўкі.

Выстаўка мае быць па восені.

* З 15 ліпеня па 15 жніўня ў Менску адбудзецца выстаўка украінскага мастацтва. Адначасова з ёю адбудзецца на менскіх прадпрыемствах і ўстановах шэраг дакладаў і дыскусій аб выстаўцы.

* На пасяджэньні Цэнтральнай Камісіі па падрыхтоўцы сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў, якое адбылося 26 красавіка г. г. пад старшынствам тав. А. І. Хацкевіча, быў зацьверджан плян работы Цэнтральнай Камісіі. Плянам прадугледжана заслухоўваньне на пасяджэньні Цэнтральнай Камісіі шэрагу дакладаў наркаматаў, іншых цэнтральных устаноў, Чырвонай арміі і грамадзкіх арганізацый аб падрыхтоўцы да сьвяткаваньня. На бліжэйшых пасяджэньнях Камісіі будуць заслуханы даклады аб адзначэньні сьвяткаваньня па лініі прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, культурна-асьветных і бытавых устаноў.

У пачатку чэрвеня месяца намечана, згодна пляну, абмеркаваць пытаньне аб падрыхтоўцы і правядзеньні сьвяткаваньня сярод нацменшасьцяй БССР, а таксама заслухаць даклады 6 акруговых камісій аб іх рабоце па падрыхтоўцы сьвяткаваньня.

Цэнтральнай Камісіяй разгледжаны ў папярэднім парадку пляны: выданьня літаратуры на розных мовах нацыянальнасьцяй БССР, а таксама мастацкіх манумэнтальных і масавых карцін, прысьвечаных сьвяткаваньню. Канчатковае зацьверджаньне гэтых плянаў адбудзецца на бліжэйшым пасяджэньні Камісіі (6 мая г. г.).

* СНК згадзіўся з прапановай Дзяржпляну пра пабудову ў г. Менску Дому Друку з вытворчасьцю да 200 млн. друкаваных аркушаў. Будаўніцтва Дому пачнецца пасьля канчатковага ўстанаўленьня тэрміну і парадку атрыманьня замежнага імпортнага абсталяваньня для Дому.

* З мэтай большага набліжэньня краязнаўчай працы да задач соцбудаўніцтва, Прэзыдыум БАН пастанавіў рэорганізаваць у гэтым напрамку структуру краязнаўчых організацый і ЦБ краязнаўства. Пры

ЦБ краязнаўства зараз утвараюцца тры сэкцыі: прамысловасьці, соцземляробства і дашкольная сэкцыя.

Па гэтаму-ж тыпу будзе праведзена рэорганізацыя краязнаўчых організацый на мясцох.

* На 1-ую Ўсесаюзную канфэрэнцыю па навуковай мэтралёгіі, якая адбывалася з 9 па 15 мая ў Ленінградзе, Прэзыдыум БАН камандыраваў тав. Сіроціна.

На акруговыя краязнаўчыя канфэрэнцыі камандыруюцца: у Полацкую акругу—тав. Казак, у Віцебскую—тав. Жураўскі.

Прэзыдыум БАН вылучыў камісію для апрацоўкі статутаў для інстытутаў: гісторыі, хэміі і мовазнаўства.

* На выстаўцы праэктаў пабудовы Беларускай Акадэміі Навук другім закрытым конкурсам прадстаўлена 7 праэктаў: два калектыўныя проэкты „Аснова“ і МАО (Масква), проэкт ЛАО (Ленінград), проэкт архітэктара Рэйзмана (Харкаў), проэкт архітэктара Лаўрова і проэкт групы мясцовых архітэктараў (Менск). Проэкты распрацоўваліся конкурэнтамі па програме конкурсу з заданьнем азначанага кубатурай гмаху (86—110 тысяч). Тут цікава адзначыць розны падыход да выпаўненьня гэтага заданьня з боку проэктыроўшчыкаў. Некаторыя групы сур'ёзна падыйшлі да гэтага пытаньня, ставячы за мэту патаненьне будаўніцтва за кошт рацыянальнай пляніроўкі, не парушаючы нормальных варункаў працы Акадэміі. Маскоўскія проэкты, проэкт архітэктара Рэйзмана і проэкт Менскай групы ня вышлі з межаў заданьня кубатуры, асабліва ў гэтых адносінах карысна выдзяляецца проэкт групы менскіх архітэктараў, даўшы ўсяго 95 тыс. куба-мэтраў. Адносна другіх проэктаў, дык яны шмат перавысілі максымальнае заданьне кубатуры па програме, што бязумоўна ўдаражае пабудову на мільёны руб.

На пасяджэньні Прэзыдыуму Беларускай Акадэміі Навук быў заслухан справаздачны даклад Камісіі па вывучэньні Заходняе Беларусі за апошні год. За гэты час Камісія разгарнула сваю працу даволі шырока. Складзены альфабэтны і сыстэматычны карткавы рэгістрацыйны каталёг на матэрыялы, працы і кнігі, якія знаходзяцца ў бібліотэках і розных установах гор. Менску і якія датычаць Заходняе Беларусі. Каталёг зьмяшчае ў сябе ўжо каля 6.000 назоваў. Пачатак комплектаваньня ўласнай габінэцкай бібліотэкі, якая ўжо ў сучасны момант налічвае звыш 600 назоваў кніжак, часопісаў і комплектаў газэт. Пачата зьбіраньне дакумэнтаў і матэрыялаў, характарызуючых сучаснае політычнае становішча Заходняе Беларусі. Падрыхтаваны і ў бліжэйшы час здаецца ў друк II том працы Камісіі ў якім будуць зьмешчаны працы з галіны прыродазнаўчага цыклю: а) „Клімат Заходняе Беларусі“ проф. Кайгародава, б) „Гэоморфолёгічны нарыс Заходняе Беларусі“ вуч. спэц. Азбукіна, в) „Фауна Заходняе Беларусі“ проф. Фядзюшына. Падрыхтоўваецца і ў хуткім часе павінны быць здадзены Камісіі працы тав. Савіцкага „Таварыства Беларускае Школы“, тав. Сталевіча „Аграрная політыка фашызму“, т. Пракулевіча „Бібліографія аб прыродзе Заходняе Беларусі“. Камісіяй прыступлена да выданьня квартальнага бюлетэня аб Заходняй Беларусі, які мае наступныя разьдзелы: а) Політычны, б) Экономічны—якія носяць характар паданьня фактаў з бягучага жыцьця Заходняе Беларусі і зьмяшчэньня дакумэнтаў з галіны політыкі, экономікі і культуры сучаснай Заходняй Беларусі, в) Навуковы Аддзел, дзе зьмяшчаюцца працы аб Заходняй Беларусі, якія носяць характар навуковага апрацаваньня, маючыхся ў распараджэньні Камісіі фактычных дадзеных аб сучасным (за апошняе дзесяцігодзьдзе) політычным, экономічным і культурным жыцьці Заходняй Беларусі. Апрача непасрэднай

працы Камісіі па вывучэньню З. Б., Камісія дапамагала іншым установам БАН у іх працы па вывучэньню Заходняе Беларусі (Катэдры этнографіі, Камісіі па вывучэньні жывой беларускай мовы). У іх распараджэньне Камісіяй перададзены шэраг матэрыялаў, як напрыклад: слоўнікавыя матэрыялы на дзьве першых літары (А, Б) з Навагрудзкага, Стаўпецкага і Пастаўскага паветаў. Зборнікі народных песень, казак, запоўненыя на Заходняе Беларусі дыалекталёгічнае праграмы і г. д.

Прэзыдыум БАН прызнаў, што Камісія значна разгарнула сваю працу і прыняў шэраг рашэньняў для палягчэньня і пашырэньня працы Камісіі.

# УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* У в-ва „Украінський Робітнік“ з сэрыі „Для малапісьменных“ рыхтуецца 7 кніжак з прыгожага пісьменства, коштам у 3—5 капеек. Акрамя таго ў гэту сэрыю ўваходзяць таксама і кніжкі пра колектывізацыю.

* Каб азнаёміць насельніцтва з навінкамі літаратуры выдавецтва „Пролетарій“ устанавіла выстаўкі рознай літаратуры па політкампаніях.

Выдавецтва прыступіла таксама да выданьня капеечнай сэрыі кніжак. Кніжкі напісаны папулярнаю моваю па найгалоўнейшых політычных пытаньнях.

Па пляну выдавецтва „Пролетарій“ мела выдаць у 1929-30 годзе 40 млн. экзэмпляраў гэтых кніжак, за першы квартал выдадзена $12^1/_2$ млн. экзэмпляраў.

* У Дзяржаўным выдавецтве Украіны выйшлі наступныя літаратурныя навінкі: Капіленка, О.—„Визволення“—аповесьці; Колеснычэнка М.—апавяданьні; Кузьміч В.—„Крила“ аповесьць; Куніш П.—Творы т. 1; Ле І.—„Юхім Кудря“—выданьне III; Мікітэнка І. — „Вуркачаны“—апавяданьні, выд. III; Яковенка Г.—„Три елементи“—аповесьць; Яравы В.—„За землю“—масавая мастацкая сэрыя і „У павуцінці“—апавяданьні ? клясавай барацьбы на вёсцы; Джованьолі—„Спартак“—перакл. Люхор; Дуброўскі В.—„Історычно-культурні заповідники па памяткі України“; Слісарэнка О.-„Непереможні сили“—выбраныя апавяданьні; Беляеў А.—„Чалавек Амфібія“ — навукова-фантастычны роман.—перакл. з расійскай Воўчык; Фадзееў А. „Розгром“—перакл. з расійскага П. Доўгапол, выд. II; „Західня Украіна“. Літаратурна - грамадзкі альманах. Зборнік другі. Пад рэдакц. В. Атаманюка, Д. Загула, Д. Рудзіка.

* Каб пажвавіць працу выдавецкага актыву і наладзіць сталую сувязь выдавецкіх працаўнікоў з Саветам зьездаў выдавецтваў, Савет ухваліў організаваць пры будынку ім. Блакітнага выдавецкую сэкцыю. Разам з тым Савет пераносіць у будынак ім. Блакітнага частку працы, утвараючы там сходы членаў сэкцыі. На сходах будуць ставіцца пытаньні выдавецкай і кнігагандлёвай працы.

* Па пастанове Наркамгандлю, НК РСІ, ВСНГ і НКА з 1 лютага 1930 году ўстаноўлены стандартныя форматы для ўсіх выданьняў. Пастанова абавязвае ўсе прадпрыемствы выдавецкай і поліграфічнай прамысловасьці на тэрыторыі УССР выпускаць сваю прадукцыю выключна ў стандартных форматах, якія зацьвердзіў камітэт стандартызацыі пры РПО. Стандартызацыя форматаў не пашыраецца на газэты, якія друкуюцца на ротацыйных машынах, а таксама на заводзкія газэты

* Распачаўся бібліотэчны паход, які мае на мэце перабудаваць сетку бібліотэк і самую іх працу, прыстасаваўшы яе да вымаганьняў эпохі соцыялістычнага будаўніцтва на Харкаўшчыне. Для правядзеньня ўсёй работы і кіраўніцтва ёю ўтворана ў Харкаве два штабы—Акруговы пры Акрвыканкоме і гарадзкі—пры Акрпрофсавеце.

* Да вясеньняй пасеўкампаніі в-ва „Украіньскі Робітник“ выпусьціла

тры кніжкі пра ўдзел профсаюзаў у пасеўкампаніі: „Робітничі брыгади та засівкомпанія“, Я. Козуйок — „Профспілки й засівкомпанія“, „Сямёнаў—„Шэфські товарыства в засівкампанії“.

* Выдавецтва „Маса“ прырыхтавала і здало ў друк „Антологію ў україньскоі поэзії“, якая ахоплівае украінскую поэзію з часоў Ів. Котляраўскага да нашых дзён.

Антологія складаецца з 3-х тамоў. Першы том выходзіць з друку. У Антолсгіі будуць пададзены партрэты поэтаў, якія спэцыяльна для гэтага выданьня зрабіў мастак В. Крычэўскі.

* Пісьменьнік В. Антоненка-Давыдовіч склаў умову з ДВУ на новы роман для юнацтва пад назваю „За втрачоную волею“. Гэты роман малюе часы руйнаваньня сечы і эміграцыю запарожцаў за Дунай.

* З гэтага году пачаў выходзіць новы багата ілюстраваны месячнік „Авто та Шляхи“. Часопісь высьвятляе пытаньні: аўтобудаўніцтва, падрыхтоўкі кадраў, жыцьцё аўтадараўскіх organізацый, прадпрыемств; дарожнага будаўніцтва; трактара-будаўніцтва на Украіне і па ўсім Саюзе.

* „Кнігоспілка“ хутка выпускае з друку новае пашыранае выданьне твораў М. Леонтовіча. Выданьне займае 8 зборнікаў, сярод якіх зьмешчана некалькі новых композыцый, дагэтуль невядомых.

* Да шэўчэнкаўскіх дзён навуковадасьледчы інстытут ім. Шэўчэнка адкрыў у Харкаве спэцыяльную выстаўку. На выстаўцы багата экспанатаў пра жыцьцё і творчасьць Шэўчэнкі.

* Антоненка-Давыдовіч скончыў першы том роману „Січ-мати“. Урыўкі з гэтага роману надрукаваны ў першым і другім нумары часопісі „Життя й Революція“.

* 6 мая ў Харкаве адбыўся пяты зьезд усеукраінскага саюзу пролетарска - сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг“. На Зьезьдзе былі даклады: політычны даклад культпропаддзелу ЦК КП(б)У, даклад прадстаўніка Наркамзему УССР — пра соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі, даклад прадстаўніка ВОКП, шэраг дакладаў аб літэратурнай творчасьці „плужок“. Зьезду зроблены справаздачы—ЦК „Плуга“, рэвізійнай камісіі, нямецкай сэкцыі „Плуга“ і рэдкалегіі часопісі „Плуг“. Зьездам зацьверджана новая пляцформа, а таксама перааброны кіраўнічыя органы. У рабоце зьезду прымалі ўдзел прадстаўнікі літорганізацый УССР і братэрскіх рэспублік, прадстаўнікі камун, калгасаў, савгасаў, партыйных, камсамольскіх, профэсыйных і грамадзкіх арганізацый.

* Інстытут Тараса Шэўчэнка адкрывае 20 мая ў Харкаве першую выстаўку памяці вядомага украінскага пісьменьніка Ів. Франко. У якасьці экспонатаў будуць прадстаўлены аўтографы, фото-аўтографаў, портрэты, дакумэнты, фотографіі, корэктуры і інш. Выстаўку мяркуецца арганізаваць на ўзор шэўчэнкаўскай выстаўкі мінулага году, якую наведала больш 10.000 чал.

* Адэская філія таварыства культсувязі з заграніцай узьняла пытаньне пра арганізацыю вывазу масавай графічнай прадуцыі украінскіх мастакоў у Японію.

Гэта пытаньне мае вялікае значэньне для украінскіх мастакоў, як з боку пашырэньня збыту украінскай мастацкай прадукцыі, так і з боку забясьпечаньня мастацкіх організацый спэцыяльнай японскай паперай, адсутнасьць якой перашкаджае нармальнай працы мастакоў у галіне графікі.

* Пісьменьнік М. Бірукоў і журналісты А. Хмельніцкі нядаўна скончылі орыгінальную украінскаю музкомэдыю пад назваю „Робфаківец“, якая пойдзе ў канцы сэзону ў 1-ай украінскай музычнай комэдыі ў Харкаве.

* У выдавецтве „Рух“ (Харкаў) выйшлі дзьве новыя дагэтуль не друкаваныя п‘есы В. Віньнічэнкі, якія напісаны ім у 1926-27 г. г. Назвы п‘есы—„Плач Ізраіля“ і „Прарок“ (абедзьве па тры дзеі).

* У Харкаўскай Акадэм. опэры мяркуецца ў сэзоне 1930-31 г. паставіць опэры—„Рокоодяна“ Січынскага, „Чорная орхидея“ Д. Альбэрта, „Саломея“ Штрауса, „Выбух“ Яноўскага і балет „Дніпрэльстан“ Ан. Рудніцкага“.

* Выдавецтва „Украінський робітник“ выдала зборнік „Естрада“, які досыць поўна падае ўсе эстрадныя творы, якія выйшлі за наш час. Зборнік уклалі В. Вражливи і Л. Балабан.

Цяпер Л. Балабан рыхтуе да друку II частку „Естрады“.

* У лютым м-цы г. г. у Харкаў прыяжджала па запрашэньню з Кіева яўрэйская рабочая капэля „Эвокаж“. Капэля гэта створана нядаўна ў Кіеве—усяго паўгода назад. Мастацкі кіраўнік капэлі — компазытар Шэйнін. У складзе капэлі опэрныя сьпявакі, вучні консэрваторыі і інш. Капэля мае значныя мастацкія дасягненьні. Усе яе выступленьні ў Кіеве і некалькі праведзеных гастроляй у Харкаве мелі вялікі посьпех. Галоўную сваю працу „Эвокаж“ праводзіць у рабочых клюбах, дзе знаёміць шырокія масы яўрэйскіх рабочых з яўрэйскаю песьняю.

* Пры сэкцыі аховы здароўя Харкаўскага Гарадзкога Савету арганізаваны тэатр „Санітарнай культуры“, мэта якога мастацка-тэатральнымі спосабамі праводзіць санітарна-асьветную пропаганду сярод шырокіх мас. Тэатр будзе абслугоўваць клюбы і вытворчасьць. Дарыхтавана ўжо п‘еса „П‘яне Колю“.

* У гэтым годзе ў Харкаве інтэнсыўна разгортваецца будаўніцтва культурна-бытавых устаноў. У маі м-цы адбудуцца закладзіны новай опэры, шэрагу навуковых інстытутаў, сельска-гаспадарчай акадэміі, помніка Т. Шэўчэнкі, крэматорыя і інш. Пачынаюць таксама будаваць у Харкаве тры вялікіх кіно-тэатры, два па рабочых акраінах і адзін у цэнтры.

* Новая пастаноўка Кіеўскага опэрнага тэатру опэры „Джоні грае“ муз. Кшэнікова — карыстаецца значным посьпехам.

Аднэю з найбліжэйшых прэм‘ер тэатру пойдзе опэра „Золотий обруч“ муз. Лятошынскага ў пастаноўцы галоўнага рэжысэра В. Манзія, афармленьне мастака О. Хвастова, дырэжэр—Радзіеўскі.

* Мастацкая рада рабочага тэатру ОРПС ухваліла да пастаноўкі п‘есу Стомера „Выбух“, якая малюе шкодніцтва і барацьбу з ім.

* У лютым упяршыню ў Украінскай музычнай комэдыі (Харкаў) ішла опэрэта „Гейша“. Над тэкстам для опэрэты працавалі тры літаратары — Ю. Смоліч, Л. Малошыйчэнка і Ю. Яноўскі. Унесены зьмены і ў музыку. Сюіту для опэрэты напісаў малады композытар С. Тартакоўскі. Ёсьць і новыя балетныя дадаткі.

* Украінскае т-ва культурнай сувязі з заграніцай зьбірае экспонаты для першай выстаўкі савецкай фотографіі ў Парыжы. Экспонаты падбіраюцца з такім разьлікам, каб разам з высокаю мастацкасьцю і высокаю тэхнікай выкананьня, выстаўка адбівала моманты нашага будаўніцтва, новага быту і этнографіі.

* Харкаўскае фотографічнае атэлье „Червона Сьвітопісь“ атрымала паведамленьне, што на інтэрнацыянальным чарговым салоне ў Сарачы (Гішпанія) „Червоній Светопісі“ прысуджаны дыплём за экспонаты, якія былі выстаўлены ў гэтым салоне.

* Народны Камісарыят Асьветы дазволіў Кіеўскай кінофабрыцы ВУФКУ засьняць дакумэнтальны фільм пра навуковую працу Украінскай Акадэміі Навук. Здымак гэтага фільму нядаўна скончаны і хутка дэманстравацмецца на экранах Украіны.

* Украінскае тэатральнае кіно-выдавецтва склікае нараду украінскіх пісьменьнікаў, якім будзе запрапанавана напісаць некалькі для вёскі п'ес, прысьвечаных пасеўнай кампаніі.

* Для організацыі і кіраваньня ўсёю працаю па кіноабслугоўваньню веснавой пасеўнай кампаніі кіраўніцтва ВУФКУ вылучыла на чале з членам кіраўніцтва дырэктарам Кіеўскай кіно-фабрыкі т. Радчэнкам—спэцыяльную ўдарную тройку.

Да пасеўнае кампаніі ВУФКУ мае выпусьціць кароткамэтражныя фільмы-агіткі, у якіх будуць высьветлены спэцыяльныя заданьні пасеўнай кампаніі гэтага году, палітычнае значэньне кампаніі для барацьбы з кулакамі і гаспадарчыя моманты.

* У хуткім часе на экранах Украіны будуць дэманстравацца такія фільмы: „Агромінімум", „Культура цукравога бурака" і 5 кароткамэтражак пра сеяньне буракоў.

* Кіеўская кіно-фабрыка ў ударным парадку ставіць кароткамэтражныя фільмы: „Охорона скотарства", „Шкідніцтво куркуля в колективі", „Зьнішчэньне куркульства, як клясы", „Дапамога міста селу у засівній компанії"; побач з гэтым будзе зроблена некалькі кароткамэтражак пра быт і плянавую працу ў колектыўнай гаспадарцы.

* Адэская кіно-фабрыка ВУФКУ дасьць адпаведныя фільмы ў справе пасеўнай кампаніі спэцыяльна для абслугоўваньня стэпавой Украіны.

* Пракатная частка ВУФКУ склала сьпіс фільмаў, якія высьвятляюць пасеўную кампанію і клясавую барацьбу на вёсцы. Гэтыя фільмы дэмонстраваць муць у працягу пасеўнай кампаніі на вясковых экранах.

Для колектывізаваных вёсак, дзе яшчэ няма кіно-ўстановак, будуць вылучаны ад ВУФКУ асобныя перасовачныя кіно-групы, якія будуць дэманстраваць па тых сёлах у часе пасеўнай кампаніі адпаведныя фільмы.

* Пэрыодычныя органы украінскай кінематографії — часопісь „Кіно" і „Кіно-газэта"—сыстэматычна будуць зьмяшчаць матэрыялы, прысьвечаныя пасеўнай кампаніі.

Пад час правядзеньня месячніка украінскай кіно-культуры ў Кіеве, і кіно-тыдню на Дняпропятроўшчыне, Арцёмаўшчыне і Адэшчыне, галоўным заданьнем будзе высьвятленьне ролі кіно ў правядзеньні колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

* Хутка на экранах Украіны будзе паказаны гукавы фільм ВУФКУ—„Хліб" работы рэжысэра М. Шпікоўскага. Гэта карціна падае нарыс клясавага змаганьня на вёсцы і ролю гарадзкога пралетарыяту ў рацыянальнай перабудове сельскага ладу.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* 10 мая ў Самары адбыўся Пашыраны Пленум Праўленьня Асацыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў Сярэдня-Волжскага краю. У яго працы прымалі ўдзел прадстаўнікі Самарскай, Пензенскай і Ульльянаўскай АПП, а таксама літгурткоў Орэнбургу, Сызрані, Саранску, Чапаеўску. Парадак дню прысьвечаны быў галоўным чынам творчым пытаньням, якім прысьвечаны былі тры цэнтральныя даклады — пра бэлетрыстыку, пра поэзію, пра нарысы. На пленуме стаялі таксама арганізацыйныя пытаньні: рост, арабочваньне, ударніцтва, соцыялістычнае спаборніцтва.

* Тэатр Рэволюцыі паказвае 11 мая апошнюю ў бягучым сэзоне прэм'еру — „Историю одного убийства". П'еса прысьвечана героічнай рэволюцыйнай барацьбе амэрыканскага пролетарыяту і, у прыватнасьці,— забойству Сако і Ванцэці. Напісана яна двума амэрыканскімі аўтарамі, але для савецкай сцэны п'еса была пераапрацавана па заданьню тэатру М. Левідавым. Ад драматургічнага твору „лібэральных" амэрыканцаў аўтарам пераапрацоўкі захаваны толькі—стрыжнёвая лінія сюжэту і асобныя сцэны. Тэма п'есы—вялізарнае соцыяльнае значэньне справы Сако і Ванцэці. П'еса пабудавана на паказе двух сіл, двух варожых клясаў, якія вядуць няпрымірымую сьмяртэльную барацьбу. Забойства двух выдатных рэволюцыянэраў не гаворыць за тое, што амэрыканскі пролетарыят пераможаны. Сако і Ванцэці забіты, але справа іх жыве і пераможа—гэтакая ідэйная ўстаноўка п'есы.

* Вялікі тэатр рыхтуе опэру „Загмук", напісаную композытарам А. Крэйкам па п'есе А. Глебава. Прэм'ера адбудзецца 30 мая. Ставіць спэктакль ленінградзкі рэжысэр Смоліч, афармляе—ленінградзкі мастак Сокалаў, дырыгуе—Небольсін.

* Маскоўскі тэатр для дзяцей заканчвае сэзон 15 мая і ў гэты-ж дзень выяжджае ў Ленінград, дзе 16 мая пачынаюцца яго гастрольныя спэктаклі ў рабочых клюбах—мэталістых і тэкстыльшчыкаў, а таксама ў Дамох культуры — Выбарскім і Маскоўска-Нарвскім. Ленінградзкія спэктаклі працягнуцца да 1 чэрвеня. Пасьля іх адбудзецца паездка тэатру па РСФСР: Цьвер, Паўночны Каўказ (Растоў, Таганрог, Краснадар, Армавір, Мінэральныя Воды). Паездка скончыцца 24 жніўня. Маскоўскі тэатр для дзяцей за ўвесь гэты час дасьць 124 спэктаклі. З складу сваёй пэдагогічнай часткі тэатр вязе спэцыяльных дакладчыкаў.

* Рэалістычны тэатр даваў 8 мая 75 пастаноўку „Бравага солдата Швейка". Сэзон канчаецца 16 мая. Пяць спэктакляў пасьля закрыцьця сэзону будуць сыграны ў Мюзік-Хольле: „Норд-Ост" і „Бравы солдат Швейка". 23 мая тэатр выяжджае ў гастрольную паездку па Сібіры.

* Маскоўскі тэатр сатыры закончыў сэзон 2 мая. Тэатр у поўным складзе выехаў у гастрольную паездку па маршруту: Бранск—Харкаў—Варонеж. Мяркуюцца таксама гастрольныя спэктаклі ў Адэсе. Паездка разьлічана на 4 месяцы.

* На ўсенямецкі рабочы тэатральны зьезд у Дартмундзе творчае аб'-

яднаньне драматургаў „Пролетарскі тэатр“ адправіла спэцыяльную выстаўку, якая характарызуе яго працу. Драматург—В. Н. Біль-Белацаркоўскі ўдзельнічае ў рабоце зьезду ў якасьці прадстаўніка „Пролетарскага тэатру“.

* Праўленьне Ўсераскомдрама і Савет Расійскага Тэатральнага Таварыства організоўвае ў Доме-музэі ім. Чайкоўскага ў Кліну куток памяці памёршага композытара, крытыка-публіцыстага, дырэктара дзяржаўнай капэлы Ю. С. Сахноўскага. Установка мэморыяльнай дошкі і адкрыцьце кутка адбудзецца ў сярэдзіне мая м-ца.

* Асоцыяцыя пролетарскіх музык наладзіла 6 мая ў малай залі Консэрваторыі концэрт пролетарскай песьні. Выканаўцы (С. Крылова і Н. Выгодзкі) далі рэволюцыйную песьню ад часоў „каторги к ссылке“ да сучаснай рабочай лірыкі і песень новага быту (Коваль, Давыдэнка і інш.), а таксама пяць масавых песен Вялікай Француcкай Рэвалюцыі ў апрацоўцы Б. Шэхтэра.

* 5 мая ў Доме Герцэна адчынена выстаўка „Писатели и социалистическое строительство“. Выстаўка зьяўляецца першай спробай падсумаваць працу савецкіх пісьменьнікаў ува ўсіх галінах будаўніцтва СССР.

Матэрыял выстаўкі падзелены на шэраг аддзелаў, якія концэнтруюць увагу яе наведвальнікаў на пэўных відах і галінах пісьменьніцкай працы на сацыялістычным фронце.

Саўгасы і колгасы, новая вёска, Донбас, Турксіб, Днепрабуд, Волхаўбуд, Бакінскі нафтавы раён і г. д. вылучаны ў спэцыяльныя экспозыцыйныя комплексы.

Працы пісьменьнікаў — Дзем'яна Беднага, Максіма Горкага, Ул. Маякоўскага, Сяргея Трэцьцякова, як і іншых, вылучаны ў асобныя групы.

Спэцыяльнае месца адведзена працам пісьменьнікаў у галіне стварэньня зялёнага гораду.

Да ўдзелу на выстаўцы запрошаны шэраг мастакоў і моладзь з ОМАХР, якія далі зарысоўкі тых месц.

* У Дзяржвыдавецтве гадавіна сацыялістычнага спаборніцтва адзначана вытворчым аглядам працы сэктару кнігараспаўсюджваньня. Агляд праводзіўся з 29 красавіка па 30 мая. Задача агляду—палепшыць працу апарату дзяржвыдавецтва па распаўсюджваньні кнігі і прасунуць танную і патрэбную кнігу ў рабочыя масы.

* У Цэнтральным доме Чырвонай Арміі адбыўся вечар, прысьвечаны вынікам гадавой працы аб'яднаньня чырвонаармейскіх пісьменьнікаў. Уступнае слова рабіў начальнік сэктару друку ПУР т. Ківерсаў. З дакладам аб рабоце чырвонаармейскага аб'яднаньня пісьменьнікаў выступаў тав. С. Шчыпачоў.

Пасьля выступалі чырвонаармейскія, пролетарскія і сялянскія пісьменьнікі з чыткаю сваіх твораў.

* 10 мая споўнілася 7 год з дню забойства тав. В. Вароўскага. Вацлаў Вацлавіч Вароўскі—адзін з буйнейшых і найбольш выдатных марксыцкіх публіцыстых і літаратурных крытыкаў. Самымі каштоўнымі і значнымі працамі тав. В. Вароўскага зьяўляюцца „К истории марксизма в России“, „Русская интеллигенция и русская литература“ і „Литературные очерки“. Шырокая і плённая дзейнасьць В. Вароўскага—стойкага бальшавіка, выдатнага політыка глыбокага і таленавітага літаратурнага крытыка—была спынена стрэлам белагвардзейца 10 мая 1923 г.

* Акадэмія Навук дала магчымасьць ленінградзкім пісьменьнікам прыняць удзел у навуковых экспэдыцыях. Для ўдзелу ў іх Ленаддзел ФОСП вылучае спэцыяльную пісьменьніцкую брыгаду.

* Цэнтральная камісія па правядзеньню „Тыдню беларускага мастацтва і літаратуры“ ў Маскве ўстанавіла „тыдзень“ з 6 па 13 лістапада г. г. Прыезд 50 беларускіх

пісьменьнікаў, артыстых і мастакоў у Маскву будзе прыстасаваны да 13-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

К прыезду беларускіх пісьменнікаў будзе выпушчана выдавецтвам „Фэдэрацыя“ брошура ў 10 друкаваных аркушаў на расійскай мове, прысьвечаная беларускай літаратуры і творчасьці беларускіх пісьменьнікаў.

Цэнтрвыдавецтва мяркуе выпусьціць асобную брашуру пра сучасную беларускую літаратуру.

Таксама будзе організавана ў Комуністычнай Акадэміі выстаўка творчасьці беларускіх пісьменьнікаў, а ў клюбе ФОСП—выстаўка працы літорганізацый БССР.

Абрана камісія, у складзе 28 чалавек, на правядзеньні „тыдню беларускага мастацтва і літаратуры“ на чале з т. Ф. Я. Конам.

* 25 мая, у дзень адкрыцьця парка культуры і адпачынку, адбылося ўрачыстае адкрыцьце кніжнай выстаўкі-рынку.

Кніжны рынак праводзіцца пад асноўным лёзунгам—„Пяцігодка—за чатыры гады“ і зьявіцца культурна-політычнай дэманстрацыяй за пісьменнасьць, за кнігу.

Навокал выстаўкі шырока разгорнута масавая праца з шырокім удзелам Фэдэрацыі савецкіх пісьменьнікаў, ОДН, Асоавіяхэму і інш. грамадзкіх організацый. Організаваны вялікія літдыспуты, вечары рабочай крытыкі, выступленьні пісьменьнікаў, працаўнікоў мастацтва і навукі. Шырока разгорнута выстаўка кніг з консультацыяй і бюро даведак.

У парку Культуры і адпачынку праведзены спэцыяльныя „дні кнігі“, „трохдзёньнік дзіцячай кнігі“, „дзень тэхнічнай кнігі“, „дзень поэтаў, пісьменьнікаў і вучоных“, „дзень п'есы“, „дзень мастака і музыкі“, а таксама спэцыяльныя дні асобных заводаў па пропагандзе і распаўсюджваньні кнігі.

* 26 мая пашыраны сэкратарыят ВоАПП заслухае: політычную справаздачу сэкратарыяту (В. Сутырын), даклад дэлегацыі РАПП, даклад ВУСПП, інформацыю сэкратарыяту закаўкаскай асацыяцыі, пытаньне аб уваходзе украінскай організацыі „Молодняк“ у ВоАПП, аб абраньні часовай дэлегацыі ў міжнароднае бюро рэвалюцыйнай літаратуры.—Асоцыяцыі саюзных рэспублік, акрамя іх сталых прадстаўнікоў у сэкратарыяце ВоАПП, атрымаюць па два месцы дастаткова. Два месцы атрымоўвае таксама украінскі „Молодняк“.

* Пры літбюро ВоКП організавана нацыянальная сэкцыя. У задачы сэкцыі ўваходзіць усебаковае асьвятленьне нацыянальнай літаратуры на старонках савецкай прэсы, рэцэнзаваньне надрукаваных матэрыялаў, выпушчаных кніг, нарады пачынаючым пісьменьнікам і інш. Для ўдзелу ў гэтай працы запрошаны ўсе члены ВоКП, якія ведаюць мовы СССР, студэнты Інстытуту Ўсходазнаўства, Інстытуту ўсходніх моў, і інш.

Літфонд для павялічэньня сваіх сродкаў прыступае да выданьня літаратурна-мастацкага зборніка. Гэта першая спроба літфонду—уцягнуць пісьменьнікаў у справу організаванай самадапамогі.

* Праўленьне Дзяржвыдавецтва ўхваліла асыгнаваць з фонду пачынаючых пісьменьнікаў 10.000 руб. на організацыю дому комуны пролетарскіх пісьменьнікаў „Кузьніцы“.

* Маскоўскі мастацкі тэатр паказвае на малой сцэне прэм'еру новай п'есы „Наша молодость“, напісанай С. Карташовым на тэму романа В. Кіна „По ту сторону“.

Пастаноўкай гэтай п'есы тэатр працягвае лінію спэктакляў, выконваемых выключна сіламі моладзі. Цэнтральныя ролі выконваюць маладыя актары (Кудраўцаў, Цітова і інш.), прычым некаторыя (Палонская, Дорохін) упяршыню выконваюць адказныя ролі.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

## Амэрыка

* Для рэклямы твораў пісьменьнікаў у Амэрыцы некаторыя выдавецтвы ў канцы кніжкі сталі падаваць пачатак новага твору таго-ж аўтару.

* У Дэтруаў аднэй гандлёвай фірме тыпу „Унівэрмаг“ у кніжным аддзеле зорганізавана публічная бібліотэка—узор пастаноўкі сучаснай бібліотэчнай справы. Туды спэцыяльна прыяжджаюць бібліотэчныя працаўнікі і вывучаюць пастаноўку работы. Бібліотэка штодня абслугоўвае 6.000 чалавек, маючы 6—7 чал. пэрсоналу.

* Ухвалена выслаць з Злучаных Штатаў Стэфана Зімніча, рэдактара Югаслаўскай комуністычнай газэты.

## Англія

* З лютага г. г. у Лёндане пачала выходзіць комуністычная часопіс „Daily Worker“. Гэта першы комуністычны дзеньнік у Англіі і другі з шэрагу пэрыодыкі на ангельскай мове ў сьвеце. Першая—Нью-Ёрскі „Daily Worker“. Лёндански „Daily Worker“, як зазначана ў слове ад рэдакцыі будзе „клясаваю газэтаю барацьбы супроць сучаснага ўраду партыі працы, і будзе дэмаскаваць яго палітыку рэакцыі і імпэрыялістычнай вайны за кардонам“.

* У прыгожым пісьменстве ангельскі друк адзначае, як дадатны бок, тэндэнцыю выйсьці з рамак сярэдняга разьмеру романа і перайсьці да вялікіх памераў твораў.

Адзін з першых такіх вялікіх романаў апошняга часу належыць Альдэнсу Гэкслэю: роман „Point Counter Point“. Гэта рыска трагічна завостраных момантаў жыцьця сучаснага ангельскага грамадзтва. Але не зважаючы ні на майстэрства стылю, ні на некаторыя добра выкананыя портрэты, роман, асабліва ў другой частцы, вызначаецца расьцягненасьцю, і аўтар сьмела мог-бы скараціць яго нават на одну трэцюю частку. Прычына гэтага ў перавазе „літаратурнасьці“ над „жыцьцёвасьцю“, што зьяўляецца агульнаю рыскаю сучасных ангельскіх романаў.

Ня можна прызнаць беззаганным і другі вялікі роман, што зьявіўся у апошні час, гэта: „Ihe good Companions“ Прыстлэя. Прыстлэй добра ведае народнае жыцьцё Англіі. Дзякуючы сваёй спасьцеражлівасьці і тонкаму чуцьцю народнае мовы, яго замалёўкі надзвычайна жвавыя і дасканалыя. Гэта сапраўдная панорама сучаснай Англіі. Псуе кнігу толькі ўласьцівы Прыстлэю штучна-сэнтымэнтальны тон і страх перад парушэньнем правілаў умоўнай прыстойнасьці.

## Гішпанія

* У Гішпаніі „Дзень кнігі“, наладжаны ў дзень угодак нараджэньня Сэрвантэса, прайшоў дужа добра. Кніжная палата ў Мадрыдзе організавала некалькі конкурсаў: на найлепей выдадзеную кніжку, лепшую вокладку, лепшую і мастацкую. Адначасна ўрачыста адсьвяткавана адкрыцьце новага памяшканьня Палаты. Акадэмія Навук організавала выстаўку сваіх лепшых выданьняў за 200 гадоў.

У Барцэлёне Кніжная Палата раздала дармова 2.000 кніжак. Тады-ж наладжан быў і конкурс лепшых кніжных выставак у бібліотэках.

### Латвія

* Лінардс Лайцэнс пасьля падарожжа па СССР у сваёй часопісі „Kreisa Fronte“ (№ 5) зьмясьціў нарыс, прысьвечаны будаўніцтву ў нашым Саюзе.

Артыкул прыгожа і добра ілюстраваны фотоздымкамі аўтара. Цяпер пісьменьнік працуе над романам „Новыя гаспадары“.

* Андрэй Упіт нядаўна выдаў антырэлігійную кнігу „Апавяданьні пра пастараў“.

* Андрэй Курці выдаў кнігу апавяданьняў „Cilocciskae lopi“ (Чалавечая худоба“).

* Р. Эйдэман, адзін з найбольшых пролетарскіх пісьменьнікаў, выдаў адначасна расійскаю і латвійскаю мовамі зборнік апавяданьняў „Паўстаньне каменьня“.

### Нямеччына

* У выдавецтве „Інтэрнацыяльная бібліотэка“ выйшаў цікавы зборнік пад рэдакцыяй Гербэрта Грунтэра, які зьмяшчае ў сабе пяцьдзесят кароценькіх нарысаў, фельетонаў, уражаньняў, портрэтаў, якія адлюстроўваюць жыцьцё сучаснага Бэрліну.

Між імі ўрывак з бэрлінскага роману Добліна, бэрлінскія поэзіі Кэрра, Тухольскага, Кэстнера, Паўлы Цэха, два фэльетоны Мартына Кесьля і інш.

* У выдавецтве Густава Кіпэнгэйера выйшла антолёгія маладых нямецкіх пісьменьнікаў пасьляваеннай генэрацыі. У антолёгіі прымаюць удзел—Глэзэр, Рэнн, Толлэр, Рот, Флэйсэр, Брэйтбах, Зэгерс, Кестнэр, Гінстнэр, Вайскопф і інш.

* Вядомае выдавецтва Філін Рэклям рыхтуе вялікую гісторыю літаратуры, мастацтва і культуры ў Нямеччыне, якая складаецца ня менш, як з 250 томаў. Кожны год будзе выходзіць ад дзесяці да дваццаці томаў.

* Выйшла ў выдавецтве „Otto Elsner“ (Бэрлін) орыгінальная кніга з гісторыі Нямеччыны Эрнста Гайльборна— „Між двума рэволюцыямі“, якую нямецкая крытыка назвала „біографіяю стагодзьдзя“. Першы том кнігі мае падзагаловак: Der geist der Schinkelzeit“ (1789—1848). Другі— „Der geist der Bismarkszeit“. Асаблівасьць гэтае кнігі ў тым, што яна не зьяўляецца гісторыяю політычных падзей, войнаў, соцыяльных паўстаньняў, а таксама не зьяўляецца гісторыяй разьвіцьця доктрын, або мастацкіх форм, а сапраўдная біографія стагодзьдзя, жыцьця бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Надзвычайную жвавасьць надае кніжцы сіла матэрыялу анэкдотычнага характару, назьбіранага з безьлічы біографій, мэмуараў, лістоў. Увесь гэты матэрыял пададзены ў „Імпрэсыоніцкім“ духу.

* Пасьля таго, як у романах Рэнна і Рэмарка адабражэньня самой сусьветнай вайны дасягнула найвышэйшай ступені, пачалося захапленьне романамі, якія адлюстроўваюць пасьляваенныя часы ў Нямеччыне. З апошніх романаў такога зьместу найбольш вартыя ўвагі.

„Людзі пасьля вайны“ Ганса Зохачэвэра, (Hans Sochaszewer „Menschen nach dem Kriege“).

„Справа і зьлева“ Юзэфа Рота Heinrich Hauser „Donner überm Meer „Гром над морам“ Гайнрыха Гавзэра (Jospt Roth „Reshts und links“).

Усе гэтыя кнігі зусім па рознаму трактуюць адну тэму. Частка творчасьці Зохачэвэра—гэта прыватныя адносіны між людзьмі, прыватнае інтымнае жыцьцё ў абставінах пасьляваеннага часу, атмосфэра хаўрусаваньня, пачуцьця і інш. Асноўная рыса яго — пранятасьць настроем, мяккасьць тону.

Зусім процілежнае знаходзім у Рота. Халодная яснасьць поглядаў,

меркаваньняў постаці, жахлівае сваёю жорсткаю будзённасьцю, падзеі, некаторыя нават занадта рэальныя— у гэтым яго процілегласьць Зохачэвэру. Але ёсьць адна рыса, якая яднае ўсё-ж гэтых двох пісьменьнікаў. Гэта якійсьці ўнутраны протэст супроць сучаснасьці, няпрыйманьне нашай эпохі з яе няспынным соцыяльным змаганьнем, і нават скэптычнае стаўленьне да гэтага змаганьня. Інакш у Гайнрыха Гаўзэра. У яго таксама няма ўстаноўкі на замалёваньне палітычных, соцыяльных падзей, але яго роман прасякнуты ясным разуменьнем усяе важнасьці змаганьня клясаў, якое складае існасьць нашай эпохі.

* Аднэй з сэнсацый апошняга часу зьяўляецца новы роман Гэргарта Гаўптмана „Buch der Zeidenschaft". Крытыка заўважае, што „Buch der Zeidenschaft" найбольш за ўсё творы Гаўптмана адлюстроўвае асабістае жыцьцё пісьменьніка, і зьяўляецца найбольш аўтобіографічнаю з усіх яго кніг. Драма, якая разгортваецца ў романе, адлюстроўвае даволі блізкую асабістую драму Гаўптмана.

**Ігоршчына (Вэнгрыя)**

* З літаратурных фактаў апошніх месяцаў у Ігоршчыне адно з першых месц належыць кнізе Бэлы Рэвэш— „Адзін з цэлым сьветам". (Bela Revesz „Eguedul mindenkivel").

Бэла Рэвэш быў першым сьвядомым выяўнікам трагэдый ігорскіх мас, і ўся яго творчасьць з першага і да апошняга роману мае сваім аб'ектам жыцьцё пролетарыяту. Яго пэрсанажы, спосаб бачыць рэчы— ўсё гэта сьведчыць пра самабытнасьць, пра асабісты шлях у літаратуры. Апошні роман Бэлы Рэвэш яшчэ раз сьцьвярджае правільнасьць гэтых поглядаў на яго творчасьць.

* Балючым пытаньнем сучаснасьці прысьвечаны апошні роман Бэлы Поганц — „Fela parle" (За балотам). Тэма яго—пакуты моладзі, якая вярнулася з вайны, пазбаўлена ўсякіх ідэалаў. Месца дзеі — дробна-буржуазнае атачэньне Будапешту. Роману бракуе выразнасьці, чоткасьці ў пастаноўцы соцыяльных проблем. Але псыхолёгічны аналіз сьведчыць пра выдатны талент.

**Францыя**

* Хутка ў Парыжы адбудзецца першая выстаўка савецкага фото. Выстаўка будзе дэмонстраваць ня толькі высокую тэхніку, але і асобныя моманты новага быту і будаўніцтва ў СССР.

* Добрая ацэнка даецца ў крытычнай прэсе апошняму роману Марселя Эмэ „La Faple aux erёves", які атрымаў прэмію Рэнодо. Гэты роман з жыцьця сялянства з даволі орыгінальнаю композыцыяю. Характэрныя рэчы яго—злучэньне рэалізму і гумару, схэматычнасьць у замалёўцы пэрсонажу. Характары пераважна цэльныя, простыя, акрэсьленыя аднэю рысаю, але цьвёрдаю і чоткаю. Характэрны ў Эмэ і спосаб падаваць сваіх пэрсонажаў. Яны ніколі ня жывуць адасоблена, а заўсёды колектыўным жыцьцём, ад якога іх нават ня можна адарваць.

* Аддаючы даніну агульнаму інтарэсу да часоў Гонкураў, Флобэра і Золя, Леон Дэфэр напісаў кнігу, прысьвечаную „натуралізму". Як зазначае крытыка, гэта „ня звычайны" курс з гісторыі літаратуры, а рэконструкцыя часу вялікага літаратурнага руху, які нарадзіўся ў канцы другой імпэрыі, узмацніўся да 1877 г. і потым паволі зьнік.

* Як цікавае зьявішча адзначае прэса перавыданьне мэмуараў графа Цільлі, які быў пажам пры Марыі Антуанэце і добра ведаў прыдворнае жыцьцё Людовіка XVI. Мэмуары Цільлі гэта надзвычайныя гістарычныя дакумэнты часу перад Вялікаю францускаю рэвалюцыяю, але не перавыдаваліся з 1828 году, году свайго першага выданьня хоць значэньне іх для дасьледваньня францускай рэволюцыі і вялікае.

* У большасьці артыкулаў пра гукавое кіно, якія сустракаюцца ў замежных часопісах, адзначаецца адна толькі рыса ўсіх гукавых фільмаў: іх прымітыўнасьць. Яны нібы ня выйшлі яшчэ з часоў „дзяцінства", якое ўжо даўно пакінулі ззаду нямыя фільмы. Калі першае захапленьне гукавым кіно прайшло, глядач пачынае вымагаць і ад гукавой фільмы тае самае ўскладненасьці, высокай тэхнікі пастаноўкі, да якой прывучылі публіку фільмы апошніх гадоў.

### Шотляндыя

* У пасьляваеннай Англіі заўважаецца надзвычайнае захапленьне аматарскім тэатрам. Але яшчэ больш як у Англіі—гэта ў Шотляндыі, прычым тут гэты рух носіць яскрава вызначаны народны і нацыянальны характар. Найменшыя гарады маюць свае трупы, але найцікаўшая ад іх гэта — „National Scottish i Plauers", што працуе з пэўным намечаньнем утварыць сталы нацыянальны тэатр у Шотляндыі. Некаторы час тэатр трымаўся толькі на нацыянальнай літаратуры, зараз ён побач з нацыянальнымі драмамі, зьвяртаецца і да Бэрнарда Шова і інш.

### Японія

* На працягу апошніх двух гадоў канчаткова аформіліся два асноўных крыла пролетарскай літаратуры. Гэтыя групы гуртуюцца навокал двох, найбольш трывалых, найбольш яскравых часопісяй: „Бунгэн сэнсэн" (Літаратурны фронт) і „Сэнкы" (Баявы прапор).

„Бунгэн сэнсэн" і Сэнкы" — тып штомесячных літаратурна-публіцыстычных часопісяй.

*Рэдакцыйная колёгія*: **А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот.**

*Выдавец*: **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

*Паважаны тав. Рэдактар!*

Надрукуйце, калі ласка, у сваёй часопісі ніжэйпададзенае:

I

**Замест прамовы на сходзе ў Доме Працасьветы, 28-V—30 г.**

Дарагія таварышы! Пры Савецкай уладзе я пражыў усяго толькі дзьве пяцігодкі і пачаў трэцюю, і ўжо ў такі кароткі тэрмін і ўлада і працоўнае грамадзянства Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі аддае сваю вялікую ўвагу і праўдзівую прыхільнасьць да маёй скромнай пісьменьніцкай працы, спраўляючы ўрачыста ў другі раз мой літаратурны юбілей.

Юбілеі, таварышы, я не сказаў-бы, каб надта была вялікая пацеха для таго, каму яны прысьвечаны — мінулыя гады не вяртаюцца! Але, аднак, для мяне гэта—вялікае і надзвычайнае шчасьце, бо юбілей мой праходзіць у краіне, дзе вызваленыя з-пад нявольніцтва людзі будуюць супольна новае, ня рабскае жыцьцё.

У другі раз юбілейных угодкаў мне прыходзіцца выказваць перад усім сьветам сваю бязьмерную ўдзячнасьць і Савецкай уладзе і савецкай грамадзкасьці за ўсё тое добрае і радаснае, што я атрымаў на зямлі, над якой сонечна красуецца непакорны сьцяг непераможнага Кастрычніка.

Я кажу, таварышы, што пакуль хопіць маіх сіл, я ня сыйду з таго шляху, па якім ішоў да сягонешніх векапомных бурлівых дзён,—заўсёды наперад і наперад! Бяда і гора маё і ўсяго працоўнага люду беларускага адыходзіць усё далей—у нябыт, а шпаркім крокам творыцца квяцістае бяспрыгоннае бытаваньне, абы толькі шчырай працай і безаглядней адданасьцю Ленінскім заветам дапамагаць хутчэйшаму набліжэньню гэтае сьветлае часіны!

Мне толькі смутна, таварышы, што там — „за слупамі з арламі“ — беларускі рабочы і сялянка-парабчанка ня толькі ня могуць справіць вольна ў грамадзе маёй гадавіны, але што там нават за чытаньне маіх друкаваных думак садзяць бязьлітасна ў вастрог.

Я пажадаю ад шчырага сэрца сваім малодшым таварышом-пісьменьнікам, каб яны дажылі сьвяткаваньня сваіх юбілеяў, калі ўжо там—„за слупамі з арламі“ — над беларускай вызваленай грамадой будзе разьвявацца чырвоны штандар з агністым надпісам—БССР!

II

Ад усяго сэрца дзякую савецкім і грамадзкім установам і організацыям, а таксама ўсім паасобным таварышом, якія так чула і прыязна ўспомнілі мяне добрым словам у час дваццаціпяцігадовага юбілею маёй літаратурнай працы на ніве беларускай.

Асобна тут выказваю сваю сардэчную ўдзячнасьць і падзяку за братнія павіншаваньні дарагім маскоўскім таварышом: Фэліксу Кону, А. Луначарскаму, Арц. Халатаву і інш.

**Янка Купала.**

Менск, 29-V—1930 г.

# ЗЬМЕСТ

РАСПАЧАТА ПАДПІСКА на 1930 ГОД

ВЫ УЖО СПАЗЬНІЛІСЯ ПАДПІСАЦЦА НА ПЭДАГОГІЧНУЮ ЧАСОПІСЬ **„АСЬВЕТА“**

**ЗАМЕСТ „АСЬВЕТЫ“**
**БУДЗЕ ВЫДАВАЦЦА**
МАСАВАЯ ПОЛІТЫЧНА-АСЬВЕТНАЯ
І ПЭДАГОГІЧНАЯ ЧАСОПІСЬ

# „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“

Часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“ вядзе ваяўнічую барацьбу за комуністычнае выхаваньне працоўных мас, жыва адклікаецца на ўсе палітычныя, пэдолёга-пэдагогічныя, політасьветныя проблемы дня.

Часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“ зьявіцца лепшым памочнікам у рабоце настаўніка, політасьветніка, дашкольніцы.

Часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“ будзе выходзіць пры ўдзеле лепшых марксыцкіх сіл як Беларусі, так і інш. Саюзных Рэспублік.

Часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“ ўводзіць вялікі аддзел „Работа на мясцох“, у якім прымаюць удзел усе настаўнікі і політасьветныя працаўнікі.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ на 1930 год**

| НА 1 ГОД (12 нумароў) | НА 6 МЕС. (6 нумароў) | НА 3 МЕС. (3 нумары) | АСОБНЫ НУМАР КАШТУЕ 80 К. |
|---|---|---|---|
| 8 р. — | 4 р. 50 к. | 2 р. 30 к. | |

**СКІДКА 25%** подлуг агалсшанай цаны даецца настаўнікам школ, хатнікам і інш., якія выпісваюць часопісь за свой кошт на цэлы год. Раённым установам (Райінспэкцыя, мясцком) скідка 25% у тым выпадку, калі яны падпішуцца ня менш, як на 50 экзэмпляраў на цэлы год.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:**

рэдакцыяй: Менск, Плац Волі, 23/2, а таксама поштай і аддзяленьнямі БДВ

Усе, хто падпісаўся на часопісь „АСЬВЕТА“ НА 1930 г. будуць атрымліваць без асобнай даплаты — часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“.

СЬПЯШАЙЦЕСЯ З ПАДПІСКАЙ НА ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“

ЦАНА 1 руб.

# ЧЫТАЙЦЕ І ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ"

IX-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ: А. МЕНСКАГА, Я. КУПАЛЫ, А. НЕКРАШЭВІЧА, М. ЧАРОТА.

IX- ... ВЫ...

ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ" ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ... ЖАК НА ГОД, ПАМЕРАМ КОЖНАЯ Ў 10-12 АР...

**У 1930 ГОДЗЕ ПАДПІСНАЯ ЦАНА ЗЬНІЖАНА з 12 на...**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 12 мес. | На 6 мес. | На 3 мес. | КОШ... АСОБНАГА НУМАРУ |
|---|---|---|---|
| 10 руб. | 5 руб. | 3 руб. | 1 р. |

ПАДПІСЧЫКІ, якія ўносяць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымліваюць на працягу 1930 году адразу дзьве часопісі: „ПОЛЫМЯ" і „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ".

ПАДПІСЧЫКІ на часопісь „ПОЛЫМЯ", якія падпісаліся на год на выплату, атрымліваюць комплект „ПОЛЫМЯ" за 1928 або 1929 год дармова.

**НА ВЫПЛАТУ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА:**

**ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 3 тэрміны: пры падпісцы—4 руб., да 1-га ліпня—3 руб., і да 1-га кастрычніка—3 руб.**

**ПОЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 2 тэрміны: пры падпісцы—3 руб. і да 1-га чэрвеня—2 руб.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА**: У БЮРО ПАДПІСКІ „КНІГА-ПОШТАЙ" (Менск, Ленінская, 19, тэл. 17-12), Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам (Менск, Савецкая, 63). Цэнтральнай Кнігарняй Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва (Менск, рог Ленінскай і Савецкай), усімі акруговымі аддзяленьнямі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, аддзелам падпіскі Беларускага Аддзяленьня ГІЗ'у РСФСР (Менск, Савецкая, 54), яго агентурай па акругох і раёнах, усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і аддзяленьнямі, канторай газэты „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА" (Менск, Савецкая, 63), ды яе ўпаўнаважанымі і селькорамі ва ўсіх раёнах БССР.